Рэзалюцыя Кангрэсу ЗША: «Заклікаем вызваліць Уладзімера Кудзінава, Андрэя Клімава і ўсіх іншых зьняволеных у Беларусі за іх палітычныя погляды».
25 кастрычніка 2000 г.

Парлямэнт Грузіі выступіў у падтрымку палітычных зьняволеных Міхаіла Марыніча, Валерыя Леванеўскага і Аляксандра Васільева, а таксама пакараных арыштамі ўдзельнікаў менскай апазыцыйнай акцыі 25 сакавіка.
1 красавіка 2006 г.

Прадстаўнік Дзяржсакратара Шон Маккормак: «Злучаныя Штаты асуджаюць сёньняшні прысуд чатыром незалежным назіральнікам з групы «Партнэрства».
4 жніўня 2006 г.

Польскі Сэнат аднагалосна прыняў ухвалу з заклікам да беларускіх уладаў неадкладна вызваліць Аляксандра Казуліна і іншых палітвязьняў.
21 лютага 2007 г.

Прэзыдэнт Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы Рэнэ ван дэрЛіндэн: «Я прапанаваў беларускім уладам пагадзіцца на экспэртызу інстытутаў Рады Эўропы ў пытаньні палітвязьняў».
20 сьнежня 2007 г.

Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш: «ЗША і цяпер заклікаюць неадкладна вызваліць Аляксандра Казуліна, як і ўсіх іншых палітзьняволеных у Беларусі».
8 сакавіка 2008 г.

Камісар Эўразьвязу па зьнешніх сувязях і палітыцы добрасуседзтва Бэніта Фэрэра-Вальднэр: «Мая сустрэча зь міністрам замежных справаў Сяргеем Мартынавым можа разглядацца як рэакцыя на вызваленьне палітвязьняў у Беларусі».
13 кастрычніка 2008 г.

# адзін дзень палітвязьня

Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода

**Адзін дзень палітвязьня.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Укладальнік *Ганна Соўсь*
Рэдактар *Кацярына Гарэлік*
Стылістычны рэдактар *Галіна Рабянкова*
Мастак *Генадзь Мацур*

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі парталу BYMEDIA.NET, Уладзімера Базана, Уладзімера Грыдзіна, Юрыя Дзядзінкіна, карэспандэнтаў Радыё Свабода.


FOL

ISBN 978-0-929849-27-0

# Зьмест

## На экзамэне па гісторыі. 2108 год

*— Пра што кніга «Адзін дзень палітвязьня»?*
— Пра свабоду і яе герояў ці ахвяраў, каму як.
*— Як яны самі зваліся?*
— Людзьмі.
*— За што іх пазбавілі волі?*
— За праўду.
*— Чаму іх пазбавілі волі?*
— Каб запалохаць астатніх.
*— Чаму былі пазбаўленыя менавіта яны?*
— Бо не баяліся.
*— Колькі іх?*
— У кнізе — 41. Былі за кратамі — тысячы.
*— Як доўга?*
— Героі кнігі разам амаль 20 000 дзён і начэй, больш за 53 гады. За кожны год незалежнасьці краіны — тры гады турмы. Як на вайне.
*— Што яны страцілі?*
— Свабоду быць з блізкімі, рабіць сваю справу, падарожнічаць, спрачацца, гараваць, сьвяткаваць — жыць як хацелі б.
*— Чаго яны дамагліся?*
— Нянавісьці ворагаў. Пагарды ўлады. Абыякавасьці бальшыні суайчыньнікаў...
*— І гэта ўсё?*
— Яшчэ — павагі паплечнікаў, захапленьня сяброў, веры моладзі. Міжнароднай увагі, салідарнасьці і дапамогі. Імяннога радка ў гісторыі краіны.
*— І ўсё ж — ці варта было?*
...А гэтае пытаньне ўжо не да іх.

*Аляксандар Лукашук*
*Радыё Свабода*

• Прэзыдэнты Беларусі і Расеі падпісваюць дамову аб стварэньні агульнай дзяржавы
• Улады разганяюць вулічныя акцыі з нагоды Дня Волі і «Чарнобыльскі шлях»
• Эмігруюць лідэр БНФ Зянон Пазьняк і дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га склікання Сяргей Навумчык
• Падае ў адстаўку прэм’ер-міністар Міхаіл Чыгір
• Праз рэфэрэндум Аляксандар Лукашэнка падаўжае тэрмін свайго прэзыдэнцтва на 2 гады і пашырае прэзыдэнцкія паўнамоцтвы. Эўразьвяз і ЗША не прызнаюць вынікаў рэфэрэндуму
• Закрываюць незалежнае Радыё 101,2

# 1996

Зьняволеныя:
**Славамір Адамовіч** (красавік)
**Вячаслаў Сіўчык** (красавік, выйшаў на свабоду ў траўні)
**Юры Хадыка** (травень, выйшаў на свабоду ў траўні)



# Славамір Адамовіч.

**Зьняволены 6 красавіка 1996 г. — выйшаў на свабоду 7 лютага 1997 г.**



Славамір Адамовіч нарадзіўся 8 сакавіка 1962 г. на станцыі Унежма Анескага раёну Архангельскай вобласьці. Беларус. Скончыў Сьвірскае СПТВ № 17. Працаваў у Казахстане, у саўгасе «Будслаўскі», на Беларускай чыгунцы, станкабудаўнічым заводзе імя Кірава ў Менску. У 1992 г. скончыў філялягічны факультэт БДУ, у 1991–1995 гг. працаваў у «Настаўніцкай газеце». У 2000 г. знаходзіўся ў ЗША, працаваў на будоўлях Нью-Ёрку. У верасьні 2002 г. паехаў працаваць у Нарвэгію, дзе папрасіў палітычнага прытулку. Мае намер абавязкова вярнуцца ў Беларусь. У разводзе, мае дачку.

У лістападзе 1995 г. Славамір Адамовіч напісаў верш «Убей президента!», за што быў арыштаваны. У турме КДБ трымаў сухую галадоўку, празь дзесяць месяцаў зьняволеньня адпушчаны пад падпіску пра нявыезд. У жніўні 1997 г. на адным зь мітынгаў публічна «зашыў» сабе рот.

Болей чым празь пяць гадоў па зьняволеньні, 9 верасьня 2002 г., з адным зь першых беларускіх палітвязьняў Славамірам Адамовічам пагутарыў Міхась Скобла.

*— Славамір, чаму ты выбіраеш шлях эміграцыі?*

— Мне абрыдла назіраць сёньняшнюю беларускую сытуацыю, тым больш у ёй знаходзіцца. У такіх умовах я не знаходжу адэкватнай для сябе рэалізацыі — і ў літаратурнай творчасьці, і ў грамадзка-палітычным жыцьці. Колькі часу мне давядзецца жыць за мяжой — я не бяруся прагназаваць. Гэта адначасова і палітычная, і эканамічная, і, у вялікай ступені, духоўная эміграцыя.

*— Нядаўна прадпрымальнік з Горадні Валянцін Дубатоўка сказаў вельмі слушна: «Ня варта пакідаць Беларусь Лукашэнку». І сапраўды, у кожнай эміграцыі ёсьць элемэнт капітуляцыі. Ты згодзен з гэтым?*

— Гадоў пяць таму я, можа б, і пагадзіўся. Сёньня я з гэтай тэзай ня згодзен. Можна, вядома, распускаць палітычныя пёры, я гэта рабіў апошнія гадоў восем. Але ўрэшце мне стала шкада сваіх высілкаў: у краіне нічога не мяняецца да лепшага. Сытуацыя толькі пагаршаецца. Ідзе татальная дэмаралізацыя — ня толькі гэтак званай «вэртыкалі», але й тае часткі грамадзтва, якую мы называем апазыцыяй. Дэмаралізуецца й сфэра літаратуры. Нейкі поўны распад. Калі б я быў слабейшы духам, то ад роспачы нарабіў бы глупстваў. А я глупстваў больш не жадаю рабіць.

Кожнага дня, выходзячы ў горад, я сустракаю маладых людзей, якія ня бачаць у Беларусі пэрспэктывы. Гэта дзейныя, энэргічныя людзі. І я сёньня ім кажу: трэба выяжджаць. Гэта ня значыць, што трэба парываць з краінай. Калі ёсьць магчымасьць за мяжой зарабляць грошы, дзейнічаць там як палітык, трэба ехаць туды і працаваць. У Беларусь цягам бліжэйшых двух-трох гадоў я не вярнуся.

*— У сваім «Амэрыканскім дзёньніку» ты даволі зьняважліва раіш беларускім апазыцыйным палітыкам панюхаць турэмнай парашы. Няўжо, нюхнуўшы яе ды залезшы на нары, палітык зробіцца больш разумным і дальнабачным?*

— Я маю права на такую параду. Турма — гэта дзіўна, непрыемна, але яна можа дапамагчы палітыку больш адэкватна паводзіць сябе ў грамадзка-палітычнай прасторы. Яна вучыць гаварыць зь людзьмі, зь любымі, а ня толькі з тымі, з кім прыемна ці карысна бавіць час.

Варта прыгадаць гісторыю Індыі. Здабыцьцю індыйскай незалежнасьці папярэднічалі гадоў трыццаць негвалтоўнага змаганьня, калі тысячы індыйцаў сядзелі ў турмах, і найперш духоўныя кіраўнікі: Дж. Нэру, Гандзі.

Можна згадаць і прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гавэла. А тыя ж бальшавікі? Яны таксама прайшлі праз турмы, яны былі загартаваныя і ўрэшце дамагліся сваёй мэты — збудавалі гіганцкую імпэрыю — СССР. Сядзець у турме палітыкам, можа, і неабавязкова, але ня варта гэтага баяцца.

*— Ты пішаш, што цябе апошнім часам перасьледуе жаданьне пайсьці ўзарваць аўтамабіль і даць каму-небудзь па мордзе. Першае, як мне здаецца, ажыцьцявіць прасьцей, адшукаўшы дзе-небудзь у двары лядашчы, кінуты гаспадаром «Запарожац». Другое — больш філязофскае: трэба мець ворагаў. У цябе іх шмат?*

— У мяне яны ёсьць. Мае ворагі — гэта адзін усім вядомы чалавек і — агульнае здранцьвеньне. Мне абрыдла быць у гэтай сытуацыі здранцьвеньня, быць побач з гэтым чалавекам. Я зьяжджаю, каб захаваць свой дух, не зламаць сваю псыхіку. Таму што ў нашай краіне ўсё ставіцца з ног на галаву.



Сёньня мы чуем, што Лукашэнка — ледзь не гарант нашай Канстытуцыі й незалежнасьці. І ўжо шмат хто гатовы забыць пра тысячы маладых людзей, якія прайшлі праз турмы, якіх пакалечылі, у якіх адняли здароўе. Мы маем канкрэтныя ахвяры, маем зьніклых людзей. Але мы ўжо гатовыя пра гэта забыць.

Мяне сёньня такая сытуацыя больш бянтэжыць, чым тая, калі раней я бачыў на экране чалавека, які пачынаў з духоўнага згвалтаваньня — мовы, гісторыі, нацыянальных сымбаляў, — а потым перайшоў і да фізычнага. І сёньня гэты чалавек можа стаць для нашай апазыцыі гарантам Канстытуцыі! Такая сытуацыя для мяне найбольш непрымальная.

Вось я чытаю ў «ЛіМе» словы дырэктара Інстытуту літаратуры Ўладзімера Гніламёдава, што трэба аб’яднацца вакол нашага прэзыдэнта й рабіць... Але што рабіць і як рабіць — не расшыфроўваецца. Каму аб’яднацца: мне, табе? І што рабіць з чалавекам, які зьнішчае кожным сваім учынкам той сродак, пры дапамозе якога мы й ствараем гэтую самую літаратуру?! Што далей? Мой розум адмаўляецца ўсьвядамляць тую рэчаіснасьць, якая вакол.

*— Ты сказаў, што адзін з матываў твайго ад’езду — немагчымасьць быць поруч з чалавекам, які цяпер ледзь не гарант нашай Канстытуцыі й незалежнасьці. І ў той жа час ты носіш майку з выявай Лукашэнкі на грудзях. Навошта?*

— На майцы — Лукашэнка поруч зь Бін Ладэнам, і надпіс пад імі па-ангельску, у перакладзе на беларускую мову — расшукваюцца. Іх аб’ядноўвае тэрор. Толькі адзін зьдзяйсьняе яго ў адносінах да іншых народаў, а другі — тэрарызуе свой. І таму, калі я чую за сьпінай сьмех моладзі, у мяне паляпшаецца

настрой. Бальшыня людзей успрымаюць майку адэкватна. Няхай гэта будзе маім унёскам у агульную антыпрэзыдэнцкую кампанію ў Беларусі.

## З архіву «Свабоды»

**17 красавіка 1996 г. 12-ты дзень за кратамі**

Скандальная і своеасаблівая фігура Славаміра Адамовіча выклікае самыя процілеглыя ацэнкі й меркаваньні. Спэктар азначэньняў, што даюцца Адамовічу, хістаецца ад «агента КДБ» да «нацыяналістычнага экстрэміста». Арганізацыя «Правы рэванш», якую ён узначальвае, сапраўды вызнае рэзка правыя палітычныя погляды. Зрэшты, многія ўпэўненыя, што «Правы рэванш» — гэта толькі плён багатай фантазіі самога Адамовіча, чалавека са схільнасьцямі рэвалюцыйнага пасіянарыя. Чарговы віток папулярнасьці гэтай асобы ўзьняўся пасьля публікацыі ў студзені бягучага году ў газэце «Выбар» вершу на рускай мове «Убей президента!». Гэты твор, дарэчы, на думку многіх літаратуразнаўцаў, мае несумненныя мастацкія і паэтычныя якасьці.

**22 траўня 1996 г. 47-мы дзень за кратамі**

Калі ўлічыць, што маладому беларускаму паэту не даводзіцца разьлічваць на вялікую падтрымку з боку міжнароднай супольнасьці і нават грамадзкасьці Беларусі, незалежныя юрысты сыходзяцца ў думцы, што Славаміра Адамовіча будзе цяжка асудзіць за ягоны верш «Убей президента!», бо гэты твор усё ж ня мае канкрэтнага адрасата. Аднак даказаць ягоны намер незаконна трапіць за мяжу краіны — сапраўды не праблема. І таму ня выключана, што хутка Беларусь атрымае першага палітычнага вязьня, які фармальна будзе асуджаны за спробу зьбегчы ў эміграцыю.



**29 траўня 2005 г. Праз восем гадоў па зьняволеньні**

На пытаньне, як цяпер Славамір Адамовіч ацэньвае верш «Убей президента!», ён адказаў: «Як і ацэньваў. На жаль, з гадамі ён робіцца ўсё больш актуальным. Як і 10 гадоў таму, тыя радкі, тыя словы гучаць прозай, але, на жаль, гучаць з вуснаў беларускіх патрыётаў і проста грамадзянаў. І палітыка галоўнага героя, на жаль, пацьвярджае правільнасьць той ідэі, якая выкладзена ў гэтым вершы. Гэта так. Адзінае, што, можа, я б сябе больш упэўнена адчуваў, калі б гэты верш быў напісаны па-беларуску. Хаця напачатку я якраз зыходзіў з таго, што такія забойчыя вершы варта пісаць на замежнай мове».

## Вячаслаў Сіўчык.
**Зьняволены 26 красавіка 1996 г. — выйшаў на свабоду 17 траўня 1996 г.**



Вячаслаў Сіўчык нарадзіўся 18 сьнежня 1962 г. у Менску. Скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у вытворчым аб'яднаньні «Беларусьгеалёгія», у Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Займаўся пытаньнямі экалёгіі і наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Быў сакратаром управы БНФ, старшынём камісіі Сойму БНФ па сувязях з рабочым рухам, намесьнікам старшыні БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ. 11 студзеня 2003 г. рашэньнем Сойму БНФ выключаны з партыі БНФ «за дэструктыўную дзейнасьць... і непадпарадкаваньне рашэньням Сойму». Ініцыятар стварэньня шэрагу грамадзкіх арганізацыяў («Малады фронт», Беларускі жаночы рух «За адраджэньне Айчыны» і інш.). У 2004 г. — каардынатар беларускіх удзельнікаў украінскай «аранжавай» рэвалюцыі. У сакавіку 2006 г. — адзін з арганізатараў намётавага лягеру на Кастрычніцкай плошчы пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Цяпер зьяўляецца кіраўніком сэкцыі «Мэмарыял» Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, сябра Вялікай і Малой Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». Жанаты, мае двух сыноў.

Вячаслаў Сіўчык шмат разоў быў зьняволены на 10–15 сутак.

Увесну 1996 г. Вячаслаў Сіўчык зьняволены за ўдзел у Чарнобыльскім шляху, трымаў 21-дзённую галадоўку пратэсту — адну зь першых у часе прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі.

13 чэрвеня 2008 г. Вячаслаў Сіўчык выйшаў на свабоду пасьля дзесяці сутак арышту за ўдзел у жалобнай акцыі ва ўрочышчы Курапаты. Гэты дзень з былым палітвязьнем правёў Вячаслаў Ракіцкі.

Да пасадак Вячаслава Сіўчыка, здаецца, ужо ўсе прызвычаіліся, гэтаксама як і да сустрэч яго, калі ён выходзіць з турэмнай брамы. Зноў сустракалі Вячаслава паплечнікі, сябры, сям'я. На ягоную галаву накінулі вянок з валошак.

*— Колькі разоў Вы траплялі за краты? Можаце падлічыць?*

— Не. Ніколі гэтым не займаўся. І ніколі не лічыў сябе ахвярай. Я ўсьведамляю, што проста зьяўляюся прадстаўніком беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. У такой іпастасі стаць ахвярай проста немагчыма. Я навучыўся спакойна ўспрымаць і стойка пераносіць хлусьню, несправядлівасьць, гвалт.

У гэтай сытуацыі трэба разумець, што адбываецца навокал, і тады будзе ўсё лёгка і проста. Наша нацыя сёньня, на вялікі жаль, жыве ў такіх умовах, што мы сярод лідэраў у сьвеце па колькасьці зьняволеных на душу насельніцтва. І другі момант — трэба ведаць гісторыю беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Таму што беларусаў у XX стагодзьдзі стралялі, забівалі, катавалі, высялялі мільёнамі.

*— Памятаеце «гарачую вясну» 1996 году?*

— Вясна 1996 году была сапраўды «гарачай». Беларускую сталіцу ўскалыхнулі два масавыя выступы апазыцыі: Дзень Волі і Чарнобыльскі шлях. Была заведзеная крымінальная справа супраць БНФ за арганізацыю масавых непарадкаў. Менавіта па гэтай справе я і быў арыштаваны як адзін з кіраўнікоў Фронту, — я быў адказным сакратаром управы БНФ. У турме абвясьціў галадоўку дзеля таго, каб болей як пяць тысяч зарэгістраваных актывістаў легальнай арганізацыі БНФ ня трапілі за краты паводле таго ж самага абвінавачаньня. 21-дзённую галадоўку пераносіў вельмі цяжка, бо ў дадатак пакутаваў ад бяссоньніцы. Вызвалілі мяне пасьля трохдзённага знаходжаньня ў рэанімацыі.

Я лічу, што галадоўка была пасьпяховай. Я тады выйграў у Лукашэнкі. Ён вымушаны быў мяне адпусьціць, бо я ведаю, што ніхто не хацеў мяне вызваляць. І добра, што мне не давялося нікога прасіць, ні да кога зьвяртацца.

Дарэчы, пракуратура спыніла тую крымінальную справу, але ўручыць мне паперу з паведамленьнем не змаглі, бо тады менская міліцыя ўжо вышуквала мяне як арганізатара акцыяў Менскай вясны ўжо 1997 году.

*— Давайце згадаем падзеі дваццацігадовай даўніны, калі Вы прыйшлі ў БНФ...*



— Памятаю, як ствараў групу падтрымкі БНФ у Беларускай геалягічнай экспэдыцыі вытворчага аб’яднаньня «Беларусьгеалёгія». Ня вельмі хацеў гэтым займацца, бо быў загружаны працай. Але непрыняцьце камунізму і мара аб нацыянальнай дзяржаве перамаглі.

Я заўсёды пачуваў сябе беларусам. Магчыма, таму, што дзяцінства прайшло па-за межамі Беларусі, у Закаўказьзі, дзе, адрозна ад Беларусі, шматмоўе і шматэтнічнасьць былі рэальнасьцю.

Я лічу, што галоўнай мэтай беларускага нацыянальнага руху ёсьць прыход да ўлады. Практычна ўсе лідэры беларускага руху XIX–XX стагодзьдзяў ставілі такую мэту. Ніхто ня зможа кіраваць беларускай дзяржавай лепей за беларускіх нацыяналістаў, бо яны натуральна зацікаўленыя, каб беларусы жылі нармальна. Дзеля дасягненьня гэтай канчатковай мэты трэба выкарыстоўваць усе мэтады, усе мэтодыкі, што назапашаныя як самім беларускім нацыянальным рухам, так і разьвіцьцём усясьветнай цывілізацыі. Мы павінны зразумець, што дзеля менавіта канчатковай мэты трэба не зацыкліваццa на чымсьці адным, а імкнуцца да сыстэмнай працы.

*— Вы неяк казалі, што беларусы жывуць у XIX стагодзьдзі. Што мелі на ўвазе?*

— Я казаў гэта не таму, што мы паўтараем нешта тое, што рабілі вялікія беларусы — Багушэвіч і іншыя. Мы жывем у XIX стагодзьдзі паводле іншых паказчыкаў. Прыкладам, тое, што беларускі ліцэй ня можа працаваць на беларускай тэрыторыі — гэта хіба XXI стагодзьдзе? Не. Гэта — XIX стагодзьдзе, максымум — пачатак XX. Бярыце любыя запалоненыя народы XX стагодзьдзя — і абавязкова знойдзеце такія выпадкі, калі народ вымушаны быў рыхтаваць сваю эліту ва ўмовах акупацыі.

Колькі мяне не судзілі, я, як і многія мае калегі, заўсёды ад лукашэнкаўскага суду патрабую толькі аднаго — каб мяне судзілі на маёй беларускай мове. Заўсёды лукашэнкаўскі суд мне адказвае: у нас дзьве дзяржаўныя мовы — руская і беларуская, і мы цябе будзем судзіць на рускай мове. Гэта XXI стагодзьдзе? Зноў-такі гэта XIX–XX стагодзьдзі.

*— За дваццаць гадоў удзелу ў апазыцыйным руху чым Вы найбольш ганарыцеся?*

— Найперш тым, што арганізаваў перакрыцьцё менскага праспэкту імя Францішка Скарыны ў 1998 і 1999 гадах, калі Лукашэнка і Ельцын падпісвалі пагадненьні аб стварэньні гэтак званай саюзнай дзяржавы. У момант здрады галоўны праспэкт сталіцы быў перакрыты. І не на хвіліну, не на дзесяць хвілінаў, а перакрыты нармальна. Мэта была вельмі простая: паказаць — што б яны там ні рабілі, а Беларусь ёсьць і мы будзем змагацца за сваю краіну. Тады гэтыя акцыі былі паказаныя па многіх тэлеканалах. Але самае важнае — што гэта пабачыў беларускі народ.

Другой прынцыповай справай я лічу свой чын у абароне Курапатаў у 2001–2002 гадах, калі высілкамі найперш моладзі былі сарваныя пляны ў зьнішчэньні нацыянальнага нэкропалю.

І трэцяя вяха — Дзень Волі 2004 году. Тады, пратэстуючы супраць забароны масавага сьвяткаваньня, я разам з трыма паплечнікамі прыкуў сябе ланцугамі да слупоў на Кастрычніцкай плошчы Менску.

Пасьля быў кіеўскі Майдан. Ува ўкраінскай «аранжавай» рэвалюцыі ўзялі ўдзел каля 200 беларускіх актывістаў, і я быў іх каардынатарам. Дарэчы, колькасьць беларусаў, што зь бел-чырвона-белымі сьцягамі падтрымлівалі ўкраінскае дэмакратычнае






• На адной з акцыяў пратэсту ў Менску

змаганьне, была нават ня меншай, чым з асобных рэгіёнаў рэвалюцыйнай краіны.

*— Вы былі адным з арганізатараў намётавага лягеру ў 2006 годзе на Плошчы Каліноўскага...*

— Так. Дарэчы, усю адміністрацыю лягеру прызначаў асабіста я. Гэта была зьява нацыянальнай беларускай гісторыі, сапраўды нацыянальная беларуская ідэя проста на вуліцах Менску. Плошча Каліноўскага — гэта чыста беларуская зьява.

## З архіву «Свабоды»

**28 сакавіка 2006 г. Дзень у шпіталі**

Оке Пэтэрсан, кіраўнік офісу АБСЭ ў Менску, наведаў зьбітага супрацоўнікамі сілавых структураў актывіста апазыцыі Вячаслава Сіўчыка. Сустрэча адбылася ў палаце 3-га менскага шпіталю, дзе спадар Сіўчык праходзіць курс лячэньня пасьля зьбіцьця невядомымі спэцназаўцамі ў масках пяць дзён таму. Вячаслаў Сіўчык атрымаў чэрапна-мазгавую траўму.

Сустрэча была цёплай, кажа Вячаслаў Сіўчык. Спадар Пэтэрсан гаварыў зь ім па-ўкраінску, Вячаслаў Сіўчык адказваў па-беларуску.

Спадар Сіўчык: «Па-першае, я паінфармаваў — гэта, я думаю, ён і так ведаў, — што сёньня ў Беларусі ёсьць вялікая колькасьць рэпрэсаваных. Што з боку сілавых структураў прымаліся брутальныя захады супраць мірных удзельнікаў акцыі, бо я дакладна ведаю, што некалькі чалавек з намётавага мястэчка былі шпіталізаваныя “хуткай дапамогай” і знаходзяцца ў вельмі кепскім стане».

**15 верасьня 2006 г. Дзень у турме на Акрэсьціна**

Жонка Вячаслава Сіўчыка Ганна Сіўчык разам з сынам Вітаўтам і сябрамі мужа прыехала да спэцпрымальніка на вуліцу Акрэсьціна. 12 верасьня Вячаслаў быў затрыманы ў цэнтры Менску і зьмешчаны на Акрэсьціна. Праз некалькі гадзінаў чаканьня сябры й родныя арыштаванага апазыцыянэра ўбачылі машыну, што ўяжджала ў браму спэцпрымальніка. У яе салёне сядзеў Вячаслаў Сіўчык і падаваў нейкія знакі.

Ганна Сіўчык: «Гэта самае звычайнае бясправўе. Калі людзей можна хапаць на вуліцы, не паведамляючы іхным родным і блізкім, што яны затрыманыя і знаходзяцца вось у гэтых установах. Больш за тое, людзі, якія адказваюць за ўтрыманьне ў спэцпрымальніку, паводзяць сябе абсалютна дзіка. Таму што адказаць на элементарныя пытаньні: ці знаходзіцца тут гэты чалавек, колькі часу ён тут будзе знаходзіцца, — яны абавязаныя».



**8 траўня 2008 г. Дзень вызваленьня пасьля чарговага арышту**

З ізалятару ў Старых Дарогах пасьля 15 сутак арышту на волю выйшаў Вячаслаў Сіўчык. «Сын выглядае проста жахліва, — кажа маці актывіста Галіна Сіўчык, якая сустракала яго каля турмы. — Бо не хапала вады, у прыбіральню выводзілі двойчы на дзень, ноччу было немагчыма нармальна адпачываць».

Вячаслаў Сіўчык быў арыштаваны на 15 сутак за ўдзел ва ўсталяваньні крыжа ў вёсцы Дражна. Гэтым крыжом мясцовыя жыхары ўшанавалі памяць жыхароў вёскі, якія загінулі ад рук савецкіх партызанаў падчас апошняй вайны.

# Юры Хадыка.

**Зьняволены 2 траўня 1996 г. —
выйшаў на свабоду 21 траўня 1996 г.**



Юры Хадыка нарадзіўся 23 чэрвеня 1938 г. у Менску. Першыя гады жыцьця правёў у Беластоку, дзе працаваў бацька. Скончыў з залатым мэдалём сярэднюю школу ў Менску, потым — фізычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у Інстытуце фізікі Акадэміі навук. У 1975 г. узначаліў у камісіі АН СССР сэк-



цыю па распрацоўцы прагнозу разьвіцьця оптыка-электронных сродкаў выведкі. У 1979 г. адкрыў у Акадэміі навук Музэй старабеларускай культуры. Быў намесьнікам старшыні Беларускага Народнага Фронту, сябрам назіральнай рады Беларускага Хэльсынскага камітэту. Аўтар каля 150 навуковых працаў па фізыцы, 200 навукова-тэхнічных справаздачаў, а таксама каля 30 публікацыяў па гісторыі беларускага мастацтва. Адзін з актывістаў грэка-каталіцкай (уніяцкай) грамады. Жанаты, мае двух сыноў і трох унукаў.

У 1996 г. Юры Хадыка быў арыштаваны за ўдзел у Чарнобыльскім шляху, амаль месяц трымаў галадоўку пратэсту.

23 чэрвеня 2008 г. Юрыю Хадыку споўнілася 70 гадоў. Напярэдадні юбілею адзін дзень з былым палітвязьнем правёў Ігар Карней.

Доктар фізыка-матэматычных навук, прафэсар Юры Хадыка — адзін зь першых актывістаў дэмакратычнага руху, хто мог у 1996 годзе надоўга трапіць за краты як адзін зь першых беларускіх палітвязьняў.

*— У 1996 годзе вынікам Чарнобыльскага шляху сталі дзьве сотні пацярпелых з боку дэманстрантаў і спэцназаўцаў, перакуленыя міліцэйскія машыны... Адным з заяўнікаў шэсьця выступалі якраз Вы, за што і былі ўзятыя пад варту. У Вашу абарону выступілі тады прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын, нобэлеўскія ляўрэаты з Польшчы паэт Чэслаў Мілаш і кампазытар Кшыштаф Пэндэрэцкі. Разам зь Вячаславам Сіўчыкам на знак пратэсту Вы трымалі амаль месяцовую галадоўку. Юры Віктаравіч, увогуле чакалі такога разьвіцьця падзеяў?*

— Увогуле заяву ў Менгарвыканкам аб правядзеньні Чарнобыльскага шляху-96 падалі я — як намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту — і віцэ-сьпікер яшчэ не разагнанага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Генадзь Карпенка. З гарадзкімі ўладамі ўзгаднілі маршрут. Здаецца, нічога не абяцала праблемаў. Паколькі віцэ-сьпікеру Карпенку было не па рангу весьці перамовы зь міліцыяй, я праз мэгафон зь міліцэйскай машыны заклікаў людзей захоўваць парадак. А калі выйшаў да народу, то людзкі паток імкліва сышоўся з двух бакоў, і я аказаўся далёка ад галавы калёны. Калі ўрэшце праціснуўся наперад, то ўжо ляжалі перакуленыя міліцэйскія машыны. Я перакананы: прычынай сутычкаў сталі неадэкватныя дзеяньні міліцыянтаў, якія атрымалі загад перагарадзіць дарогу. Калі «каса найшла на камень», міліцыянты і ўдзельнікі шэсьця білі адзін аднаго без разбору, дзясяткі чалавек трапілі ў шпіталі.

На наступны дзень пачаліся затрыманьні заяўнікаў і актыўных удзельнікаў акцыі. Мяне абвінавацілі ў арганізацыі масавых беспарадкаў і зьмясьцілі ў ізалятар гарадзкога аддзяленьня міліцыі на вуліцы Дабрамысьленскай, дзе і была абвешчаная адна зь першых ў гісторыі незалежнай Беларусі галадоўка пратэсту.

Спачатку сядзеў у адзіночцы, потым мяне пераводзілі ў розныя камэры — на дваіх, на чацьвярых. Але грамадзкасьць распачала кампанію з патрабаваньнем зьмяніць меру ўтрыманьня і вызваліць вязьняў. Асаблівую актыўнасьць праявіла мая жонка Валянціна Кірылаўна. Нават у грамадзкім транспарце яна езьдзіла з плякатам «Свабоду Хадыку!».

З ізалятару мяне адвезьлі на прафіляктычную размову ў пракуратуру. Пасьля гутаркі кіраўніцтва ўстановы не знайшло падставаў да зьмены ўмоваў утрыманьня. Адтуль перавезьлі ў ізалятар на вуліцы Валадарскага.



Там мяне, як палітычнага, першай справай павялі да начальніка турмы, які нагадаў мне паліцэйскага зь нейкага францускага фільму. Сустракае гэткі паўнаваты, чырванашчокі, дабрадушны чалавек. І раптам дазнаюся, што гэта і ёсьць начальнік турмы. Падобна, што гэта быў Алег Алкаеў. Ён адразу пацікавіўся: Юры Віктаравіч, дык Вы галадаеце? І пачаў мне скардзіцца: тут і так дрэнна кормяць, бо мая ўстанова, маўляў, разьлічаная на тры тысячы чалавек, а сядзіць чатыры з паловаю. Дык мне нават давялося яго суцяшаць... Бо я яшчэ ад затрыманьня абвясьціў галадоўку, і ён спрабаваў мяне адгаварыць.

Калі гэта не ўдалося, то мяне перавялі ў агульную камэру. Праўда, яўна льготную: яна была разьлічаная толькі на шэсьць чалавек, і ніколі не было больш. І менавіта там я прасядзеў ад 2 да 21 траўня 1996 году. Урэшце выпусьцілі ў выніку даволі шырокай хвалі грамадзкага пратэсту, у тым ліку міжнародных арганізацыяў і лідэраў.

> *— Лічыцца, што вырашальным у Вашым вызваленьні было тэлефанаваньне Аляксандру Лукашэнку з Крамля. Як згадваў дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Сяргей Навумчык, тады старшыня БНФ Зянон Пазьняк разам зь ім выйшаў на лідэра расейскай партыі «Яблоко» Рыгора Яўлінскага, і той зьвярнуўся да Ельцына...*

— У свой час я выпадкова пазнаёміўся на Рыскім узмор'і з прэзыдэнтам Расеі Барысам Ельцыным. Мы абодва былі з жонкамі. Пазнаёміліся, паразмаўлялі. Ельцын паабяцаў дапамагаць усталяваньню дэмакратыі ў Беларусі. І калі я трапіў за краты, жонка Валянціна змагла яму затэлефанаваць.

...Узгадваю, што перад вызваленьнем у камэры зьявіўся супрацоўнік КДБ з прапановай напісаць ліст з прызнаньнем сваёй віны. Калі я адмовіўся, выпусьцілі без усялякіх дадатковых умоваў. Пагражала ж ад 2 да 6 гадоў зьняволеньня, паколькі супрацьстаяньне дэманстрантаў зь міліцыяй мела беспрэцэдэнтныя наступствы: больш за 200 чалавек, у тым ліку міліцыянты, зьвярнуліся па мэдычную дапамогу. Былі перакуленыя і пашкоджаныя машыны міліцыі.

*— Многія Вашы паплечнікі лічаць, што Вы прынесьлі ў палітыку філязофскі складнік. Намесьнік старшыні Партыі БНФ Віктар Івашкевіч казаў пра Вас: «Увайшоўшы ў палітыку, Юры Хадыка ўнёс у яе гуманістычны, культурніцкі, філязофскі чыньнік. Ён заўсёды стрымліваў магчымасьць Фронту скаціцца ў палітыканства, аналізуючы дзейнасьць з пазыцыяў філязофскіх, этычных, а ня чыста “рэал-палітычных”. Ён хутчэй не палітык, а змагар за свабоду». Дый Вы самі заяўлялі, што да вялікай палітыкі прыйшлі нетрадыцыйным шляхам — праз мастацтва...*

— З 1965 году я як фізык-навуковец стаў працаваць у закрытай тэматыцы, выконваючы ў Інстытуце фізыкі Акадэміі навук Беларусі замову вайскоўцаў. Браў удзел у каапэрацыі па стварэньні сыстэмы раньняга папярэджаньня аб ракетным нападзе, што пазьней сталі называць касьмічнымі войнамі. Калектыў стаў галаўной арганізацыяй у тэорыі разьлікаў аптычных характарыстык ракетаў, караблёў, самалётаў. Двойчы я адмаўляўся ад пераходу на сталую працу ў Маскву. Урэшце вузкая група спэцыялістаў стала «курыцай, якая несла залатыя яйкі». У такім статусе шмат што дазвалялася, і той сытуацыяй я скарыстаўся напоўніцу.



Ад 1969 году ўдзельнічаў у грамадзкай кампаніі па вывучэньні і захаваньні помнікаў старажытнага мастацтва, культуры. Духоўнай натхняльніцай стала гісторык мастацтва Элеанора Вецер. Годам раней выйшла пастанова Савету міністраў СССР аб выданьні «Зводу помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР», уключна з 7 тамамі па Беларусі. І высьветлілася, што ў Беларусі няма ніводнага спэцыяліста ў старажытным і сакральным мастацтве, хоць праз шэсьць гадоў трэба было выдаваць энцыкляпэдыю.

І тут добраахвотнікі знайшліся. Улетку 1970 году мы паехалі ў першую экспэдыцыю. Сабралі вялікую колькасьць мастацкіх твораў: больш за 60 абразоў, скульптураў, фрагмэнтаў дэкаратыўнай разьбы. Галоўным рарытэтам стаў звон 1584 году аднаго з магнацкіх родаў Беларусі. У гэтых экспэдыцыях прыйшло сапраўднае разуменьне беларускай гісторыі, якую за савецкім часам намагаліся папросту выкрасьліць.

У 1979 годзе, пасьля шматлікіх арганізацыйных перашкодаў, у Акадэміі навук быў адкрыты Музэй старабеларускай культуры. Я лічу гэта найвялікшым сваім дасягненьнем, якое пераўзыходзіць нават працу ў галіне фізыкі. Прапаноўвалі абараніць дысэртацыю ў мастацтвазнаўстве, аднак я ўжо быў прафэсарам і доктарам у фізыцы і адмовіўся, пра што цяпер шкадую. Паказальна, што з 1979 году ніводзін кіраўнік БССР і сучаснай Беларусі ў музэі ня быў. Ён і да сёньня — паўпадпольная ўстанова ў рангу ведамаснага музэю Акадэміі навук.

*— Іншымі словамі, першыя знаёмствы з асобамі, якія істотна паўплывалі на разьвіцьцё палітычнай сытуацыі ў краіне, адбыліся ў часе гістарычных экскурсаў у глыбіню тысячагодзьдзяў?*

— Паколькі я ў пэўным сэнсе валодаў статусам недатыкальнасьці, то зь сярэдзіны 1970-х гадоў шмат якія вядомыя дзеячы адраджэньня прыходзілі да мяне зь лістамі ў ЦК КПСС у абарону беларускай мовы, беларускіх помнікаў. Я падпісваўся як доктар навук, што надавала вагі лісту. У гэты ж час адбыліся першыя кантактаваньні зь Зянонам Пазьняком і Міхасём Ткачовым.

Вольнага паветра дадала перабудова. Летам 1988 году ў акадэмічную партарганізацыю зьвярнуліся прадстаўнікі нефармальных моладзевых арганізацыяў. Мне даручылі зь імі паразмаўляць. Маладыя людзі спадабаліся мне. І калі зьявіліся крытычныя артыкулы пра «пену на хвалі перабудовы», я выступіў на партканфэрэнцыі з пратэстам і заклікам асудзіць такога кшталту публікацыі.

30 кастрычніка 1988 году адбыўся фактычна мой дэбют на палітычнай арэне. У той дзень я трапіў на капот міліцэйскага аўтамабіля, калі разам зь іншымі кінуўся абараняць мастака Міколу Купаву, якога міліцыянты выхапілі з натоўпу. А ўжо на наступны дзень ўратаваны Купава патэлефанаваў мне і запытаўся: а ты запісаўся ў Народны Фронт? Пытаюся: а хто там? Пазьняк, адказвае Купава. Зянона Пазьняка я ведаў, і ў адрозьненьне ад іншых, ня быў у вялікім захапленьні ад яго. Купава дадаў, што ў Фронце таксама Васіль Быкаў. І кажу: вось калі Быкаў там, то і я запішуся. Тут жа павесіў на інстытуцкай дошцы аб'яваў ліст з заклікам запісвацца ў групу падтрымкі БНФ і паставіў сваё прозьвішча першым. Да канца дня было ўжо больш за 40 прозьвішчаў.

У тыя дні ўпершыню запрасілі выступіць у актавай залі Інстытуту фізікі АН Беларусі з канцэртам Сяржука Сокалава-Воюша. Ад таго часу гэта мой любімы бард: спакойна слухаць сэрыю аб паўстань-





• Празь некалькі дзён пасьля месячнай галадоўкі ў 1996 г.

ні Каліноўскага было немагчыма. А дзесьці празь месяц Зянон Пазьняк прапанаваў далучыцца да аргкамітэту ўтварэньня БНФ. Тады я падтрымаў Пазьняка ў спрэчцы за лідэрства з Васілём Якавенкам. На І зьезьдзе разам зь Міхасём Ткачовым (ён яшчэ быў у Горадні) я быў абраны намесьнікам старшыні. То бок намесьнікамі сталі два прафэсары, што было ў нейкім сэнсе сымбалічна.

*— Наколькі ведаю, сыход у лягер БНФ спарадзіў яшчэ адзін важны для Вас крок: пасьля аднаго зь мітынгаў у канцы лютага 1990 году Вы вырашылі завязаць з партыйным мінулым...*

— Так, я напісаў заяву, прыклаў партбілет і аднёс сакратару парткаму. Выйшаў з партыі на пачатку 1990 году, яшчэ да развалу Савецкага Саюзу...

## З архіву «Свабоды»

**21 сакавіка 2005 г. З прыватнага дзёньніка**

Юры Хадыка: «Я стары чалавек і ня маю падстаў баяцца лукашэнкаўскай прапаганды, калі кажу пра грашовую падтрымку апазыцыі з-за мяжы. Яна абсалютна неабходная, бо ўнутраныя фінансавыя крыніцы цалкам кантралююцца рэжымам. Сьмешна гучыць тэзіс пра недапушчальнасьць умяшальніцтва ва ўнутраныя справы Беларусі. Недапушчальным зьяўляецца брутальнае парушэньне грамадзянскіх правоў. Многія яшчэ памятаюць часы "дактрыны Брэжнева". Яна дазваляла збройнае ўмяшальніцтва ў справы краіны, дзе паўставала пагроза камуністычнаму рэжыму. Толькі праз 15 гадоў вялікі прэзыдэнт Роналд Рэйган знайшоў адпаведны адказ на "дактрыну Брэжнева". Ён абвясьціў СССР "імпэрыяй зла"... Рэспубліка Беларусь — аскепак былой "імпэрыі зла". Мы не адмовіліся ад яе спадчыны. Наадварот, ганарымся ёю. І я ня бачу падстаў, чаму ў вачах прэзыдэнта Дж. Буша дачыненьні ЗША з прэзыдэнтам А. Лукашэнкам павінны быць такімі самымі, як з прэзыдэнтам Ж. Шыракам. У палітыцы, як і ў жыцьці, павінна быць лёгіка і пасьлядоўнасьць. Калі дэмакратычныя сілы ў Беларусі жорстка падаўляюцца, дэмакратычны сьвет мае права і абавязаны аказаць гэтым сілам усю магчымую дапамогу».

**5 чэрвеня 2006 г. 8-мы дзень галадоўкі актывістаў «Маладога фронту»**

Юры Хадыка: «У любым выпадку гэтая галадоўка — прыкмета бясьсільля ў пэўным сэнсе. Бо няма іншых спосабаў супрацьстаяць гвалту, несправядлівасьці ўлады. Тое, што апошнім часам у Беларусі пачасьціліся такія выпадкі, ёсьць доказам таго, што нашая ўлада ня мае ніякіх тармазоў у сваіх рэпрэсіўных захадах. Найперш раздражненьне ўлады выклікаюць маладыя людзі, якія мужна супрацьстаяць таталітарнай сыстэме ў Беларусі. Безумоўна, галадоўка — вельмі рызыкоўны сродак, бо можа нанесьці шкоду здароўю і нават жыцьцю чалавека. Але я нічога не магу сказаць, калі матывацыя гэтых людзей носіць палітычны характар. Яшчэ можна спрачацца наконт мэтазгоднасьці эканамічных галадовак. А палітычныя галадоўкі — гэта відавочная прыкмета нездароўя ў грамадзтве».

**24 сакавіка 2007 г. З эсэ Юрыя Хадыкі «У што я веру»**

«Я — не палітык, хаця Радыё Свабода такім мяне лічыць. Я ніколі ня жыў з палітыкі. Не зарабляў на ёй грошы. Хутчэй наадварот — траціў іх. І мне не падабаецца, што сёньня ў апазыцыі яны адыгрываюць вялікую ролю. Грошы ня мусяць засьціць галоўнага — інтарэсаў беларускай дзяржавы, беларускага нацыянальнага адраджэньня, абараніць якія здольная адно аб'яднаная апазыцыя. Аб'яднаная на ясных прынцыпах, якія і запісаныя толькі ў праграмах партый.

Ня веру ў сілу натоўпу, у канструктыўнасьць, стойкасьць і паслядоўнасьць "плошчы", для якой патрэбны адно лёзунгі, адно спрошчаныя да прымітывізму заклікі. Беларусь выратуе культура. У гэтым мы лепшыя за Расею, але горшыя за Эўропу. Таму мой маяк, мая вера паказвае шлях на Захад».

• Беларусь пазбаўляецца месца ў Радзе Эўропы
• Улады закрываюць Беларускае аддзяленьне Фонду Сораса, а таксама спыняюць выхад апазыцыйнай газэты «Свабода»




# 1997

Зьняволеныя:
**Уладзімер Кудзінаў** (люты)
**Рыгор Кійко** (красавік)
**Уладзімер Лыско** (красавік)
**Зьміцер Завадзкі** (ліпень, выйшаў на свабоду ў верасьні)
**Павал Шарамет** (ліпень, выйшаў на свабоду ў кастрычніку)
**Вадзім Лабковіч** (жнівень)
**Аляксей Шыдлоўскі** (жнівень)
**Вадзім Кабанчук** (кастрычнік)
**Васіль Лявонаў** (лістапад)
**Васіль Старавойтаў** (лістапад)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Славамір Адамовіч** (выйшаў на свабоду ў лютым)

# Уладзімер Кудзінаў.

**Зьняволены 5 лютага 1997 г. — выйшаў на свабоду 5 лютага 2001 г.**



Уладзімер Кудзінаў нарадзіўся 11 чэрвеня 1959 г. у вёсцы Танежыцы Слуцкага раёну Менскай вобласьці. Скончыў Менскі політэхнічны інстытут па спэцыяльнасьці інжынэр-эканаміст. Працаваў у падатковай службе Івацэвіцкага раёну. З 1992 г. бізнэсовец. У Івацэвічах заснаваў фірму, якая займалася жывёлагадоўляй і мясаперапрацоўкай. Шмат грошай выдаткоўваў на дабрачыннасьць, у тым ліку дапамагаў мясцоваму дзіцячаму дому. У 1995 г. абраны дэпутатам Вярхоўнага Савету, увайшоў у фракцыю «Грамадзянскае дзеяньне», быў сярод дэпутатаў, якія ў 1996 г. паставілі свой подпіс за імпічмэнт Аляксандру Лукашэнку. У 2001 г. пасьля другіх прэзыдэнцкіх выбараў зьехаў у Крым. Жанаты, мае дзьвюх дачок і ўнучку.

У лютым 1997 г. Уладзімер Кудзінаў быў арыштаваны. Асуджаны да сямі гадоў зьняволеньня паводле абвінавачаньня ў даваньні хабару. Выйшаў на волю датэрмінова ў лютым 2001 г. у сувязі са зьмяненьнямі ў Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусі.



Адзін дзень, 22 лістапада 2007 г., з былым палітвязьнем Уладзімерам Кудзінавым і яго роднымі правёў Алег Грузьдзіловіч.

*— Спадар Уладзімер, Вы на волі ўжо шэсьць гадоў, зьмянілі краіну. А ці зьмянілася Вашае стаўленьне да зьняволеньня?*

— Калі Вы пра крыўду, яна, безумоўна, была. На тых, хто ўчыніў адносна мяне несправядлівасьць. Бо інакш не назавеш тую правакацыю з хабарам у Барысаве, праз якую мне давялося чатыры гады адбыць у калёніі. Тыя людзі атрымалі замову на падласьць і не адмовіліся яе выконваць, таму былі вартыя крыўды. Але сёньня мая крыўда ўжо не такая вялікая. Калі давялося прайсьці той шлях, то няма чаго вяртацца.

*— То бок Вы даравалі гэтым людзям?*

— А ў жыцьці дзейнічае закон бумэранга. Ведаю пра таго начальніка паста ДАІ, які ўчыніў мне правакацыю. Потым яго звольнілі за службовыя парушэньні. Магчыма, неяк адгукнуцца ўчынкі і ўсім іншым, хто замовіў правакацыю. Яно само адбудзецца, а помсьціць адмыслова ня трэба. Для мяне ж галоўнае, што мне не сорамна перад дзецьмі.

*— Вы паставілі свой дэпутацкі подпіс пад патрабаваньнем імпічмэнту Аляксандру Лукашэнку. Але там было каля сотні подпісаў. Чаму спробу хабару справакавалі толькі Вам?*

— Мяне ня толькі за імпічмэнт пакаралі. Колькі разоў спрабавалі завэрбаваць у свой лягер, але я адмаўляўся. Са мной размаўлялі людзі, якія цяпер на ўзроўні намесьнікаў міністра працуюць. Потым некалькі разоў да мяне праверкі прыяжджалі з загадам адшукаць незаконны бізнэс, але нічога не знаходзілі. А літаральна за дзень да арышту мы разам зь Вік-

тарам Ганчаром езьдзілі па Менску, вырашалі шэраг пытаньняў адносна апазыцыйнай працы. І вось назаўтра — затрыманьне, і празь дзень — арышт. Гэта было 3 лютага.

*— Вядома, што Вы цяпер жывяце ва Ўкраіне, у Крыме, займаецеся бізнэсам. Як гэта адбылося?*

— Я выйшаў на волю ў лютым 2001 году і жыў у Беларусі яшчэ шэсьць месяцаў, удзельнічаў у прэзыдэнцкай кампаніі на баку апазыцыі. Пасьля выбараў мы з жонкай прадалі наш прыгожы дом у Івацэвічах і зьехалі пад Севастопаль. Пачыналі ўсё з нуля. Цяпер у мяне ўласная справа, я адзін з уладальнікаў дзьвюх птушкафэрмаў. На іх 130 чалавек працуе. Але я застаюся грамадзянінам Беларусі. Не выключаю, што сытуацыя зьменіцца, бо для мяне Радзімай застаецца Беларусь.

*— Вы і Вашая сям'я не адчуваеце наступстваў той справы?*

— Не, а чаму мы мусім нешта адчуваць? Праўда, паводле маёй інфармаванасьці я да 2002 году стаяў на ўліку памежнай службы Беларусі, але калі цяпер пераяжджаю мяжу, перашкодаў няма.

*— Які дзень з турэмнай эпапэі дагэтуль у памяці?*

— Самы горкі дзень, безумоўна, — гэта вынясеньне прысуду. Да апошняга я лічыў, што судзьдзя мусіць кіравацца законам. Унутраны голас увесь час казаў мне: «За што?». І вось такі прысуд. Ажно сем гадоў... А самы сьветлы дзень — калі мяне вызвалілі. Праз чатыры гады, дакладна дзень у дзень. Дарэчы, пра тое, што мяне вызваляць, стала вядома найперш ад Радыё Свабода. У калёніі быў прыймач, які слухаць маглі ня ўсе. І вось да мяне прыбеглі і кажуць: «Свабода» перадала, што цябе, Валодзя, мусяць



сёньня вызваліць. Адбылося так, што прынялі новы Кодэкс і паводле яго пакараньне за мой артыкул стала меншым, чым я ўжо адбыў.

*— А які момант з Вашага чаканьня мужа з турмы, — пытаюся ў спадарыні Зоі, жонкі Кудзінава, — быў для Вас самым драматычным?*

— Калі Ўладзімера кінулі ў карцэр нібыта за тое, што паліў у нявызначаным месцы. А мне стала вядома, што ён стаяў у мэтры ад таго месца. Уяўляеце, што я тады перадумала? Нават не выключала, што пазбавяць жыцьця. Тады ўжо зьніклі Юры Захаранка і Віктар Ганчар, ад улады можна было чакаць чаго заўгодна.

— Адразу, як мяне пасадзілі ў калёнію, — працягвае спадар Уладзімер, — пачалі схіляць, каб напісаў заяву на імя Лукашэнкі, каб раскаяўся. Я адмаўляўся. І вось першае спатканьне зь сям'ёй. Я напісаў зварот да беларускай моладзі і спрабаваў перадаць яго на волю праз дачку. А яе абшукалі і зварот знайшлі.

Дачка Натальля ўдакладняе:

— Мяне не абшукалі, а пагражалі вобшукам. Нас зь сястрой спынілі ўжо на выхадзе з турмы, з торбамі. Сказалі, каб самі аддалі тое, што нясем на волю. Відаць, пэўна ведалі. Пагражалі, што распрануць. Мне было шаснаццаць, Зоя на год маладзейшая, на нас крычалі, але мы адмовіліся. Яны загадалі несьці сумкі назад, а мы ў адказ: «Вам трэба, вы й нясіце». Тады ахоўнікі перапрэсьлі ўсё і ў нататніку знайшлі той ліст. І неяк адразу супакоіліся, маўляў, заданьне выканалі. Больш на нас не крычалі.

— Карацей, за гэта мяне пакаралі, але пакуль ня карцэрам, а толькі прызначылі месьці турэмны двор. Я ж сказаў, што лічу гэта асабістай зьнявагай, бо адзін буду месьці, а на мяне ўсе будуць пальцам тыкаць. Я ж не адмаўляўся месьці двор разам зь іншымі

асуджанымі падчас уборкі тэрыторыі, але не адзін. Вось ужо за гэта мне далі сем сутак карцэру. Упершыню. Складанасьці былі. Прыкладам, пабачыў, як ад холаду літаральна трасуцца часткі тулава. Спаць давялося перапынкамі, па 20 хвілінаў. Прасыпаесься і робіш зарадку, каб сагрэцца. Бо тэмпэратура ў карцэры — сем градусаў цяпла. Але нічога, я ж мужчына, можна вытрымаць.

А другі раз — той, пра які згадала жонка. Дакладней, два мэтры не хапіла да пазначанага месца. Дарэчы, напярэдадні зноў схілялі пісаць заяву аб памілаваньні на імя прэзыдэнта, а ў выніку далі халодны карцэр. Гэтым разам я абвясьціў галадоўку, запатрабаваў людзкіх умоваў. Дапамагло. Празь дзень мяне перавялі ў карцэр з тэмпэратурай 16 градусаў цяпла. Дактары прыходзілі кожную раніцу і замяралі тэмпэратуру.

*— Ці было штосьці-небудзь такое, чаму Вы ў турме навучыліся?*

— Не шкадаваць пра зробленае. Турма не даруе мітусьні туды-сюды. Дарэчы, лепш і ў вольным жыцьці гэтага не рабіць.

*— Што дапамагала Вам вытрываць ізаляцыю ад былога асяродзьдзя, ад палітыкі, ад Вашай справы?*

— Кнігі, газэты. Штогод я падпісваўся на «Народную волю», «БДГ», «Белорусскую газету», «Свободные новости», нават «Свабода», якая тады яшчэ выходзіла, у турму трапляла без праблемаў. Дарэчы, у калёніі газэтаў ніхто не выкідае: прачытаў, згарнуў і перадаў другому. Зачытваюць да дзірак. Плюс кантакты зь людзьмі. Я быў у атрадзе, дзе пад адным дахам жыло 120 чалавек. Ложкі ў тры ярусы стаялі. Кантакты ўвесь час. Да мяне добрае стаўленьне было.



*— Відаць, улада зрабіла з Вашага досьведу пэўныя высновы. Цяпер кантакты палітычных абмяжоўваюць. Прыкладам, многіх, хто кантактаваў з Аляксандрам Казуліным, альбо пакаралі карцэрам, альбо перавялі ў іншыя атрады.*

— Магчыма. Са мной ужо пачалі такое адпрацоўваць. Ведаеце, у турме ёсьць паняцьце — «сям’я». Гэта тыя людзі вакол цябе, з кім ты сябруеш, харчуесься разам, трываеш усе цяжкасьці. Дык вось ніхто з маіх «сямейнікаў» не адышоў у бок, хаця ім пагражалі рэпрэсіямі і нават каралі за тое, што сябравалі са мной. Людзі былі з гонарам.

*— А што б Вы параілі тым, хто за свае меркаваньні можа патрапіць за краты?*

— У турме спакойна сябе адчуваеш толькі калі ўпэўнены, што твае блізкія не апынуліся без дапамогі, што іх падтрымаюць. Але і ад саміх вязьняў шмат што залежыць: трэба не губляць мужнасьці, не баяцца адстойваць свае правы перад адміністрацыяй. Так, цябе могуць пакараць, але пасьля паважаць будуць. Мой начальнік атраду, калі зьвяртаўся да мяне, заўсёды называў маё імя і імя па бацьку. І ніколі ня лаяўся на мяне. Хто быў у турме, ведае, наколькі гэта важны паказчык.

*— Чым Вас узбагацілі гэтыя чатыры гады, а што забралі назаўсёды?*

— Загартавалі, гэта безумоўна. А што забралі? Галава стала сівой. Як у песьні Разэнбаўма: «Волос был чернее смоли, стал седым». Турма забрала гады, якія я мог бы аддаць добрай справе, сваёй сям’і, выхаваньню дзяцей. Гэтага ня вернеш, нічым не кампэнсуеш.

*— Ці ёсьць у Вас нейкая ўнівэрсальная парада тым, хто ў Беларусі змагаецца за дэмакратыю?*



• Першыя хвіліны на свабодзе

— Па-першае, я захапляюся іх мужнасьцю. Людзі ідуць на той жа мітынг, рызыкуючы, што іх разгоняць, паб’юць, зьняважаць, ня кажучы ўжо пра тое, што могуць кінуць на нары да хуліганаў. А той, хто займаецца апазыцыйнай барацьбой больш трывала, той увесь час рызыкуе. Гэта вельмі моцныя людзі! Якія ім патрэбныя парады? Толькі пажаданьне, каб хутчэй прыйшла перамога. Веры ў тое, што міне яшчэ год, два, можа больш, але сытуацыя зьменіцца абавязкова і ў гісторыі яны застануцца змагарамі, хто не сядзеў склаўшы рукі, а змагаўся за лепшую будучыню народу Беларусі.



## З архіву «Свабоды»

**1 ліпеня 2000 г. Дзень атрыманьня ліста**

Ад дэпутата Ўладзімера Кудзінава нарэшце пасьля месячнага перапынку прыйшоў ліст дадому. Жонка дэпутата Зоя Кудзінава расказвае: «Зьбіраўся ўжо дадому пасьля канца ліпеня. Зразумела, думаў, што прымуць са зьмяненьнямі гэты Крымінальны кодэкс. Зараз трошкі расстроены, але ўсё роўна, піша, засталося ўжо меней. Сілаў у яго хопіць вытрываць да канца».

У гэтым лісьце Ўладзімер напісаў таксама, што ўжо ведае пра «пяцёркі» малодшае дачкі на школьных іспытах. Аказваецца, дапамаглі хвалі, на якіх працуе Радыё Свабода. Ёсьць сярод турэмных знаёмых Кудзінава людзі, якія слухаюць Радыё Свабода і дзеляцца пачутым з арыштантамі.

# Рыгор Кійко.

**Зьняволены 1 красавіка 1997 г. — выйшаў на свабоду 26 студзеня 1999 г.**



Рыгор Кійко нарадзіўся 27 чэрвеня 1951 г. у вёсцы Цалуйкава Луганскай вобласьці Ўкраіны ў настаўніцкай сям'і. Неўзабаве сям'я пераехала на радзіму маці ў Бабруйск. У 1980 г. Рыгор скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут па спэцыяльнасьці мастак-кераміст. Сябра Беларускага саюзу мастакоў, удзельнічае ў працы суполкі «Пагоня». У Беларускім Народным Фронце ад моманту ўтварэньня руху і партыі. Пасьля расколу БНФ у 1999 г. — сябра Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. Удзельнік шматлікіх вулічных акцыяў. Цяпер займаецца творчай і выкладчыцкай працай. Жанаты, мае дзьвюх дачок.

Неаднойчы затрымліваўся міліцыяй.

Увесну 1996 г. Рыгор Кійко быў асуджаны да васьмі сутак зьняволеньня за ўдзел у пікеце ў падтрымку украін-



скіх сяброў, затрыманых у Менску падчас Чарнобыльскага шляху.

У 1997 г. Рыгор Кійко быў зьняволены і абвінавачаны ў хуліганскіх дзеяньнях падчас сьвяткаваньня Дня Волі 25 сакавіка. Асуджаны да двух гадоў абмежаваньня волі з прымусовымі працамі. Адбываў пакараньне ў Зэмбінскай спэцкамэндатуры.

Адзін дзень, 20 сьнежня 2007 г., з былым палітвязьнем Рыгорам Кійком правёў Вячаслаў Ракіцкі. На той момант мінула амаль дзевяць гадоў, як мастак выйшаў на свабоду пасьля пакараньня «хіміяй».

Рыгор Кійко браў удзел ці не ва ўсіх мітынгах, шэсьцях, маршах, пікетах за незалежную і дэмакратычную Беларусь. Вялікай Боскай ласкай лічыў ён вяртаньне беларусам дзяржаўнай незалежнасьці. Да барацьбы за гістарычную памяць і годнасьць ён далучыўся адразу, як толькі ўтварыліся Мартыралёг і Беларускі Народны Фронт. На Дзяды 30 кастрычніка 1988 году мастак-кераміст Рыгор Кійко разам зь Зянонам Пазьняком і іншымі прыняў удзел у шэсьці на Курапаты.

*— Што адчувае чалавек, мастак, калі трапляе ў няволю?*

— Я дагэтуль памятаю той кавалачак неба, які праглядваўся скрозь краты камэры нумар 306 на Валадарцы. Ён далікатна разразаўся крыжамі Чырвонага касьцёлу. Калі я падыходзіў да вакна і бачыў крыжы, станавілася лягчэй дыхаць, нібыта глыток сьвежага паветра разганяў смурод душнай камэры...

*— А калі Вы ўпершыню трапілі за краты?*

— Увесну 1996 году, празь некалькі дзён пасьля крывавага Чарнобыльскага шляху. Шмат людзей тады выйшла на пікет ля сьледчага ізалятару на

вуліцы Валадарскага ў Менску ў падтрымку зьняволеных там украінскіх сяброў, якія прыехалі на Чарнобыльскі шлях падтрымаць беларусаў. Пікет жорстка разагналі, а ля будынкаў ГУМу і Нацбанку міліцыя зрабіла аблаву. Мяне і яшчэ некалькі дзясяткаў чалавек закінулі ў аўтазак. Тады я ўпершыню атрымаў дубінкай па галаве і пазнаёміўся зь вязьніцай на Акрэсьціна: цёмная камэра, смурод нямытых целаў, лыжка-чарпачок з адрэзанай ручкай, хлебныя катлеты і нейкае цеста, якое называлі хлебам. Інакш як катаваньнем тыя ўмовы не назавеш. Празь некалькі дзён адбыўся суд. Усім затрыманым давалі па 4–5 сутак, мяне ж упяклі на восем, напэўна, за тое, што адказваў у судзе на беларускай мове.

*— Праз год пасьля сьвяткаваньня Дня Волі Вас зноў затрымалі і гэтым разам зьмясьцілі ў сьледчы ізалятар на вуліцы Валадарскага...*

— Так. Сьвяткаваньне Дня Волі 25 сакавіка 1997 году вылілася ў жорсткае супрацьстаяньне міліцыі і апазыцыйнай грамадзкасьці. Міліцыя не прапускала калёну на плошчу Якуба Коласа, некалькі разоў спыняла шэсьце. Узьнікалі сутычкі паміж маніфэстантамі і міліцыянтамі. Увечары мяне затрымалі, завезьлі ў пастарунак, склалі пратакол і адпусьцілі. Мяне абвінавачвалі сярод іншага ў тым, што я ўдарыў некалькі разоў амапаўца Бухаўца дрэўкам ад сьцяга. Арыштавалі ж мяне толькі 1 красавіка людзі ў цывільным. Тады ж быў арыштаваны яшчэ адзін удзельнік тых падзеяў — Алесь Бондараў. Некалькі дзён мы правялі разам у спэцпрыёмніку-разьмеркавальніку. А затым нас, абвінавачаных у хуліганскіх дзеяньнях, перавялі на Валадарку. Так я, мастак і сябра БНФ, апынуўся ў 306-й камэры зь відам на крыжы Чырвонага касьцёлу...

*— Цяжка было?*



— Асабліва цяжкім быў першы месяц адседкі. Не вялося ніякіх сьледчых дзеяньняў, цяжка было паразумецца з сукамэрнікамі — забойцамі, рабаўнікамі, аліментшчыкамі. Замест ежы — баланда, замест ложка — нары, на якіх у перапоўненай камэры спалі па чарзе, замест унітаза — параша. Я адчуваў сябе нібы леў у клетцы. На свабодзе заставаліся нерэалізаваныя творчыя задумы, любімая сям'я. Аднойчы прысьнілася, як прытулілася да мяне малодшая дзесяцігадовая дачка Аленка.

Празь месяц пачалі цягаць на допыты. Калі вялі да сьледчага, перакрывалі калідоры, каб, крый Божа, з кім не сустрэўся. Па ўнутранай турэмнай пошце даведаўся, што на Валадарку даставілі і іншых удзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі: Уладзімера Лыска, Анатоля Сарокіна, Алеся Ковалі. Неўзабаве справу перакваліфікавалі. Цяпер мяне абвінавачвалі ў арганізацыі масавых беспарадкаў і актыўным удзеле ў іх.

Праз тры месяцы выйшаў на волю з падпіскай пра нявыезд. Суд адклалі на восень. Толькі ў судзе я пазнаёміўся з тымі, з кім праходзіў па адной справе.

*— Як Вам падаецца, ці аб'ектыўна адбываўся судовы працэс? Ці мелі Вы абарону?*

— Нам прызначылі дзяржаўных адвакатаў. На момант суду ўжо быў ліквідаваны інстытут прыватных адвакатаў. Натуральна, ад дзяржаўных абаронцаў мы адмовіліся. У першы ж дзень суду, які пачаўся ў Дзень палітвязьняў, 30 кастрычніка, мы запатрабавалі, каб працэс адбываўся на беларускай мове. А паколькі судзьдзі не валодалі беларускай мовай, запатрабавалі перакладчыка. Судзілі нас два тыдні. Расейскія тэлеканалы здымалі сюжэты. Беларуская дзяржаўная прэса абзывала нас п'яніцамі, хуліганамі, адмарозкамі.

Мы з Уладзімерам Лыском атрымалі самы суровы на той час вырак — два гады «хіміі». Алеся Бондарава, Анатоля Сарокіна і Алеся Коваля асудзілі да папраўчых работ па месцы працы з утрыманьнем 20 працэнтаў заробку на карысьць дзяржавы.

*— І чым займаўся мастак Рыгор Кійко на «хіміі»?*

— На «хімію» ў Зэмбінскую спэцкамэндатуру, што недалёка ад Барысава, я прыехаў на пачатку зімы. Мяне паслалі працаваць у суседні калгас. У першы працоўны дзень мастак Кійко кідаў гной... Тры месяцы я пражыў разам зь пяцьцюдзесяцьцю «хімікамі» ў старой школе. А потым на просьбу Барысаўскага мастацкага камбінату мне дазволілі працаваць на камбінаце і жыць у Барысаве. Аднак штотыдзень трэба было ехаць у Зэмбін адзначацца ў камэндатуры і штодня — у барысаўскай міліцыі. Пазьней дазвалялі езьдзіць у Менск да сям'і — таксама з абавязковым адзначэньнем у міліцыі...

*— Ці разумее, ці падтрымлівае Вас сям'я?*

— Самым цяжкім у няволі было жыцьцё безь сям'і. Жонка Алена (таксама мастачка) разумее і падтрымлівае мяне. Старэйшая дачка Натальля пайшла маімі сьлядамі ня толькі ў выбары прафэсіі. Студэнтка мастацкага факультэту Беларускай акадэміі мастацтваў, яна была адной з актывістак «Маладога фронту». Натальля брала ўдзел у апазыцыйных акцыях моладзі, аздабляла іх плякатамі і транспарантамі, ладзіла выставы альтэрнатыўнага мастацтва. Натуральна, адчувала ціск з боку кіраўніцтва навучальнай установы.

Цяпер у Акадэміі мастацтваў, дзе калісь я акрамя прафэсіі атрымліваў урокі нацыянальнай сьвядомасьці ад знанага выкладчыка Міхася Раманюка, вучыцца і мая малодшая дачка Алена.



Моцна перажывала мая маці. Цяжка хворая, яна баялася, што не дачакаецца вызваленьня сына. Дачакалася. Гэта адбылося ў 1999 годзе, незадоўга да яе сьмерці.

*— Колькі яшчэ было акцыяў, затрыманьняў?*

— Хапала... На Дзень Волі ў 2000 годзе выйшаў ужо зь сям'ёй. Зноў полем бітвы стала сталічная плошча імя Якуба Коласа. Той Дзень Волі вызначыўся выведзенымі на вуліцы Менску бэтээрамі і сабакамі. І, вядома ж, масавымі затрыманьнямі. Мяне, жонку Алену і дачку Натальлю закінулі ў міліцэйскі «варанок». Дзень мы правялі ў спартовай залі вайсковай базы, а ўвечары нас адпусьцілі.

*— Вас заўсёды можна бачыць на акцыях у Курапатах. У 2001 годзе, калі ўлады вырашылі пашырыць Менскую кальцавую дарогу праз тэрыторыю Курапатаў, Вы разам са сваімі паплечнікамі з КХП БНФ бралі ўдзел у абароне нацыянальнага нэкропалю...*

— Курапаты — мой боль, і ў літаральным, і ў пераносным сэнсах. Позна ўвечары 8 лістапада 2001 году спэцназаўцы напалі на наш лягер — лягер абаронцаў пахаваньняў. Дагэтуль памятаю, як мяне зьбілі з ног, кінулі тварам у разьмяклы ад восеньскіх дажджоў жвір. Стала страшна, балюча. З вуснаў вырваўся стогн: «Божа, дапамажы, гіну!». Нейкі спэцназавец груба падняў мяне зь зямлі і моцна ткнуў дубінкай наўпрост у тое месца, дзе знаходзіцца сэрца. Дзікі боль працяў цела. Ачуняў я толькі ў пастарунку. Але яшчэ зь месяц на грудзях заставалася чорная гематома, балелі рэбры. Я зьвяртаўся са скаргай у пракуратуру. Дарэмна. Гэтая ўлада сваіх ня судзіць.

*— Вы зьяўляецеся адным з ініцыятараў і стваральнікаў крыжовага мэмарыялу ў Курапатах...*

— Так. Увосень 2001 году я рабіў крыжы з паваленых будаўнікамі курапацкіх дрэваў. Большасьць з усталяваных крыжоў вывезьлі спэцназаўцы 8 лістапада. Цяпер у Курапатах больш за паўтысячу крыжоў, якія былі ўсталяваныя нашымі намаганьнямі. Я ганаруся тым, што талакою за кароткі прамежак часу мы стварылі па сутнасьці Народны мэмарыял — мэмарыял крыжоў ахвярам бальшавіцкіх рэпрэсіяў.

*— Вы — вэтэран беларускага нацыянальна-вызвольнага руху канца XX — пачатку XXI стагодзьдзя. Шмат з таго, за што змагаліся, так і ня зьдзейсьнілася. Пасьля дваццацігадовага змаганьня вера ў дэмакратычную будучыню незалежнай беларускай дзяржавы застаецца?*

— Я, як і раней, — веру, толькі стаў крыху большым рэалістам. Я цьвёрда перакананы, што калі б не было тых вулічных змаганьняў, мітынгаў, шэсьцяў, не было б сёньня і Беларусі. Я зусім не шкадую, што на аўтар перамогі клаў і сваё здароўе, і дабрабыт сям'і.

*— Але ж парадзелі шэрагі змагароў...*

— Сапраўды, шмат хто стаміўся змагацца, але ж вырасла новае пакаленьне. Пэрспэктыву краіны я зьвязваю менавіта з моладзьдзю, якая ідзе тым жа шляхам, якім ішло наша пакаленьне ў 1990-я гады. Вось таму я разам зь сям'ёй у сакавіку 2006 году і прыходзіў на Плошчу Кастуся Каліноўскага падтрымаць юных змагароў. Прыходжу я маральна падтрымаць іх і тады, калі яны на лавах падсудных. І, натуральна, майструю, усталёўваю, рамантую Крыжы памяці ў Курапатах.



## З архіву «Свабоды»

**8 лістапада 2001 г. Дзень штурму лягеру абаронцаў Курапатаў**

Людзі зрабілі жывы ланцуг. Пасьля гэтага некалькі дзясяткаў амапаўцаў накінуліся на іх і пачалі зьбіваць. Білі й кідалі тварам у бруд мастака Рыгора Кійка, а потым яго, усяго ў крыві, цягнулі да міліцэйскага аўтобуса.

**21 сакавіка 2006 г. Другі дзень намётавага лягеру на Плошчы Кастуся Каліноўскага**

«Маё прозьвішча Кійко Рыгор. Я прыйшоў як вэтэран падтрымаць моладзь. Моладзь цяпер ня трэба пакідаць адну, і яна пераможа. Жыве Беларусь!»

# Уладзімер Лыско.

**Зьняволены 28 красавіка 1997 г. — выйшаў на свабоду 12 сакавіка 1999 г.**



Уладзімер Лыско нарадзіўся 20 ліпеня 1957 г. у Барысаве. Пасьля заканчэньня школы паступіў у політэхнічны тэхнікум на спэцыяльнасьць інжынэрная геадэзія. У 1975 г. прызваны ў войска, служыў тры гады на Балтыйскім флёце. Пасьля службы і заканчэньня тэхнікуму разьмеркаваўся ў Менск, у тагачаснае 5-е геадэзічнае прадпрыемства пры Савеце міністраў СССР. Больш за 30 гадоў працуе геадэзістам. Разьведзены, мае сына.



Уладзімер Лыско быў асуджаны да двух гадоў абмежаваньня волі за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі ў Дзень Волі 25 сакавіка 1997 г. У Гомель на «хімію» адпраўлены 8 сакавіка 1998 г., праз год трапіў пад амністыю.

Адзін дзень, 17 студзеня 2008 г., з былым палітвязьнем Уладзімерам Лыском правёў Ігар Карней. На той момант мінула амаль дзевяць гадоў пасьля году «хіміі».

*— Спадар Уладзімер, Вы — геадэзіст з больш чым 30-гадовым стажам. Як трапілі ў палітыку?*

— Спэцыфіка геадэзічнай працы ў тым, што дзевяць месяцаў на год — суцэльныя камандзіроўкі, так званы палявы сэзон. За першыя гады працы я пешшу абышоў амаль усю Літву і Латвію. Тады і ўбачыў, зь якім піетэтам да сваіх малых радзімаў ставяцца жыхары краінаў Балтыі і як чамусьці грэбуюць сваёй старонкай наскрозь прасякнутыя савецкай ідэалёгіяй беларусы. Нібыта і не было ніколі незалежнай Беларусі.

У тым, што ня ўсё безнадзейна, я пераканаўся толькі падчас першых мітынгаў, наладжаных Беларускім Народным Фронтам. І хоць у першым, жорстка разагнаным унутранымі войскамі, паходзе на Курапаты ня быў, але, прачытаўшы пра акцыю ў прэсе, пакантактаваўшы з удзельнікамі шэсьця, наступных мітынгаў ужо не прапускаў. І пачынаючы ад 1989 году хадзіў на ўсе акцыі. Прычым хадзіў зь сябрамі. Геадэзісты — людзі вельмі вальнадумныя, свабодныя, таму ўдзельнічалі ў мітынгах цэлай экспэдыцыяй, а гэта найменей паўтара дзясятка чалавек. Тады нас вельмі моцна ўразіў сваёй харызмай Зянон Пазьняк. Людзі ішлі дзеля таго, каб паслухаць таленавітага аратара.

*— Памятаеце той Дзень Волі ў 1997 годзе?*

— 25 сакавіка 1997 году ўдзельнікі сьвяткаваньня чарговай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі сабраліся на плошчы Незалежнасьці. Упершыню без Пазьняка. Былі заплянаваныя шэсьце да плошчы Якуба Коласа і там — мітынг.

Адной зь першых пацягнулі ў «варанок» маці Славаміра Адамовіча Чантарыцкую Юзэфу. Разам жанчыну абаранілі. Потым спэцназаўцы выхоплівалі людзей проста з натоўпу, пачаліся лякальныя бойкі, дэманстранты «высыпалі» на праезную частку. Галоўным перамоўнікам з уладамі выступаў ужо нябожчык Генадзь Карпенка, аднак на скрыжаваньні праспэкту Скарыны і вуліцы Казлова завязалася бойка. Мітынг на плошчы Якуба Коласа ўрэшце адбыўся, пасьля чаго людзі пачалі разыходзіцца.

Я сеў у тралейбус і паехаў дадому, на вуліцу Славінскага. Аднак на прыпынку ля парку Чалюскінцаў у тралейбус заскочылі шэсьць чалавек у цывільным, скруцілі мяне і закінулі ў машыну. У аддзяленьні міліцыі Савецкага раёну, як злачынцу, паставілі на «расьцяжку» — да сьцяны.

Гэта быў мой першы «прывод» у міліцыю, таму было насамрэч страшна: як сябе паводзіць? Псыхалягічны ўціск, каб запужаць, зламаць ад пачатку. Адвялі ў ленінскі пакой, куды яшчэ раней «напіхалі» з паўсотні затрыманых падчас маршу. Убачыўшы знаёмыя твары, я супакоіўся. Увечары ўсіх адвезьлі ў аддзяленьне міліцыі Менскага раёну на Старабарысаўскім тракце. Суткі пратрымалі там, на наступны дзень — суд. Выпісалі штраф і адпусьцілі.

*— Калі параўнаць з тым, як арыштоўвалі апазыцыйных актывістаў у апошнія гады, то адчуваецца розьніца?*



— Дзесяць гадоў таму міліцыянты ўсё ж былі крыху больш спагадлівымі. І нават капітан міліцыі на разьвітаньне пажадаў: вы ж, глядзіце, крыху акуратней змагайцеся.

Наступная вялікая акцыя адбылася роўна праз месяц, на ўгодкі чарнобыльскай катастрофы. Пасьля акцыі мы зь сябрамі рушылі ў бок мікрараёну Захад. Але на скрыжаваньні праспэкту Пушкіна і вуліцы Альшэўскага раптам спыняецца машына, усім тром заломваюць рукі за сьпіны і нас вязуць у аддзяленьне міліцыі на вуліцы Сурганава.

За паўторны ўдзел у несанкцыянаванай акцыі распачалі крымінальную справу, нягледзячы на тое, што за сакавіцкія падзеі я ўжо быў пакараны і штраф заплаціў. Трое сутак правёў у спэцпрыёмніку-разьмеркавальніку на Акрэсьціна, затым быў перавезены ў сьледчы ізалятар на Валадарцы. Там адседзеў месяц, пасьля чаго атрымалася нечаканая разьвязка — адпусьцілі пад падпіску аб нявыезьдзе. Пасьля месяца ў замураваным скляпеньні я як наноў нарадзіўся — на дрэвах толькі зьявіліся зялёныя лісьцікі, было поўнае адчуваньне неадхільных зьменаў да лепшага.

Але ў кастрычніку таго ж 1997 году мяне выклікалі ў суд. Падчас працэсу я пазнаёміўся зь іншымі палітычнымі. Гэта мастак Рыгор Кійко, фізык Алесь Бондараў, геоляг Аляксандар Сарокін, супрацоўнік Менскага мэтрапалітэну Аляксей Коваль, іншыя. Два тыдні цягнуліся судовыя паседжаньні, у выніку мяне і Кійка асудзілі да двух гадоў «хіміі», а з астатніх два гады вылічвалі 20 працэнтаў ад заробку на карысьць дзяржавы. Усе, за выключэньнем мяне, падалі апэляцыю. Аднак Вярхоўны суд рашэньне пакінуў у сіле, і 8 сакавіка 1998 году мяне адправілі ў Гомель.

*— Што найбольш запомнілася на «хіміі»?*

— У цэнтры Гомелю, у раёне «Гомсельмашу», знаходзіцца пяціпавярховы інтэрнат для асуджаных. Замест звыклага атрыбуту студэнцкага ці працоўнага інтэрнату — бабкі-вахтэркі тут на першым паверсе вартуюць міліцыянты. Кантынгент установы — у асноўным хуліганы. То бок нармалёвыя людзі.

Тыя ўражаньні не параўнаць з уражаньнямі, атрыманымі на Валадарцы. Там далі матрац, заходзіш у так званую «хату» — усе сядзяць, глядзяць на цябе. Крыху панікуеш, бо ня ведаеш, што рабіць. Потым «даводзяць», што існуе вельмі акрэсьленая герархія. У кожнай «хаце» свой «смотрящий», які ўказвае, дзе спаць. Спачатку я «кватараваў» ля дзьвярэй, але за два тыдні пераехаў бліжэй да вакна. Усяго ў камэры 14 «шканароў» (ложкаў), а суду чакалі больш за 30 чалавек. Таму спалі па чарзе, адзін ложак дзялілі на трох. Цяжка было, асабліва ня спаць уначы, бо мне, як «зялёнаму», выпадала зьмена ўсю ноч «кукаваць», то бок швэндацца па камэры.

*— Як, дарэчы, паставіліся сукамэрнікі да «палітычнага» Лыска?*

— Надзвычай добра, нават атрымаў адпаведнае «паганяла» — Дырэктар. Неўзабаве даверылі раздаваць кнігі: раз на месяц прыносілі ў камэру чытво і я разьмяркоўваў, каму якую выдаць.

За месяц перажыў два вялікія «шмоны», калі налятаюць людзі ў чорным, у масках, усіх без разбору «месяць» і пачынаецца вялікіператрус. Гэта татальны «выварот», усіх выганяюць на калідор, ставяць тварам да сьцяны. У мяне знайшлі маток нітак, «коні» па-турэмнаму. Гэта ў зьняволеньні рэч неабходная: як ноч прыходзіць, пачынаецца перапіска, ад «хаты» ў «хату» праз вокны. Пэрсанал пра ўсё ведае. «Вешацца сабраўся?» — запытаўся ахоўнік і, не чакаючы адказу, так зашпуліў у грудзі, што я на ўсёй хуткасьці сустрэўся са сьцяной. І ўвогуле дзеля прафіляктыкі білі дужа моцна.



На «хіміі» рэаліі зусім іншыя. Натуральна, што з прапановамі працы ніхто насустрач ня бег: хочаш працаваць — ідзі ўладкоўвайся. Я пайшоў шукаць шчасьця па спэцыяльнасьці, на мясцовае геадэзічнае прадпрыемства. Удача ўсьміхнулася: мяне ўзялі на працу і, каб ня лезьлі ўсялякія думкі і хутчэй ляцеў час, я працаваў сем дзён на тыдзень. Тыя парадкі былі нашмат больш лібэральныя, чым існуюць зараз: з вартай за кожным ніхто не хадзіў, галоўнае — вярнуцца да вечаровай паверкі ў 21.30.

Так, без асаблівых прыгодаў, адседзеў год, дакладней, адбегаў, бо геадэзіста ж ногі кормяць. І неўзабаве выйшаў указ пра амністыю. Такім чынам, з двух прысуджаных гадоў адседзеў палову.

Пасьля выхаду на волю з палітычнай актыўнасьцю не завязаў. Неўзабаве зноў трапіў у міліцыю. Хоць наважыўся на экспэрымэнт: маўляў, буду стаяць безь ніякіх актыўных дзеяньняў, нават рота не раскрыю. Але, відаць, такая ўжо карма: мяне схапілі, адвезьлі ў пастарунак. Адбыў суткі, завялі адміністрацыйную справу. Абышоўся вялікім штрафам — 20 тагачасных мінімальных заробкаў.

*— Вы ж ніколі не былі сярод арганізатараў вулічных акцыяў. Як Вам цяпер падаецца, чаму далі два гады «хіміі»?*

— Магу патлумачыць гэта хіба што сваёй актыўнай пазыцыяй падчас акцыяў. Дый супрацоўнікі спэцслужбаў усё здымаюць на відэа. І мяне асудзілі ў асноўным дзякуючы сьведчаньням такога «кінаапэратара», капітана Прыходзькі. У судзе дэманстраваўся кадар, калі я падышоў і замахнуўся на «апэратара» — маўляў, навошта здымаеш? У руках

пры гэтым было дрэўка ад сьцяга, зламанае міліцыянтамі, з дапамогай якога адбівалі ад міліцыі маці Славаміра Адамовіча. У сваіх паказаньнях міліцыянт настойваў, што я яго ўдарыў, хоць ніякага пацьверджаньня таму не было. Да таго ж абапал стаялі два амапаўцы, якія бачылі, што ніхто нікога ня біў.

Аднак калі судзьдзя запытаў у пацярпелага: колькі жадаеце, каб атрымаў Лыско, той адказаў — ня меней за пяць гадоў.

*— На працу палітычная актыўнасьць не паўплывала?*

— Спэцыяліст з 30-гадовым практычным досьведам патрэбен усюды. Геадэзіст — ён і ў Афрыцы геадэзіст. А ўвогуле я ўдзячны сваім калегам, якія ад пачатку былі на маім баку і пісалі хадайніцтвы ў суд, каб мяне не каралі так жорстка.

Адзінае сумна — што ўсё менее ў калёнах сучасных дэманстрантаў сяброў, зь якімі пачынаў хадзіць на маршы на бурным зломе 1980–1990-х гадоў...

## З архіву «Свабоды»

**26 студзеня 2008 г.**

Уладзімер Лыско, успамін пра Валадарку: «10 гадоў ужо мінула, але раней было так: усё трымалі “злодзеі ў законе”. Кодэкс “зэкаўскі” пераважаў над адміністрацыйным. І ад таго, як сябе паводзіш, фармуецца стаўленьне да цябе. У нас там быў адзін, як называюць, “апушчаны”, дык ён у адзіноце ляжаў каля парашы. Ён нічога кепскага нібыта і не рабіў, але чагосьці яго не любілі, ён так і пакутаваў. Гэта ўжо, як кажуць, пажыцьцёвае кляймо. У “хаце” таксама свае парадкі: лаяцца матам, напрыклад, нельга. А тыя ж міліцыянты, дык яны наадварот, слова сказаць бяз мату ня могуць. Пра іх увогуле размова асобная: у іх няма нічога — ніякага кодэксу, гонару. Што ім скажуць, тое яны і робяць. Што да Валадаркі, дык там наагул вучаць, як сябе потым паводзіць на зоне».



**17 сакавіка 2008 г. Напярэдадні Дня Волі**

Уладзімер Лыско: «Дзень Волі, Дзень Беларускай Народнай Рэспублікі, Дзень нашай незалежнасьці. І я перакананы, што гэта самае вялікае сьвята ў нашай Беларусі. І, як некалі сказаў Юры Хадыка, для мяне гэта гонар — “сядзець” за Радзіму».

## Зьміцер Завадзкі.

**Зьняволены 26 ліпеня 1997 г. — выйшаў на свабоду 5 верасьня 1997 г.**



Зьміцер Завадзкі нарадзіўся 28 жніўня 1972 г. Вучыўся ў Інстытуце культуры. З 1989 г. працаваў на беларускім тэлебачаньні. Са студзеня 1997 г. — апэратар на ОРТ (Грамадзкая расейская тэлевізія) у Беларусі. З кастрычніка 1999 г. па травень 2000 г. разам з Паўлам Шараметам здымаў у Чачэніі для ОРТ фільм «Чачэнскі дзёньнік». У траўні 1991 г. у Зьмітра і Сьвятланы Завадзкіх нарадзіўся сын Юры.

Улетку 1997 г. Зьміцер Завадзкі быў арыштаваны разам з журналістам ОРТ Паўлам Шараметам за рэпартаж аб беларуска-літоўскай мяжы. Асуджаны ўмоўна да паўтара году пазбаўленьня волі за незаконны пераход мяжы.

7 ліпеня 2000 г. Зьміцер Завадзкі зьнік пры нявысьветленых абставінах па дарозе ў аэрапорт «Менск-2». Судом ён прызнаны памерлым, аднак цела Завадзкага сьледзтвам ня знойдзена. За выкраданьне Зьмітра Завадзкага ў 2002 г. былі асуджаныя да вялікіх тэрмінаў зьняволеньня былыя афіцэры спэцпадразьдзяленьня МУС «Алмаз» Валеры Ігнатовіч і Максім Малік, былы курсант Акадэміі міліцыі Аляксей Гуз і Сяргей Савушкін.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Зьмітра Завадзкага вязьнем сумленьня. ОНТ і Беларуская асацыяцыя журналістаў заснавалі з ініцыятывы Паўла Шарамета прэмію імя Зьмітра Завадзкага і штогод ганаруюць ёй журналістаў незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

Травень 2002 г. Мінула амаль два гады, як пры нявысьветленых абставінах зьнік Зьміцер Завадзкі, і дагэтуль нічога не вядома пра ягоны лёс. Адзін дзень, 5 траўня, зь сям'ёй былога палітвязьня Зьмітра Завадзкага правёў Алег Грузьдзіловіч.

Я ў гасьцях у Юры і Сьвятланы Завадзкіх. Сын Зьмітра Завадзкага чытае мне радкі зь вершу Рыгора Барадуліна «Бацьку»:

> Калі у крыўдзе мне сябры грazіліся падчас бацькамі,
> тады хацелася наўзрыд заплакаць шчырымі сьлязамі.
> Ня плакаў я — усім на злосьць,
> бо ў хаце быў адзін — мужчына.

Ня йшоў ты...
Маці маладосьць глыбей заворвалі маршчыны.
Паверыць цяжка мне таму,
што больш ня прыйдзеш ты дадому.
А шапку я заўжды здыму перад магілай невядомай.

Калегі Зьмітра Завадзкага кажуць, што яго як прафэсіянала вызначала трапнасьць дэталяў у тэлерэпартажах. Аднаго разу любоў да красамоўнай дэталі і падвяла апэратара Завадзкага. У ліпені 1997 году разам з Паўлам Шараметам яны зрабілі сюжэт пра тое, як дрэнна ахоўваецца беларуска-літоўская мяжа. Праз тры дні пасьля выхаду рэпартажу ў этэр іх арыштавалі і кінулі ў гарадзенскую турму. Выявілася, што Шарамет і Завадзкі парушылі мяжу двойчы: першы раз — калі прайшлі ў Літву, каб зьняць зь літоўскага боку зачыненую будку памежнікаў, другі — калі вярталіся ў Беларусь. Доказам быў замок на будцы, які Дзіма зьняў буйным плянам.

Дваццаць крокаў у замежжа і столькі ж назад каштавалі журналістам некалькіх месяцаў турмы. Зьмітра Завадзкага адпусьцілі раней за Паўла Шарамета, бо ўгаварылі напісаць ліст да Лукашэнкі.

Потым афіцыйная прапаганда заявіла, што Завадзкі павініўся і Лукашэнка яму дараваў. Але ў гэтым ёсьць падставы сумнявацца. Вось што кажа Павал Шарамет:

— Дзіма напісаў ліст, але ў ім ён толькі прасіў, каб яму зьмянілі меру стрыманьня. Ён ня каяўся, не прасіў літасьці. На наступны дзень я зь ім сустрэўся, калі яго прывялі на вочную стаўку. На ўсё жыцьцё я запомніў ягоны твар, бо тады зразумеў выраз: чорны, як зямля. Гэтак ён перажываў, быў абураны тым, што яго прынудзілі напісаць гэты ліст, выкарысталі яго — і падманулі.



Пра тую турэмную эпапэю ў іх ёсьць ня толькі сур'ёзныя ўспаміны. Вельмі шкада, што наступны расповед Паўла Шарамета ня можа аздобіць смачнымі дэталямі сам Зьміцер Завадзкі, які і быў асноўным героем гэтай гісторыі...

— У турме былі і жаночыя камэры, і калі выводзілі на прагулкі, то мы часам бачыліся з жанчынамі. І дзяўчыны гэтыя, розныя наркаманкі ды іншыя, вельмі закахаліся ў Завадзкага, ім спадабалася, як ён сьпяваў на прагулках, і ўвогуле. А ягоная камэра была насупраць жаночай. І калі жанчыны ўведалі, што ў Завадзкага пры канцы жніўня дзень нарадзінаў, то яны зрабілі яму такі падарунак. Там удзень адчынялі так званую кармушку ў дзьвярах. Гэта такое невялікае акенца. І вось дамовіліся, што ў пэўны час Завадзкі будзе глядзець у шчылінку, а ў іх будзе адчыненая кармушка. І гэтыя дзяўчыны, наркаманкі, забойцы ды зладзейкі, сапраўды падыходзілі да кармушкі і рабілі стрыптыз. Адмыслова дзеля Завадзкага.

А вось як Павал Шарамет успамінае пра пачатак іх сумеснай працы на ОРТ:

— Мы ведалі, што Лукашэнка быў вельмі абураны тым, што Завадзкі перайшоў да нас. На адной нарадзе, калі Лукашэнка рабіў чарговую справаздачу на гадзіну альбо дзьве, ён гаварыў, а сам уважліва сачыў за тым, як Дзіма перасоўваецца па залі. Гаварыў, гаварыў, і раптам спыняецца і кажа: «Дзьмітры, на каго ты працуеш, я не зразумеў?».

Потым быў яшчэ момант, калі ўжо парлямэнт разагналі. Натоўп журналістаў стаіць, я пытаньні задаю Лукашэнку — адно, другое, трэцяе. І тут раптам у нас касэта скончылася. Ён убачыў, што ў Завадзкага скончылася касэта, сам спыніўся і чакае, пакуль

Дзіма замяніць касэту. А потым сказаў: «Дзьмітры, ты, калі ў мяне працаваў, быў хутчэйшым».

Пляменьнік вядомага рэжысэра-дакумэнталіста Валерыя Басава Зьміцер Завадзкі, якога сваяк прыладкаваў на БТ, не адразу замацаваўся і стаў майстрам. Але вучыўся Зьміцер вельмі хутка, за лічаныя месяцы выйшаў на першыя ролі сярод апэратараў беларускага тэлебачаньня. І тут ужо дзядзька быў не прычым, дапамагло тое, што заклалі ў хлопца яшчэ ў дзяцінстве. Згадвае сястра Завадзкага Алена:

— Дзед па бацьку падараваў яму фотаапарат нямецкі, трафэйны. Фатакарткі атрымліваліся вельмі маленькія, вялікія немагчыма было зрабіць. Ён тым фотаапаратам і пачаў здымаць. Здымаў паўсюль. Дома, на лецішчы. Пасадзіць нас, за намі прасьціну павесіць ці што іншае для фону прыдумае, і здымае. Падабалася яму гэтая справа. Ён і сыну свайму Юру купіў добры фотаапарат, і той цяпер ім пасьпяхова карыстаецца, у яго таксама выдатна атрымліваецца.

На беларускім тэлебачаньні Зьміцер Завадзкі адпрацаваў з 1989 году. Апошнія два гады былі для яго самымі ўдалымі: негалосна Дзіму прызначылі «асабістым» апэратарам Лукашэнкі, ён асьвятляў візыты і здымаў тыя сюжэты, зь якіх складаўся імідж прэзыдэнта. Спакойны, на працы нават флегматычны, Дзіма вытрымліваў маруднасьць любых афіцыйных мерапрыемстваў, нават жонцы Сьвятлане ён ня скардзіўся, што здымкі былі позьнімі ці наадварот — адбываліся ўраньні. А вось што да сьмешных назіраньняў, дык тут сваю маладую натуру ён стрымаць ня мог. Сьвятлана Завадзкая распавядае:

— Ёсьць такі далікатны ракурс, пра які Дзіма гаварыў — зьнізу. Бо здараліся выпадкі, калі Лукашэнка сядзеў у крэсле, а ў яго ж такія вялікія рукі, і калі ён іх трымае на каленях насупраць камэры, то атрымліваецца дрэнна. Такім чынам, не дазвалялі здымаць зьнізу. Не дазвалялася здымаць і калі вецер... падымае ягоныя... гэтыя валасы зачасаныя. Ня дай Бог апэратар яго ў гэты момант здымае! Трэба было дэманстратыўна адвесьці камэру ў іншы бок, прычым менавіта паказаць яму, што не здымаеш, пакуль там яму папраўляць... ягоную прычоску...

Зь беларускага тэлебачаньня Дзіма сыйшоў. Не ўтрымалі ані замежныя камандыроўкі, ані статус асабістага апэратара прэзыдэнта...

— Фраза ягоная была такая, калі ён сыходзіў з БТ: «Я не хачу, каб людзі плявалі мне ў твар». Гэта я дакладна памятаю. Мы абмяркоўвалі, што рабіць — пераходзіць ці не. Бо было боязна: а раптам не атрымаецца? І туды ня возьмуць, і назад ня вернесься... Але ён сказаў адназначна, што ня хоча, каб людзі плявалі яму ў твар. Былі такія выпадкі, калі ён здымаў акцыі як апэратар БТ — гэта на камэры напісана, і яго маглі ўдарыць нагой ці плюнуць у твар.

Завадзкі наважыўся і прыняў прапанову Шарамета аб пераходзе на ОРТ. Спачатку яму было ня вельмі салодка, згадвае Павал:

— Недзе месяцаў шэсьць былі праблемы прафэсійнага кшталту, бо ён прыйшоў да нас ад Лукашэнкі, зь беларускага тэлебачаньня, і як ён там працаваў — нам была непатрэбная гэткая праца, калі яны ставілі камэру і цэлую гадзіну альбо дзьве запісвалі Лукашэнку як статую, з аднаго пункту. Мы яго перавучвалі і заўсёды казалі, што мы працуем для расейскіх тэлегледачоў, для якіх Лукашэнка — такі ж прэзыдэнт, як прэзыдэнт Казахстану ці Зымбабвэ, і таму трэба здымаць паводле міжнародных стандартаў. Але потым ужо ён працаваў вельмі добра, быў стараннным апэратарам, і ўсе карэспандэнты ОРТ любілі зь ім працаваць.

Сястра Дзімы Алена распавяла, што апошнія месяцы перад зьнікненьнем брат стаў нейкім іншым — больш задумлівым і адначасова больш шчырым ды адкрытым. Алена ўспамінае:

— Паказваюць нават... адрэзаную галаву... Уяўляеце, як гэта магло быць — ляжыць адрэзаная галава... Рэпартаж быў пра Чачэнію на ОРТ, і я адчула, што гэта Дзіма зьняў. І калі ён вярнуўся з Чачэніі, я кажу — там такія жахі паказвалі, дык ён прызнаўся, што гэта ягоныя здымкі. Вы разумееце, што яму давялося пабачыць і перажыць? Таму, безумоўна, гэта магло паўплываць на тое, што ён стаў больш задумлівым. Магчыма, пачаў па-іншаму ставіцца да жыцьця. Бо мы ж як жывем? Нам увесь час чагосьці не хапае, грошай не хапае ці яшчэ чаго... А чалавек, які пабачыў такія беды, як у той Чачэніі, пачынае па-іншаму цаніць кожны дзень. Дзіма і з сынам стаў крыху іншым, больш зь ім стаўваждацца, на рыбалку яго браў...

Сам Зьміцер вудзіць рыбу пачаў таксама малым хлопцам. Звычайна летам сям'я жыла на лецішчы. Дача была ў Вязынцы, атрыманая дзядулем, былым намесьнікам міністра юстыцыі БССР.

Былы тэлеапэратар Дзьмітры Сямага ахвотна распавядае пра Дзіму Завадзкага, свайго сябра і адначасова вучня: «Ён на прыродзе любіў здымаць. Траўка, казяўка... Ён усё гэта знойдзе, упадзе на калені, ляжа з камэрай, знойдзе і здыме, і гэта дадавала жыцьця ягоным сюжэтам. Мог дзьве-тры гадзіны здымаць, і нават хай рэдактар скажа, што хопіць, пайшлі ўжо, ён — не, трэба яшчэ нейкія пляны зьняць, знайсьці прыгожае».

Школьны сябра Завадзкага Юра Лабейка памятае, як Дзіма быў дыджэем на школьных вечарынах: «Да нас на дыскатэку з усяго гораду езьдзілі, з цэнтру, Зялёнага Лугу. Быў у школе лябарант, вельмі дасьведчаны ў электратэхніцы. Настаўніца геаграфіі дала нам стары глёбус, мы абклеілі яго люстэркамі, падвесілі, ліхтар зрабілі, падбіралі добрую модную музыку... Дыскатэка ў нас была выдатная».



Менавіта на гэтай дыскатэцы Дзіма і пазнаёміўся са Сьвятланай. Яму было 17, ёй — 16. Праз год у іх нарадзіўся сын, а яшчэ празь некалькі месяцаў Дзіма пайшоў у войска...

Юры і Сьвятлана Завадзкія чакаюць Дзіму. Чакае маці Вольга Рыгораўна, сябры і калегі Дзімы. Яны перакананыя, што ёсьць справядлівасьць на сьвеце, і ня можа гэтак проста зьнікнуць такі выдатны, прыгожы чалавек. Яны спадзяюцца на цуд, які часам здараецца ў жыцьці....

## З архіву «Свабоды»

**7 ліпеня 2005 г. Пяць гадоў з дня зьнікненьня Зьмітра Завадзкага**

У Менску супрацоўнікі АМАПу разагналі акцыю «Ланцуг неабыякавых людзей», прымеркаваную да пятай гадавіны зьнікненьня тэлеапэратара ОРТ Зьмітра Завадзкага. Падчас разгону адзін з супрацоўнікаў АМАПу ўдарыў у твар Сьвятлану Завадзкую і зьмяў партрэт яе мужа Зьмітра Завадзкага.

Святлана Завадзкая: «Фашысты! Вы толькі ўмееце забіваць людзей, а не абараняць... Я не магу стаяць з партрэтам свайго мужа — у мяне нават такой магчымасьці няма ў гэтай краіне».

Прадстаўнік Беларускай асацыяцыі журналістаў Уладзімер Дзюба: «Гэта дзікунства — тое, што адбылося. Гэта вельмі брыдка і нізка. Так не павінны рабіць людзі, якія мусяць абараняць грамадзкі спа-

кой і грамадзянскія правы. Усё наадварот атрымоўваецца».

Сярод тых, хто браў удзел у «Ланцугу неабыякавых людзей», — журналісты, сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, былыя палітвязьні Андрэй Клімаў, Валеры Шчукін ды іншыя апазыцыйныя актывісты.

**7 ліпеня 2006 г. Шэсьць гадоў з дня зьнікненьня Зьмітра Завадзкага**

Маці Зьмітра Вольга Рыгораўна лічыць, што ўлады не зацікаўленыя даць аб'ектыўную інфармацыю аб тым, што здарылася зь яе сынам: «Прайшло шэсьць гадоў, і ніякіх зьменаў няма. Даводзілася запытваць пракуратуру аб тым, якія рабіліся дзеяньні, дык яны не далі адказу. Цяжка казаць, рабілі яны нешта ці не, але ж вынік красамоўны. Пра якое спачуваньне можа ісьці размова?!.. Нявестка летась атрымала ўдар у твар, дык яе абвінавацілі, што сама вінаватая. Я сама летась прайшла "ў абдымку" са спэцназаўцам да самай рэчкі на Нямізе. Яны кажуць: Вы з намі не спрачайцеся, бо мы натрэніраваныя, як сабакі. Якое можа быць спачуваньне?»

**15 жніўня 2007 г. Названыя ляўрэаты прэміі імя Зьмітра Завадзкага**

Прэміяй імя Зьмітра Завадзкага «За мужнасьць і гераізм у прафэсіі» сёлета адзначаны гомельскі журналіст Анатоль Гатоўчыц, радыёжурналістка з Горадні Натальля Макушына і карэспандэнт штотыднёвіка «Белорусы и рынок» Генадзь Барбарыч. Апошні кажа, што гэтая ўзнагарода для яго мае адценьне смутку: «Навіна напалову прыемная, але напалову й горкая. Таму што мы так і ня высьветлілі лёсу Зьмітра: што зь ім здарылася, дзе ён пахаваны (хутчэй за ўсё, выходзіць так). Дзіўна, што ўчора я згадваў Дзіму... Неяк раптам падумалася: вось жа Завадзкі — я яго ведаў, дзе ён цяпер? Воблік ягоны, як жывы, перад вачыма паўстаў. З Завадзкім я пазнаёміўся ў 1997 годзе, калі ён пачаў працаваць на расейскім канале ОРТ. Потым бліжэй пазнаёміліся падчас справы Шарамета — Завадзкага паводле пераходу імі мяжы ў Ашмянскім раёне. Вось тады я зь ім досыць шчыльна сышоўся».

# Павал Шарамет.

**Зьняволены 26 ліпеня 1997 г. —
выйшаў на свабоду 7 кастрычніка 1997 г.**



Павал Шарамет нарадзіўся 28 лістапада 1971 г. у Менску. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі ў спэцыяльнасьці міжнародных эканамічных адносінаў. Да 1992 г. працаваў у аддзеле валютных апэрацыяў у адным з банкаў. Быў кансультантам эканамічных праграмаў і вядоўцам аналітычнай праграмы «Праспэкт» беларускага тэлебачаньня, галоўным рэдактарам «Белорусской деловой газеты». Ад 1996 па 1998 г. — дырэктар Беларускага бюро, уласны карэспандэнт ОРТ (Грамадзкая расейская тэлевізія) у Беларусі. У 1998 г. працаваў спэцыяльным карэспандэнтам праграмаў «Новости» і «Время» каналу ОРТ. Уганараваны Міжнароднай прэміяй Камітэту абароны журналістаў. Аўтар дакумэнтальных фільмаў «Чачэнскі дзёньнік», «Дзікае паляваньне», «Апошні год імпэрыі». У 2002 г. атрымаў прэмію АБСЭ за журналістыку і дэмакратыю. Цяпер Павал Шарамет — камэнтатар расейскага тэлебачаньня, кіраўнік аддзелу спэцыяльных інфармацыйных праектаў Першага каналу. Жанаты, мае сына і дачку.

У 1997 г. Павал Шарамет быў асуджаны да двух гадоў пазбаўленьня волі ўмоўна за нібыта незаконнае перасячэньне беларуска-літоўскай і літоўска-беларускай мяжы. Правёў за кратамі два з паловай месяцы.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Паўла Шарамета вязьнем сумленьня.

Адзін дзень, 23 жніўня 2008 г., з былым палітвязьнем Паўлам Шараметам у Маскве правяла Алена Струвэ.

У Маскву Павал Шарамет зьехаў на пачатку 1998 году, хутка пасьля судовага працэсу.

— Гэта была вымушаная творчая, аднак ніяк не палітычная эміграцыя, — тлумачыць Павал. — Я заўсёды быў журналістам і ніколі — палітыкам ці дысыдэнтам. Іншая справа, мне падабалася пісаць пра палітыкаў і выкрываць іх. Аднак пасьля суду афіцыйна займацца журналістыкай у Беларусі, дзе мяне пазбавілі акрэдытацыі, я больш ня мог. У палітыку ісьці не хацеў, хоць туды неаднаразова клікалі...

Павал прызнаецца, што ня любіць згадваць турму, куды беларускія ўлады «ўладкоўвалі» яго тройчы: у 1997, 2004 і 2006 гадах.

— Усё гэта было, — гаворыць ён. — Калі ж пастаянна трымаць у памяці колішнія выпрабаваньні, можна проста звар’яцець і страціць адэкватнае

ўспрыманьне рэчаіснасьці. Калісьці я даволі падрабязна апісаў усё ў турэмным дзёньніку. Там ёсьць і дарагія для мяне ўспаміны Дзімы Завадзкага. Больш згадваць няма чаго.

Павал шкадуе, што яму не ўдалося захаваць арыгіналаў таго дзёньніка. Яны згубіліся дзесьці на ОРТ. Арыгіналамі ён называе скручаныя маленькія папяровыя кавалачкі, сьпісаныя амаль без прабелаў самымі маленькімі літарамі. Кожны такі лісток турэмных нататкаў перадаваўся на волю нелегальным шляхам, пад выглядам «малявы». Як ні дзіўна, «турэмная пошта» працавала бездакорна. Усё даходзіла.

— За кратамі я амаль штодня імкнуўся штосьці натаваць. І ўжо пасьля, у чаканьні судовага працэсу, з дапамогай тых перададзеных на волю нататкаў лёгка аднавіў падзеі. Я імкнуўся напісаць практычныя парады для выпадковых у турме людзей. Кшталту таго, як трымацца са сьледчымі, канвоем, зэкамі, як наладжваць сувязь з вонкавым сьветам, здабываць агонь без запалак, якія перадачы лепш дасылаць людзям за кратамі і г. д. За гэты час некаторыя рэчы зьмяніліся, аднак многае, на жаль, застаецца актуальным.

Цалкам турэмны дзёньнік зьмешчаны ў кнізе Паўла Шарамета і Сьвятланы Калінкінай «Случайный президент». Спыняюся на запісах аднаго дня, 28 ліпеня 1997 году, калі Паўла і яго сяброў з ОРТ перавялі са Смаргонскага ізалятару Камітэту памежных войскаў у Гарадзенскі сьледчы ізалятар. Але спачатку прашу Паўла пракамэнтаваць некалькі вытрымак з архіваў міжнародных праваабарончых арганізацыяў:



***26 ліпеня 1997 г.*** *у Менску паводле афіцыйнага абвінавачаньня ў нелегальным пераходзе мяжы былі арыштаваныя тэлежурналіст ОРТ Павал Шарамет, апэратар Зьміцер Завадзкі, кіроўца Яраслаў Аўчыньнікаў...*

***22 ліпеня*** *Шарамет і яго група перадалі ў этэр рэпартаж пра недапушчальны стан аховы беларуска-літоўскай мяжы і ў якасьці пацьверджаньня самі безь перашкодаў перайшлі гэтую мяжу, ня маючы на тое адпаведных папераў. Толькі праз 4 дні яны былі затрыманыя ў Менску прадстаўнікамі беларускіх памежных войскаў на падставе парушэньня арт. 81 Крымінальнага кодэксу, які застаўся дзейнічаць у Беларусі з савецкага часу (Рэпартэры бязь межаў, цыркуляр 18/97, ліпень 1997).*

***28 ліпеня 1997 г.*** *«Міжнародная амністыя» абвясьціла групу ОРТ вязьнямі сумленьня і заклікала беларускія ўлады неадкладна вызваліць Шарамета, Завадзкага і Аўчыньнікава (Documento — Preocupaciones en Europa: Julio-Diciembre de 1997).*

— Мы сталі аднымі зь першых на постсавецкай прасторы, каму праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» надала такі статус, — гаворыць Павал Шарамет. — Гэта была першая ці адна зь першых пасьля 1991 году гучных справаў палітычнага (а ня нейкага іншага, напрыклад рэлігійнага) перасьледу. Знаходзячыся тады за кратамі Гарадзенскага сьледчага ізалятару, мы, зразумела, нічога не маглі ведаць пра гэта.

### З турэмнага дзёньніка Паўла Шарамета

**28 ліпеня 1997 г.** У тры гадзіны раніцы нас на розных машынах адвезьлі ў Горадню, ІЧУ (ізалятар часовага ўтрыманьня) Ленінскага РАЎС... Камэра ў ІЧУ

крыху большая за будку для сабакі — паўтара мэтра на два з паловай... Першыя дні пасьля арышту мінаюць менавіта ў такіх ізалятарах, і гэта самы цяжкі час... Менавіта ў першыя дні, разьлічаныя на стрэс, сьледзтва цісьне на чалавека маральна і фізычна. Менавіта ў часе ўтрыманьня ў ізалятары сьледчыя выбіваюць паказаньні і ламаюць людзей. Менавіта ў першыя дні атрымліваюць паказаньні, якія лягуць у аснову абвінавачаньня. Калі чалавеку хопіць сілаў пратрымацца 3–7–10 дзён да пераводу ў сьледчы ізалятар альбо сьледчую турму, то шанцы выйсьці зь мінімальнымі стратамі прыкметна ўзрастаюць.

Паводле запісаў журналіста, адным з самых першых і самых моцных псыхалягічных уражаньняў у турме ёсьць «позіркі зэкаў».

— Ад гэтых уважлівых позіркаў становіцца неяк не па сабе... У гэты момант рыхтуесься да горшага, бо ня ведаеш, чаго чакаць, як прымуць.

> *— Ці праўда, што ў турэмнай субкультуры існуюць пэўныя правілы, ад веданьня якіх многае залежыць? Напрыклад, калі ўваходзіш у камэру, непажадана вітаць зьняволеных словамі «Добры дзень!» і працягваць руку. Замест гэтага трэба казаць «Мір вашаму дому!».*

— Сапраўды, ёсьць пэўныя правілы, якіх трэба прытрымлівацца. Аднак да ўсяго падрыхтавацца немагчыма. Галоўнае — гэта сачыць за ўсім, што кажаш і што робіш, не гаварыць шмат і не рабіць нейкіх сумнеўных, двухсэнсоўных учынкаў. Тройчы прайшоўшы праз арышты і сьледчыя ізалятары Беларусі, я дакладна ведаю: калі ты нармальны чалавек, зэкаў баяцца ня трэба. Апасацца трэба людзей у форме, для якіх ты — злачынец. Нельга верыць сьледчым, нельга ўвогуле нікому верыць, бо кожны можа быць «падсадной качкай». Сам па сабе факт арышту ў Беларусі — ужо карт-блянш для шматлікіх злоўжываньняў. Вам не дазваляюць сустрэцца з адвакатам, роднымі, вас зьбіваюць, вам не аказваюць мэдычнай дапамогі і гэтак далей.



**З турэмнага дзёньніка П. Шарамета**

**28 ліпеня 1997 г.** Кладуся (на нары). Хвілінаў праз дзесяць пачынае нямець рука, потым — нага, потым — уся правая частка цела. Пераварочваюся на другі бок — усё паўтараецца... З «таўчка» страшэнна сьмярдзіць: невялікую трубу ад каналізацыі адмыслова вывелі наверх, і камэра цалкам запоўненая смуродам.

> *— Вы апісваеце, як зьняволеныя пачынаюць страчваць здароўе і прытомнасьць яшчэ на шляху ў турэмную камэру, у часе этапаваньня ў перапоўненых аўтазаках ці ў часе чаканьня абразьлівай працэдуры пэрсанальнага дагляду. Гэтае чаканьне адбываецца ў так званых стаканах — «каменных мяшках» памерам мэтар на мэтар. Вы таксама пішаце пра «каранціны», дзе няма ні матрацаў, ні бялізны, а замест чатырох чалавек могуць сядзець 20. Пра тое, якімі зьневажальнымі для чалавека ёсьць бытавыя турэмныя ўмовы. І пра тое, чаму лекары ня раяць галадаць у турмах. Разам з адсутнасьцю нармальнага паветра ды дэфіцытам руху голад можа прывесьці да цяжкай інтаксыкацыі арганізму. Тым ня менш зьняволеныя ідуць на гэты крок...*

— У беларускіх зьняволеных вельмі мала магчымасьцяў адстаяць свае правы. І галадоўка — адна зь нямногіх формаў пратэсту. Як я цяпер лічу, галадаць

трэба выключна тады, калі маеш нейкія канкрэтныя патрабаваньні. Напрыклад, хочаш дамагчыся дазволу на сустрэчу з адвакатам, на перадачу нейкіх дакумэнтаў, адмены нейкага рашэньня, перагляду ўмоваў утрыманьня, увагі да ўласнай крымінальнай справы. Я патрабаваў спатканьня са сваякамі, а таксама газэт і тэлевізара ў камэру. І людзі ў форме бачылі, што іхныя мэтады ўзьдзеяньня на мяне не спрацоўваюць. Таму да мяне не зьвярталіся зь нейкімі правакацыйнымі прапановамі кшталту напісаць пакаянны ліст да прэзыдэнта.

*— Як Вы лічыце, чаму да Зьмітра Завадзкага ўсё ж зьвярнуліся з такой прапановай? Дзіму зламалі?*

— Яго заблыталі. Да арышту ён быў вельмі далёкім ад розных інтрыгаў чалавекам. Дзіма быў на год маладзейшы за мяне, 28 жніўня 1997 году яму споўнілася 25 гадоў. Свой першы істотны ў жыцьці юбілей (і, як высьветлілася потым, апошні) гэты інтэлігентны юнак вымушаны быў сустракаць у кампаніі сукамэрнікаў. Насуперак абяцаньням, турэмныя ўлады не дазволілі яму спатканьня зь сям'ёй... Дзіма быў пазбаўлены інфармацыі, нейкіх кваліфікаваных парадаў. Да яго доўга не пускалі адваката. У камэры ж сядзела шмат «падсадных качак». Гэтыя людзі пастаянна блыталі яго. Потым да Дзімы накіравалі журналіста-правакатара Сяргея Зайца. Зь ім, як з добрым знаёмым, Дзіма шчыра абмяркоўваў сваю сытуацыю. Усё зразумеў ужо толькі на волі з выпуску беларускіх навінаў. Там перадалі, што Завадзкі пакаяўся перад прэзыдэнтам. На наступны дзень, у часе нашай вочнай стаўкі ў прысутнасьці адвакатаў і сьледчых, ён так і сказаў мне: «Паша, ніякіх пакаянных лістоў я не пісаў. Гэта хлусьня, гэта Заяц!». Я ведаю, што Дзіму многаму навучыў гэты выпадак. Таксама ведаю, што ніколі не дарую рэжыму таго, што яны ў далейшым зрабілі з гэтым цудоўным, інтэлігентным чалавекам.



*— У той час у гарадзенскім ізалятары знаходзіўся яшчэ адзін тэлежурналіст ОРТ, які, як вынікае зь дзёньніка, напісаў пакаянны ліст да Лукашэнкі. Як Вы ставіцеся да яго ўчынку, да людзей, якіх турмы ламаюць?*

— Я нікога не асуджаю. Я ня ведаю, што было б са мной, калі б я адсядзеў больш за тры месяцы. Я ведаю, што толькі Нэльсан Мандэла мог знаходзіцца 25 гадоў за кратамі і захаваць пры гэтым розум і палітычную волю. Ня варта чакаць ад чалавека, які трапляе ў падобныя нечалавечыя ўмовы, непахіснасьці і нейкіх рэвалюцыйных учынкаў. Калі людзі становяцца зламанымі і слабымі — а гэтага дамагаецца пэнітэнцыярная сыстэма Беларусі, — я кажу: усе ня могуць быць рэвалюцыянэрамі.

*— Як я зразумела, Вы засьцерагаеце іншых ад шляху на барыкады?...*

— Гэта ня так. Я нікому нічога не магу раіць. Акрамя таго, трэба, каб кожны ацаніў свае рэальныя сілы. Нярэдка бывае, што маладыя людзі выходзяць са сьцягамі на акцыі пратэсту, робяць пікеты, ідуць супраць АМАПу, атрымліваюць жорсткі адпор і... не вытрымліваюць, здраджваюць. Я ўпэўнены, што карысьць Бацькаўшчыне пры жаданьні можа прынесьці кожны. У тым ліку і слабы чалавек. Існуюць самыя розныя формы адлюстраваньня грамадзянскай волі. Можна, напрыклад, ладзіць нейкія гуманітарныя праекты ці вучыць дзяцей беларускай мове і гісторыі. Гэта таксама рухае Беларусь у бок цывілізаванага існаваньня.

*— Ва ўмовах цяперашняй надзвычайнай палітызацыі грамадзтва як, на Вашу думку, варта*

*пісаць пра палітвязьняў, апазыцыйных дзеячоў? Пытаюся таму, што недзяржаўныя журналісты нярэдка гераізуюць гэтых людзей... Потым высьвятляецца, што яны зусім не героі. І тады дзяржаўная прапаганда, якая дэманізуе апазыцыю, выкарыстоўвае гэта ў сваіх мэтах...*

— Ёсьць два ключавыя словы, якімі павінны кіравацца журналісты: «салідарнасьць» і «спачуваньне». Гэта тое, што ўсіх нас можа абараніць і выратаваць. Першае, ад чаго залежыць выратаваньне, — гэта паводзіны самога вязьня, а другое — салідарнасьць і ціск на ўлады звонку. І таму трэба, каб кожны з палітвязьняў, які знаходзіцца за кратамі, адчуваў нашую салідарнасьць і спачуваньне. Пакуль той жа Казулін быў у турме, мы павінны былі рабіць усё дзеля яго вызваленьня. Калі сытуацыя мяняецца, мы, натуральна, паводзім сябе інакш. Мы можам спрачацца з палітыкамі, апазыцыянэрамі, калі яны на волі, быць крытычнымі да іх. Такі лёс апазыцыйных палітыкаў. Ім ніколі ня можа быць лёгка.

**З турэмнага дзёньніка П. Шарамета**

***28 ліпеня 1997 г.*** *70 беларускіх журналістаў падпісалі зварот БАЖу ў абарону супрацоўнікаў ОРТ і накіравалі яго беларускім і расейскім уладам, у ААН, структуры Эўразьвязу, Міжнародны Хэльсынскі камітэт.*

***29 ліпеня 1997 г.*** *Прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын выказаў сваё абурэньне на адрас прэзыдэнта Лукашэнкі адносна арышту групы ОРТ.*

***31 ліпеня 1997 г.*** *Больш за 50 беларускіх і замежных журналістаў, акрэдытаваных у Менску, ладзілі пікеты ля беларускіх МЗС, КДБ, Адміністрацыі прэзыдэнта, патрабуючы вызваленьня сваіх калегаў.*





• У ашмянскім судзе

Павал Шарамет быў вызвалены 7 кастрычніка 1997 году праз падпіску аб нявыезьдзе. Суд над ім пачаўся 17 сьнежня 1997 году і скончыўся 28 студзеня 1998 г. Паўла Шарамета пакаралі на два гады пазбаўленьня волі ўмоўна «за наўмыснае групавое парушэньне дзяржаўнай мяжы» і «за перавышэньне журналісцкіх паўнамоцтваў, якое нанесла ўрон інтарэсам дзяржавы».

## З архіву «Свабоды»

**14 кастрычніка 2004 г. Дзень пасьля канфіскацыі**

Павал Шарамет будзе дамагацца, каб сканфіскаваныя ўладамі асобнікі кнігі «Случайный президент» былі выстаўленыя на продаж у крамах канфіскату... У Жодзіне экспрапрыявана сем дзясяткаў асобнікаў, у Барысаве за дзесяць кнігаў столькі ж сутак арышту атрымаў актывіст руху «Зубар» Аляксандар Казакоў. Самая вялікая партыя арыштаваная ў Віцебску: 9 тысяч асобнікаў так і не патрапілі да арганізацыі «Пэрспэктыва».

Адзін з аўтараў «Случайного президента» Павал Шарамет зазначае: «Гэта адна зь нямногіх кнігаў пра Лукашэнку, якая абагульняе ўвесь яго лёс, кар’еру. І апавядаецца ў ёй ня так, як гэта падае беларускае тэлебачаньне і афіцыйная прэса. Мы гэтага так не пакінем і будзем патрабаваць альбо грошы, альбо кнігу, альбо выстаўленьня яе на продаж у крамах канфіскату».

**18 кастрычніка 2004 г. Дзень у шпіталі пасьля зьбіцьця**

Павал Шарамет знаходзіцца ў 9-м клінічным шпіталі Менску з чэрапна-мазгавой траўмай. Пабоі журналісту нанесьлі двое хуліганаў, якіх затрымалі супрацоўнікі міліцыі, але прозьвішчы гэтых асобаў Паўлу Шарамету міліцыянты назваць адмовіліся. Замест таго каб распачаць крымінальную справу паводле факту зьбіцьця, міліцыянты абвінавацілі журналіста ў дробным хуліганстве.



**27 сакавіка 2006 г. Першы дзень на свабодзе**

З турмы на Акрэсьціна Павал Шарамет выйшаў на волю а 12-й гадзіне. Людзі віталі палітвязьня воплескамі.

Паўла затрымалі ў ноч з 25 на 26 сакавіка. Міліцыянты не далі сябрам і маці Паўла Людміле Станіславаўне перадаць Шарамету лекі й харчы.

Павал Шарамет: «Выпусьцілі без тлумачэньня. Адзінае, што патрабуюць, — каб я тэрмінова пакінуў Беларусь. Чарговы раз удзячны журналістам, людзям за прафэсійную й чалавечую салідарнасьць. Я абураны тым, што адбываецца ў Менску. Я схіляюся перад усімі, хто быў на Плошчы».

Паўла Шарамета трымалі ў адной камэры з былым амбасадарам Польшчы ў Беларусі Марыюшам Машкевічам і замежнымі журналістамі.

# Вадзім Лабковіч.

## Зьняволены 25 жніўня 1997 г. — выйшаў на свабоду 24 лютага 1998 г.



Вадзім Лабковіч нарадзіўся ў 1981 г. у Менску. З 1996 г. браў удзел у акцыях «Маладога фронту», пасьля пакінуў арганізацыю з прычыны рознагалосьсяў з тагачасным кіраўніцтвам. Супрацоўнічаў з прэсавай службай Партыі БНФ. Цяпер бярэ ўдзел у апазыцыйных акцыях, але выбарачна. Працуе ў фірме па вырабе мэблі, завочна вучыцца ў эканамічным унівэрсытэце. Жанаты, мае сына Ўладзіслава.

Вадзім Лабковіч быў арыштаваны ў жніўні 1997 г. за графіці палітычнага зьместу. Атрымаў прысуд — паўтара году зьняволеньня з адтэрміноўкай на два гады. Выйшаў на волю 24 лютага 1998 г.

Магчыма, у стаўпецкай турме ніколі такога не было, каб пры трывалым дэфіцыце месцаў аднаго «хулігана» зьмясьцілі ў камэру, разьлічаную на чатыры чалавекі. «Хулігана» звалі Вадзім Лабковіч, і ў жніўні 1997 г. было яму ўсяго 16 гадоў. Гледзячы на худзенькага хлопчыка з тонкімі рысамі твару, міліцыянты зьдзіўляліся: і гэта той, хто арганізаваў «начны захоп Стоўпцаў апазыцыяй»?

Праз болей чым дзесяць гадоў пасьля гэтых падзеяў адзін дзень, 9 снежня 2007 г., з былым палітвязьнем правёў Алег Грузьдзіловіч.

*— Вадзім, згадаем жнівень 1997 году. Табе ў Менск са Стоўпцаў тэлефануе знаёмая, паведамляе, што арыштаваны Аляксей Шыдлоўскі, разам зь якім вы расьпісалі апазыцыйнымі лёзунгамі мясцовы райвыканкам, просіць прыехаць. Нібыта ёй патрэбная твая парада. Ты разумееш, што рызыкуеш, і ўсё роўна едзеш у Стоўпцы, дзе ўжо на вакзале цябе, як кажуць, «бяруць пад белы ручкі». Гэта разьлік, каб не патрапіць у «амэрыканку», ці нейкі інфантылізм?*

— Ні тое, ні другое. Тады я ня вельмі разьбіраўся ў «амэрыканках» ці Валадарках. Зразумела, былі падазрэньні, але я ўсьведамляў, што калі на мяне «палююць», то возьмуць і дома ў Менску. Паехаў. Нават было цікава, нэрвы закранала — прыехаць зноў у Стоўпцы. Вось ты кажаш — «расьпісалі райвыканкам лёзунгамі». Ды ня толькі райвыканкам, увесь горад расьпісалі! Тры групы паўночы хадзілі па ўсім горадзе і на шмат якіх будынках пакінулі па сабе памяць. І не адзін бел-чырвона-белы сьцяг усталявалі, як на райвыканкаме, а зь дзясятак сьцягоў залуналі над Стоўпцамі. Як мяркуеш, такую акцыю трэба было арганізаваць, ці ня так? Вось я меў да гэтага наўпроставае дачыненьне і, натуральна, ганарыўся.

*— Суду потым ты чакаў болей за паўгоду. Якія ўспаміны пра турэмныя ўнівэрсытэты?*

— Было па-рознаму. Дарэчы, калі параўнаць з тым, як даводзілася людзям сядзець у апошнія гады, то мне пашанцавала. Тады не было гэтак жорстка. Плюс улічы, што я быў непаўнагадовы і сядзеў у спэцыяльных камэрах, дзе ўсё ж лягчэй. Тым больш ахоўнікі разумелі, што я не хуліган, які камусьці праламаў галаву ў вулічнай бойцы. За графіці нас арыштавалі першымі.

*— Суд, аднак, прызнаў цябе менавіта хуліганам. Ці адбіваецца гэта на цяперашнім жыцьці?*

— Так, суд палічыў мяне і Аляксея Шыдлоўскага хуліганамі, прычым было сказана, што мы дзейнічалі з асаблівым цынізмам. З гэтымі пазыцыямі я нязгодны, хаця ад сваіх дзеяньняў не адмаўляюся. У пэўным памеры мы закон парушылі, але гэта была менавіта палітычная акцыя, а не хуліганства. І ў чым судзьдзі ўбачылі цынізм? Ня ведаю. Што мы замянілі сьцягі альбо напісалі на помніку Дзяржынскаму слова «кат»? Што да сёньняшняга жыцьця, дык гэта ніяк не адбіваецца. Судзімасьць зь мяне паводле амністыі зьнятая, я працую, вучуся. Перашкодаў няма.

*— Ці ёсьць у цябе адказ на пытаньне, чаму цябе прызналі вінаватым, але не пасадзілі?*

— На момант злачынства мне не было шаснаццаці. Але маглі б загадаць судзьдзям і пасадзіць. Проста ў нашай гісторыі адлюстравалася асаблівасьць таго часу: антыканстытуцыйны пераварот 1996 году ўжо канчаткова аформіўся, улада вырашыла, што без рэпрэсіяў не абыдзецца, але яшчэ ня верыла, што пратэстаў будзе гэтак шмат. Таму яна спрабавала сьцішыць розгалас пра нашу акцыю і менавіта таму справу ня сталі раскручваць далей, не шукалі іншых «суўдзельнікаў». Інакш бы атрымалася, што ўлада пад Менскам натуральна праспала начны захоп цэлага гораду! Спыніліся на пакараньні ўсяго двух вінаватых апазыцыянэраў. Мне далі паўтара году з адтэрміноўкай і вызвалілі ў судзе.

*— Бадай што гэта быў самы шчасьлівы момант у тваёй гісторыі?*

— Яшчэ было шчасьце, калі на працэс прыйшлі мае аднаклясьнікі з настаўніцай беларускай мовы Варварай Якаўлеўнай Кароль. Вось калі я сапраўды адчуў, што значыць падтрымка і калі нічога ня страшна.

*— А што, бывала страшна?*

— Не, тут трэба іншае слова. Было адзінока ў стаўпецкім ізалятары, было складана ў жодзінскай турме сярод сапраўдных хуліганаў і крымінальнікаў, у менскім ізалятары было брудна, не хапала чыстага паветра. Але вытрываць можна. Калі не забываесься, чаго ты там апынуўся, за што змагаўся.

*— Якія ўспаміны засталіся пра сукамэрнікаў?*

— У Жодзіне ўразіла, колькі хлопцаў патрапіла за краты за драбязу. Адны ўзялі калгасны трактар, праехаліся за вёску і паставілі на месца. Нехта ўбачыў і даклаў. Усё, крадзеж трактара. Некалькі гадоў сьвеціць. На другога дзядзьку сусед напісаў, што той скраў ягоную бэнзапілу. Пілы не знайшлі, а дзядзьку ўжо арыштавалі. А яшчэ ўражаньне, як шмат людзей у калгасах нешта крадуць: нейкія прылады, садавіну, малако, мяса — што заўгодна. Раней ня думаў, што ў нас столькі людзей могуць красьці.

*— У выніку ты не расчараваўся ў людзях?*

— Не. Людзі розныя. У лютым 1998 году фактычна заставалася тры месяцы да заканчэньня школы, а ў мяне амаль тры чвэрці прапушчаныя. Ніводнай адзнакі! І настаўнікі мне дапамаглі ўсё дагнаць і нармальна скончыць 11-ю клясу. І ніхто мяне ў школе

ані словам не пакрыўдзіў, маўляў, хуліган. Наадварот, адчуваў, што яны мяне падтрымліваюць.

*— Ці магчыма за тры месяцы нагнаць гадавую праграму?*

— Я ж таксама не сядзеў склаўшы рукі. У жодзінскую турму мне перадалі падручнікі, сам займаўся, асабліва па фізыцы і матэматыцы. Потым мне сказалі, што настаўнікі прапануюць прымаць у мяне іспыты экстэрнам. Міліцыянты, на жаль, адмовіліся, але іх гэта ўразіла, дакладна ведаю.

*— Ці бываеш у школе цяпер?*

— Ужо некалькі гадоў не заходзіў. Жыву цяпер у пасёлку Бараўляны пад Менскам, у доме бацькоў жонкі. Праца, завочная вучоба, чатырохгадовы сын. Часу няма хадзіць па мясьцінах юнацтва.

*— У Беларусі пасьля суду над табой і Аляксеем Шыдлоўскім канвэер палітычна матываваных прысудаў не спыніўся, пазьней нават запрацаваў больш інтэнсіўна. Што б ты параіў людзям, якія за свае меркаваньні патрапілі ці патрапяць за краты?*

— Паколькі я быў непаўнагадовы і сядзеў за кратамі ў адмысловых умовах, то мне цяжка нешта раіць. Але ўнівэрсальная парада такая, што ні ў якім разе ня трэба шкадаваць пра тое, што ты зрабіў. Нават калі такія думкі ўзьнікаюць, ніколі і нікому гэтага ня трэба паказваць.

*— А кантакты са сьледзтвам, з адміністрацыяй турэмнай установы можна сабе дазволіць?*

— Што ты маеш на ўвазе пад кантактамі?

*— Натуральныя чалавечыя кантакты: каб крыху палепшыць свой турэмны лёс, дамагчыся перадачы, спатканьня з родным чалавекам.*

— Трэба разумець, што ані ад сьледчага, ані ад турэмнага ахоўніка ніяк не залежыць тое, колькі часу ты правядзеш за кратамі. Гэта вырашаецца ня імі. Што да паляпшэньня ўмоваў, гэта можа каштаваць сумленьня. Зразумела, ёсьць простыя рэчы. На Валадарцы ў камэру непаўналетак цыгарэты перадавалі ахоўнікі. Магчыма было дамовіцца. Але ня больш за тое. Мы самі большага не прасілі. Таму, калі ня маецца на ўвазе «закласьці» сваіх сяброў, каб самому выйсьці на волю, то нішто іншае не дапаможа. Паважай сябе, адчувай сябе чалавекам. Разумей, што калі ты нешта робіш, ты мусіш за гэта адказваць.

*— Табе было ўсяго шаснаццаць гадоў і ў цябе былі ўжо такія дарослыя думкі?*

— Я не люблю камэнтаваць сваю асобу і свае паводзіны. Ня мне сябе ацэньваць.

## З архіву «Свабоды»

**28 жніўня 2007 г. Яшчэ графіці**

Сьледчыя Баранавіцкай пракуратуры распачалі крымінальную справу за графіці палітычнага зьместу. Уначы 11 жніўня 2007 г. на будынку суду зьявіліся надпісы: «Спыніць перасьлед МФ» і «Свабоду палітвязьням». Міліцыянты затрымалі актывіста незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт» Віктара Парначова.

За палітычныя графіці раней судзілі каля дзясятка чалавек. Першымі былі Аляксей Шыдлоўскі і Вадзім Лабковіч. Але ніколі сьледзтва не ўжывала ў абвінавачаньнях артыкулу за графіці. Палітычныя графіці раней кваліфікавалі як злоснае хуліганства альбо як псаваньне маёмасьці й нанясеньне матэрыяльных стратаў. Актывіст «Маладога фронту» Артур Фінькевіч адбывае пакараньне ў Магілёўскай спэцкамэндатуры за надпісы, зробленыя падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі: «Мы хочам новага» і «Достал».

# Аляксей Шыдлоўскі.

**Зьняволены 25 жніўня 1997 г. — выйшаў на свабоду 23 лютага 1999 г.**



Аляксей Шыдлоўскі нарадзіўся 27 сьнежня 1978 г. у Стоўпцах. У 1996 г. паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, адкуль быў адлічаны ў 1997 г. Абіраўся намесьнікам старшыні «Маладога фронту», быў каардынатарам руху «Зубар». Супрацоўнічаў з газэтамі «Навіны», «Наша свабода», «Наша Ніва», іншымі выданьнямі. Жанаты.

У жніўні 1997 г. Аляксей Шыдлоўскі быў арыштаваны за палітычныя графіці: на будынку Стаўпецкага райвыканкаму актывісты напісалі «Жыве Беларусь!», «Пазьняк — наш прэзыдэнт», а таксама замянілі чырвона-зялёны сьцяг на бел-чырвона-белы. Празь сем месяцаў асуджаны да паўтара году зьняволеньня. Выйшаў на волю паводле амністыі за два дні да заканчэньня тэрміну.

За наступныя гады Аляксей Шыдлоўскі меў чатыры адміністрацыйныя арышты, агулам адсядзеў 45 дзён. У 2007 г. супраць яго была заведзеная крымінальная справа паводле абвінавачаньня ў хуліганстве ў часе бойкі ў краме. Ён не выключаў, што гэты інцыдэнт быў выкарыстаны для ягонага перасьледу з палітычных прычынаў, і эміграваў з краіны. Атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі.

Адзін дзень, 3 сьнежня 2007 г., з былым палітвязьнем Аляксеем Шыдлоўскім правёў Алег Грузьдзіловіч.

У жніўні 1997 году студэнта журфаку БДУ, «маладафронтаўца» Аляксея Шыдлоўскага арыштавалі ў бацькоўскай хаце ў Стоўпцах. «Здаў» актывіста знаёмы, які бачыў юнака з балёнчыкам фіялетавай фарбы. Тры тыдні да таго гэтай фарбай быў расьпісаны Стаўпецкі райвыканкам.

— Найбольш іх абурыла, што на помніку Фэліксу Дзяржынскаму мы напісалі: «кат», — згадвае Аляксей тыя падзеі.

*— Як ты спачатку ставіўся да арышту: як да трагедыі ці нейкай прыгоды?*

— Я ўвогуле быў перакананы, што мяне хутка адпусьцяць. Казалі, што празь месяц, два... А потым адбыўся суд, і далі мне ажно паўтара году. Тады стала не да рамантыкі. Мне ж было толькі васемнаццаць, а ў такім узросьце гэта, безумоўна, трагедыя.

*— Што цябе найбольш турбавала?*

— Што выключаць з унівэрсытэту, бо і так да мяне ўжо былі прэтэнзіі. Вельмі перажываў за бацькоў, што яны непакояцца. За малодшага брата, які

застаўся без маёй дапамогі. І, зразумела, хваляваўся, як да мяне будуць ставіцца ў калёніі, бо ў той час пра палітычных вязьняў ніхто ня ведаў.

*— Баяўся кляйма?*

— Так. Але бацькі прынесьлі на спатканьне газэты, якія напісалі пра мяне з Вадзімам Лабковічам. Газэты пачыталі вязьні, і стала нашмат лягчэй.

*— Як турма мяняе чалавека?*

— Моцнага робіць мацнейшым, а слабага гэтак перакручвае, што пасьля ламае яму ўсё жыцьцё. Шмат такіх прыкладаў назіраў. Турма не для занадта мяккіх, інтэлігентных людзей.

*— Ты выйшаў на волю восем з паловай гадоў таму. Сустракаеш былых сукамэрнікаў?*

— Спачатку бачыўся зь імі часта, цяпер застаўся адзін сябар, зь якім падтрымліваю кантакты. Да турмы ён працаваў у падатковай службе, але цяпер вярнуцца туды ня можа, працуе на будоўлі.

*— У цябе было жаданьне адпомсьціць тым, хто цябе пасадзіў у турму?*

— Так. Нават жыва ўяўляў, як зрабіў бы. Але цяпер стаўлюся больш філязофскі: трэба было праз гэта прайсьці.

*— А прысуд ты ўспрыняў як несправядлівасьць?*

— Безумоўна. Наша хуліганства тады ніяк не падпадала пад крымінальную адказнасьць. Гэта потым Кодэкс зьмянілі. У нармальнай краіне далі б адміністрацыйны штраф — і ўсё. Проста трэба было зрабіць паказальны працэс, каб іншыя ня бралі прыкладу.

*— А што, на тваю думку, найбольш цяжкае ў зьняволеньні?*

— Відаць, адарванасьць ад былога жыцьця, ад былых інтарэсаў. Гэта тым больш складана, калі ў цябе было цікавае, насычанае жыцьцё. А ў турме трэба навучыцца жыць унутры сябе, нават размаўляць больш самому з сабой.



*— Не ўяўляю — як у турме выжыць чалавеку з гонарам? Кожны ахоўнік цябе зьневажае...*

— Няпраўда, ня кожны. Былі й прыстойныя людзі, якія ведалі пра маю справу і нават у чымсьці дапамагалі.

*— Якія найгоршыя ўспаміны пра турму?*

— У жодзінскай турме, дзе я сядзеў да суду, ахоўнікі былі сапраўднымі катамі. Ну як каты? Сялянскія хлопцы, якім далі ў рукі палкі і бязьмежную ўладу над вязьнямі. Маглі вывесьці ў калідор і надаваць палкай па нырках, маглі ўзяць вядро вады і выліць на асабістыя рэчы ці заліць падлогу ў камэры, каб кубкамі вычэрпвалі ваду.

Потым мяне перавялі ў менскі ізалятар на Валадарскага, якім тады кіраваў Алег Алкаеў. Паводле маіх зьвестак, гэта ён загадаў перавесьці мяне з падвалу ў камэру на чацьвёртым паверсе, дзе было хаця б нейкае паветра. Бо ўнізе можна было натуральна згніць. Там любая рана не загойваецца, а пашыраецца. Калі б былі добрыя вітаміны, яшчэ магчыма было б ўратавацца. Але вітамінаў ніякіх не давалі, толькі бінты.

*— А добрыя ўспаміны засталіся?*

— Вось калі перавялі з ізалятару — амаль як на свабоду адпусьцілі! Па сэктары можаш хадзіць, у валейбол гуляць, газэты можаш выпісаць любыя, нават «Свабоду». Тэлевізар зьявіўся. Праўда, адзін на ўсіх, глядзелі там розную лухту, сэрыялы. Пра мянтоў зь Піцеру якраз сэрыял запусьцілі. Тады гэта толькі пачалося, а я ўяўляю, што цяпер у турмах: па ўсіх жа каналах паказваюць сэрыялы пра мянтоў і бандытаў.

*— А чаму вязьні любяць гэтыя сэрыялы?*

— Відаць, лічаць, што гэта пра іх. Хаця ў Менскай папраўчай калёніі № 1, дзе я сядзеў, асаблівых злодзеяў не было. Так, бытавыя злачынцы.

*— Якія ў цябе былі адносіны з адміністрацыяй?*

— Начальнікі спачатку актыўна спрабавалі мяне перавыхаваць, відаць, на загад КДБ, а потым адчапіліся.

*— Нейкі самы горшы дзень сваёй турэмнай эпапэі можаш вызначыць?*

— Калі мяне везьлі этапам са Стоўпцаў у Жодзіна і ў аўтазаку нас было як селядцоў у бочцы. Везьлі праз Клецк, Валожын, нейкім дзіўным шляхам, а я тады знаходзіўся на галадоўцы, схуднеў. Прывезьлі і падчас выгрузкі пачалі біць. Ня памятаю, як было, але я паваліўся, страціў прытомнасьць. Сэрца спынялася. Ачуняў у шпіталі пад кропельніцай. Паўтара месяца ляжаў.

*— А як тваё сэрца цяпер?*

— Ды ўсё нармальна.

*— Нечаканыя сустрэчы ў турме былі?*

— І не адна. Памятаю, сустрэў землякоў са Стоўпцаў: у паралельных клясах вучыліся, і тут раптам — сустрэча ў зоне. Я дык ня быў асабліва зьдзіўлены, бо хлопцы былі яшчэ тыя, але вось для іх быў вялікі шок. Ці радасьць? Казалі, ты ж у школе быў такі ціхоня, выдатнік! Што здарылася?

*— Цяжка было патлумачыць, што палітычны?*

— Хутка самі даведаліся.

*— Дарэчы, ты быў адзін зь першых палітвязьняў. А як на гэта рэагавалі сукамэрнікі?*

— Па-рознаму. Былі і тыя, хто казаў, што ты ніякі не палітычны, а звычайны зэк. Іх нават абражаў мой асаблівы статус, што да мяне інакш ставяцца ахоўнікі. Адзін казаў: «Ты што, самы разумны? Зараз дадзім у пысу». А потым ляжым, чытаем, адкрываецца «кармушка». Загад: «Шыдлоўскі, падыдзі!». Падыходжу. Глядзіць нейкі маёр і кажа: «Дык вось ты які!» І пайшоў. У камэры, зразумела, сьмех, але і павага адчуваецца.



*— Ці ёсьць нешта станоўчае, чаму ты ў турме навучыўся?*

— Навучыўся сябе абараняць. Быў хлопчык такі... не асабліва баявы, а ў выніку зразумеў, што можна і далей змагацца.

## З архіву «Свабоды»

**26 студзеня 2008 г. Успамін пра Валадарку**

Шыдлоўскі: «На Валадарцы захаваны з савецкіх часоў інстытут “смотрящего” камэры, корпусу, СІЗА. Звычайна гэта тыя зэкі, якія жывуць “па паняцьцях” і лічаць сябе лепшымі за астатніх. Яны кіруюць у камэры ўсімі працэсамі і ўвогуле маюць уладу, большую за ўладу міліцыянтаў.

Са страшнага: тутака я ўпершыню ўбачыў працэс “апусканьня”. Адзін малады 18-гадовы хлопец у прыватнай гутарцы з “смотрящим” прызнаўся, што на свабодзе займаўся з жанчынай аральным сэксам. Яго адразу ж жорстка зьбілі і адпіхалі нагамі да прыбіральні, дзе ён сядзеў увесь час да адпраўкі на зону. У яго абавязкі ўваходзіла мыцьцё прыбіральні. Лізу (такім было новае імя хлопца) штодзённа зьбівалі да страты прытомнасьці, а калі яму прыходзіла перадача, дык палову ад яе забіралі “смотрящие”. Увогуле, сытуацыя ў камэры была невыноснай, увесь час некага зьбівалі, а “петухоў” (апушчаных) праз тыдзень стала ўжо тры. Прычым адзін зь іх штовечар пад прымусам задавальняў сэксуальныя патрэбы “братвы”».

## Вадзім Кабанчук.

**Зьняволены 12 кастрычніка 1997 г. — выйшаў на свабоду 27 сакавіка 1998 г.**



Вадзім Кабанчук нарадзіўся 29 лістапада 1974 г. у Бабруйску. Скончыў Політэхнічную акадэмію. У 1990-я гг. — актывіст «Маладога фронту», актыўна ўдзельнічаў у акцыях апазыцыі. Эміграваў у Бэльгію. Не жанаты.

У кастрычніку 1997 г. Вадзім быў арыштаваны за ўдзел у акцыях апазыцыі 10 сакавіка і з нагоды Дня Волі. Амаль шэсьць месяцаў правёў у сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Менску. Суд прызнаў яго вінаватым у парушэньні грамадзкага парадку і супраціўленьні міліцыянту і асудзіў да трох гадоў пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на два гады. Вызвалены ў залі суду.

Празь дзесяць гадоў пасьля зьняволеньня Вадзім Кабанчук пакінуў актыўнае грамадзкае жыцьцё, адмовіўся ад кантактаў са СМІ. Адзін дзень, 22 траўня 2008 г., з маці былога палітвязьня Таісіяй Кабанчук правёў Севярын Квяткоўскі.



Таісія Кабанчук цяпер рэдка бачыць сына, часьцей камунікуе праз тэлефон. Вадзім не афішуе месца свайго знаходжаньня.

— Хоча пачаць новае жыцьцё па-за палітыкай, — тлумачыць спадарыня Таісія.

Пра падзеі 1997 году маці былога палітвязьня згадвае спакойна, хоць часам зьбіваецца на сьлёзы — калі прыгадвае першыя дні арышту Вадзіма, першыя наведваньні сына ў вязьніцы:

— Гэта была вясна 1997 году. Вадзіму было 23 гады. У нас у сям'і з палітычных матываў рознагалосьсяў не было. Тады я не займалася актыўнай грамадзкай дзейнасьцю. Мы прыслухоўваліся да падзеяў... Тут у Бабруйску на пачатку 1990-х гадоў таксама былі нейкія мітынгі... У Менск на розныя мерапрыемствы я амаль ня езьдзіла, а ў Бабруйску прысутнічала абавязкова. Я ж працавала ў бібліятэцы, уся інфармацыя ў мяне была. А ў 1997 годзе мы з сынам былі ўжо сьвядомымі беларусамі.

Пасьля дэманстрацыі, за ўдзел у якой судзілі Вадзіма, пачаўся міліцэйскі хапун, але хлопец здолеў уцячы. Праўда, выскокваючы зь міліцэйскіх «абдымкаў», ён вывіхнуў руку (толькі праз паўгоду выздаравеў).

— Я ніколі ня думала, што Вадзім калі-небудзь апынецца за кратамі, — прыгадвае Таісія Кабанчук.

Пасля заканчэньня акадэміі Вадзім пачаў уладкоўвацца на працу ў Менску. Праз паўгоду пасьля дэманстрацыі ані Вадзім, ані ягоная маці нават ня ўзгадвалі пра яе: мінуў час, адбылося шмат новых падзеяў. Вадзім імкнуўся быць на кожным мітынгу, які ладзіўся ў Менску. Пасьля акцыі пад назвай «Марш пустых рондляў» яго затрымалі.

— Я тады працавала ў аўтатранспартным каледжы, — успамінае спадарыня Таісія. — Прыходзіць

мая калега выкладчыца, якая заўсёды слухае Радыё Свабода, і кажа, што пачула інфармацыю пра затрыманьне Вадзіма. Я адразу ж паехала ў Менск, пайшла да сьледчых. А мне гавораць: «Вы ведаеце, што Ваш сын разьбіў галаву міліцыянту? Шугаў у яго каменьнем»...

Для маці палітвязьня пачаліся хаджэньні па рознага кшталту юрыдычных установах. Адвакатка казала, што гісторыя пра разьбітую галаву міліцыянта — хлусьня, ёсьць толькі здымак, дзе Вадзім замахнуўся кулаком над каскай міліцыянта. Калі скончыўся тэрмін папярэдняга зьняволеньня, у справе ўзьнік яшчэ адзін эпізод — нібыта Вадзім штурхаў нагамі ў сьпіну міліцыянта з камэрай. Тэрмін зьняволеньня падоўжылі. Спадарыня Таісія шукала паручыцеляў, каб Вадзіма выпусьцілі з-за кратаў да суду. Але бяз выніку. За шэсьць месяцаў маці і сыну дазволілі толькі адну сустрэчу. Інфармацыя пра Вадзіма за кратамі паступала раз на месяц, калі да хлопца зь візытам наведвалася адвакатка. Нават дыплём аб заканчэньні ВНУ атрымала за сына Таісія Кабанчук:

— Для мяне самы першы стрэс быў, калі я дазналася, што ён сядзіць. Вадзім па жыцьці такі станоўчы, як мог трапіць за краты?! Можа, пасадзяць на 10 гадоў... А яшчэ ў нас было меркаваньне, што калі за міліцыянтаў садзяць, дык яны б'юць такіх зьняволеных па нырках, а ў яго яны і так хворыя (*плача*)... На сельскагаспадарчых работах застудзіўся, ляжаў некалькі разоў у шпіталі. Думала, заб'юць сына... Мяне вельмі падтрымалі ягоныя сябры: і маладыя, і сталыя.

З найбольшай ахвотай Таісія Кабанчук згадвае першыя дні вызваленьня сына з-пад варты. Зь вялікім гонарам узгадвае яна, што на прэсавай канфэрэнцыі ў сядзібе БНФ прысутнічаў сам Васіль Быкаў:



— Мы сядзелі побач, і для мяне гэта незабыўная сустрэча.

Рашэньне эміграваць зьявілася, калі прыйшла навіна: пракурор незадаволены рашэньнем суду і падаў апэляцыю з патрабаваньнем асудзіць Вадзіма да трох гадоў узмоцненага рэжыму. Судзьдзі пакінулі рашэньне ў сіле — тры гады з адтэрміноўкай на два.

— Мы не былі ўпэўненыя, што цягам двух гадоў улада не паспрабуе зноў кінуць Вадзіма за краты, — тлумачыць Таісія Кабанчук, — таму выправілі Вадзіма на Захад.

Доўгі час Вадзім браў актыўны ўдзел у жыцьці беларускай дыяспары ў Бэльгіі, аднак апошнім часам пакінуў актыўнае грамадзкае жыцьцё.

## З архіву «Свабоды»

**26 сакавіка 1998 г. Дзень суду**

Судзьдзя Анатоль Сыско, які ўзначальвае калегію Менскага гарадзкога суду, зачытаў папярэднія абвінавачаньні Вадзіму Кабанчуку. Сьледзтва сьцьвярджае, што Кабанчук — злосны хуліган і неаднаразовы ўдзельнік несанкцыянаваных шэсьцяў. Падчас аднаго зь іх 10 сакавіка 1997 г. Кабанчук нібыта стукнуў у сьпіну капітана міліцыі Сяргея Калакольчыкава. Суд заслухаў паказаньні Сяргея Калакольчыкава, які ўжо амаль 10 гадоў здымае на відэакамэру ўсе акцыі БНФ. Гэта яму, як ён прызнаўся, вельмі надакучыла, асабліва стаміўся ён працаваць на мітынгах у 1997 г., тым больш што дэманстранты пачалі рэагаваць на ягоную працу. Даўшы паказаньні, Калакольчыкаў сказаў, што заўтра ад'яжджае ў адпачынак на радзіму ў Валгаград, і таму просіць больш не выклікаць яго ў суд.

# Васіль Лявонаў.

**Зьняволены 11 лістапада 1997 г. — выйшаў на свабоду 5 кастрычніка 2000 г.**



Васіль Лявонаў нарадзіўся 16 красавіка 1938 г. у вёсцы Дубянец Касьцюковіцкага раёну Магілёўскай вобласьці. Скончыў Беларускі інстытут мэханізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, потым — Менскую вышэйшую партыйную школу. Працаваў цесьляром, шахцёрам, інжынэрам-мэханікам, старшынём саўгасу. Ад 1972 г. на савецкай і партыйнай працы. У 1984–1989 гг. — старшыня мандатнай камісіі, дэпутат Вярхоўнага Савету СССР. Пасьля забароны КПСС быў накіраваны гандлёвым прадстаўніком Беларусі ў Нямеччыну (1991–1994 ). Ад 1994 па 1997 г. займаў пасаду міністра сельскай гаспадаркі Беларусі. Дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня. Цяпер жыве ў Маскве, займаецца сельскагаспадарчым бізнэсам. Жанаты, мае трох дачок і пяць унукаў.

11 лістапада 1997 г. Васіль Лявонаў быў арыштаваны ў сваім рабочым кабінэце. Падазраваўся ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акту супраць старшыні Магілёўскага камітэту дзяржкантролю Яўгена Мікалуцкага. 14 студзеня 2000 г. рашэньнем Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусі прызнаны вінаватым у раскраданьні дзяржаўнай маёмасьці ў буйных памерах і атрыманьні хабару ў суме, эквівалентнай $115. Асуджаны да чатырох гадоў пазбаўленьня волі. Праз дзевяць месяцаў пасьля суду, 5 кастрычніка 2000 г., вызвалены паводле амністыі.

Адзін дзень, 24 кастрычніка 2007 г., з былым палітвязьнем Васілём Лявонавым правяла Алена Струвэ.

Да лістападу 1997 году кар’еру Васіля Лявонава можна параўнаць з дыяграмай вытворчасьці чыгуну ў былым Савецкім Саюзе: чым далей, тым вышэй. А пасьля лістападу — з тым, што здарылася з гэтай вытворчасьцю ў выніку развалу СССР. Сам Васіль Лявонаў такі паварот лёсу ніякім крахам ня лічыць. Праз сем гадоў пасьля зьняволеньня ён зазначае, што тры гады за кратамі дапамаглі яму адчуць сябе свабодным чалавекам.

На просьбу ўзгадаць самы вызначальны дзень у няволі Васіль Лявонаў адказвае: нейкага аднаго вырашальнага дня ані ў турме, ані на волі, ані ўвогуле ў жыцьці быць ня можа. Існуюць імгненьні, пера-

жытыя ў розныя дні. Менавіта яны ўсё вырашаюць. Гэтыя імгненьні і ўзгадвае былы міністар і палітвязень, а цяпер вольны чалавек Васіль Лявонаў. Паводле ягоных словаў, уся гісторыя пачалася за некалькі месяцаў да арышту, калі ён упершыню задумаўся пра добраахвотную адстаўку.

— Кажу абсалютна афіцыйна: да магілёўскай групоўкі я належаў умоўна, выключна з прычыны паходжаньня. Ані Лукашэнку, ані магілёўскі клан я ніколі ў барацьбе за ўладу не падтрымліваў. У часе выбараў 1994 году галасаваў за В. Кебіча. Перамогу Аляксандра Лукашэнкі прыняў, паколькі гэта быў дэмакратычны выбар народу. Сваёй пазыцыі ніколі ні ад каго не хаваў. Нават калі стаў міністрам, ня ўдзельнічаў ані ў якіх гульнях Лукашэнкі. Ганаруся тым, што сам сябе не запэцкаў...

У год свайго арышту я стаў актыўна думаць пра тое, як сысьці з пасады. Я разумеў, што беларускі народ будзе доўга падтрымліваць прэзыдэнта, паколькі яму, народу, бачна далёка ня ўсё. У мяне ж было шмат нерэалізаваных рынкавых ідэяў, якія я прывёз зь Нямеччыны. Ажыцьцявіць іх у Беларусі я ня бачыў магчымасьцяў.

У сакавіку 1997 году атрымаў першую цікавую прапанову на працу ў Расеі і вырашыў падаць у адстаўку. Аднак мне паведамілі пра сэлектарную нараду, на якой трэба было абавязкова быць. У выніку тая праца ў Расеі сарвалася. Потым была новая прапанова.

Я нават жонку на новае месца звазіў. Пазьней высьветлілася, што ўвесь гэты час мяне «пасьвілі» людзі Лукашэнкі, нават у Сочы за мной езьдзілі, дзе адпачываў... Калі вярнуўся, вырашыў пакласьці заяву на стол. Аднак мяне арыштавалі літаральна на наступны дзень у маім кабінэце.



*— Ваш арышт 11 лістапада 1997 году паказалі на ўсю краіну...*

— Я бачыў гэты рэпартаж, калі сядзеў у «амэрыканцы» — ізалятары КДБ. Дарэчы, у чаканьні прысуду я сядзеў у трох сьледчых ізалятарах: у КДБ, у Жодзіне і на Валадарцы. А пакараньне адбываў у Воршы. Праз пару дзён пасьля таго першага сюжэту ўбачыў і другі, калі Лукашэнка публічна абвінаваціў мяне ў забойстве Яўгена Мікалуцкага...

Я добра памятаю літаральна кожную дэталь таго дня, 11 лістапада. У сюжэце па тэлебачаньні паказалі дзьве карцінкі, першая — у маім кабінэце, калі бачна, што я ў роспачы. У гэтыя хвіліны мне паведамілі, што дома ўжо быўператрус. Там узламалі сэйф. Нічога, зразумела, не знайшлі. А я ўявіў сабе, як гэтая каманда бандытаў ходзіць па маёй хаце, хаміць маёй жонцы, як ёй цяжка, а яна адна ў загарадным доме.

Другая карцінка — калі мяне вялі па калідоры. Я ўсьміхаюся, бо бачыў ва ўсім гэтым нейкую параною. Яшчэ напярэдадні я атрымаў інфармацыю пра магчымы арышт, аднак вырашыў усё высьветліць. Што я такога антыдзяржаўнага мог зрабіць? У мяне добрая партыйна-савецкая кар’ера, я пасьпяхова працаваў за мяжой. Спачатку падумалася, што гэта вар’яцкія гульні Шэймана. У яго былі свае рахункі да мяне. Я быў перакананы, што справа лопне як мыльны пухір. Па сутнасьці, так і адбылося на працэсе. Выставіць мне штосьці ў якасьці віны суд так і ня змог.

*— У шэрагу Вашых інтэрвію Вы кажаце, што ў турме многія людзі ламаюцца. Вы можаце ўзгадаць такі дзень, калі спрабавалі зламаць Вас? Як Вам удалося выстаяць?*

— Маё перакананьне — тры з чатырох вязьняў у беларускіх турмах сядзяць дарэмна. Іхныя прысуды

сьмеху вартыя. І толькі адзін з чатырох — сапраўдны злачынца, бандыт ці забойца. Турма не ламае чалавека ў адзін дзень, яна робіць гэта мэтадычна і паступова. Дзеля таго каб чалавек прызнаўся ў тым, чаго не рабіў, ужо ня ставяць іголкі ў пазногці. Сёньня існуюць самыя розныя псыхалягічныя і псыхічныя сродкі ўзьдзеяньня.

Аднойчы на Валадарцы Алег Алкаеў пасадзіў мяне ў адну камэру з такім 45-гадовым «прыгажуном» — рэцыдывістам у наколках. І мне ён сказаў: «Я камуністаў рваць буду!». Я стаў перад ім і спакойна сказаў: «Калі ласка, пачынай, ірві». Я ведаў, што паза камэрай усё падслухоўваюць. Чакаў, што будуць рабіць ён і тыя, што на калідоры. Сусед пакрычаў, пабегаў... Аднак з таго часу мне ніхто не пагражаў.

Яшчэ мяне паілі нейкімі псыхатропнымі прэпаратамі, якія адбіваюць памяць. Гэта было вось так. Прыйшоў сьледчы, размаўляў са мной. Гаварылі, пілі ваду. У камэры заўсёды адчуваеш смагу. Я ня памятаю, як страціў прытомнасьць і што было са мной. Калі апрытомнеў, пачуў, як начальнік гучна скандаліў з тым чалавекам. Вырубілі мяне з той мэтай, каб пачаў штосьці гаварыць. Што — ня ведаю. Аднак я быў упэўнены ў сабе: нічога супраць сябе і сваіх блізкіх я сказаць ня мог. Больш такіх экспэрымэнтаў са мной не рабілі.

Самы цяжкі дзень у няволі — дзень спатканьня з жонкай. Паведамілі загадзя. Тыя дні чаканьня былі для мяне самымі жахлівымі. Некалькі начэй я ня спаў, усё думаў — лепш бы яна не прыходзіла. Я ня ведаў, як сустрэну яе ў турме. Я ня мог дараваць сабе тыя хвіліны і гадзіны, якія перажыла мая жонка ў часеператрусу. Я адчуваў і дагэтуль адчуваю сваю віну перад ёй і дзецьмі, што ўцягнуў іх у сваю сытуацыю. У мяне не было праблемаў сувязі з воляй,



пакольні турэмнае кіраўніцтва не лічыла мяне крымінальнікам. І я перадаў жонцы: не прыходзь...

Але яна прыйшла. Прычым вельмі спакойная. Потым я даведаўся, што яна таксама шмат начэй ня спала і напярэдадні, дзеля таго каб трымацца годна, выпіла шмат розных мэдыкамэнтаў. Сустрэча тая працягвалася хвілінаў 40. Мы гаварылі праз шкло. Кожны з нас імкнуўся падбадзёрыць і падтрымаць адно аднаго. Гэтае спатканьне стала для мяне вырашальным. Я зрабіў для сябе першую, вельмі важную, выснову: ніхто не прымусіць мяне адмовіцца ад маіх прынцыпаў і зрабіць нейкае глупства.

*— Вы сказалі «зрабіў першую, вельмі важную, выснову». Былі яшчэ й іншыя?*

— Былі. У жодзінскі ізалятар мяне накіраваў з «амэрыканкі» на перавыхаваньне тагачасны намесьнік міністра ўнутраных справаў спадар Лапацік. Ён вёў справы зьніклых і быў сярод тых, хто прытрымліваўся вэрсіі адносна забойства мной Мікалуцкага. У Жодзіне я адчуваў сябе маральна горш, чым ва ўсіх іншых сьледчых ізалятарах, бо мне нават не давалі чытаць. У маю камэру паклалі толькі Біблію. Чытаць яе было нейкім прымусам для мяне. Але, як кажуць, азнаёміўся. Пазьней узьнік інтарэс. Самае галоўнае, ня трэба разумець літаральна, што там напісана. Гэта прымітыўны падыход. Зусім іншае — прыйсьці да глыбіні сэнсу. Я вельмі ўдзячны таму дню, калі ў мае рукі трапіла Біблія. З таго часу я пастаянна думаю пра розьніцу паміж Богам і д’яблам. Бог дазваляе чалавеку рабіць выбар і такім чынам не пазбаўляе яго свабоды. Д’ябал жа гэтага пазбаўляе.

Пра суд магу сказаць наступнае: гэта былі нечаканыя і нават яркія ўражаньні. Прыемна ўразіла, што мяне прыйшлі падтрымаць людзі, якіх я ня надта й ведаў. Яны бывалі ў мяне на прыёме, калі я працаваў

міністрам, штосьці прасілі — і я рабіў, што было ў маіх сілах. Некалькі жанчынаў прынесьлі кветкі і сказалі: «Дзякуй!». Вельмі сьмешна было, калі агучвалі абвінавачаньне, асабліва шкада было судзьдзю.

Але адзін псыхалягічна цяжкі момант усё ж быў. Людзі глядзелі на мяне праз краты ў клетцы. Праз краты мне паказалі і ўнучку. Яна нарадзілася, калі я быў ужо ў няволі. Калі ты ў клетцы, ёсьць адчуваньне, што зь цябе робяць зьвера.

Аднак гэты дзень суду я перанёс значна лягчэй за дзень вызваленьня. Псыхалягічна дзень вызваленьня апісаць цяжка... Мяне вызвалялі ня ў складзе групы, а аднаго. Выклікалі, аддалі рэчы. Напярэдадні пазванілі зяцю, каб прыехаў і сустрэў. Як можна такога злачынцу, як я, пускаць аднаго па горадзе Воршы? Выпускалі мяне з такімі словамі: «Ты ж глядзі, не займайся палітыкай, бо зноў трапіш да нас».

Калі выйшаў на волю і ўбачыў зяця, то каторы ўжо раз мяне апанавала пачуцьцё віны перад блізкімі. Яны па-ранейшаму застаюцца закладнікамі маёй сытуацыі. Мая дачка, якая жыве ў Магілёве, ня можа знайсьці сабе працу. Другая дачка, якая абараняла мяне ў судзе, змагла ўладкавацца толькі ў Маскве.

Увогуле чалавек выходзіць на волю іншым, адрозным ад таго, якім ён трапіў за краты. Калі цябе не чакаюць на волі, то лепш на яе і не вяртацца. Патрабуецца шмат часу, сілаў, любові блізкіх для гэтак званай адаптацыі. Мне спатрэбіліся месяцы. Аж пакуль я ня зьехаў зь Беларусі. Ужо потым я змог вяртацца сюды больш-менш нармальным чалавекам.

Спадзяюся, што настане дзень, калі змагу зьвесьці рахункі з тымі, хто пазбавіў мяне волі. Я не кажу пра помсту. Гэтага пачуцьця ў мяне няма. Я чакаю сатысфакцыі, фактычнага прызнаньня маёй невінаватасьці. Мой абвінаваўчы пратакол сфабрыкаваны з грубымі парушэньнямі працэдуры, на аснове паказаньняў тых, хто на судзе ня быў. Як толькі рэжым рухне, Вярхоўны суд мусіць адмяніць прысуд. Гэта і будзе маім зьвядзеньнем рахункаў.



## З архіву «Свабоды»

**7 кастрычніка 2000 г. Другі дзень на свабодзе**

У Васіля Лявонава памёр брат, і па выхадзе з турмы былы вязень паехаў не дадому, а на пахаваньне.

Сьвятлана Ўласава, дачка Васіля Лявонава: «Мы яго пахавалі ў чацьвер. Гэта было на радзіме майго бацькі ў вёсцы Дубянец Клімавіцкага раёну». Васіль Лявонаў у сваіх заявах на датэрміновае вызваленьне неаднойчы згадваў сьмяротную хваробу брата. Ён прасіў вызваліць яго, пакуль брат жывы. Але ўлады абышліся з экс-міністрам жорстка. Вызваленьне было атрыманае разам са зьвесткамі пра пахаваньне.

**7 кастрычніка 2000 г. Першае інтэрвію на свабодзе**

«Перш за ўсё я мяркую трохі падлячыцца. Трэба заняцца сваім здароўем. Маю намер сам вывучыць абстаноўку ў Беларусі й па-за межамі, і толькі потым прымаць нейкае рашэньне. Адно толькі магу сказаць цьвёрда: я зь дзяцінства ўмеў гадаваць сады і буду гэтым займацца. Але, вядома, гэта ня будзе маёй асноўнай працаю. Да мяне прыходзілі прапановы на працу нават і ў турму, але пакуль ні на што не пагаджаўся. Ехаць адсюль нейкім злодзеем, які скраў памідоры й каўбасу, я не зьбіраюся. Я на гэтай зямлі нарадзіўся, тут пахаваныя мае сваякі, маці, браты. Бацька загінуў на фронце, ён пахаваны пад Калінінам у Расеі. А тое, што тут вакол мяне было... Я ўпэўнены — скончыцца гэты рэжым, скончыцца й перасьлед. Для мяне гэтае пытаньне прынцыповае».

# Васіль Старавойтаў.

## Зьняволены 11 лістапада 1997 г. — выйшаў на свабоду 11 лістапада 1999 г.



Васіль Старавойтаў нарадзіўся ў вёсцы Барок Бялыніцкага раёну 13 чэрвеня 1924 г. Да Другой усясьветнай вайны скончыў Магілёўскую фэльдшарска-акушэрскую школу. Але ўрачом папрацаваць не пасьпеў: пачалася вайна, пайшоў у партызаны. Пасьля вызваленьня Беларусі застаўся на Магілёўшчыне на партыйнай рабоце. Працаваў на кіраўнічых пасадах у ЛКСМБ і КПБ. Амаль 30 гадоў кіраваў калгасам «Рассвет» Кіраўскага раёну Магілёўскай вобласьці. За поспехі ў працы яшчэ ў часы СССР стаў двойчы Героем сацыялістычнай працы. З пачаткам рэформаў калгас «Рассвет» быў пераўтвораны ў акцыянэрнае таварыства. У 1994 г. Васіль Старавойтаў не падтрымаў на прэзыдэнцкіх выбарах Аляксандра Лукашэнку — на ўсю краіну ўсумніўся ў дзелавых якасьцях былога дырэктара саўгасу «Гарадзец». Жанаты, мае дзьвюх дачок, унукаў і праўнукаў.

У 1997 г. Васіль Старавойтаў быў асуджаны за крадзеж маёмасьці да двух гадоў зьняволеньня з адбываньнем пакараньня ў калёніі ўзмоцненага рэжыму.

Кастрычнік 2002 г. Мінула амаль тры гады, як двойчы Герой сацыялістычнай працы Васіль Старавойтаў выйшаў на свабоду. Адзін дзень, 19 кастрычніка 2002 г., у сям'і былога палітвязьня Васіля Старавойтава ў Мышкавічах правяла Марыя Ўсьціновіч.

Сапраўдная славутасьць Кіраўскага раёну — гэта калгас «Рассвет» імя Кірылы Арлоўскага, калісьці перадавая і ўзорная гаспадарка савецкай краіны. Падзеі, якія разгарнуліся вакол «Рассвету» пры канцы 1990-х гадоў, паўплывалі ў пэўнай ступені на палітычную геаграфію Кіраўскага раёну. На вачах тутэйшых жыхароў расьсьледавалася і разьбіралася ў раённым судзе адна з самых вялікіх і скандальных крымінальных справаў новай гісторыі Беларусі.

Да пачатку падзеяў, якія напрыканцы 1997 году выціснулі Кіраўскі раён і «Рассвет» у першыя радкі беларускіх навінаў, гэтая знакамітая гаспадарка стала аграпрамысловым аб'яднаньнем, дзе ўкаранялася новая сыстэма працы, рынкавыя адносіны.

Раптам аб'явілі аб выкрыцьці злоўжываньняў начальнікаў, у тым ліку і кіраўніка «Рассвету» — двойчы Героя сацыялістычнай працы Васіля Старавойтава.

Было арыштавана шмат людзей, у тым ліку сам Старавойтаў і, са скандальнай дэманстрацыяй на беларускім тэлебачаньні, міністар сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў. Усяго ж у межах крымінальнага расьследаваньня ў дачыненьні «Рассвету» было заведзена каля сотні розных крымінальных справаў, над якімі працавала цэлая армія сьледчых.

Кіраўскі раённы суд стаў на шмат месяцаў цэнтрам самых сэнсацыйных падзеяў у Беларусі. Там судзілі — і прызналі вінаватым — Васіля Старавойтава. Сам Васіль Канстанцінавіч лічыць, што яго непрыемнасьці пачаліся зь перадвыбарчай кампаніі Аляксандра Лукашэнкі, якому Старавойтаў сказаў, што ня будзе за яго галасаваць, бо прэзыдэнцкі цяжар яму не па сілах.

Аляксандар Лукашэнка некалькі разоў прыяжджаў у «Рассвет», і ніхто з калгасьнікаў публічна не падтрымаў свайго кіраўніка, хаця Васіль Старавойтаў настойваў і цяпер настойвае на сваёй поўнай невінаватасьці:

— Я нічога ня ўзяў у гэтых людзей — ні грама ня скраў. Што мог, тое і рабіў. Ніводны чалавек за 30 гадоў маёй працы ў турму ня сеў. Яны на ўсё гэта забыліся і пад апладысмэнты адправілі мяне ў турму. Толькі 14 чалавек прагаласавалі за мяне, адважыліся. Баяліся, усе казалі, што баяліся. Маўляў, Вас пасадзілі, і нас любога пасадзяць за краты. Усе маўчалі.

Цяпер знакамітая «рассветаўская» справа ў Кіраўскім раёне нібыта забылася. На пытаньні пра падзеі тых часоў людзі адказваюць цьмяна. Быццам тая «бойка тытанаў» да простых людзей дачыненьня ня мела. Разам з тым талент гаспадарніка Васіля Старавойтава па-ранейшаму ні ў кога сумненьняў не выклікае. Людзі ў «Рассвете» даўно не абмяркоўваюць, а ці сапраўды Васіль Старавойтаў злоўжываў альбо гэта паклёп. Яны найперш узгадваюць пра добрыя заробкі, якія былі ў калгасе ў часы яго кіраваньня:

— Пры Старавойтаву людзі жылі цудоўна, атрымлівалі добрую зарплату. Тады можна было жыць, а цяпер мы існуем. Такіх Старавойтавых, напэўна, больш ня будзе ў нас.

Калгасьнікі атрымлівалі ня толькі грошы, але ў дадатак і натуральную аплату. У розных жыцьцёвых сытуацыях «рассветаўцы» маглі разьлічваць на саступкі свайго кіраўніка ў выглядзе авансаў, пазыкаў ды матэрыяльнай дапамогі.

Характар у Васіля Старавойтава, гавораць яго былыя падначаленыя, няпросты, але ён ня быў злым кіраўніком. «Гэты чалавек заслугоўвае павагі», — так сёньня кажуць калгасьнікі пра Старавойтава. «Рассветаўскія» жанчыны шкадуюць, што Васіль Канстанцінавіч не сышоў на пэнсію раней, чым пачаліся ягоныя непрыемнасьці:

— Ён заслужыў гэтую пэнсію, двойчы Героя. Што засталося ад Арлоўскага? Толькі фэрмы. А ўсё практычна адбудаваў, добраўпарадкаваў Старавойтаў.

— Я жыву і абсалютна свабодны! — так цяпер гаворыць Васіль Старавойтаў пра сваё жыцьцё.

Пасьля турмы ён застаўся ў Мышкавічах. Ні з кім з «рассветаўцаў» ня мае актыўных зносінаў, каб не паставілі ў віну «развал гаспадаркі». Былы кіраўнік «Рассвету» існуе на палову сваёй пэнсіі (другую палову забіраюць у бюджэт). У Старавойтава больш за гектар зямлі.

Васіль Канстанцінавіч кажа, што зьехаць адсюль ня можа — тут ягоная сям’я, — ды й ня хоча:

— Ёсьць ня толькі сёньняшні дзень, але й заўтрашні. І ня трэба, каб мае ўнукі і праўнукі меркавалі, што

я апынуўся расьціснутым, разбураным і, як пячкур прымудры, пад корч залез. Не, не дачакаюцца!

Васіль Старавойтаў цяпер толькі назірае за справамі «Рассвету». У яго ёсьць свой рэцэпт аздараўленьня сельскай гаспадаркі:

— Зямлю трэба раздаць. Ужо і «Рассвет» ня выведзеш — ды і ўсе гаспадаркі Беларусі. Ніхто ня выведзе, калі будуць трымаць калгасы.

Васіль Старавойтаў фанатычна верыць, што чалавек можа жыць доўга, як мінімум да ста гадоў. Таму большасьць часу ў цяперашнім жыцьці ён прысьвячае самому сабе, каб захаваць здароўе і ясны розум:

— Вось гэта і хобі маё — трымаць сябе ў такім стане, каб не казалі людзі, што, маўляў, ідзе, валочыць кірзавыя боты, і з палкай.

Заняткі займаюць прыкладна 5 гадзінаў штодзень. Фізычныя практыкаваньні Васіль Канстанцінавіч распрацаваў сам, але ягоны комплекс заснаваны на сыстэме ёгі.

Таксама Васіль Канстанцінавіч актыўна займаецца хатняй гаспадаркай, сваёй сядзібай. Ён хоча вырасьціць на невялікім кавалку зямлі ўсё, што трэба, каб пражыць: бульбу, моркву, цыбулю — карацей, поўнасьцю ўсю гародніну ды садавіну:

— Менавіта поўнасьцю, каб я ні на капейку не набываў. Трэба меркаваць, як карміць сябе ў гэтых умовах.

На прапанову ўзгадаць нейкую байку ці цікавую гісторыю з жыцьця Васіль Канстанцінавіч расхваляваўся: не разумеюць журналісты жыцьця кіраўніка сельскай гаспадаркі савецкіх часоў.

— Самая агідная пасада — гэта старшыня калгасу, — гаворыць спадар Старавойтаў. — Ад яго патрабуюць усяго ды шмат. Толькі дай. Дай малака, мяса... Ты адзін вінаваты, што крадуць, што не хапае нечага, што нехта пабіў машыну, а нехта напіўся... І гэты жах суправаджаў усё маё жыцьцё.



Васіль Канстанцінавіч гаворыць, што ніколі не захапляўся ані рыбалкай, ані паляваньнем, бо ня меў часу туды патрапіць:

— Калі сумленна казаць, дык адзіная мэтода расслабіцца пасьля непрыемнасьцяў і скандалаў — выпіць чарку гарэлкі ды легчы адпачыць.

Калі раней праца адрывала Старавойтава ад сям'і, то цяпер з жонкай Валянцінай у іх поўнае ўзаемаразуменьне:

— Я і не чакаў, што так можа быць. Яна вельмі добры чалавек. Яна клапоціцца пра мяне, і ня проста клапоціцца, а кахае мяне.

Спадарыня Валянціна сьцьвярджае, што ў тыя цяжкія дні, калі Васіль Канстанцінавіч быў у турме, сілы яна брала менавіта ад яго, ад упэўненасьці Старавойтава, што ён правільна жыў і рабіў:

— Вось прыходжу ў турму на спатканьне «ніякая». А ў яго столькі ўпэўненасьці, столькі аптымізму, столькі энэргіі. Разумееце, я адыходзіла ад яго зусім іншай і чакала наступнага спатканьня. Чакала, што ён мне скажа: «Ня вер, усё будзе добра». Я ніколі ня бачыла ў турме свайго мужа прыгнечаным. Ён ня падаў духам, і я не зьдзіўлялася гэтаму, бо Васіль Канстанцінавіч — надзвычай разумны чалавек.

Цяпер, гаворыць Валянціна, Васіль Канстанцінавіч стаў больш ураўнаважаным, спакойным і больш моцным фізычна.

У двары Старавойтава з задавальненьнем гуляюць малыя. Гэта дзеці сына спадарыні Валянціны. Усіх разам у Старавойтавых аж дзевяць унукаў. Але Васіль Канстанцінавіч больш непакоіцца пра сваіх дачок: Натальля ў час вядомых падзеяў вымушаная была зьехаць у Маскву, а Тацяна пасьля суду над му-

жам пераражыла моцны нэрвовы зрыў. Таму, калі я запыталася ў Валянціны, чаго ёй хацелася б для сям'і, яна адказала:

— Хацелася б, каб усе ўсьміхаліся і былі задаволеныя жыцьцём. А калі аб сваім, то ў нас дома ўсё добра!

## З архіву «Свабоды»

### 13 чэрвеня 2000 г. Дзень народзінаў

Былы кіраўнік акцыянэрнага таварыства «Рассвет» Васіль Старавойтаў адзначае свой 76-ты дзень народзінаў. Сярод тых, хто павіншаваў славутага беларускага гаспадарніка, двойчы Героя сацыялістычнай працы, не аказалася аніводнага калегі па калгасным ладзе. Васіль Старавойтаў распавёў, што недахопу ў віншаваньнях не было. Тэлефанавалі з Украіны, Прыбалтыкі, Расеі. Чарговую гадавіну праігнаравалі толькі ў Беларусі; дружна прамаўчалі тыя, хто яшчэ некалькі гадоў таму называў Старавойтава сваім настаўнікам.

«Страх пануе ў Беларусі: людзі баяцца пацярпець за тое, што падтрымліваюць стасункі зь нялюбым уладамі элемэнтам... На мой погляд, рэжым Лукашэнкі ў некалькі разоў больш жорсткі й страшэнны, чым той, што быў у 1937 годзе. Трымалі ў жаху ўсю вёску, пяцьсот сьведкаў выклікалі. Ёсьць людзі, што па сорак разоў выклікаліся судом. 30 год я дурыў галаву падначаленым: "Думай найперш пра дзяржаву, потым — пра сябе". Я міжволі выкараняў дух прыватніка. І я не магу абвінавачваць сялянаў, што цяпер яны ад мяне адвярнуліся. Наш народ як гліна: ляпіць можна што заўгодна. Ён вельмі хутка прымае патрэбныя ўладзе формы».



### 11 лістапада 2004 г. Праз пяць гадоў пасьля вызваленьня

Старавойтаў пяць гадоў таму выйшаў з турмы, дзе прабыў два гады. Былы палітвязень уважліва сочыць за лёсам Міхаіла Марыніча, Юрыя Бандажэўскага, Валерыя Леванеўскага, Аляксандра Васільева і іншых палітычных вязьняў.

Спадар Старавойтаў: «Гэта ўжо робіць сыстэма, не адзін чалавек. Ёй трэба запалохаць усіх. І мяне зацiснулі таму, каб паказаць: і 74 гады яму, і зоркі, але яго — туды ж, каб усе баяліся».

Свой першы юбілей вызваленьня Васіль Канстанцінавіч адзначаць не зьбіраецца: «На будучы год будзе 10 гадоў сямейнаму жыцьцю з маёй маладой жанчынай. Мы зь ёй рыхтуемся гэта адзначыць. А турму — к чорту! Лепш я за іншае што вып'ю».

### 3 верасьня 2007 г. Мышкавічы

83-гадовы Васіль Старавойтаў — вельмі прыгожы стары. Рымскі профіль патрыцыя, горда пасаджаная галава, выразныя маршчыны, сьведчаньні глыбокага жыцьця, пранізьлівы позірк і моцны поціск сялянскай далоні. Гэта той выпадак, калі ўзрост толькі дадае прыгажосьці і велічы.

Старавойтаў: «Беларусы — вельмі баязьлівы народ. Яны яшчэ не дайшлі да таго, каб узяць граблі і вілы ды ісьці. На гэта патрэбен час... Я не злачынца, я нічога ня скраў. Я быў падабраны для таго, каб прымусіць усіх беларусаў маўчаць...»

• Амбасадараў 22 краінаў высяляюць зь іх рэзыдэнцыяў у Драздах. Заходнія краіны адклікаюць сваіх амбасадараў зь Беларусі і высылаюць з сваіх краінаў беларускіх амбасадараў
• Адбываецца 70-працэнтная дэвальвацыя беларускага рубля
• Пісьменьнік Васіль Быкаў зьяжджае зь Беларусі
• 131 беларускаму чыноўніку забараняюць уезд у Эўразьвяз і ЗША



# 1998

Зьняволеныя:
**Андрэй Клімаў** (люты)
**Уладзімер Плешчанка** (верасень)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Вадзім Лабковіч** (выйшаў на свабоду ў лютым)
**Вадзім Кабанчук** (выйшаў на свабоду ў сакавіку)
**Рыгор Кійко**
**Уладзімер Лыско**
**Уладзімер Кудзінаў**
**Васіль Лявонаў**
**Васіль Старавойтаў**
**Аляксей Шыдлоўскі**

# Андрэй Клімаў.

**Зьняволены 11 лютага 1998 г. —**
**выйшаў на свабоду 25 сакавіка 2002 г.**
**Зьняволены 22 верасьня 2005 г. —**
**выйшаў на свабоду 22 сьнежня 2006 г.**
**Зьняволены 3 красавіка 2007 г. —**
**выйшаў на свабоду 15 лютага 2008 г.**



Андрэй Клімаў нарадзіўся 17 верасьня 1965 г. у Менску. Скончыў Львоўскую пажарна-тэхнічную вучэльню. У сярэдзіне 1990-х гг. уваходзіў у пяцёрку самых вядомых беларускіх прадпрымальнікаў — ён меў ува ўласнасьці будаўнічую фірму, якая выконвала буйныя дзяржаўныя замовы, «Банк Андрея Климова», выдаваў «Газету Андрея Климова». Быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня. Увосень 1996 г. паставіў свой подпіс пад патрабаваньнем імпічмэнту Аляксандру Лукашэнку. Жанаты, мае сына і дачку.

11 лютага 1998 г. Андрэй Клімаў быў арыштаваны і абвінавачаны ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах. Асуджаны да шасьці гадоў пазбаўленьня волі. У сакавіку 2002 г. вызвалены ўмоўна-датэрмінова.

Пасьля перамогі «аранжавай» рэвалюцыі ва Ўкраіне Андрэй Клімаў абвясьціў, што беларуская рэвалюцыя адбудзецца 25 сакавіка 2005 г. Улады разагналі арганізаваную ім 25 сакавіка акцыю пратэсту на Кастрычніцкай плошчы ў Менску. 10 чэрвеня 2005 г. суд прызнаў Клімава вінаватым у арганізацыі групавых дзеяньняў, што парушаюць грамадзкі парадак, і пакараў яго абмежаваньнем волі на адзін год і шэсьць месяцаў. Вызвалены ў сьнежні 2006 г.

3 красавіка 2007 г. Андрэй Клімаў быў арыштаваны «за публічныя заклікі да зьвяржэньня канстытуцыйнага ладу» ў артыкуле ў інтэрнэце. Асуджаны да двух гадоў зьняволеньня. Адбываў пакараньне ў Мазырскай калёніі ўзмоцненага рэжыму. Вызвалены 15 лютага 2008 г. згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Андрэя Клімава вязьнем сумленьня.

27 сакавіка 2002 г., праз два дні пасьля выхаду з турмы пасьля першага тэрміну, адзін дзень з былым палітвязьнем Андрэем Клімавым і ягонай жонкай Тацянай Леановіч правяла Ганна Соўсь.

У лістападзе 1996 году, падчас разгляду пытаньня аб імпічмэнце Аляксандру Лукашэнку, дэпутат Андрэй Клімаў заявіў у Авальнай залі Вярхоўнага Савету Беларусі, што ён гатовы асабіста начапіць кайданкі на Аляксандра Лукашэнку. Цяпер, у 2002 годзе, Клімаў можа дакладна паўтарыць тыя словы. Ён добра памятае іх, але, у адрозьненьне ад 1996 году, у Андрэя зьмяніліся інтанацыі:

— Калі ў нас у дзяржаве няма годных вайскоўцаў, то я, як былы супрацоўнік пажарнай аховы, старшы лейтэнант, магу ўзяць на сябе місію арыштаваць Лукашэнку за арганізацыю дзяржаўнага перавароту, калі гэткія паўнамоцтвы мне надасьць Вярхоўны Савет.

Імпічмэнт быў правалены. Начапіць кайданкі на Лукашэнку не давялося. І той рэзкі выступ дэпутата-бізнэсоўца стаўся пачаткам палітычнага перасьледу: пільнай праверкі прадпрыемстваў Андрэя Клімава, якая цягнулася больш за год, ягонага арышту й чатырохгадовага зьняволеньня.

— Я быў самадастатковай асобай. Я меў свой бізнэс, зарабляў сабе на жыцьцё, плаціў заробкі вялікай колькасьці людзей. Я дакладна ведаў, што буду рабіць сёньня, заўтра, пасьлязаўтра. Лічу, што ўсё, што рабіў да сёньня, было правільным, і буду надалей усё рабіць правільна. Ужо гэта дадавала мне ўпэўненасьці. Але, маючы мандат дэпутата Вярхоўнага Савету, я дамагаўся ад дзяржаўнай асобы, да таго ж найвышэйшай, выкананьня законаў. Гэта было маё ўнутранае перакананьне.

У некалькіх мэтрах ад дому Андрэя Клімава на вуліцы Жукоўскага ў суседнім доме раней жыла сям'я Юрыя Захаранкі, іхныя пазавешваныя вокны добра відаць адсюль. А калі зірнуць у другі бок, то праглядаецца дарога, па якой Юры Захаранка 8 траўня 1999 году не дайшоў дадому. Дарэчы, былы міністар ставіў сваю машыну на стаянку ў пажарнай частцы, дзе больш за дзесяць гадоў таму працаваў начальнікам каравулу Андрэй Клімаў. Да гэткага перапляценьня лёсаў і месцаў можна дадаць яшчэ адну дэталь. З гэтага ж месца 11 лютага 1998 году распачаліся турэмныя ўнівэрсытэты Андрэя Клімава.



Ягоная жонка Тацяна Леановіч добра памятае той дзень:

— Выйшлі з пад'езду, зайшлі за рог дому, а там нас чакала машына, цывільныя «жыгулі». Адтуль выскачылі чатыры чалавекі, схапілі нас пад рукі й запіхнулі ў машыну. Адвезьлі нас да ўчастку, мяне пакінулі ў калідоры хадзіць туды-сюды, а Андрэй гэтым часам зьнік за дзьвярыма.

Тацяна ўбачыла мужа толькі празь некалькі месяцаў у сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага.

Андрэй Клімаў будаваў дамы для людзей: элітныя, прыгожыя, зусім не падобныя да таго шараговага панэльнага дому, дзе ён жыве цяпер. Сярод ягоных аб'ектаў — каля трыццаці катэджаў вакол Менску, якія праектавалі найлепшыя беларускія архітэктары, гарадок на замову фірмы «Пушэ», будынак для прадстаўніцтва «Кока-Колы» ў Калядзічах. Дарэчы, увесь прыбытак ад гэтага аб'екту пайшоў на будаўніцтва вядомага дому на вуліцы Лодачнай.

Спадарыня Тацяна працягвае:

— У яго было чуцьцё — самыя вялікія прыбыткі даюць апэрацыі зь нерухомасьцю й будаўніцтва. Ён гэта зразумеў інстынктыўна і пачаў укладаць усе сродкі ў будаўнічую тэхніку і кадры. Андрэй ня сквапны, ён даваў людзям магчымасьць зарабіць.

Калі прадпрымальніка арыштавалі, сярод недабудаваных аб'ектаў ягонай фірмы быў жылы дом насупраць «Паркінгу», што побач з Камароўскім

рынкам. Доўгі час ніхто не хацеў брацца за працяг будаўніцтва, але калі нарэшце ўзяліся, сярод будаўнікоў засталіся муляры, якія працавалі на Андрэя Клімава. І вось якім чынам яны выказалі сваю ўдзячнасьць і павагу да былога гаспадара — выклалі камянямі на доме зьнізу ўверх вялікімі літарамі імя «Андрэй». Цяпер гэтага надпісу не відаць...

Людзі, якія добра ведаюць Андрэя Клімава, кажуць, што ён невыпадкова абраў у юнацтве прафэсію пажарнага — ужо тады ён прагнуў экстрыму. Хаця былі й іншыя прычыны, каб паступаць у пажарную вучэльню: гэткім чынам у той час можна было засьцерагчыся ад службы ў Аўганістане.

Клімаў вылучаўся, хацеў быць ва ўсім першым: меў тагачасную ленінскую стыпэндыю, быў камсоргам вучэльні. Потым была праца пажарным інспэктарам, работа ў Міністэрстве ўнутраных справаў у аддзеле прапаганды. І нарэшце — лета 1991 году, калі 26-гадовы Андрэй вырашыў заснаваць сваю фірму.

Тацяна Леановіч распавядае:

— Я была сьведкай ягонага радыкальнага рашэньня ў жыцьці — звольніцца зь міністэрства, дзе людзі нядрэнна сябе адчувалі, і пайсьці ў прадпрымальнікі... 26 лістапада ён зарэгістраваў прадпрыемства, ды з такой назвай, аналягаў якой не было, — «Малое прадпрыемства Андрэя Клімава». Я думала, што будзе нейкі «Арыён» ці «Арыядна», і вельмі зьдзівілася. Яшчэ раз упэўнілася, які ён незвычайны. Нейкая генная цяга да дынастыяў прамыслоўцаў, купцоў і туга па продках. Потым ужо Андрэй распавёў, што ягоныя продкі — буйныя ўкраінскія капіталісты і гарадзкая радзільня ў Сумах — гэта іхны былы маёнтак.

Тацяна і Андрэй пазнаёміліся на тэнісным корце. Да гэтага ў кожнага зь іх было сваё жыцьцё.



У Андрэя — сын, у Тацяны — дачка. Потым было каханьне. І нараджэньне 27 лістапада 1994 году дачкі Алены.

Андрэй Клімаў не хавае эмоцыяў, калі гаворыць пра свой ранейшы бізнэс:

— Самае галоўнае, што я меў, — гэта ўласнае прадпрыемства. Нічым у жыцьці я так не ганарыўся, ніколі не атрымліваў такой асалоды, як ад уласнай справы. Вось гэта было для мяне самым важкім.

Анатоль Лябедзька, калега Андрэя па Аб'яднанай грамадзянскай партыі, мяркуе, што Клімаў ад нараджэньня больш схільны да грамадзка-палітычнай дзейнасьці, чым да чаго іншага: «Ён азартны чалавек, і калі гуляе, то робіць вялікія стаўкі. Андрэй разумее, што выйграць можна толькі тады, калі нечым рызыкуеш і нечым ахвяруеш. Мы ня раз гулялі ў футбол, і мне падабаецца ягоны стыль — ён заўсёды гуляе на перамогу».

У часе росквіту свайго бізнэсу Андрэй Клімаў адпавядаў вобразу «новага беларуса». Мог раптам паехаць у Маскву, толькі каб патанчыць на дыскатэцы «Мяцеліца», набываў вопратку ў дарагіх бутыках, меў пяцісоты «мэрсэдэс» і джып, хадзіў у найлепшыя рэстарацыі. Але гэта ўсё ў мінулым.

Андрэй узгадвае эвалюцыю сваіх пачуцьцяў за кратамі:

— Спачатку — страх, зямля зьнікае з-пад ног, ты не разумееш, што адбываецца, ты забываеш, хто ты. Ты думаеш, што пражыў жыцьцё дарма й няма ніякай пэрспэктывы. Ты проста павінен ацаніць сытуацыю такім чынам, каб адшукаць сваё месца ў новай сыстэме каардынатаў. Зразумець ня толькі розумам, але й фізычна адчуць, што ты нечага ўжо ня толькі ня можаш, а й не павінен жадаць. Але ты па-раней-

шаму павінен нешта рабіць, і гэтае нешта я назваў бы захаваньнем інтэлекту.

І тады Андрэй Клімаў папрасіў, каб яму перадалі шахматы:

— Я абклаўся шахматнымі падручнікамі, перагуляў з усімі сукамэрнікамі, гуляў сам з сабой. Я стаў вырашаць самыя невырашальныя задачы: спрабаваў чытаць Галсўорсі «Сагу пра Фарсайтаў» у арыгінале, заняўся вышэйшай матэматыкай. Галоўнае, каб галава была забітая. Вось гэта й дапамагло.

*— А якая была Вашая апошняя прачытаная кніга ў турме?*

— Шахматныя партыі матчу-рэваншу на першынство сьвету Каспарава й Карпава.

Ішэмічная хвароба сэрца й дыябэт — гэта толькі фізычныя наступствы чатырохгадовага зьняволеньня. Цукровы дыябэт стаўся наступствам жорсткага зьбіцьця, калі спадар Клімаў знаходзіўся на Валадарцы.

*— Што яшчэ забрала ў Вас турма і што дала Вам?*

— Яна забрала чатыры гады ў маёй сям'і, у тых людзей, якім я быў патрэбны. Але, падсумоўваючы гэтыя чатыры гады, я магу з упэўненасьцю сказаць, што турма зрабіла зь мяне тое, да чаго я імкнуўся даўно. Турма пазбавіла мяне напускной важнасьці. Я зразумеў, што чалавек ёсьць такім, якім ён ёсьць. Акрамя гэтага, я цяпер дакладна ўяўляю, што Лукашэнка й існы рэжым вельмі моцныя. Моцныя бязьмерна. Але я выдатна ведаю іх слабіні. З-за кратаў, з зоны яны добра відаць.

Неаднойчы ў сьценах Менскай папраўчай калёніі № 1 гучала «Завіруха» ў выкананьні Аляксандра Ціхановіча і Ядзьвігі Паплаўскай. Андрэй Клімаў кажа,






• На акцыі з нагоды Дня Волі. 25 сакавіка 2005 г.

што за гады зьняволеньня не згубіў амаль ніводнага сябра. Аляксандар Ціхановіч і Ядзьвіга Паплаўская з гэтых шэрагаў. Артысты, ляяльныя да цяперашніх уладаў, не пабаяліся наведаць у калёніі апазыцыйнага палітыка. Аляксандар Ціхановіч кажа: «Мы зь ім сябры. А сяброўства — гэта ж ня толькі калі добра, а й калі нядобра. У жыцьці кожнага ёсьць моманты, калі трэба выбіраць. Калі цяжка было нам, тады Андрэй нам вельмі дапамагаў — і матэрыяльна, і маральна. І ня толькі нам, але й іншым маладым выканаўцам».

## З архіву «Свабоды»

**24 ліпеня 2006 г.**

40-гадовага Андрэя Клімава зь вязьніцы чакаюць жонка, дзеці й маці. Дачка Алена з трохгадовага ўзросту, а сын Стас з васьмі гадоў наведвалі яго ў турме.

Алена: «Ён мяне вельмі любіць, і я ганаруся ім. Я яму часта тэлефаную. Вельмі сумую па ім».

Стас: «Мой бацька вельмі моцны, мэтанакіраваны чалавек. Ён даб'ецца таго, чаго хоча. Ён добры й чулы, заўсёды дапаможа. Бацька для мяне аўтарытэт. Я некалькі разоў наведваў яго ў турме й на "хіміі", у Крупках і Баршчоўцы. Мой бацька сумленны чалавек, і яму там няпроста».

**22 сьнежня 2006 г. Дзень вызваленьня пасьля другога зьняволеньня**

Падняўшы келіх з шампанскім, Андрэй Клімаў прамовіў: «Свабода — гэта самае лепшае, што ёсьць у чалавека. Самае! Свабодны чалавек можа ўсё».

Тацяна кажа, што ня верыла, што мужа адпусьцяць безь перашкодаў, без усялякіх там здарэньняў, і да апошняга не спадзявалася на такі вынік справы.

Спадар Клімаў: «Я нічога не хачу рабіць, я стаміўся. Стаміўся змагацца з рэжымам, з апазыцыяй унутры апазыцыі, з паклёпнікамі й правакатарамі. У мяне ёсьць матэрыял на цэлыя тры кнігі. Магчыма, я іх аб'яднаю й напішу адну добрую».

**16 лютага 2008 г. Першы дзень на волі пасьля трэцяга зьняволеньня**

На вакзале ў Менску Андрэя Клімава сустракалі маці, жонка, актывісты апазыцыі, сябры і журналісты.



Андрэй Клімаў расказвае: «Я сядзеў, піў гарбату зь сябрамі. Мяне выклікаў начальнік атраду і загадаў хуценька сабрацца. Выходжу на кантрольна-прапускны пункт, а мне начальнік установы паведамляе, што гэта "гуманны акт прэзыдэнта — Вы вольныя. Атрымайце Вашы грошы, рэчы — і дадому". Я прысеў. А ён: "Вы што, ня верыце?" Я адказваю: "Не"».

Пра свае пляны на будучае спадар Клімаў гаворыць: «Я яшчэ не адчуваю сябе свабодным чалавекам. Першае — мне трэба адчуць сябе свабодным. Потым мне трэба па-нармальнаму абняць сваю жонку, дзяцей, пагутарыць з мамай, сустрэцца зь сябрамі, прайсьціся па родным горадзе...»

**16 чэрвеня 2008 г. Праз чатыры месяцы пасьля трэцяга зьняволеньня**

Андрэй Клімаў: «Цяпер я займаюся здароўем і даганяю страчанае ў адносінах да сваёй сям'і — дзеці ўжо вырасьлі, паводзяць сябе незалежна... Я спрабую аднавіць зь імі кантакт. Старэйшы сын у гэтым годзе ўжо заканчвае ліцэй, дачцэ ўжо амаль 14 гадоў. Перада мной як перад бацькам паўстаюць новыя задачы — вось гэтаму я імкнуся надаваць як мага больш увагі. На жаль, з гадамі энэргія крыху згасла, сілаў стала меней... Напэўна, я проста залішне рана пастарэў — а можа, гэта час турмы... Лаўлю сябе на думцы, што гадзінамі магу, як пэнсіянэр, сядзець каля вакна і проста глядзець на жыцьцё, якое праходзіць міма, моўчкі назіраць за сваімі дзецьмі... І што мне вельмі было не ўласьціва — дапамагаць жонцы па хатняй гаспадарцы... А цяпер гэта ўсё прыносіць мне асалоду».

# Уладзімер Плешчанка.

**Зьняволены 2 верасьня 1998 г. — выйшаў на свабоду 29 сакавіка 1999 г.**



Уладзімер Плешчанка нарадзіўся 26 ліпеня 1948 г. у вёсцы Вароны Віцебскага раёну. Скончыў Менскі радыётэхнічны інстытут. Працаваў інжынэрам-канструктарам на віцебскім вытворчым аб'яднаньні «Маналіт», быў вядомым на ўвесь былы Савецкі Саюз рацыяналізатарам у галіне вытворчасьці радыёпрыбораў. Кіраўніцтва «Маналіту» некалькі разоў спрабавала звольніць Уладзімера Плешчанку за апазыцыйныя погляды. Двойчы ён аднаўляўся на працы праз суд і нават спаганяў з адміністрацыі грошы за маральны ды матэрыяльны ўрон. У 1998 г., пасьля чарговага звальненьня, стаўшы афіцыйна беспрацоўным, вырашыў займацца выключна палітычнай дзейнасьцю. Узначальваў Віцебскую абласную раду Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. 20 траўня 2006 г. памёр на 58-м годзе жыцьця ад сардэчнай хваробы.

Уладзімера Плешчанку шмат разоў затрымлівала міліцыя, за ўдзел у апазыцыйных акцыях яго каралі штрафамі ды арыштамі.

З 2 верасьня 1998 г. да 26 траўня 1999 г. Уладзімер Плешчанка быў зьняволены пад сьледзтвам: яго вінавацілі ў крадзяжы бюсту Суворава. У судзе абвінавачаньне зьнялі.

Праз паўтара году пасьля сьмерці Ўладзімера Плешчанкі адзін дзень, 6 лістапада 2007 г., у сям'і палітвязьня правяла Браніслава Станкевіч.

Сям'я Ўладзімера Плешчанкі — гэта ягоная ўдава спадарыня Яўгенія й дачка Натальля. Яны жывуць у каапэратыўнай трохпакаёўцы, пабудаванай яшчэ за савецкім часам. Тады вядомы на ўвесь былы Савецкі Саюз канструктар-рацыяналізатар Уладзімер Плешчанка няблага зарабляў і меў магчымасьць і пабудаваць кватэру, і вывозіць сям'ю ў адпачынак на мора, і набыць машыну...

Усё рэзка перамянілася ў 1998 годзе. Пасьля таго як спадара Плешчанку звольнілі з працы, ён стаў адзіным у Віцебску «прафэсійным рэвалюцыянэрам». За ягоныя акцыі каля так званага Сіняга дому — дому № 28 па вуліцы Леніна, пафарбаванага зь нечае архітэктурнае фантазіі ў сіні колер, — апазыцыянэра пэрыядычна затрымлівалі, каралі арыштамі й штрафамі. Штрафаў ён не плаціў прынцыпова, кажучы,

што «ніякім чынам ня будзе падтрымліваць уладу Лукашэнкі».

Калі ў кватэры, дзе мы размаўляем са спадарыняй Яўгеніяй ды Натальляй, упершыню зьявіліся судовыя выканаўцы і прыгразілі апісаць маёмасьць за нясплачаныя штрафы, Уладзімер Плешчанка пераехаў жыць у бацькоўскую хату ў вёсцы Вароны.

— Ён мне сказаў, што так будзе спакайней, — распавядае спадарыня Яўгенія, — нібыта мы не жывем разам і маёмасьці агульнай ня маем. Трымаў у вёсцы гаспадарку, былі козы, куры, працаваў у гародзе. Гарадзкія суседзі хоць і бачылі, што ён сюды прыяжджае, але ніколі нас не выдавалі — казалі, нібыта Валодзю тут даўно ўжо не сустракалі. Судовыя выканаўцы раілі яму: «Тады разводзься з жонкай, калі ты зь ёй не жывеш!». Ён заўжды адказваў, што, маўляў, ня вашая справа.

*— А што ў вас тут можна апісаць? Адзін тэлевізар, канапа, кніжная шафа — ніякае раскошы...*

— За штрафы ў нас аднойчы ледзьве не апісалі капусту на градах — іншай лішняй маёмасьці не знайшлі! Нехта з аднавяскоўцаў сказаў, што ён гандлюе капустай на кірмашы — нажывае з гэтага вялікія грошы. А якія грошы з прыватнай гаспадаркі? Адзін толькі клопат! І вось, калі Валодзю на сем месяцаў арыштавалі, увесь гэты клопат зваліўся на мае плечы.

31 жніўня 1998 году з пастамэнту каля Віцебскага гарадзкога ваенкамату зьнік бюст Суворава. Вартаўнік патэлефанаваў у міліцыю, пачаліся пошукі, і праз дзень генэралісімуса знайшлі закінутым у суседнім двары. Тым ня менш была заведзеная крымінальная справа, а праз два дні міліцыянты Кастрычніцкага РАЎСу выйшлі на сьлед магчымага злачынцы. Ім аказаўся Ўладзімер Плешчанка.



Ён стаўся падазроным адразу па двух артыкулах: злоснае хуліганства і пашкоджаньне гістарычнага помніка. Праўда, потым высьветлілася, што гіпсавы бюст, пафарбаваны бронзавай фарбай, увогуле ня мае ніякае мастацкае каштоўнасьці.

Яўгенія распавядае:

— Дзень 2 верасьня 1998 году я не забуду ніколі! Гэта мой дзень народзінаў. Мы дамовіліся, што адсьвяткуем у Варонах, што я прыеду зранку і мы сходзім па грыбы. Прыяжджаю, а ў хаце — нікога. Ну, думаю, пэўна, па сваіх апазыцыйных справах «паляцеў» у Віцебск, на мяне забыўся. Пакрыўдзілася, чакаю, каб усё выказаць. А Валодзі няма ўвесь дзень, і ўвечары няма. Тэлефаную ў горад Наташы, пытаюся: «Ці быў бацька?». Яна кажа: «Не, не было». І ноччу не прыйшоў, не патэлефанаваў. А зранку тэлефануе ягоны сябар Барыс Хамайда: «Жэня, я табе зараз прынясу нешта». І прынёс газэту «Свабода», там ужо напісана, што Валодзя арыштаваны за крадзеж бюсту Суворава.

*— А чаму менавіта Плешчанка стаў галоўным падазроным?*

— Дык бацька заўсёды казаў, што Сувораў — расейскі кат,— адказвае Натальля. — Захавалася заява да пракурора, якую ён напісаў у ізалятары: «Нагадаю, што ў 1794 годзе пад кіраўніцтвам Суворава было задушана ў крыві паўстаньне беларускага народу супраць расейскай акупацыі, і гэтая асоба ня можа ўшаноўвацца беларускай грамадзкасьцю. Тым больш што бюст Суворава ўсталяваны каля ваенкамату, адкуль беларускія юнакі адпраўляюцца ў войска бараніць незалежнасьць сваёй краіны, Беларусі».

*— Сьледзтва працягвалася сем месяцаў. Вам не казалі, чаму ўвесь гэты час бацьку трымалі ў ізалятары?*

— Нам патлумачылі: каб не замінаў сьледзтву. А тое сьледзтва ці задумалася: як мог чалавек з хворым сэрцам, пасьля інфаркту ў 1992 годзе, цягаць на сабе бюст вагой 350 кг? Хаця што ім да таго? У ізалятары ў бацькі здарыўся цяжкі сардэчны прыступ, дык яго нават пасьля гэтага не адпусьцілі дахаты! Мы пра ўсё даведаліся толькі потым, бо перапіска была забароненая і сустрэцца не дазвалялі.

— Каб цяпер перажыць тыя сем месяцаў, дык, пэўна, і не перажыла б! — дадае спадарыня Яўгенія. — Мала таго што за яго ўвесь час хвалявалася, дык яшчэ гаспадарка ў вёсцы. І праца ў горадзе, у аптэцы. Як адпрацую там, хутчэй на аўтобус — ды ў Вароны, даіць пяцёра коз, карміць курэй, а яшчэ — гарод, трэба бульбу капаць, буракі... Увечары проста падала з ног. А ўраньні — на аўтобус подбегам ды зноў на працу. Наташа дапамагала, а я думала: толькі б яе з працы ня выгналі, яна ж настаўніца, і толькі ўладкавалася пасьля інстытуту.

*— Ці дапамагалі Вам чымсьці сябры, аднапартыйцы?*

— Дапамагалі, — кажа спадарыня Яўгенія. — Юрась Карпаў, Барыс Хамайда. Грошай прыносілі нават. А Барыс аднойчы сказаў: «Жэня, гэта табе помнік трэба паставіць замест таго Суворава!». Дарэчы, Барыс таксама быў пакараны за Валодзю. Калі Валодзя адсядзеў ужо амаль 5 месяцаў, у студзені 1999 году Барыс выйшаў на пікет, каб вызвалілі Валодзю. І сам атрымаў 15 сутак арышту.

16 сакавіка 1999 году прайшло першае паседжаньне суду над старшынём Віцебскай рады БНФ Ула-





• Той самы бюст Суворава з адбітым носам на паўразваленым пастамэнце сярод будаўнічага друзу

дзімерам Плешчанкам. Ён распавёў, што насамрэч у ноч на 31 жніўня быў недалёка ад гарваенкамату, але Суворава не чапаў — толькі распаўсюджваў улёткі.

Судовы працэс доўжыўся да 29 сакавіка, бо судзьдзя Аляксандар Абашын запатрабаваў вывучэньня рэчавых доказаў. У якасьці аднаго зь іх выступаў гумовы бот, сканфіскаваны з хаты ў Варонах. Калі ягоны сьлед параўналі з адбіткам, пакінутым на зямлі меркаваным злачынцам, то ўбачылі розьніцу ў 5 сантымэтраў. Такім чынам галоўны аргумэнт сьледзтва быў абвергнуты.

— Калі я на судзе ўбачыла бацьку, — кажа Натальля, — то не пазнала яго. Зусім! Ён усё прасіў, каб перадавалі ў турму перш за ўсё сала й часнык. І мы перадавалі, каб пратрымаўся там, каб здароўе захаваў. А як яго прывезьлі — такі пастарэлы й зьнясілены, што проста жах! І яго вызвалілі з-пад варты проста ў залі суду, прызналі невінаватым. Толькі потым ён распавёў, у якіх умовах яго трымалі: у камэры спалі па чарзе, бо на двух–трох зьняволеных было адно спальнае месца.

*— Як ён адыходзіў пасьля зьняволеньня? Што распавядаў, што згадваў са свайго турэмнага жыцьця?*

— Ён распавядаў увогуле мала. Але сам трохі пазьмяніўся: стаў больш разважным. Менавіта разважным, а не спалоханым! Стаў больш уважліва ставіцца да людзей. Раней ён проста казаў, што большасьць беларусаў не разумеюць нацыянальнай ідэі. А потым — усё часьцей імкнуўся камусьці нешта патлумачыць, давесьці.

Седзячы за кратамі, Уладзімер Плешчанка найбольш кантактаваў з маладым вязьнем Ігарам Мацьвеевым. Таго падазравалі ў забойстве, якога ён не ўчыняў. Плешчанка падказваў хлопцу, як пісаць скаргі, звароты да пракурора, і ўрэшце падазрэньні ў цяжкім злачынстве ўдалося адвесьці. З тае пары Ігар Мацьвееў лічыць Уладзімера Плешчанку амаль што родным чалавекам:

— Калі яго прывялі ў камэру, адразу разьнеслася чутка: «Гэта бэнээфавец!». Але камэра — гэта нашае жыцьцё ў мініятуры: былі ў нас і прыхільнікі Лукашэнкі, і тыя, хто мог бы лічыцца апазыцыянэрам. Нехта, здаралася, як закрычыць: «Фашысты вы недабітыя!». А ён пачынае расказваць пра партыю, пра нашу гісторыю: пра бітву пад Воршай, пра Сапегу, пра Каліноўскага, пра Хамайду. І яго многія зь цікаўнасьцю слухалі. Мне заўжды здавалася, што самым пакутлівым у зьняволеньні для яго было вымушанае бязьдзеяньне.



*— У турме Плешчанка размаўляў па-беларуску?*

— Заўжды зносіўся па-беларуску, — гаворыць Ігар Мацьвееў. — Нават ахоўнікам казаў: «Я вас не разумею», асабліва калі тыя «гнулі» матам! Пакуль я не сустрэў у турме спадара Плешчанку, я ня ведаў беларускай мовы і ўвогуле марыў пра адраджэньне СССР. Але спадар Плешчанка зацікавіў мяне нашай гісторыяй, праз два гады я ўжо вольна размаўляў па-беларуску, а на сьцяне ў мяне вісеў бел-чырвона-белы сьцяг.

Сем месяцаў у віцебскім СІЗА № 2 былі самым доўгім, але далёка не адзіным тэрмінам зьняволеньня ў жыцьці Ўладзімера Плешчанкі. Яго каралі арыштамі за пікеты, за бел-чырвона-белыя сьцягі і проста за тое, што ён амаль штодня выходзіў да Сіняга дому, каб размаўляць зь мінакамі пра палітыку. Побач зь ім заўжды быў блізкі сябар Барыс Хамайда.

— Плешчанку не зламалі тыя сем месяцаў турмы, адно што падарвалі здароўе, — гаворыць спадар Хамайда. — Штораз падрывалі яго здароўе і кароткатэрміновыя арышты на суткі. І неаднаразова з ізалятару «хуткая дапамога» мусіла везьці яго ў шпіталь, ратаваць... Ягонае хворае сэрца білася пад бел-чырвона-белым сьцягам, яно балела за Беларусь. Апошні арышт яму прысудзілі за тое, што 25 сакавіка, у Дзень Волі, ён выйшаў да Сіняга дому з пляка-

там «Беларус, не хавайся ў бульбу! Выходзь бараніць сябе і сваіх дзяцей!».

Уладзімер Плешчанка памёр раптоўна 20 траўня 2006 году на падворку бацькоўскай хаты ў вёсцы Вароны. Труну зь ягоным целам, пакрытую бел-чырвона-белым сьцягам, несьлі вясковай вуліцай яго блізкія сябры і аднадумцы.

Потым цэлы год каля Сіняга дому Барыс Хамайда зьбіраў грошы на помнік Уладзімеру Плешчанку, якога ў Віцебску ведаў практычна кожны:

— Грошай на помнік мы сабралі, дапамог у гэтым і Сойм КХП БНФ. А ў тое, што Плешчанка памёр, ня ўсе нават паверылі адразу. Доўга яшчэ пыталіся: «А дзе гэта Плешчанка, мы ж зь ім нядаўна тут пра Пазьняка спрачаліся. Няўжо зноў пасадзілі?»

Помнік на могілках у вёсцы Друкава, дзе пахаваны Ўладзімер Плешчанка, усталявалі да ўгодкаў ягонай сьмерці.

Спадарыня Яўгенія кажа:

— Паверце, я дужа ўдзячная за гэта — за падтрымку, за тое, што пра Валодзю не забыліся. А 26 ліпеня, у Валодзеў дзень народзінаў, тэлефануе мне зранку Барыс Хамайда і кажа: «Жэня, выходзь з дому, паглядзі — вашу вуліцу перайменавалі». Я нічога не зразумела, выйшла паглядзець, а на нашым доме замест надпісу «вуліца Царашковай» новая шыльда — «вуліца імя Уладзімера Плешчанкі». І так уздоўж, на кожным будынку — «вуліца імя Уладзімера Плешчанкі», «вуліца імя Уладзімера Плешчанкі». У мяне ледзь сэрца ня выскачыла! Яно ў мяне часта баліць — з тае пары, як Валодзю забралі на сем месяцаў...



## З архіву «Свабоды»

**4 лютага 2005 г. Дзень у шпіталі**

Віцебскага апазыцыянэра Ўладзімера Плешчанку міліцыянты спрабавалі затрымаць за ягоны новы плякат пра вылучэньне Зянона Пазьняка на пасаду прэзыдэнта. Міліцыянты зьявіліся ўжо праз паўгадзіны пасьля таго, як апазыцыянэры выйшлі да так званага Сіняга дому. Пра затрыманьне Ўладзімер распавёў па тэлефоне з абласнога кардыялягічнага шпіталю: «Міліцыянты прыехалі ды пачалі крычаць. Мне дрэнна зрабілася ад іхнага крыку. Я запатрабаваў, каб выклікалі “хуткую дапамогу”. Прыехалі дактары, памералі ціск. Ціск быў завялікі, і мяне завезьлі ў кардыялёгію, там далі ўколаў».

Уладзімер Плешчанка мае групу інваліднасьці па сардэчных хваробах. Дактары, адпускаючы яго са шпіталю дахаты, сказалі, што палітыкай яму займацца супрацьпаказана, прычым асабліва шкодна агітаваць за Зянона Пазьняка...

**20 траўня 2006 г. Дзень сьмерці**

Зянон Пазьняк: «Уладзімер Плешчанка быў сапраўдным змагаром, які паказаў, як можна невялікімі сіламі зрабіць шмат. Ён даў прыклад, як абараняць гонар Беларусі, як можа адзін чалавек паставіць сябе ў барацьбе. Гэта была Асоба. Ягоны мэтад змаганьня быў найбольш блізкі да мэтаду Гандзі.

Уладзімер Плешчанка застаецца ў гісторыі беларускай барацьбы, у гісторыі беларускага сьцяга (бо ён уваходзіў у групу Мірона). Памяць пра яго для нас будзе як прыклад, прыклад вялікага беларуса, сур’ёзнага і сумленнага змагара. Прыклад таго, як можна, маючы толькі моцны дух і шчырае сэрца, дапамагчы Беларусі».

• Адбываюцца альтэрнатыўныя прэзыдэнцкія выбары з удзелам Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра
• Пры няясных абставінах памірае віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету Генадзь Карпенка
• Зьнікаюць былы міністар унутраных справаў Юры Захаранка, віцэ-сьпікер Віктар Ганчар і бізнэсовец Анатоль Красоўскі
• Эмігруе старшыня Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі
• Падпісваецца дамова аб стварэньні «саюзнай дзяржавы»
• Заканчваюцца прэзыдэнцкія паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі паводле Канстытуцыі 1994 г.
• Адбываецца 12-тысячны мітынг рабочых у Менску
• У сувязі з вайной у Югаславіі Беларусь спыняе супрацоўніцтва з НАТА



# 1999

Зьняволеныя:
**Міхаіл Чыгір** (сакавік, выйшаў на свабоду ў лістападзе)
**Юры Бандажэўскі** (ліпень)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Рыгор Кійко** (выйшаў на свабоду ў студзені)
**Аляксей Шыдлоўскі** (выйшаў на свабоду ў лютым)
**Уладзімер Лыско** (выйшаў на свабоду ў сакавіку)
**Уладзімер Плешчанка** (выйшаў на свабоду ў сакавіку)
**Васіль Старавойтаў** (выйшаў на свабоду ў лістападзе)
**Андрэй Клімаў**
**Уладзімер Кудзінаў**
**Васіль Лявонаў**

# Міхаіл Чыгір.

**Зьняволены 30 сакавіка 1999 г. — выйшаў на свабоду 30 лістапада 1999 г.**




Міхаіл Чыгір нарадзіўся 24 траўня 1948 г. у вёсцы Вусава Капыльскага раёну Менскай вобласьці. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі, пазьней — спэцфакультэт міжнародных эканамічных стасункаў пры Маскоўскім фінансавым інстытуце. Працаваў першым намесьнікам старшыні праўленьня Аграпрамбанку (1988–1991), старшынём праўленьня Белаграпрамбанку (1991–1994). Зь ліпеня 1994 па лістапад 1996 г. быў прэм'ерміністрам Беларусі. Падаў у адстаўку на знак нязгоды з правядзеньнем рэфэрэндуму, ініцыяванага Аляксандрам Лукашэнкам. У 1998–1999 гг. — кіраўнік маскоўскага прадстаўніцтва нямецкага канцэрну «GEA». Кандыдат на прэзыдэнта на прэзыдэнцкіх выбарах 1999 г., ініцыяваных Вярхоўным Саветам 13-га склікаdebut. У 2001 г. браў удзел у афіцыйнай кампаніі па выбарах прэзыдэнта, але не набраў неабходнай колькасьці галасоў для рэгістрацыі кандыдатам. Быў даверанай асобай адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў Уладзімера Ганчарыка. Цяпер Міхаіл Чыгір па-за палітыкай. Займаецца пчалярствам. Жанаты, мае двух сыноў і двух унукаў.

Падчас выбарчай кампаніі 1999 г. Міхаіл Чыгір быў арыштаваны і абвінавачаны ў тым, што на пасадзе прэм'ера ён даў адной зь фірмаў адтэрміноўку ў мытных плацяжах. Адбыў у сьледчым ізалятары 8 месяцаў. Вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе. 19 траўня 2000 г. Менскі гарадзкі суд асудзіў Міхаіла Чыгіра да трох гадоў пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на два гады.

Больш чым праз восем гадоў пасьля вызваленьня адзін дзень, 30 сьнежня 2007 г., у сям'і былога палітвязьня правёў Алесь Дашчынскі.

Цёмная вопратка, у якой Міхаіл Чыгір адбываў восем месяцаў зьняволеньня ў сьледчым ізалятары,

дагэтуль захоўваецца ў сям'і. Жонка былога палітвязьня Юлія Чыгір гаворыць:

— Кажуць, што так нельга рабіць, бо гэта не зусім добрая прыкмета. У нас адна звычка зьявілася: мы Валадарку абыходзім з усіх бакоў. Я больш не хаджу па гэтай вуліцы, бо яна мне пра многае — нават больш, чым мужу — нагадвае. Чатыры гады і месяц хадзіла туды амаль штодня, ляпала мэталёвымі дзьвярыма... Гэты час нам адведзены як нейкае выпрабаваньне, бо мы нічога не зрабілі, каб так караць нас. Наша сям'я перанесла гэтыя выпрабаваньні прыстойна.

Юлія Чыгір згадвае тыя чатыры гады: восем месяцаў — за кратамі Міхаіл Чыгір, а потым тры гады і тры месяцы — сын Аляксандар:

— Сына трымалі ў камэры закрытага тыпу. І якіх толькі хваробаў ён там не атрымаў. Ён шаснаццаць зубоў уставіў пасьля таго, як выйшаў з Валадаркі.

Гісторыя з сынам — самае балючае для былога палітвязьня Міхаіла Чыгіра:

— Тое, што адбылося са мной, ня вельмі й страшна. Ніхто там мяне не катаваў. Умовы былі больш-менш зносныя. Але самае страшнае, што адбылося з маёй сям'ёй, — гэта арышт майго малодшага сына. Яго зьвінавацілі ў крадзяжы машын. Вядома ж, таксама ніводнага слова праўды. Помсьцілі мне праз майго сына, які адбыў у ізалятары тры гады. Лічу абавязкам свайго жыцьця і буду рабіць усё магчымае, каб людзі адказалі за гэта. Дараваньня ня можа быць, яны мусяць быць пакаранымі. І найперш не па маёй справе, а па справе сына. Я займаўся палітыкай. Але ж прычым тут дзеці?!

У 1999 годзе Міхаіл Чыгір вылучыў сваю кандыдатуру на прэзыдэнцкіх выбарах, якія былі ініцыяваныя Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня, разагнаным кіраўніком Беларусі Лукашэнкам пасьля рэфэрэндуму 1996 году. Падчас гэтай палітычнай кампаніі Міхаіла Чыгіра арыштавалі: мінівэн перагарадзіў дарогу машыне, у якой палітык выехаў з офісу передвыбарчага штабу, ачэпленага спэцназаўцамі. На капоце апынуліся людзі, якія накіравалі пісталеты на спадара Чыгіра і кіроўцу.

У сьледчым камітэце Міністэрства ўнутраных справаў пасьля допыту склалі пратакол, якога Міхаіл Чыгір не падпісаў:

— Яны сказалі, што я скраў 20 мільёнаў даляраў, ёсьць непагашаныя крэдыты і гэтак далей. Гэта ўсё было сьмешна. Пра тыя даляры ніхто ня ведаў, у тым ліку і я. Скончылася тым, што пазьней справа аб крадзяжы была закрытая... Аб маім затрыманьні мяне папярэдзілі некаторыя прадстаўнікі спэцслужбаў. Яны сказалі, што такое рашэньне прынятае, і калі хочаш застацца на свабодзе, то трэба зьехаць з краіны. Я быў упэўнены ў тым, што ніякіх крымінальных злачынстваў не зрабіў, і калі праваахоўныя органы трымаюцца закону, то падставы для майго арышту няма. Таму была невялікая часьцінка спадзяваньняў, што вырашылі проста крыху папужаць. Але насамрэч было ня так.

Пэрсанал ізалятару адзначыў, што ўпершыню ад дня заснаваньня ўстановы яе парог пераступіў былы кіраўнік ураду. Як толькі Чыгіра прывялі ў камэру, прыйшла зьвестка: вязьні прасілі пацьвердзіць, ці тут знаходзіцца былы прэм'ер.

Спадар Чыгір большую частку зьняволеньня адбыў у камэры 175, паводле ягоных словаў, крыху лепшай за іншыя. Бо ў ізалятары ёсьць камэры ў падзямельлі, і там улетку такая духата, што людзі ня могуць дыхаць. Усе сьцены «плачуць», «цякуць».

Паветра не хапае. Вэнтыляцыі амаль няма. Умовы страшныя, і многія не вытрымліваюць.

*— А што было найбольш складаным у зьняволеньні?*

— Чалавек сядзіць у клетцы, мае там два квадратныя мэтры — назад-уперад. І 30 хвілінаў — прагулкай называецца, дзе неба таксама праз краты. Вядома, што гэта ўсё ўспрымаецца і пераносіцца цяжка... Калі чалавек учыніў злачынства, ён мусіць быць да гэтага гатовы. А хто нічога незаконнага не рабіў — яму незразумела, за што і чаму. І гэтыя пытаньні паўстаюць штодня. Ну, заўтра паглядзяць, разьбяруцца, ну, пасьлязаўтра... Думаеш — у некага сумленьне загаворыць, скажуць: «Выходзь...» Чалавек не разумее, чаму так: вось жалезныя дзьверы зачыняюцца — і на гэтым усё. А як робіцца?! Віну не прызнае́ш — сьледчы пайшоў. Месяц, другі — сьледчы не прыходзіць. І што чалавек павінен думаць? Нарэшце прыйшоў праз два месяцы, пытаецца: «Ты прызнае́ш?» Не прызнае́ш. І зноў пайшоў на два месяцы. Гэта ня кожны можа вытрымаць.

І тое, што мы пасьля камуністычных часоў не перагледзелі нашу судовую сыстэму, дзейнасьць праваахоўных органаў, у гэтым ёсьць у пэўнай ступені і мая віна. Бо я яе ніколі ня ведаў, не сутыкаўся і ня думаў, што так можа быць, як ёсьць на самай справе.

Міхаіл Чыгір кажа, што ўмее прызвычайвацца да любых умоваў. У зьняволеньні была магчымасьць чытаць. Чытаў усё, што трапляла пад рукі. Месяцаў праз пяць дазволілі перадаць электронны слоўнік, і вязень пачаў займацца ангельскай мовай. Гэты слоўнік спачатку даслалі на экспэртызу, бо супрацоўнікі праваахоўных органаў асьцерагаліся, што ён можа запісваць допыты ці яшчэ што.



*— Як Вы цяпер успрымаеце свой арышт?*

— Як вялікае глупства. Амаль два гады працавала сьледчая група з 24 чалавек, каб знайсьці нейкі крымінал. Патрачана амаль 50 гадоў у пераліку на чалавека-гадзіны. А колькі яшчэ было спэцыялістаў, экспэртаў. Я казаў сьледчым: што б вы ні рабілі, у маіх дзеяньнях ніколі ня знойдзеце крыміналу.

Акрамя сына, была асуджаная і жонка экс-прэм'ера — умоўна, на два гады пазбаўленьня волі. Міхаіл Чыгір згадвае:

— Падчас майго суду — гэта не ўкладваецца ў разуменьне — міліцыянты закруцілі ёй рукі, зрабілі балюча. Яна ад болю ўкусіла аднаго зь іх за вуха, і ён падаў на яе ў суд. Дзе афіцэрская годнасьць? Чаму так адбываецца? Такая краіна, што ж зробіш. Не асуджаным застаўся толькі старэйшы сын, бо ён зьехаў у Нямеччыну.

Юлія Чыгір дадае:

— Страшна ўспамінаць, што нейкі саплівы міліцыянт цягне мяне перад маімі родзічамі, ледзь ня ўверх нагамі з задранай спадніцай. Абдзірае, аблапвае ўсю. За маё процістаяньне супраць такіх дзеяньняў зь мяне робяць пасьмешышча: я там некага пакусала. Пакусала. І шкадую, што мала. Бо я кусала не наўмысна, я абаранялася.

Міхаіл Чыгір цяпер беспрацоўны — пра работу ў дзяржаўнай структуры няма й гаворкі. Пайшоў неяк у камэрцыйную, але чалавек, які запрасіў яго на працу, потым праз гэта меў праблемы.

Спадар Чыгір цяпер не займаецца палітыкай, не бярэ ўдзелу ў грамадзкім жыцьці. Менавіта таму ўлады пакінулі яго ў спакоі. Спадарыня Юлія кажа:

— Маёмасьць наша апісаная, і ягоная палова яму ўжо не належыць. Усё знаходзіцца ў падвешаным

стане. Многае вывезьлі з кватэры — усё да апошняй тумбачкі. Адзінае, што пакінулі, — ложак. Ёсьць гараж, мы б яго даўно прадалі. Ён прызнаны за мужам. Але яго і забіраць не забіраюць, і нам ён не належыць. Пэнсію не выплачваюць, выкінулі зь лечкамісіі...

Цяпер Міхаіл Чыгір шмат часу праводзіць на сваёй пасецы ў роднай вёсцы на Капыльшчыне. Мае каля 40 пчаліных сем'яў. Бортніцтва лічыць прыемнай справай і ганарыцца, што выхаваў многа пчаляроў.

За краты на Валадарку жонка часта прыносіла зьняволенаму мужу мёд. Спадар Міхаіл успамінае:

— Перадачы атрымоўваюць далёка ня ўсе. І калі што перадаецца, то дзеліцца на ўсіх. Там яшчэ ёсьць пералік, што можна перадаваць, а што нельга. Якая там страва? Бульба, адвараная з сольлю, і капуста, згатаваная ў катле безь нічога. Яшчэ добра, калі бульба пачышчаная і варыцца ў чыстай вадзе. Але што нядрэнна, і гэта заслуга Алкаева, які ўцёк у Нямеччыну, — ён значна падвысіў нормы перадачы. І за кошт гэтых перадачаў людзі маглі падтрымліваць сябе. Для мяне мёд і сала — асноўныя харчы, якія не псуюцца. Там жа сьпякота такая, што нельга вытрываць. Уявіце, калі 20 чалавек пасадзіць у невялічкі пакой, то там ацяпленьне не патрэбнае. А яшчэ сьвеціць сонца і нельга праветрыць... Калі служба працавала нармальна, то яны дазвалялі прыадчыніць «кармушку» ў дзьвярах. Тады ідзе нейкі скразьнячок. А калі кармушка зачыненая, то вэнтыляцыі няма, нават калі вакно адчыненае, невялікае і з так званымі вейкамі. Усё ж заварана, каб ты бачыў толькі неба, а ўніз на зямлю ня мог паглядзець.

Юлія Чыгір згадвае:

— Калі было вясельле сына Сашы, маладыя паехалі ў ЗАГС. Я ўзяла маленькую бутэлечку, у якую



наліла каньяк, схавала ў жаночых складачках і пабегла на спатканьне з мужам. І мы з гэтай бутэлечкі за вясельле сына выпілі. Гэтаксама святкавалі народзіны ўнука.

Міхаіл Чыгір згадвае, што нават сярод тых, хто фабрыкаваў супраць яго крымінальную справу, былі людзі, якія ў прыватных размовах прызнаваліся, што зь цягам часу мусяць быць пакаранымі за гэта:

— Адзін з чальцоў групы, якая вяла расьследаваньне, сказаў, што прыйдзе час — і ён адседзіць столькі ж, як і я, і крыўдзіцца ня будзе. Вядома, мяне гэта ўзрушыла. Як гэта — столькі ж! Ты мусіш сядзець больш, ты падпісваў дакумэнт, фальсыфікаваў справу. Столькі адседзіш, колькі патрабуе закон. Хаця б столькі, як мой сын. Такія ж падлюкі сфабрыкавалі ягоную справу. Там ёсьць людзі, якія сваю маці пасадзяць дзеля адной зорачкі на плячах. На жаль, апошнім часам у нашых праваахоўных органах такіх людзей стала вельмі многа... Гэта не павінна заставацца беспакараным. Будзем чакаць, я думаю, прыйдзе час. Я думаю, яны не пасьпеюць схавацца. Хаця многія з тых, хто браў удзел у маёй справе, пакараныя зьверху — і тут пачынаеш верыць, што Бог ёсьць.

Міхаіл Чыгір добра памятае дзень вызваленьня. Перад гэтым зь ім сустрэўся кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЭ Ганс-Георг Вік. Ён сказаў, што рашэньне прынятае і бліжэйшымі днямі Міхаіл будзе на свабодзе.

Выхад на свабоду — гэта зьяўленьне другога чалавека. Бо ў зьняволеньні — які ты там чалавек? Ты ёсьць чалавечае аблічча і больш нічога. А выхад на свабоду — пайшоў куды захацеў, займаесься чым хочаш. На сьвежым паветры. Вядома, што вызваленьне вельмі станоўча адбіваецца на чалавеку. І кожны

памятае, як гэта было, хто сустрэў першы, у колькі гадзінаў — гэтага ніхто ніколі не забывае.

Як правіла, знаходжаньне ў турме мяняе сьветапогляд, чалавек хутчэй прыстасоўваецца да нейкіх праблемаў, няўдачаў у жыцьці. Выходзіць іншы чалавек, больш спакойны.

Падчас зьняволеньня сьледчы прапаноўваў Міхаілу Чыгіру накіраваць пакаянны ліст Аляксандру Лукашэнку:

— Я адмовіўся, бо ў чым каяцца?

Тым, хто сёньня змагаецца за дэмакратыю, Міхаіл Чыгір жадае адзінства.

## З архіву «Свабоды»

**10 траўня 2000 г. Дзень суду**

Апошняе слова Міхаіла Чыгіра: «Шэсьць гадоў таму я зрабіў недаравальна памылковы крок — паверыў чалавеку, якога асабіста ня ведаў і бачыў амаль упершыню».

Спадар Чыгір сказаў, што ніколі ня быў аднадумцам Лукашэнкі, ён разумеў, што той прыйшоў да ўлады на голым папулізьме, але спадзяваўся, што гэта застанецца ў мінулым. «Я паддаўся настрою грамадзтва, якое чакала пераменаў да лепшага жыцьця», — прызнаўся былы прэм’ер.

**19 траўня 2000 г. Дзень прысуду**

Зачытваньне прысуду экс-прем’еру Міхаілу Чыгіру цягнулася крыху больш за палову гадзіны, што можна лічыць рэкордам, маючы на ўвазе 18 тамоў справы і абвінавачаньне з шасьці вялікіх эпізодаў. Суд палічыў, што перавыхаваньне былога прэм’ера



магчымае без ізаляцыі, і даў яму два гады адтэрміноўкі.

Юлія Чыгір сказала, што на суд яны ішлі без упэўненасьці ў тым, што вернуцца дадому разам. «Усё ж на волі змагацца за апраўданьне лягчэй, чым з турмы», — лічыць Юлія Чыгір.

Пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спэкхард: «Я думаю, рашэньне суду пацьвярждае тое, што мы даўно ведалі, — што гэта палітычна матываванае шоў і мэта гэтага шоў — перашкодзіць Міхаілу Чыгіру ўдзельнічаць у палітыцы, у апазыцыі да цяперашняга ўраду».

**24 траўня 2008 г. Дзень народзінаў**

Сёньня 60 гадоў Міхаілу Чыгіру. Гэта першы і адзіны прэм’ер-міністар Беларусі, які пайшоў у адстаўку на ўласнае жаданьне, на знак пратэсту супраць правядзеньня рэфэрэндуму.

Міхаіл Чыгір: «Безумоўна, жыцьцё ўдалося. Ды ўсё цікавае ў маім жыцьці было — ад першага дня да сёньняшняга. Думаю, наперадзе яшчэ шмат чаго цікавага будзе».

# Юры Бандажэўскі.

## Зьняволены 13 ліпеня 1999 г. — выйшаў на свабоду 5 жніўня 2005 г.



Юры Бандажэўскі нарадзіўся 9 студзеня 1957 г. у мястэчку Радунь Воранаўскага раёну Гарадзеншчыны. Скончыў Гарадзенскі мэдычны інстытут. Доктар мэдычных навук, прафэсар, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі мэдычных навук, ганаровы акадэмік Польскай акадэміі мэдычных навук, сябра Нью-Ёрскай акадэміі навук. Апублікаваў каля 300 навуковых працаў, аўтар 5 манаграфіяў, 2 даведнікаў, мае 7 навуковых вынаходак. Вывучае ўзьдзеяньне на арганізм чалавека малых дозаў радыяцыі. З 1990 па 1999 г. — стваральнік і першы рэктар Гомельскага мэдычнага інстытуту. У красавіку 2006 г. пакінуў Беларусь і пасяліўся ў францускім горадзе Клермон-Фэран, дзе працягвае распрацоўваць мэтодыкі мэдычнай дапамогі людзям, якія жывуць у пацярпелых ад радыяцыі раёнах і маюць розныя адхіленьні ў здароўі. Жанаты, мае дзьвюх дачок.

Юры Бандажэўскі быў арыштаваны 13 ліпеня 1999 г. паводле падазрэньня ў хабарніцтве. 27 сьнежня 1999 г. вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе ў сувязі з пагаршэньнем стану здароўя. Сьледзтва доўжылася паўтара году. 18 чэрвеня 2001 г. вайсковай калегіяй Вярхоўнага суду Беларусі асуджаны да васьмі гадоў пазбаўленьня волі за суўдзел у атрыманьні хабару ад абітурыентаў. Пакараньне адбываў у менскай турме, адкуль у канцы траўня 2004 г. быў пераведзены ў папраўчую калёнію-пасяленьне № 26, што ў Гэзгялах Дзятлаўскага раёну. Вызвалены ўмоўна-датэрмінова 5 жніўня 2005 г.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Юрыя Бандажэўскага вязьнем сумленьня. Эўразьвяз выпісаў на ягонае імя пашпарт свабоды.

Адзін дзень, 3 чэрвеня 2004 г., з палітвязьнем Юрыем Бандажэўскім правёў у Гэзгялах Валеры Каліноўскі.

Рэжым у калёніі больш вольны, чым у турме: можна выходзіць за браму, чытаць, пісаць, атрымліваць перадачы. Вязьні тут жа і працуюць, каб забясьпечыць сябе. Прадпрымальнікі разьмясьцілі ў казармах былой ракетнай часткі вытворчыя цэхі. У адным зь іх зьняволеныя вяжуць ланцугі для нейкага камэрсанта зь Ліды. А спадара Бандажэўскага ўжо залічылі ў будаўнічую брыгаду. Хоць гэта й няволя, але ўсё ж тут вальней, прызнае спадар Бандажэўскі.

Ён не адмаўляецца ад будаўнічай працы, аднак разьлічвае, што зможа выконваць іншую, навуковую:

— Самае галоўнае — верыць у сябе, верыць у той шлях, дзеля якога ты нарадзіўся. Што б ні адбылося, я ўсё роўна павінен прайсьці сваю дарогу... Я працягваю сваю працу. Толькі сьмерць мяне можа спыніць. І хай не спадзяюцца тыя людзі, хто хацеў Бандажэўскага зламаць, запалохаць. Гэта не ад мяне залежыць, мой мозг загіне тады, калі загіне цела... Навука мяне выратавала, я яшчэ раз пераканаўся, што нічога ў жыцьці не любіў так, як навуку.

Спадар Бандажэўскі рабіў у турме штодзённыя запісы, якія датычаць ягонай навукі, патафізіялёгіі, узьдзеяньня зьнешняга асяродзьдзя на арганізм. Ён абдумваў тэмы, якія яго хвалююць дзясяткі гадоў. Цяпер гэтыя запісы сабраныя ў артыкулы, будзе некалькі кніжак.

*— Ці спрабавалі турэмныя ўлады неяк перашкаджаць гэтай працы?*

— Я падазраю, што цікавіліся, але ня больш за тое. Калі б яны нават і пачыталі, то гэта такая глыбокая сур'ёзная мэдыцына, тэарэтычная паталёгія, заснаваная на вельмі складаных, выпакутаваных пастулятах. Толькі спэцыялісты маглі б зразумець і ацаніць.

Яшчэ адна турэмная праца прафэсара Бандажэўскага, прысьвечаная сыстэме выжываньня ў турме, напісаная з мэдычнага пункту гледжаньня, — гэта для сукамэрнікаў, для тых, хто і цяпер пакутуе ў такіх установах. Спадар Бандажэўскі мае і меў зь імі нармальныя стасункі, нікога не цураўся. Не крыўдуе ён і на адміністрацыю калёніяў, былой і цяперашняй.

Прафэсар Бандажэўскі ў адзін з момантаў свайго турэмнага знаходжаньня вырашыў напісаць просьбу да Аляксандра Лукашэнкі аб памілаваньні:



— Я выкарыстаў гэты выпадак для таго, каб патлумачыць прэзыдэнту ўсю сытуацыю. Мне падавалася, што ён кепска разумее тое, што адбылося са мною. Можа, я б і не рашыўся гэтага зрабіць, калі б не камітэт у маю абарону, які існуе ў Францыі, што сабраў тысячы подпісаў за маё вызваленьне. І нашыя парлямэнтары сказалі, што зварот будзе разгледжаны, калі спадар Бандажэўскі падасьць яго. Я й падаў. А фінал вядомы. Просьба прайшла ўсе стадыі і была спыненая прэзыдэнтам з адказам, што яна можа быць задаволеная, калі я прызнаю сваю віну.

Юры Бандажэўскі віны не прызнаў — і застаўся ў турме. Да нейкіх шчырых размоваў на палітычныя тэмы з прозьвішчамі ён не гатовы. Акрамя таго, спадар Бандажэўскі і раней ня быў схільны да публічнай палітычнай дзейнасьці.

*— Ці зьмяніліся за апошні час Вашыя адносіны да Лукашэнкі?*

— Я дакладна ведаю, што гэта за чалавек. Раней былі пытаньні, цяпер я ў іх разабраўся.

Інфармацыю пра сытуацыю ў краіне, пра вырашэньне чарнобыльскіх праблемаў спадар Бандажэўскі мае недастатковую. Афіцыёзу ня верыць, тры беларускія тэлеканалы глядзець ня хоча. Хаця быў пэрыяд, калі ўдавалася лепей задавальняць гэты інфармацыйны голад:

— У мяне была цудоўная магчымасьць да лета мінулага году слухаць па маленькім францускім прыймачы, які мне пераслалі, расейскія і эўрапейскія каналы. А часам я Радыё Свабода слухаў, беларускую службу.

Юры Бандажэўскі згадвае вельмі складаны пэрыяд у турме. У яго нечакана выявіўся найцяжэйшы хранічны апэндыцыт з прыкметамі пэрытаніту і гангрэны:

— Мне было сапраўды цяжка, я хадзіў, трымаючыся за сьценку, практычна «загінаўся».

У турэмным шпіталі лекары не адразу знайшлі прычыну хваробы, гной выцек у кішэчнік. Але ўрэшце абышлося, спадар Бандажэўскі вытрымаў апэрацыю і выжыў. Цяпер жа ён мае зайздроснае здароўе. Можа прадэманстраваць свае амаль «жалезныя» біцэпсы на 45 сантымэтраў.

Пра Гомельскі мэдычны інстытут, першым рэктарам якога ён быў, спадар Бандажэўскі згадвае з болем:

— Цяпер размовы пайшлі, што яго хочуць закрыць. Але ж гэта дзевяць гадоў маёй працы. Інстытут — як маё дзіця.

Пра свае былыя пасады і званьні спадар Бандажэўскі гаварыць ня хоча. Шматгадовая ізаляцыя дазваляе зрабіць пераацэнку каштоўнасьцяў, а таксама разьвівае іншыя якасьці.

Юры Бандажэўскі добра ведае пра шматлікія міжнародныя акцыі ў ягоную падтрымку. Прафэсар стала атрымліваў шматлікія лісты, паштоўкі, нават бандэрولькі з сувэнірамі, малюнкамі з усяго сьвету. За першы год ён атрымаў з розных краінаў 10 тысячаў лістоў падтрымкі: з Францыі, ЗША, Канады, Нідэрляндаў, Аўстраліі. За наступныя два гады — яшчэ 15 тысячаў лістоў і паштовак. Спадар Юры ўдакладняе:

— Жонка Галіна ўтрымлівала мой архіў, яна сабрала кіляграмаў трыста-чатырыста гэтых лістоў. Я іх паліць не дазволіў, хоць каму яны там патрэбныя? Але ж там цэлы скарб. Людзі, асабліва шмат дзяцей, дасылалі такія кранальныя лісты, малюнкі, чытаеш іх — сьлёзы цякуць. Гэта ўнікальныя рэчы. Так, клопат быў вялізны, я адчуваў яго, але некаторыя з адміністрацыі, праўда, шалелі ад гэтага, асабліва тут.



Пакуль Юры Бандажэўскі быў у турме, 15 францускіх гарадоў ушанавалі яго званьнем ганаровага грамадзяніна. Зусім нядаўна Міжземнаморскі ўнівэрсытэт у Марсэлі надаў яму статус ганаровага доктара.

*— А ці шмат пісалі Вам у турму суайчыньнікі, беларусы?*

— Не, беларус ніводзін не напісаў. Ня ведаю чаму, мабыць, я ўжо ня сын беларускага народу. Неяк забылі, як нянароднага.

Свае ацэнкі беларускай рэчаіснасьці спадар Бандажэўскі называе не скептычнымі, а рэалістычнымі:

— Гэта аб'ектыўны погляд з турмы, — кажа ён з доляй чорнага гумару. — Самы лепшы камуністычны гадавальнік — гэта Беларусь. І хай ня крыўдзяцца на мяне прадстаўнікі камуністычнага атраду, гэта іх рук справа, іхны адкрыты падман людзей — на розных этапах, — які прывёў да ўсяго гэтага. Цяпер мы маем адгалоскі таго. Яшчэ нічога не зьмянілася, яны, як і раней, дыктуюць. Дажываюць, але працягваюць.

На думку прафэсара, да чарнобыльскай праблемы і беларускае грамадзтва, і ўлада, і апазыцыйныя палітыкі сталі больш абыякавымі.

— А дарма, бо Чарнобыль — гэта назаўсёды, — лічыць ён. — Сьвет з часу адкрыцьця і стварэньня атамнай бомбы перайшоў у іншую паласу вымярэньня. На жаль, людзі ня хочуць гэтага зразумець. Людзі стварылі сваімі рукамі фактар, якому ня проста няма роўных, але які цалкам мяняе погляд на сьвет.

## З архіву «Свабоды»

**29 сьнежня 1999 г. Другі дзень пасля вызваленьня пад падпіску аб нявыезьдзе**

Увечары 27 сьнежня пад падпіску аб нявыезьдзе быў вызвалены з-пад варты былы рэктар Гомельскага мэдычнага інстытуту Юры Бандажэўскі. Прафэсар Бандажэўскі пакінуў муры сьледчага ізалятару на вуліцы Валадарскага ў Менску дзякуючы найперш магутнай хвалі пратэстаў з боку міжнароднай супольнасьці. Шэсьць месяцаў, праведзеных за кратамі, моцна сапсавалі здароўе прафэсара, і цяпер большую частку свайго часу ён праводзіць у паліклініках зь лекарамі.

**19 сакавіка 2001 г. Дзень допыту ў судзе**

«Магу сказаць адкрыта і з годнасьцю, — заявіў Юры Бандажэўскі, — што ні ў якія змовы ні з кім адносна атрыманьня хабару я не ўступаў. Мэтаю майго жыцьця было вывучэньне стану здароўя насельніцтва, што пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы. Гэтымі ідэямі я жыў сам і жыла мая сям’я».

**13 кастрычніка 2003 г. Дзень у турэмным шпіталі**

Юры Бандажэўскі перанёс цяжкую апэрацыю. Са спазьненьнем, пасьля доўгіх затрымак, яму выдалілі апэндыцыт. Жонка прафэсара Галіна Бандажэўская стала скардзіцца ў Камітэт выкананьня пакараньняў на адсутнасьць належнай мэдычнай дапамогі. Нядаўна яна даслала мужу ў турму тэлеграму з добрай навіной. У іх зьявілася ўнучка: старэйшая дачка Бандажэўскіх Вольга, дыплямаваны ўрач, нарадзіла дзяўчынку.



**6 жніўня 2005 г. Першы дзень на свабодзе**

З калёніі-пасяленьня № 26, што ў Дзятлаўскім раёне, прафэсар Бандажэўскі прывёз свае кнігі, шматлікія навуковыя запісы, а таксама францускага бультэр’ера Чапу й ката Цімафея, якія жылі зь ім цягам апошняга году. «Бязь іх ня выжыў бы, — зусім сур’ёзна гаворыць прафэсар Бандажэўскі, — яны былі для мяне моцнай псыхалягічнай падтрымкай». Чапу шчанюком летась на Дзень мэдыка падаравалі калегі з Інстытуту радыяцыйнай бясьпекі (БЕЛРАД). А чорнаму кату Цімафею ўжо сёмы год — яго кацянём купілі малодшай дачцэ Юрыя Бандажэўскага Натальлі, каб неяк суцешыць яе пасьля арышту бацькі. Тады Натальлі было 9 гадоў. Цяпер — ідзе шаснаццаты.

Спадар Бандажэўскі кажа, што турма зьмяніла яго неістотна, што навуковая праца дапамагла яму выжыць у няволі і застацца сабою.

• Зьнікае апэратар Зьміцер Завадзкі
• У выніку дэнамінацыі 1000 рублёў становяцца 1 рублём
• Адбываецца 100-тысячны агульнанацыянальны страйк прадпрымальнікаў
• У Дзень Волі затрымліваюць каля 200 чалавек, зь іх больш за 30 — журналісты
• Апазыцыя байкатуе парлямэнцкія выбары
• Паводле экспэртаў АБСЭ выбары ў Палату прадстаўнікоў не адпавядалі міжнародным стандартам




# 2000

Застаюцца ў зьняволеньні:

**Юры Бандажэўскі** (у сувязі з пагаршэньнем стану здароўя з 27 сьнежня 1999 г. знаходзіцца пад падпіскай аб нявыезьдзе на час сьледзтва)

**Васіль Лявонаў** (выйшаў на свабоду ў кастрычніку)

**Андрэй Клімаў**

**Уладзімер Кудзінаў**

• Сьледчыя Зьміцер Петрушкевіч і Алег Случак паведамляюць
пра існаваньне «эскадрону сьмерці»
• Апазыцыйная кааліцыя вылучае адзіным кандыдатам на прэзыдэнцкія выбары прафсаюзнага лідэра Ўладзімера Ганчарыка
• Паводле афіцыйных зьвестак А. Лукашэнка набірае на прэзыдэнцкіх выбарах 75 працэнтаў галасоў выбарнікаў
• ЗША і Эўразьвяз не прызнаюць вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў
• Пачынаецца акцыя пратэсту супраць будаўніцтва кальцавой дарогі праз Курапаты



# 2001

Зьняволены:
**Валеры Шчукін** (чэрвень, выйшаў на свабоду ў верасьні)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Андрэй Клімаў**
**Уладзімер Кудзінаў** (выйшаў на свабоду ў лютым)
**Юры Бандажэўскі**

## Валеры Шчукін.

**Зьняволены 12 чэрвеня 2001 г. —
выйшаў на свабоду 13 верасьня 2001 г.**



Валеры Шчукін нарадзіўся 22 сакавіка 1942 г. ува Ўладзівастоку. Скончыў школу ў Менску, адсюль і ў войска прызвалі, таму па завяршэньні службы вярнуўся ў Менск. Скончыў Ленінградзкую вышэйшую вайскова-марскую інжынэрную вучэльню. 27 гадоў адслужыў у флёце, капітан другога рангу ў адстаўцы. Дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Ад 1996 па 2003 г. жыў у Полацку, ад 2003 г. ня мае ўласнага жыльля. Быў выключаны з Партыі камуністаў беларускай. Сябра Беларускага Хэльсынскага камітэту, ганаровы сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Займаецца праваабарончай дзейнасьцю. Удавец, мае сына, дачку і сямёх унукаў.

Валеры Шчукін шмат разоў быў затрыманы міліцыяй і пакараны штрафамі і арыштамі за ўдзел у апазыцыйных акцыях.

У 2001 г. пасля спробы трапіць на прэсавую канфэрэнцыю міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава Валеры Шчукін адседзеў тры месяцы ў жодзінскай турме за непадпарадкаваньне ахоўнікам і пабітае шкло ў будынку Міністэрства ўнутраных справаў.

Адзін дзень, 23 кастрычніка 2007 г., у сям'і былога палітвязьня Валерыя Шчукіна (у кватэры ягонай дачкі ў Менску) правяла Ганна Соўсь.

Валеры Шчукін першы раз трапіў за краты пры канцы 1998 году. На турэмным рахунку капітана другога рангу ў адстаўцы і дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня — некалькі дзясяткаў адміністрацыйных арыштаў і тры крымінальныя прысуды. З усіх адседак Шчукіну найбольш востра згадваецца адзін дзень у жодзінскай турме. Дзень, калі яму гвалтам пагалілі бараду:

— Старога Хатабыча памятаеш? Дык там уся сіла старога была ў барадзе. Відаць, улады палічылі, што ў мяне таксама ўся сіла ў барадзе. І далі каманду Валадарцы — пагаліць. Валадарка адмовілася.

Пагаліць Шчукіна ўзяліся ў Жодзінскай турме.

— І вось мяне пасадзілі. З аднаго боку — мардаварот, з другога — таксама, але ўжо з тупым лязом «Ніва».

*— Вас трымалі?*

— Не. Сказалі, што, калі буду варушыцца, будуць біць дубінкамі. А паколькі дубінкамі мяне не спужаеш, то сказалі, што будуць галіць на сухую. І ў мяне адразу сьлёзы на вачах. У мяне вельмі жорсткая шчаціна. Уласна, гэта адна з прычынаў, чаму я нашу бараду — у мяне з гэтым усё жыцьцё былі праблемы. І калі я ўявіў, што яны будуць насуха мяне галіць, то сказаў гэтаму зэку: «Добра, выконвайце каманду, я на вас крыўды ня буду трымаць».

Я размаўляю з Валерыем Шчукіным і ягонай дачкой Ліліяй, седзячы за сталом маленькай шасьцімэтровай кухні старой «хрушчоўкі». Гэта кватэра дачкі. Паводле адукацыі яна інжынэр-будаўнік, аднак каля 10 гадоў працуе ў жыльлёва-камунальнай гаспадарцы. Кватэра службовая, цяпер Лілія спрабуе яе прыватызаваць.

Спадар Шчукін ад 2003 году — бомж, пасьля таго, як яго пазбавілі прапіскі ў полацкім інтэрнаце. Больш за палову начэй зь мінулых чатырох гадоў ён правёў на чыгуначным вакзале Віцебску — на знак пратэсту супраць, як ён лічыць, незаконнага высяленьня.

У красавіку 2007 году ў Шчукіна памерла жонка Любоў Адамаўна. Так яе звалі ў Беларусі, але насамрэч яе імя Лемпі.

*— Як яна ставілася да палітычнай актыўнасьці мужа?*

— Перажывала, вядома. Я лічу, што гэта адна з прычынаў, чаму яна й пайшла ў магілу. У лістападзе 2007 году ёй споўнілася б 70 гадоў. Яшчэ жыць і жыць. Інгерманляндцы — так правільна яе нацыянальнасьць называецца. Гэта абрусельыя фіны, якія жывуць у Ленінградзкай вобласьці. У іх мова крыху адрозьніваецца ад фінскай. Калі знаёміліся, я гавару: «Я — Валеры Шчукін», а яна: «Я — Лемпі Адамаўна». У мяне вочы на лоб палезьлі. Яна ж разумее, што я не «ўрубаюся». «Называй Люба», — кажа. Але я потым разабраўся. Напэўна, я быў адзіны, хто тут яе называў Лемпі.



У Валерыя Шчукіна сын, дачка і сямёра ўнукаў. Дзьве старэйшыя ўнучкі, дочкі Ліліі, цяпер вучацца ў Чэхіі. Выдатніцы, імі спадар Шчукін ганарыцца, але ў Беларусі ім чамусьці ўсё балаў не хапала для паступленьня.

Старэйшая ўнучка Жэня з 12 гадоў пачала хадзіць зь дзедам на мітынгі. Маці не дазваляла, тады Жэня нешта прыдумляла, а сама бегла да дзеда ў рэдакцыю «Народнай волі», каб адтуль — адразу на дэманстрацыю. І неаднойчы яе затрымлівалі разам зь дзедам.

Неяк справа дайшла нават да таго, што дачку спадара Шчукіна Лілію абвінавацілі ва ўхіленьні ад бацькоўскіх абавязкаў.

— А дзяўчынка вучылася на 4 і 5, — кажа спадар Шчукін. — Лілія мая абурылася і вельмі пераканаўча выступіла на судзе. Касацыйная інстанцыя потым адмяніла судовае рашэньне. Але такая прамова была, што я сам нават зьдзівіўся. З таго часу ў Ліліі рэзка зьмянілася стаўленьне да гэтай улады.

Лілія дадае:

— Я ўвогуле неблагі чалавек. Не ідэал, зразумела, але абвінаваціць мяне ў тым, што я нядобрасумленна выконваю бацькоўскія абавязкі?!! Для мяне дзеці заўсёды былі на першым месцы. Калі выбіраць паміж кар'ерай і дзецьмі, то я выбрала б дзяцей. Не на тую нарваліся. Я першая ніколі ня лезу. Але біблійнае «калі цябе ўдараць па правай шчацэ, падстаў левую» — мне не падыходзіць. Пастаяць за сябе я магу.

У Ліліі трое дзяцей: дочкі Жэня, Даша і дванаццацігадовы Мікіта.

*— Ці падтрымлівалі Вы такую палітычную актыўнасьць бацькі?*

— Я ня Паўлік Марозаў. Бацькоў і радзіму не выбіраюць. Што ёсьць, тое ёсьць.

— Я магу патлумачыць, — дадае спадар Шчукін. — Я сваім дзецям з 16 гадоў даў поўную свабоду: і фінансавую, і палітычную. Я ня ўмешваюся ў іхнае жыцьцё і, натуральна, яны ня ўмешваюцца ў маё.

У 2001 годзе Валеры Шчукін адседзеў тры месяцы арышту за непадпарадкаваньне ахоўнікам і пабітае шкло ў будынку Міністэрства ўнутраных справаў. Ён як журналіст спрабаваў трапіць на прэсавую канфэрэнцыю міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава.

— Будзем лічыць, я дамогся свайго. Больш міністар прэсавых канфэрэнцыяў не праводзіць... Прынамсі ў будынку МУС. Так, я адседзеў не дарма.

Першы раз на Валерыя Шчукіна завялі крымінальную справу ў 1999 годзе за Марш Свабоды-1. Тады яго разам зь Міколам Статкевічам трымалі ў сьледчым ізалятары на Валадарцы, але вызвалілі напярэдадні Стамбульскага саміту. Далей было пабітае шкло ў будынку МУС у 2001 годзе, і трэцяя крымінальная справа — за пісьмовую абразу гонару й годнасьці сяброў акруговай і абласной выбарчых камісіяў. Тут, праўда, справа скончылася вялікім штрафам.

— З пункту гледжаньня закону я сапраўдны крымінальнік, — кажа спадар Шчукін.

Ён сядзеў розныя тэрміны ў розных турмах: на Акрэсьціна, у Валадарцы, у жодзінскай, віцебскай, бераставіцкай турмах.





• З унукамі Жэняй і Мікітам на апазыцыйнай акцыі

*— Вы такі дасьведчаны ў турэмных справах. Напэўна, усё, што спатрэбіцца ў турме, зьбіраеце самі...*

— Вось і не, — адказвае Лілія. — Гэта ён нас перад фактам ставіць: я сеў — прынясіце. Ідзеш на суд, ведаеш, што цябе пасадзяць, дык хто табе перашкаджае ўзяць з сабой зубную шчотку? Не, яму абавязкова павінен нехта прынесьці.

— Так прыемна, што пра цябе клапоцяцца.

*— І вашы любімыя батоны носяць?*

— Не, цяпер у мяне цукар падвышаны. Толькі чорны хлеб.

Чым цяпер заняты Валеры Шчукін? Найчасьцей ён у Віцебску, ходзіць па судах, як праваабаронца да-

памагае розным людзям бараніць іх інтарэсы. Што да апазыцыйных акцыяў, то, вядома ж, ходзіць на іх, аднак ужо ня ў першых шэрагах. Пасьля Дня Волі 2005 году.

— Мне тады нейкі старлей па нагах, як футбалісты б'юць, ударыў. І я адразу ўпаў. Спрабую падняцца — і разумею, што ў мяне няма сілы ўстаць. Людзі кінуліся, расьпіхалі натоўп, выцягнулі мяне. Раней я на любой акцыі ўставаў і ішоў далей. Было, што яшчэ і ўнукаў перад сабой вёў, каб не задушылі. Цяпер я ў першай шарэнзе ўжо не магу ісьці...

## З архіву «Свабоды»

**17 студзеня 2001 г. Дзень у шпіталі**

Учора Валеры Шчукін намагаўся прайсьці ў Міністэрства ўнутраных справаў на прэсавую канфэрэнцыю Ўладзімера Навумава. Ахоўнікі яго не пусьцілі, і тады падчас бойкі зь імі былі разьбітыя шкляныя дзьверы. Валерыя Шчукіна з рэзанымі ранамі на нагах адвезьлі «хуткай дапамогай» у ваенны шпіталь.

Спадар Шчукін: «Я афіцэр запасу, і мяне прывезьлі ў ваенны шпіталь. Пакуль зашывалі рану і рабілі ўсе неабходныя працэдуры, за мной сачылі міліцыянты, якія прыехалі за “хуткай дапамогай” у шпіталь. А потым увогуле нешта дзіўнае! Каля маёй палаты паставілі двух міліцыянтаў, і яны ўвесь час хадзілі за мной, калі мне трэба было ў прыбіральню ці ў сталоўку. Калі я падышоў да тэлефона, яны схапілі слухаўку і паведамілі, што ім трэба параіцца, ці можна мне карыстацца тэлефонам. Яны мне не далі патэлефанаваць».



**12 чэрвеня 2006 г. Успамін пра ваенны шпіталь**

Валеры Шчукін: «Здаралася ўсякае, але больш за ўсё мяне ўразіў нават ня сам арышт, а тое, што мяне здалі свае ж. На адной з вулічных сутычак мне дасталася па хрыбце, і “хуткая дапамога” адвезла мяне ў ваенны шпіталь — бо я ж афіцэр. Усю ноч праляжаў пад кропельніцай, зьлёгку ачомаўся, а раніцай начальнік шпіталю і галоўны хірург — абодва палкоўнікі — на загад міліцыі трымалі мяне да таго часу, пакуль не прыехалі міліцыянты, і здалі мяне. Мяне пасадзілі. Гэта было гадоў 5 таму, але такая здрада не забываецца, яна вельмі мяне ўразіла».

**13 жніўня 2007 г. Дзень «жабраваньня»**

Сёньня ў Віцебску 65-гадовы праваабаронца Валеры Шчукін зноў зьбірае ахвяраваньні грамадзянаў на выплату кампэнсацыі судзьдзе Тацяне Буевіч. З раніцы ён «жабраваў» на пераходным мосьце цераз чыгунку побач з пад’ездам дому, дзе жыве судзьдзя. «Цяпер я буду рабіць гэта штодзень», — кажа спадар Шчукін.

У часе выбараў у мясцовыя саветы Тацяна Буевіч выконвала абавязкі сакратаркі пры старшыні абласной выбарчай камісіі і не дазволіла Валерыю Шчукіну трапіць на адкрытае паседжаньне гэтай камісіі. Пасьля яна зьвярнулася ў суд са скаргай, што ён нібыта яе абразіў. Суд прысудзіў Шчукіну сплаціць судзьдзе 250 тысяч рублёў за нанесеную маральную шкоду.

• Аляксандру Лукашэнку і 7 урадоўцам забараняюць уезд у Эўразьвяз і ЗША
• Прэзыдэнт Расеі прапаноўвае Беларусі ўвайсьці ў склад Расейскай Фэдэрацыі
• Улады пераймаюць кантроль над асноўнымі літаратурнымі выданьнямі і прызначаюць новых кіраўнікоў
• Незалежная газэта «Наша Свабода» спыняе выхад з прычыны вялізнага штрафу
• У Курапатах завяршаецца 8-месячная вахта памяці



# 2002

Зьняволеныя:
**Павал Мажэйка** (верасень)
**Мікола Маркевіч** (верасень)
**Віктар Івашкевіч** (сьнежань)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Андрэй Клімаў** (выйшаў на свабоду ў сакавіку)
**Юры Бандажэўскі**

## Павал Мажэйка.

**Зьняволены 1 верасьня 2002 г. — выйшаў на свабоду 22 сакавіка 2003 г.**




Павал Мажэйка нарадзіўся 25 траўня 1978 г. у Горадні. Скончыў факультэт гісторыі і культуралёгіі Гарадзенскага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы. Яшчэ студэнтам пачаў друкавацца ў газэце «Пагоня». Быў кіраўніком перадвыбарчага штабу Аляксандра Мілінкевіча ў часе прэзыдэнцкіх выбараў 2006 г. Актывіст рухаў «За свабоду», «Выратуем Горадню ад разбурэньняў», адзін з арганізатараў кампаніі «Год беларускай дзяржаўнасьці-2008» у Горадні. Каардынатар сэрыі «Гарадзенская бібліятэка». Нежанаты.

24 чэрвеня 2002 г. Павал Мажэйка быў асуджаны Ленінскім раённым судом Горадні да двух гадоў абмежаваньня волі за «паклёп на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі з абвінавачаньнем яго ў зьдзяйсьненьні асабліва цяжкіх злачынстваў». Падставай паслужыла нататка ў «Пагоні» падчас прэзыдэнцкай кампаніі 2001 г. Адбываў пакараньне ў папраўчай установе Жлобіна. Паводле амністыі тэрмін пакараньня быў зьменшаны на год. Вызвалены ўмоўна-датэрмінова 22 сакавіка 2003 г. за добрыя паводзіны, і да 1 верасьня таго ж году мусіў адзначацца ў міліцэйскай установе.

Адзін дзень, 19 лістапада 2007 г., з былым палітвязьнем Паўлам Мажэйкам правёў Сяргей Астраўцоў.

— У параўнаньні з тымі ўмовамі, — распавядае Павал, — у якіх утрымліваюцца цяперашнія палітвязьні — Дашкевіч, Фінькевіч, той жа Казулін, — я выдатна разумею, што маю тагачасную «хімію» можна жартам назваць нават курортам.

Я трапіў з Горадні ў папраўчую установу ў Жлобіне, мяне накіравалі працаваць на тартак. Начальнік падкрэсьліў пры гэтым: «Ты павінен ведаць, што значыць пэцкаць паперу». Па-другое, ён сказаў, што я павінен «пахадзіць зь бервяном, як Ленін калісьці». Толькі вось я не да канца зразумеў, прычым тут Ленін?

Фэрмэр трымаў пад Жлобінам лесапільню, дзе працавалі людзі з «хіміі». Быў розны графік: ад васьмі да трох, але часьцей — ад васьмі да васьмі гадзінаў увесь тыдзень, а потым сем дзён адпачынку. Спаць вярталіся ў горад, гарадзкім аўтобусам. Гэта было абмежаваньне свабоды з абавязковым прыцягненьнем да працы.

У мяне нічога не вылічвалі, адзінае, што я сам павінен быў сябе забясьпечваць: харчавацца, апранацца, плаціць за пражываньне ў інтэрнаце. А там — краты на вокнах і міліцыя на ўваходзе. Атрым-

лівалі на тартаку больш, чым іншыя зьняволеныя, восемдзесят тысяч рублёў на той час, нават бывала да ста трыццаці тысяч.

*— А наколькі цяжкой была праца? Сапраўды бярвеньне трэба было цягаць, ці гэта рэальна?*

— Падымаць бярвёны ня трэба было, але іх пілавалі, трэба было закаціць на пільню, прыняць дошкі. Праца на тартаку фізычна цяжкая, і яшчэ холадна было тады, нават даходзіла да 35 градусаў марозу.

Стаўленьне да мяне ў той час з боку ахоўнікаў і стаўленьне, напрыклад, да Фінькевіча, які доўгі час знаходзіўся таксама на «хіміі», зусім рознае.

У мяне зь Міколам Маркевічам былі адны зь першых палітычных прысудаў. Відавочна, што начальнік жлобінскай «хіміі» ня ведаў да канца, што са мной рабіць. Цiснуць — невядома, ці можна, а даць слабіну — таксама хто ведае — могуць даць па шапцы. Да мяне свабодна прыяжджалі журналісты, іншыя людзі. Фактычна ніколі не было праблемаў нават наведаць «хімію», зайсьці ў пакой, дзе я жыў.

Прыяжджалі і амбасадары нярэдка, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Валер Фралоў і Сяргей Скрабец. З пункту гледжаньня сёньняшняга дня, гэта быў вельмі лёгкі рэжым. Пагатоў дазвалялася раз на месяц, пры адсутнасьці парушэньняў, зьяжджаць дадому тэрмінам да пяці дзён. У мяне праблемаў з гэтым ніколі не ўзьнікала.

Мама Сафія Міхайлаўна саджала мяне за стол, карміла сваімі супамі, катлетамі. Абыходзілася без асаблівых пяшчотаў, я стараўся рабіць выгляд, што ўсё нармальна.

Нейкіх фізычных наступстваў ці маральных я сёньня не адчуваю. Па-першае, як толькі апынуўся ў Жлобіне, зразумеў, што ўдасца наладзіць нармальныя стасункі з тымі, хто там знаходзіўся. А гэта



было важна. Напэўна, родныя, сябры перажывалі, зразумела, але сам я спакойна прайшоў праз гэта.

Мала таго, я стаў нечакана для сябе вядомым сярод дэмакратычнай грамадзкасьці, мяне пазнавалі там, дзе ніколі не бываў раней. А паезьдзіць па Беларусі давялося нямала, калі працаваў прэс-сакратарам Аляксандра Мілінкевіча падчас прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году. Цяпер у Горадні «спрабую ажывіць грамадзкі рух». Я адчуваю сябе на сваім месцы, я гарадзенец, як часта кажуць тутэйшыя людзі, «з крыві і косьці», ведаю, што тут і зямля, і энэргія мае.

*— Ці ўзьнікала жаданьне адпомсьціць?*

— Шчыра сказаць, ніколі. Мне часта сустракаюцца ў горадзе пракурор, сьледчы, часам нават коратка размаўляю зь імі. Гэта іхняй праблемай стала цяпер, а не маёй, таму што яны адчуваюць сябе няёмка, калі бачаць мяне.

Першы месяц на «хіміі» быў найбольш складаным псыхалягічна. Я вяртаўся з працы праз жлобінскі вакзал, і якраз быў час адпраўленьня цягніка «Гомель — Горадня». Абвяшчалі, што ён адыходзіць празь пяць хвілінаў, а я ня мог сесьці ў яго і паехаць дахаты...

Першы дзень застаўся ў памяці — калі апынуўся на «хіміі». Пачалі варыць бульбу разам з новымі суседзямі, селі за стол, але раптам мяне паклікалі да тэлефона. Калі вярнуўся, ежа стаяла некранутаю, чакала мяне. Значыцца, прынялі.

У інтэрнаце былі блёкі з двух пакояў, па шэсьць—сем чалавек жылі.

Пра навуку, якую там атрымоўваеш... Ну, можа, хіба карысьць у тым, што я пераканаўся: зь любымі людзьмі можна мець нармальныя стасункі. Але ці так ужо патрэбная гэткая навука? Альбо тое, што стаў разьбірацца, адкуль прывезенае дрэва на тартак: з правага берагу Дняпра ці зь левага. Ня ведаю...

Што яшчэ можна ўзгадаць? Напрыклад, як я атрымліваў тады шмат пошты, за ўвесь час — больш за тры тысячы лістоў і паштовак. За дзень часам магло прыйсьці на мой адрас штук семдзесят, нават сто лістоў. Ніхто там такога ня бачыў ніколі. Ахоўнікі былі вельмі ўражаныя, адчувалася непадробная павага, калі аддавалі мне ў рукі карэспандэнцыю.

І я да адбою чытаў лісты, часьцей за ўсё ад незнаёмых людзей, пісаў адказы. У той час якраз адбывалася кампанія салідарнасьці з палітвязьнямі, якую абвясьціла праваабарончая арганізацыя «Amnesty international». Дарэчы, прыходзілі таксама пасылкі, нават зь Лёндану з Пэн-клюбу: ангельская гарбата, цукар, мыла.

*— Што дапамагло адаптавацца тады?*

— Вырывацца з той атмасфэры маральна і духоўна дапамагалі кнігі. Шмат прачытаў за той час: Кундэру, Павіча, «Размовы з Бродзкім», «Верш на Свабоду» выйшаў якраз, мне перадалі тры ці чатыры асобнікі, раздаў іх ахвотным. Яны з задавальненьнем чыталі, напрыклад, верш пра «мянта», якога б'юць.

Раней у інтэрнаце пераважна чыталі газэты, адгадвалі крыжаванкі. З маім прыездам у «хаце» ўтварыўся своеасаблівы клюб, размаўлялі пра палітыку ды пра іншае. Пры канцы ўдалося стварыць бібліятэку, Беларуская асацыяцыя журналістаў абвясьціла акцыю — «Зьбяром кнігі!». Пасьля разам з аташэ па культуры амэрыканскай амбасады прывезьлі кнігі, для іх зрабілі паліцы. Кнігі засталіся на «хіміі», некалькі соцень.

Захаваў памятку са Жлобіна. Калі мянялі сьцяг і герб у мясцовым судзе, шыкоўна зробленую «Пагоню» (шоўк, інкруставанае дрэва) схавалі ў падвале, а хлопцы з «хіміі», якія працавалі там, прынесьлі і падаравалі мне на Каляды. У мяне дома яна цяпер на



сьцяне. Я, дарэчы, наладзіў калядную вячэру — як і належыць, з дванаццацьцю стравамі, для ўсіх гэта было навіной.

У тыя дні я вёў дзёньнік, запісваў свае ўражаньні. Праўда, калі выйшаў, то зразумеў, што жаданьня іх надрукаваць няма.

У Жлобіне мне пашчасьціла, што побач з інтэрнатам жыў адзін франтавец, сталы чалавек, які пачуў на Радыё Свабода, што прыедзе Павал Мажэйка. Ён прыходзіў сустракаць цягнікі і перадаваў абвестку па гукаўзмацняльніку: «Мажэйка, Вас чакаюць...» Гэты чалавек аддаў ключы ад сваёй хаты, сказаў, што ў любы час можна прыходзіць. Я сапраўды стараўся завітаць туды, нармальнай ежы зьесьці, паглядзець тэлевізар, прыняць ванну. Гэта было вельмі важна, бо «хімія» ёсьць «хіміяй». Дзякуй гэтаму чалавеку, што прапанаваў мне ў незнаёмым горадзе хатні ўтулак.

Па магчымасьці я сёньня сачу за лёсам цяперашніх палітвязьняў, некалькі разоў езьдзіў да Паўла Севярынца ў Малое Сітна, у тым ліку з Аляксандрам Мілінкевічам. Лічу, што гэта важна — проста паціснуць руку чалавеку, які там знаходзіцца. Севярынец, між іншым, таксама працаваў на тартаку.

Мая выснова: сёньня ўмовы ў палітвязьняў значна горшыя. Тады ўвага прэсы, сяброў, калегаў былі значна больш даступнымі. Я адчуваў сябе абароненым, ведаў: за кожным маім днём на «хіміі» сочаць сотні людзей, гэтаксама як і за кожным крокам, рухам міліцыянтаў. Сёньня стала ўсё больш жорсткім.

Але ж да ўсяго, што здараецца з табой, трэба ставіцца з вытрымкай, годна, заставацца самім сабой, бо гэта жыцьцёвая праверка. У беларускай гісторыі былі людзі, якія ніколі не паддаліся ціску, перасьледу. Можна ўзгадаць Ларысу Геніюш, тых, хто

прайшоў ГУЛАГ. Іх умовы былі непараўнальна горшымі. Былі і такія, што збаяліся, далі сябе зламаць. Але пераважная бальшыня людзей ніколі ў жыцьці не атрымлівае шанцу спраўдзіць сябе. З гэтай нагоды ня трэба сумаваць, але ведаць: калі цябе б'юць за твае перакананьні, праз гэта трэба прайсьці годна. Перамагае ўрэшце праўда.

## З архіву «Свабоды»

### 23 чэрвеня 2002 г. Дзень суду

З апошнім словам выступіў Павал Мажэйка: «Я ўпершыню і, дасьць Бог, у апошні раз выступаю з апошнім словам на падобных мерапрыемствах. Я скажу пра тое, што адчувае невінаваты чалавек, якога вось ужо 10 месяцаў сапраўды трымаюць на эшафоце, пакуль некалькі чалавек прымерваюць і выбіраюць для маёй шыі вяроўку. Выбралі... Чалавек, журналіст, на мой погляд, можа быць карысным сваёй Бацькаўшчыне толькі тады, калі здымае ружовыя акуляры, ясна бачыць радзіму, ясна бачыць яе праблемы і адкрыта гаворыць і піша пра гэта».

### 10 кастрычніка 2002 г.

Ліст Паўла Мажэйкі зь няволі: «На жлобінскай "хіміі" я ўжо месяц. Цяпер я разумею, што меў на ўвазе праваабаронца Гары Паганяйла, калі сказаў на адным з судовых паседжаньняў нашага зь Міколам Маркевічам працэсу: "Хімія" — гэта самая зьдзеклівая форма прыніжэньня асобы". Ад сябе магу дадаць — антычалавечная і цынічная. На "хіміі" можна вытрымаць любыя фізычныя цяжкасьці, але тут невыносна духоўна і псыхалягічна. Я пачынаю ўсёй сваёй істотай ненавідзець жлобінскі вакзал, ненавідзець ціха і люта. Аднаго разу ўсьвядоміў, што голас вакзальнай дыктаркі дзіўным чынам нагадвае мне голас судзьдзі Тацяны Клімавай у дзень вынясеньня прысуду. Але я вытрымаю, не зламлюся. Мне трэба вытрымаць. Я абавязкова вярнуся. Вярнуцца трэба. У Горадню. Мне ёсьць там каму глянуць у вочы».



### 2 сьнежня 2008 г. 52-гі дзень на «хіміі»

Знаходзім на лесапілцы побач са славутым жлобінскім мэталюргічным заводам Паўла Мажэйку. Скончыўся перапынак, і Павал дэманструе нам сваё майстэрства ў справе расьпілоўваньня сасновых бярвеньняў.

Спадар Мажэйка: «Я стамляюся ня столькі ад працы, колькі ад шуму. Адсюль за два мэтры не чуваць чалавека. Каб гэтага не заўважаць, чытаю па памяці вершы ды паўтараю ангельскія словы. Я пачаў тут вучыць ангельскую мову і вось практыкуюся. А за дзень мы расьпілоўваем недзе 150 бярвеньняў. Ад восьмай раніцы да сёмай вечару працуем. Даволі цяжка».

### 24 сакавіка 2003 г. Другі дзень на свабодзе

Дабіраўся Павал са Жлобіна 15 гадзінаў, зьмерз у цягніку і прыхварэў. Сам паведаміць аб сваім прыезьдзе не пасьпеў.

Спадар Мажэйка: «Дзякуючы маім сябрам бацькі ведалі, што я прыеду ранкам. Таму мяне чакаў маленькі, але сьвяточны стол. Галубцы, бульба, а таксама пірог зь яблыкамі».

## Мікола Маркевіч.

**Зьняволены 2 верасьня 2002 г. — выйшаў на свабоду 5 сакавіка 2003 г.**




Мікола Маркевіч нарадзіўся 29 чэрвеня 1962 г. у вёсцы Чэрнічы Жыткавіцкага раёну Гомельскай вобласьці. Скончыў філялягічны факультэт Калінінградзкага ўнівэрсытэту. Працаваў у гарадзенскіх газэтах «Высота», «Гродзенская праўда». Дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. У 1991 г. стварыў культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына», праз год зарэгістраваў пры фондзе газэту «Пагоня» і стаў яе галоўным рэдактарам. Браў удзел у галадоўцы дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў 1995 г. У 2003 г. ініцыяваў аднаўленьне газэты «День» і быў яе рэдактарам да траўня 2004 г., калі рашэньнем Гаспадарчага суду выхад газэты быў забаронены. У 2005 г. разам з аднадумцамі аднавіў Радыё Рацыя і стаў яго праграмным дырэктарам. Цяпер Мікола Маркевіч — рэдактар інтэрнэт-газэты pahonia.org і дарадца праўленьня Радыё Рацыя ў справах праграмы й разьвіцьця. Жанаты, мае траіх дзяцей.

У 2002 г. Мікола Маркевіч быў асуджаны судом Ленінскага раёну Горадні да двух з паловай гадоў абмежаваньня волі за паклёп на прэзыдэнта Лукашэнку. Падставай паслужыла нататка ў «Пагоні» падчас прэзыдэнцкай кампаніі 2001 г. Паўгоду адбываў пакараньне ў Асіповічах Магілёўскай вобласьці, пасьля чаго быў пераведзены на папраўчыя работы па месцы жыхарства, у Горадню.

У часе зьняволеньня Мікола Маркевіч рэгулярна пісаў лісты на «Свабоду», якія пасьля гучэлі ў этэры Радыё Свабода. Гэты ліст — пра адзін дзень, 2 лістапада 2002 г., з жыцьця палітвязьня Міколы Маркевіча пасьля двух месяцаў адбыцьця пакараньня.

Мой невялічкі юбілей, на вялікі жаль, азмрочаны. Як я ні імкнуўся пазьбегнуць прастуды, аднак усёткі захварэў. Ужо з раніцы адчуў, як нешта сьціскае горла. Бліжэй да абеду канчаткова зразумеў, што справы дрэнныя. Увечары я ўжо ледзьве стаяў на нагах.

Па дарозе ў кашары зайшоў у дзяржаўную аптэку пад даволі дзіўным для невялічкіх Асіповічаў трохзначным нумарам 169. Танных лекаў ад болю ў горле ды тэмпэратуры няма. Кошты таго, што ёсьць, пачынаюцца ад 8000 руб., што, на мой погляд, за-

надта дорага для шасьці маленечкіх таблетак. Павагаўшыся трошкі каля прылаўку, рашуча выходжу на вуліцу і шыбую ў краму, дзе купляю літровы пакет малака і кавалак масла. Пачак соды застаўся ў пакоі яшчэ ад папярэдніх кватарантаў, мёд — цэлы слоік — на пазамінулым тыдні перадала сястра хартыста Дзімы Бандарэнкі, якая жыве ў ваколіцах Асіповічаў. Так што лячыцца буду падручнымі спосабамі.

У хворага на «хіміі» ёсьць свае перавагі: ня трэба ўставаць на праверку пад гэты абрыдлы званок, ня трэба ўскокваць на выцяжку, калі ў пакой уваходзіць ахоўнік, ня трэба нават бегчы тэлефанаваць. І сапраўды, куды ты хворы пабяжыш? Ляжы сабе без усялякіх клопатаў, прымай гасьцей з суседніх пакояў, якім надта карціць паглядзець Мішкаў тэлевізар. Заплюшчыўшы гарачыя ад жару вочы, міжволі слухаю абрыўкі іх гамонкі. «Ты чуў, сіняга з двойкі назад у Бабруйск вярнулі. Цяпер ён у вежы зноў сядзіць. Пракуратура вынесла пратэст, вырашылі, што прыгавор занадта мяккі, ну, цяпер хлопцу ўпаяюць...» — «Нічога не ўпаяюць, я зь ім у Гомелі сядзеў, ён такі, што з вады сухім выйдзе. Глядзі, каб увогуле ня выпусьцілі».

У перапынку на рэкляму ў пакой залятае начальнік першага атраду спадар Чарнецкі. Круглы твар ажно расплываецца ва ўсьмешцы. У руках — партрэт Лукашэнкі. «Мікалаевіч, ёсьць загад павесіць гэты партрэт у цябе над ложкам». Ягоныя вусы ажно варушацца ад таго, што прыдумаў такі ўдалы жарт. Паводле старой завядзёнкі я — гэтым разам, праўда, вельмі млява — пратэстую: «Віктаравіч, у рашэньні суду пра гэта ні слова...»

Позна ўвечары іду на кухню, каб згатаваць малако. Сёньня, аказваецца, дзяжурыць Пятровіч, ён жа, па-бацюшку, Нікіціч. Ён жа, як называюць «хімікі» паміж сабою спакойнага і разважлівага капітана, — НікітА. Трэба ж, якое супадзеньне. Якраз як і першага верасьня. Менавіта спадар Пятровіч сустрэў мяне тут першым, менавіта ён вызначыў мне мае цяперашнія апартамэнты. Дзяжурны праходзіць на кухню ўсьлед за мною. «Мікола, ці чуў ты што-небудзь пра падвышэньне пэнсійнага ўзросту?» — пытаецца ён у мяне. Нікіцічу праз тры месяцы на пэнсію, і ён вельмі заклапочаны плянамі ўраду падвысіць на пяць гадоў пэнсійны ўзрост. Галоўны клопат — ці пасьпее ён выйсьці на пэнсію перад тым, як гэты закон будзе ўхвалены. Я ня ведаю; аднак, каб лішне не трывожыць добрага чалавека, выказваю асьцярожны аптымізм на гэты конт. Нікіціч ажно расьцьвітае. «Мікола, у мяне ж проста па агародзе праходзіць цеплатраса. Я некалькі цяпліц на ёй пабудую, у мяне ж будуць самыя першыя агуркі ў Асіповічах, і ніякіх затратаў на ацяпленьне!»

Потым, падчас апошняй перад сном праверкі, вынырнуўшы з хворага, цяжкага сну, яшчэ раз пачуў з калідору голас Нікіціча. Прыйшлі новыя тарыфы на пражываньне. Цяпер за пакой на чатырох чалавек прыйдзецца плаціць 18 тысячаў.

З Асіповіцкай папраўчай установы<br>адкрытага тыпу,<br>асуджаны Мікола Маркевіч

## З архіву «Свабоды»

**21 чэрвеня 2002 г. Дзень суду**

Мікола Маркевіч выступіў з апошнім словам: «Высокі суд, паважаныя прысутныя. 2 лістапада 1937 году органамі НКВД быў арыштаваны мой дзед — Маркевіч Майсей Савельевіч. Арыштаваны быў проста ў сябе ў хаце. У глухой тады прыпяцкай

вёсачцы Чэрнічы Тураўскага раёну Палескай вобласьці. Зьбянтэжанага, не зразумеўшага, што адбываецца, адразу пасьля арышту яго этапавалі ў лягер, які быў разьмешчаны каля станцыі Кандалакша Мурманскай вобласьці. Праз пэўны час мой дзед атрымаў афіцыйныя паперы, зь якіх даведаўся, што знакамітай «тройкай» ён завочна асуджаны паводле ня менш знакамітага артыкулу 58 Крымінальнага кодэксу СССР — за антысавецкую агітацыю і прапаганду».

Дзед Міколы Маркевіча загінуў у ГУЛАГу.

«Краіна вяртаецца ў мінулае, у 1937 год. Сёньняшні суд — таму пацьверджаньне. Людзей зноў перасьледуюць за перакананьні й погляды», — кажа Мікола Маркевіч.

**2 верасьня 2006 г. Першы дзень «на хіміі»**

Галоўны рэдактар газэты «Пагоня» Мікола Маркевіч, які будзе паўтара году ўтрымлівацца ў папраўчай установе адкрытага тыпу ў раённым цэнтры Асіповічы Магілёўскай вобласьці, уладкоўваўся на новым месцы ў інтэрнаце.

Спадар Маркевіч: «Умовы жыцьця проста жудасныя: смурод, брудна і брыдка, прусакі зграямі поўзаюць. Гэта першае ўражаньне. Працы няма ніякай. Аднак, дзякаваць Богу, ужо на пэроне я зразумеў, што я прыехаў таксама ў Беларусь. Мяне сустрэлі вельмі добрыя людзі».

Паводле Міколы Маркевіча, самае складанае для яго цяпер — гэта тое, што няма побач жонкі і дзяцей, але ён упэўнены, што час пакараньня ня будзе для яго марным.

Спадар Маркевіч: «Ёсьць праца, я зьбіраю матэрыял для кнігі. Спадзяюся, што гэты час будзе запоўнены карыснай для мяне, маёй сям'і і для маёй Бацькаўшчыны працай».



**23 сьнежня 2002 г. 113-ты дзень зьняволеньня**

Мікола Маркевіч: «Тыдзень жыцьця ў папраўчай установе адкрытага тыпу выявіў, што адкрытасьць гэтай установы надзвычай умоўная. На самай справе жыцьцё асуджаных жорстка рэгляментаванае: пабудка, асабістая гігіена, прыборка пакояў, выхад на працу, вяртаньнне з працы, абавязковыя ранішнія й вечаровыя праверкі. Усё кантралюецца, а ў большасьці зь пералічаных выпадкаў робіцца ўсімі разам па званку».

**30 сьнежня 2002 г. Дзень у турэмным шпіталі**

Мікола Маркевіч трапіў у шпіталь з гіпэртанічным крызам. Дзякуючы лячэньню ціск удалося зьменшыць, але часова.

Мікола Маркевіч: «Учора быў зьбіты ціск — уколы, таблеткі. А сёньня, на вялікі жаль, зноў — 150 на 105».

Калі не паўторыцца гіпэртанічны крыз, Мікола Маркевіч спадзяецца трапіць на Новы год дахаты.

Мікола Маркевіч: «Бо такая традыцыя: я ніколі за ўвесь час, за ўсё сваё жыцьцё не сустракаў Новы год па-за межамі сям'і, дому. І я вельмі спадзяюся на тое, што ў гэтым годзе традыцыя ня будзе парушаная».

**5 сакавіка 2003 г. Першы дзень на волі**

Прэзыдэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жана Літвіна сустракала з кветкамі вызваленага з Асіповіцкай спэцкамэндатуры Міколу Маркевіча.

Спадарыня Літвіна: «Я думаю, што гэты момант сьведчыць, што набліжаецца час ягонага вяртаньня да прафэсійнай дзейнасьці, да журналістыкі, і за яго можна толькі парадавацца».

# Віктар Івашкевіч.

**Зьняволены 16 сьнежня 2002 г. — выйшаў на свабоду 16 сьнежня 2003 г.**



Віктар Івашкевіч нарадзіўся 21 верасьня 1959 г. у Менску. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Быў галоўным рэдактарам газэты «Рабочы» (1997–2002). На пачатку 1980-х гг. — актыўны ўдзельнік моладзевых нефармальных аб'яднаньняў «Майстроўня», «Талака», адзін з найбольш таленавітых арганізатараў розных акцыяў і мерапрыемстваў, у тым ліку экалягічнага маршу па Прыпяці ў 1988 г., адной зь першых чарнобыльскіх акцыяў пратэсту. Ініцыятар стварэньня страйкамаў на менскіх прадпрыемствах у 1991 г. Ад 1988 г. актывіст БНФ, да 1996 г. сакратар управы БНФ. Уваходзіў у групу лідэраў БНФ, якія выступілі з крытыкай Зянона Пазьняка. Восеньню 1996 г. пакінуў пасаду сакратара ўправы БНФ, але не спыніў сяброўства ў партыі. Адзін з арганізатараў незалежнага аналітычнага цэнтру «Беларуская пэрспэктыва». Намесьнік старшыні Партыі БНФ, адказны сакратар управы Партыі БНФ. Жанаты, мае сына і ўнука.

Ад 1998 г. Віктар Івашкевіч больш за 10 разоў быў пакараны адміністрацыйнымі арыштамі, шмат разоў — штрафамі. Двойчы трымаў галадоўку.

У 2002 г. Віктар Івашкевіч быў асуджаны да аднаго году абмежаваньня волі за паклёп на прэзыдэнта і яго атачэньне. Нагодай для крымінальнай справы стаў артыкул «Злачынца павінен сядзець у вязьніцы», надрукаваны ў газэце «Рабочы» падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Да чытачоў газэта не дайшла: прадстаўнікі спэцслужбаў канфіскавалі наклад газэты непасрэдна ў друкарні. Адбываў пакараньне ў Баранавічах.

Напярэдадні ад'езду на «хімію» адзін дзень, 16 сьнежня 2002 г., з палітвязьнем Віктарам Івашкевічам, ягонымі роднымі і паплечнікамі правёў Севярын Квяткоўскі.

Ёсьць такі жарт: «Віктар Івашкевіч — самы тоўсты рабочы Беларусі». Аўтар жарту — сам Віктар.

Калі газэта «Рабочы» павялічвала колькасьць старонак да 16 палосаў, галоўны рэдактар прыдумаў такі рэклямны ход: зьмясьціў сваю фотку за подпісам «Тоўсты «Рабочы».

Аб'ёмістая фігура Віктара Івашкевіча заўважная здалёк. І ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Зрэшты, Віктар Івашкевіч атаясамлівае сваю дзейнасьць найперш не з рабочым рухам, а зь Беларускім Народным Фронтам:

— Яшчэ ў 1988 годзе ў арыенціроўках кампартыі было напісана: «Ивашкевич. Из маргинальных слоёв. Выдаёт себя за рабочего». Гэта камуністы яшчэ тады раскусілі, — усьміхаецца палітык. — Пад «лічынай» рабочага я ўсё роўна — БНФ.

Таго ж меркаваньня сын Віктара Івашкевіча Стась:

— Бацька мой найперш палітык. Ён заўсёды ўсе свае заняткі падпарадкоўваў адной і той жа мэце. І газэта, і прафсаюзы, і грамадзкая дзейнасьць.

На апошнім перад адпраўкай Віктара на «хімію» Сойме партыі БНФ я зрабіў міні-апытаньне пра спадара Івашкевіча.

Арэшка: «Гэта важкі, надзейны, пазытыўны элемэнт».

Зяньковіч: «Вельмі зычлівы й шчыры чалавек».

Трыгубовіч: «Івашкевіч — гэта заўсёды “фантан” ідэяў. Для справы, у якую ён верыць, гатовы апошнюю кашулю зьняць і аддаць. А паколькі ён чалавек вялікі, то заўсёды ёсьць адчуваньне, што аддасьць шмат».

Лабановіч: «Гэта пазытыў, надзейнасьць і практычнасьць, скіраваныя на вынік».

Лабковіч: «Гэта адзін з найлепшых мэнэджэраўарганізатараў, якія ёсьць у нашай партыі».

Мікульская: «Маштабная асоба, разумны вельмі».

Маці Віктара Галіна Івашкевіч прыгадвае, што сын ужо зь дзіцячых гадоў адчуваў сябе палітыкам:

— На бульвары мы жылі. Увечары выйшла яго клікаць, а ён размову ладзіць са сваімі аднагодкамі. Акурат выбары мусілі быць, і я чую ягоны галасок: «Гэта ўсё фарс!». Гадоў дванаццаць яму было, ён ужо разумеў, што гэта ўсё фарс.



Дзяцінства Віктар Івашкевіч правёў на бульвары Шаўчэнкі ў Менску. Бацькі Віктара паходзяць з ваколіцаў Менску. Тэма палітыкі была заўсёды табу ў сям'і. Толькі дарослым Віктар зразумеў чаму. Ягоная маці нарадзілася й гадавалася ў вёсцы Зялёны Луг, недалёка ад Курапатаў. Галіна Івашкевіч узгадвае:

— Я ў маці ўсё пыталася: «Мама, а што там за плот такі?» А яна й кажа: «Не глядзі туды, не глядзі туды! Туды прывозяць забіваць».

Захапленьнем на ўсё жыцьцё, хобі для Віктара Івашкевіча сталася гісторыя. Сёньня ці ня тры чвэрці ягонай бібліятэкі складаюць кнігі па гісторыі. Вось якая гульня была ў Віктара ў падлеткавым узросьце:

— Мы зь сябрамі, напрыклад, пісалі ў 16 гадоў дысэртацыі адзін аднаму: «Як бы я падавіў Вялікую Акцябрскую рэвалюцыю».

На пачатку 1980-х гадоў ідэя адмаўленьня савецкасьці ператварылася для Віктара Івашкевіча ў стваральную ідэю беларушчыны. Віктар пазнаёміўся з асяродкам «майстроўцаў» і «талакоўцаў», сярод якіх былі Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Сяржук Сокалаў-Воюш і Алесь Суша. Разам слухалі «Led Zeppelin» і «Deep Purple». Разам адкрывалі для сябе ды іншым нязнаную гісторыю Беларусі. Кажа Вінцук Вячорка:

— Многія ўжо забыліся, што менавіта ён разам зь іншымі ад пачатку 1980-х гадоў, задоўга да ўсялякіх «перастроек», ствараў нелегальныя суполкі, рэальны моладзевы нацыянальны рух.

Віктар узгадвае, што быў адным з самых заможных, бо працаваў грузчыкам і зарабляў ажно 400 рублёў:

— Падпольнай суполкай я быў прызначаны апекуном «Мроі». Таму што ў мяне тады, як у багатага грузчыка, быў касэтны магнітафон. Я іх нацыяналістычна апрацоўваў, — сьмяецца Віктар.

Лідэр гурту «NRM», тагачаснай «Мроі», Лявон Вольскі згадвае, што ўплыў Івашкевіча на малады рок-гурт быў велічэзны:

— Пачаўся ўплыў з таго, што нам гаварылі, маўляў, вось вы міжсобку гаворыце па-беларуску, як зачынены гурток. А трэба з усімі па-беларуску гаварыць.

Але, вядома, самы галоўны ўплыў любога бацькі — на сына. Віктар браў Стасіка паўсюль — на вечарыны «Майстроўні», у вандроўкі, на мітынгі:

— Першы раз мяне арыштавалі, калі мне было 28, а сыну — 4 годзікі.

Сёньня Стась вучыцца на эканаміста. Ён кажа, што сябруе з бацькам, але канфлікту пакаленьняў яны не пазьбеглі. Найбольшыя спрэчкі — вакол рэфармаваньня беларускага грамадзтва. Маўляў, трэба шукаць новых шляхоў:

— Сам я дастаткова цьмяна ўяўляю, якія ёсьць альтэрнатывы. Але ў глябальных пытаньнях мы згаджаемся.

Найбольшую крытыку Віктар атрымліваў ад дзеячоў рабочага руху. Маўляў, ён ставіць палітыку на першае месца, а сацыяльныя і прафэсійныя праблемы — на другое. Так мяркуе актывіст рабочага руху Сяргей Антончык: «Ён думаў так, я думаў інакш, але я не хацеў бы зараз казаць штосьці крытычнае ў бок Івашкевіча, таму што ён асуджаны».

Прысуд на «хімію» стаўся неспадзяваным для маці:

— Ня думала, што ён на «хімію» патрапіць.

Сын Стась больш разважлівы:

— Я стаўлюся да гэтага дастаткова спакойна. Разумею, што гэта ёсьць прафэсійная рызыка ягонай працы.



Сам Віктар Івашкевіч жартуе — маўляў, на «хіміі» будзе магчымасьць крыху скінуць вагу. А таксама выправіць некаторыя недахопы ў сучасных ведах:

— Мушу далучыцца да цывілізацыі. І сам, без пасярэдніцтва сакратаркі, залазіць у той жа інтэрнэт, каб быць у кантэксьце падзеяў.

Віктар Івашкевіч — палітык, грамадзкі дзеяч, рабочы, журналіст, адраджэнец, джэнтэльмэн. Заўсёды наперадзе, але не на самым версе. Як кажа сам Віктар, «не на сцэне, а за кулісамі»:

— З аднаго боку, я палітык, з другога — я вельмі люблю смакі жыцьця.

Заўсёды вясёлы, упэўнены. Чалавек, які любіць жыцьцё.

## З архіву «Свабоды»

**11 верасьня 2002 г. Дзень суду**

У Першамайскім раённым судзе ў Менску сабралася некалькі дзясяткаў чалавек, каб выказаць падтрымку Віктару Івашкевічу. Перад пачаткам суду сакратарка абвесьціла, што паседжаньне будзе закрытым. Прысутныя абурыліся і не жадалі пакідаць судовую залю.

Удзельнікі паседжаньня перайшлі ў іншае памяшканьне. Валеры Шчукін намагаўся трапіць у судовую залю. Паміж ім і амапаўцамі адбылася сутычка. Нагодаю для крымінальнай справы і судовага разьбіральніцтва стаў артыкул «Злачынца павінен сядзець у вязьніцы», надрукаваны ў 2001 г. у газэце «Рабочы» падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. У ім пералічваліся некаторыя зьвесткі пра дзейнасьць кіраўніка краіны і яго найбліжэйшага атачэньня.

**19 кастрычніка 2002 г. Дзень пасьля прысуду**

Віктар Івашкевіч: «Тут ня трэба шукаць, хто вінаваты: палітык, які не пераканаў народ у тым, што трэба жыць па-эўрапейску, ці народ, які ня ведае, як жывуць у цывілізаваных краінах. Такі лёс».

Ірына Халіп: «Значыць, Вы заслугоўваеце свой прысуд?»

Віктар Івашкевіч: «Натуральна, таму што ведаў, куды лез, я мог не друкаваць той матэрыял, мог не засноўваць незалежную газэту. А калі палез туды — кожны занятак мае свае прафэсійныя хваробы. Дык вось, турма для журналіста ці палітыка — гэта проста прафэсійная хвароба».

Ірына Халіп: «Вы казалі, што маглі ня лезьці ў гэтую справу. А якія ў Вас былі іншыя шляхі, калі сёньня азірнуцца назад?»

Віктар Івашкевіч: «Пайшоў бы працаваць у “Чырвоную змену” — і працаваў бы дагэтуль. Ці грузчыкам, як калісьці. Ці ў бізнэс пайшоў бы. Многа было варыянтаў, але... “Всё, что нам гибелью грозит, для сердца смелого таит неизъяснимо наслажденье”. Мне падабаецца адрэналін і падабаецца палітычная дзейнасьць — за вастрыню адчуваньняў. І турма — гэта таксама вострае адчуваньне».

**16 сьнежня 2002 г. Дзень выпраўленьня на «хімію»**

Сёньня апоўдні, нягледзячы на моцны мароз, ля ўправы БНФ сабраліся журналісты й сябры Партыі БНФ, намесьнікам старшыні якой зьяўляецца Віктар Івашкевіч. Рэдактар газэты «Рабочы» выглядаў бадзёрым. Ён падзякаваў прысутным за падтрымку і паведаміў, што на «хіміі» мае намер плённа працаваць у газэце «Intex-press».

Віктар Івашкевіч: «Мне патэлефанавалі з Баранавічаў. Баранавіцкая грамада зьбіраецца наладзіць там шоў з аркестрам. Адміністрацыя інтэрнату будзе праклінаць свой лёс за тое, што ім такога нечаканага вязьня падсунулі. У разьвіцьці дэмакратыі Баранавічы — трэці пасьля Менску і Горадні горад. Аб’ектыўна. Я й марыў, каб гэта былі Баранавічы, калі ня Менск».



**23 траўня 2003 г. 151-шы дзень «хіміі»**

Віктару Івашкевічу забаранілі бываць у Менску. Раней адміністрацыя дазваляла яму наведваць сваіх хворых бацькоў у выходныя дні. Цяпер менскае міліцэйскае начальства пазбавіла яго гэтай магчымасьці. У Менску ў яго засталіся састарэлыя бацькі. Амаль два гады маці, хворая на рак, лечыцца хіміятэрапіяй. Некалькі апошніх месяцаў яна ў ложку. Бацька зламаў нагу, і цяпер яму самому патрэбная дапамога. Віктар прыяжджаў у Менск, каб дапамагчы сваім бацькам.

**11 сьнежня 2003 г. За пяць дзён да вызваленьня**

Віктар Івашкевіч: «Я цалкам адсядзеў гэты год. На свабоду з чыстым сумленьнем выходжу. Ніякіх лістоў з просьбай, каб мне зрабілі палёгку, не пісаў. Ніякіх заяваў, што я раскайваюся ў сваіх дзеяньнях, не падаваў. І вось “нераскаяны” такі і выходжу».

**16 сьнежня 2003 г. Першы дзень на волі**

Віктар Івашкевіч: «Свабода! Калі бразнулі за мной дзьверы і я меў даведку аб вызваленьні ў руках — адчуў, што я чалавек вольны. Я меў цэлы год, каб падумаць пра сваю дзейнасьць, пра дзейнасьць БНФ, апазыцыі ў цэлым. Шмат ідэяў зьявілася. І другое: я доўгі час быў начальнікам і “роў” на сваіх падначаленых. Цяпер пабыў падначаленым, і мне шмат за якія моманты свайго кіраваньня стала сорамна».

# 2003

• Па вяртаньні на радзіму з Чэхіі памірае Васіль Быкаў. Яго пахаваньне ў Менску ператвараецца ў грамадзянскую акцыю
• Міністэрства адукацыі ліквідуе Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа. Ён пачынае працаваць у нелегальных умовах
• Прадстаўнік ПАРЭ Хрыстас Пургурыдэс выступае з мэмарандумам «Зьніклыя асобы ў Беларусі»
• Эўрапарлямэнт заклікае А. Лукашэнку спыніць палітыку самаўладзьдзя і самаізаляцыі ад Эўропы




Застаюцца ў зьняволеньні:
**Мікола Маркевіч** (выйшаў на свабоду ў сакавіку)
**Павал Мажэйка** (выйшаў на свабоду ў сакавіку)
**Віктар Івашкевіч** (выйшаў на свабоду ў сьнежні)
**Юры Бандажэўскі**

# 2004

- Кангрэс ЗША прымае «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі»
- Праз рэфэрэндум Аляксандар Лукашэнка атрымлівае права балятавацца на прэзыдэнта больш чым два разы
- Эўразьвяз і ЗША не прызнаюць вынікаў рэфэрэндуму і парлямэнцкіх выбараў
- У Палату прадстаўнікоў не праходзіць ніводны прадстаўнік апазыцыі
- Шэрагу беларускіх урадоўцаў забараняюць уезд у Эўропу і ЗША
- Расея кароткатэрмінова спыняе пастаўкі газу Беларусі
- Улады зачыняюць Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт

Зьняволеныя:
**Міхаіл Марыніч** (красавік)
**Валеры Леванеўскі** (травень)
**Аляксандар Васільеў** (верасень)

Застаецца ў зьняволеньні
**Юры Бандажэўскі**



# Міхаіл Марыніч.

**Зьняволены 26 красавіка 2004 г. — выйшаў на свабоду 14 красавіка 2006 г.**



Міхаіл Марыніч нарадзіўся 13 студзеня 1940 г. у вёсцы Старыя Галоўчыцы Петрыкаўскага раёну Гомельскай вобласьці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, Менскі інстытут замежных моваў, Менскую вышэйшую партыйную школу. Ганаровы доктар эканамічных навук. Працаваў у будаўніцтве 16 гадоў, у тым ліку каля трох гадоў — у Аўганістане. З 1990 па 1991 г. — мэр Менску, у 1990–1994 гг. — дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. У 1994 г. прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным паслом у Чэхіі і па сумяшчальніцтве — у Славакіі і Вугоршчыне. З 1994 па 1998 г. — міністар замежнаэканамічных сувязяў Беларусі. У 1999–2001 гг. — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол у Латвіі і па сумяшчальніцтве — у Эстоніі і Фінляндыі. У 2001 г. напісаў заяву аб адстаўцы і выставіў сваю кандыдатуру для ўдзелу ў прэзыдэнцкіх выбарах. Ня быў зарэгістраваны кандыдатам на прэзыдэнта. Узначаліў грамадзкую арганізацыю «Беларуская асацыяцыя «Дзелавая ініцыятыва». Ад першага шлюбу мае двух сыноў і трох унукаў. У турме жаніўся другім разам, у лютым 2007 г. нарадзіўся трэці сын.

У 2004 г. Міхаіл Марыніч быў асуджаны да пяці гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасьці. Суд прызнаў яго вінаватым у авалоданьні аргтэхнікай, якая была бязвыплатна перададзеная арганізацыі «Дзелавая ініцыятыва» амбасадай ЗША ў Беларусі. З красавіка 2004 да красавіка 2006 г. — вязень спэцтурмы КДБ, аршанскай і менскай папраўчых калёніяў. Вызвалены датэрмінова паводле амністыі.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Міхаіла Марыніча вязьнем сумленьня.

Адзін дзень, 3 студзеня 2008 г., з былым палітвязьнем Міхаілам Марынічам правёў Алег Грузьдзіловіч.

*— Мінула амаль два гады пасьля таго, як Вы выйшлі на волю пасьля двух гадоў турмы. Ці зьмянілася Ваша стаўленьне да тых падзеяў?*

— Сёньня, на волі, я магу даць больш глыбокую ацэнку таго, што са мной адбылося. Магу ўзважыць прычыны і наступствы тых падзеяў. Дарэчы, чым болей я пра іх думаю, тым больш эмацыйна іх успрымаю. Адносна мяне ўлада дзейнічала надзвычай жорстка і цынічна. Органы КДБ, пракуратура і міліцыя не лічыліся з законамі, калі пазбаўлялі мяне волі і здароўя. І ўсё гэта адбывалася на загад дыктатара. З тых часоў сыстэма не зьмянілася...

У выпадку зь Міхаілам Марынічам было відавочна: улада доўга не магла вызначыцца, за што ж пакараць былога высокапастаўленага чыноўніка, які адважыўся «выйсьці з калёны». У афіцыйным паведамленьні адразу пасьля арышту пазначалася: арыштаваны паводле падазрэньняў у незаконным захоўваньні зброі. Дзеля гэтага на лецішчы правялі ператрус і знайшлі пісталет італьянскай вытворчасьці, вельмі папулярны сярод кілераў.

Спадар Марыніч лічыць, што пісталет яму падкінулі. Ягоных адбіткаў пальцаў на зброі сапраўды не знайшлі. Між тым некалькімі гадзінамі раней, калі Міхаіла Марыніча затрымалі ў будынку КДБ, яму сказалі, што сярод канфіскаваных у яго напярэдадні 90 тысячаў даляраў аказаліся і фальшывыя. Дарэчы, даляры ў палітыка знайшлі падчас агляду ягонага аўтамабіля, які «выпадкова» спыніла ДАІ. Толькі чамусьці разам з «даішнікам» побач аказаўся і супрацоўнік КДБ. Ужо падчас сьледзтва ўзьнікла яшчэ адно абвінавачаньне — у крадзяжы кампутараў з арганізацыі «Дзелавая ініцыятыва», якую сам жа Марыніч і ўзначальваў. Праз праблемы з офісам кампутары часова захоўваліся ў гаражы сына палітыка, але гэта не пераканала суд у ягонай невінаватасьці. Як і тое, што ўладальнік кампутараў — амбасада ЗША прэтэнзіяў да Міхаіла Марыніча ня мела. У выніку прысуд — 5 гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму за крадзеж праз службовае злоўжываньне.



Судовая заля і моладзь, якая сабралася каля будынку суду, скандавалі: «Ганьба!». Міхаіл Марыніч з жалезнай клеткі крычаў: «Жыве Беларусь!».

Міхаіл Марыніч кажа:

— Мяркую, мае праблемы з уладай пачаліся раней, у 2001 годзе, калі я выступіў разам з дэмакратычнымі сіламі Беларусі супраць дыктатуры, за свабоду, правы чалавека, дэмакратычныя каштоўнасьці. У той час я добраахвотна пакінуў дзяржаўную пасаду (службу ў рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Латвіі і па сумяшчальніцтве — у Эстоніі і Фінляндыі) ды прыняў удзел у выбарах прэзыдэнта.

Краіна тады фактычна самаізалявалася, рэформы згарнулі, дыктатура квітнела. Мне, як грамадзяніну, быў неабыякавы лёс маёй краіны, таму я зрабіў выбар на карысьць дэмакратычных каштоўнасьцяў і рынкавых рэформаў.

Паступова мая пазыцыя стала атрымліваць падтрымку ўнутры краіны і за мяжой, мая папулярнасьць павялічвалася. З аднадумцамі мы рыхтаваліся да парлямэнцкіх выбараў 2004 году і прэзыдэнцкіх — 2006 году. А ва ўладзе ўсё гэта выклікала раздражнёнасьць. За мной арганізавалі татальнае сачэньне, праслухоўвалі тэлефоны, пачаліся правакацыі супроць арганізацыі «Дзелавая ініцыятыва», якую я ўзначальваў.

У маёй працы не было і не магло быць нейкага крыміналу, таму я працягваў рабіць сваю справу. Аднак разумеў, што, ня маючы сапраўдных фактаў, улада стане на шлях правакацыі, зоймецца шантажом, фальсыфікацыямі. Гэтак і адбылося. 26 красавіка 2004 году мяне арыштавалі.

Але я перакананы, што пра аўтараў і выканаўцаў гэтых правакацыяў стане вядома грамадзтву, іх абавязкова будуць судзіць.

*— Вы маглі б праясьніць, што гэта былі за 90 тысячаў даляраў і які іх далейшы лёс?*

— Гэта мае асабістыя сродкі і сродкі маёй сям'і. Раней я казаў, што за мной сачылі, зналі дакладна, якімі сродкамі я валодаю, дзе я іх захоўваю, што знаходзіцца ў маёй кватэры. Дарэчы, тыя грошы мне дагэтуль не вярнулі. Сьцьвярджаюць, што яны патрапілі пад канфіскацыю, але я лічу, што іх забралі незаконна, і працягваю гэта даказваць.

*— Вядома, што Вы перажылі ў турме шмат драматычных сытуацыяў: у Вас адабралі лекі, здарыўся інсульт, а дапамогі не было. Потым патрапілі ў шпіталь. Што Вас выратавала?*

— Такі прэсінг дзейнічаў яшчэ да турмы, у сьледчым ізалятары КДБ. Ужо там я зразумеў, што яны пойдуць на любыя фальсыфікацыі, каб толькі скампрамэтаваць мяне і пасадзіць. Ня браліся да ўвагі ані тваё чалавечыя якасьці, ані былыя заслугі, ані стан здароўя. Мае скаргі і скаргі маіх абаронцаў ігнаравалі. Звароты паважаных людзей, дэпутатаў, юрыстаў, дыпляматаў, журналістаў, адрасаваныя старшыні КДБ і генэральнаму пракурору, заставаліся без адказу.

Вельмі істотна было не разгубіцца. Галоўнай падтрымкай было тое, што я быў не адзін, што за мяне змагаліся тысячы людзей у Беларусі і за мяжой. Гэта



нават давала фізычныя сілы вытрымаць усё бязьмежжа і цынізм супроць мяне.

Зь ліста Міхаіла Марыніча ад 29.06.04 да старшыні КДБ Леаніда Ерына і генэральнага пракурора Віктара Шэймана: «...Чаму Вы так спужаліся і трымаеце мяне ў ізаляцыі любымі, у тым ліку і незаконнымі, сродкамі, зацягваеце сьледзтва, пазбаўляеце мяне свабоды, маіх канстытуцыйных правоў? Вы, як і Вашы супрацоўнікі, лепш за іншых чыноўнікаў у краіне ведаеце, да чаго дыктатарская палітыка прывяла краіну...»

*— Што б Вы параілі палітычным вязьням і тым, хто яшчэ можа трапіць у турму за свае палітычныя перакананьні? Як трымацца? Якія адносіны падтрымліваць зь іншымі вязьнямі, з адміністрацыяй?*

— Перакананы, што палітзьняволеныя ў маральным пляне — байцы, якія ўжо гатовыя да выпрабаваньняў, бо ўвязаліся ў гэтую барацьбу сьвядома. Ціск на палітычных большы, адносіны жорсткія, але і павага сярод вязьняў большая. Трэба адразу трымацца гэтага ўзроўню павагі, не зьніжаць патрабаваньняў да сябе, але і не дазваляць сябе крыўдзіць. Пры гэтым заставацца спакойным і ўпэўненым у сваіх сілах, не рабіць імпульсіўных крокаў, якія адміністрацыя можа трактаваць як парушэньне рэжыму.

У турме шмат прыстойных людзей, дастаткова адукаваных. Мне давялося знаёміцца там з дактарамі, чыноўнікамі, бізнэсоўцамі, людзьмі, у сваіх галінах дастаткова вядомымі. Па шчырасьці, за іх балела сэрца. Ня верылася, што яны ўсе вінаватыя. Мяркую, турмы перапоўненыя невінаватымі людзь-

мі ці тымі, хто зрабіў нязначнае адміністрацыйнае парушэньне.

> *— Яшчэ адна гісторыя — пра Ваш турэмны шлюб. Улады паставілі пад сумнеў Вашу хваробу: маўляў, які інсульт, калі ён у турме ажаніўся?!*

— У нас з Тацянай быў грамадзянскі шлюб, які мы плянавалі ўзаконіць. Зразумела, не ў турме. Да суду, пакуль я знаходзіўся ў «амэрыканцы», Тацяна, як грамадзянская жонка, мела права на спатканьні і перадачы. У калёніі правілы іншыя. Там бяз штампу ў пашпарце на доўгатэрміновае спатканьне разьлічваць немагчыма. Але раптам у мяне здарыўся інсульт, і ўзьнікла пагроза, што я надоўга застануся без падтрымкі. Марудзіць было нельга, і мы вырашылі зарэгістравацца.

Вырашыць арганізацыйныя праблемы ўдалося дзякуючы верным сябрам, імёны якіх я, на жаль, пакуль не магу назваць. Рэгістрацыя шлюбу праходзіла ў маленькім пакойчыку мэдычнай часткі аршанскай калёніі. Акрамя нас, былі два супрацоўнікі адміністрацыі і прадстаўнік ЗАГСу. Нам далі ўсяго 15 хвілінаў на кантакты, хаця паводле закону ў такіх умовах даюць тры дні. Потым улады зьдзекліва выкарысталі факт нашай рэгістрацыі ў калёніі, але хай гэта застаецца на іх сумленьні.

Судзілі Міхаіла Мырыніча ў апошнія дні 2004 году. Па хуткасьці разгляду эпізодаў, апытаньня сьведкаў і іншых судовых дзеяньняў, магчыма, былі ўсталяваныя рэкорды. Усе тры дні маленькая заля Менскага раённага суду перапаўнялася: актывісты, праваабаронцы, журналісты, заўсёды прысутнічалі сыны Ігар і Павал, іх маці Людміла Марыніч — першая жонка Міхаіла Марыніча.



Перад пачаткам першага паседжаньня бліжэйшае да жалезнай клеткі месца ў залі заняла маладая добра апранутая жанчына. Калі журналісты папрасілі яе пасунуцца далей ад праходу — маўляў, ім трэба быць найбліжэй, каб рабіць здымкі і аўдыёзапісы — жанчына рашуча адмовілася. Зьдзіўленьне зьнікла, калі ў «клетку» прывялі Міхаіла Марыніча, і прысутныя сталі сьведкамі сустрэчы з шэптам і пацісканьнем рук праз жалезныя пруты. Заля заціхла, як бывае толькі перад прысудам... Нават міліцыянты, насуперак інструкцыям, не пярэчылі спатканьню. Гэтак з Тацянай Марыніч, тады яшчэ Баранавай, пазнаёміліся і журналісты. Потым празь яе яны першымі атрымоўвалі самыя важныя зьвесткі пра турэмнае жыцьцё Марыніча, у тым ліку і пра тое, што паводле амністыі ён павінен выйсьці на волю.

— Наконт вызваленьня ў мяне былі дваістыя пачуцьці, — кажа Міхаіл Марыніч. — Натуральна, я быў шалёна шчасьлівы атрымаць волю, убачыць родных людзей. Якое сапраўды салодкае слова — свабода! І ўсё ж два гады турмы не прайшлі бясьсьледна. Не, мае вера ды жаданьне змагацца за перамены ня сталі меншымі, скарацца я не зьбіраўся. Але, па-першае, адчуваў сваю адарванасьць ад рэальнага жыцьця, ад апазыцыйнай барацьбы. Нездарма першыя інтэрвію даваліся зь цяжкасьцю. А таксама выхад на волю азмрочыла хвароба. У мяне ж пасьля інсульту была часткова паралізаваная палова тулава, і ўжо на волі гэта працягвалася. Таму ў першую чаргу вырашыў заняцца здароўем, бо толькі здаровым змагу быць карысным грамадзтву. Пачаўся пэрыяд аздараўленьня, які ў пэўнай ступені працягваецца і цяпер. І ён дае вынік, я адчуваю сябе значна лепей. За гэты час на волі ў нас з Тацянай нарадзіўся сын. Мы назвалі яго Міхаілам.

## З архіву «Свабоды»

**13 студзеня 2005 г. Дзень народзінаў**

Сваё 65-годзьдзе асуджаны да 5 гадоў пазбаўленьня волі былы міністар і амбасадар Міхаіл Марыніч сустрэў у менскім сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. Два дні таму спадара Марыніча перавялі туды зь СІЗА КДБ, дзе ён знаходзіўся з 26 красавіка мінулага году. У дзень нараджэньня адміністрацыя ізалятару дазволіла Міхаілу Марынічу 40-хвіліннае спатканьне з жонкай Тацянай.

Тацяна: «Самы вялікі падарунак для нас зь ім — гэта проста нашае спатканьне. Марыніч трымаецца вельмі добра. Ён мужны чалавек зь вялікай сілай волі, верыць, што рана ці позна ён будзе на свабодзе. Ён ні ў чым не вінаваты, і справядлівасьць абавязкова запануе. Ён у гэта верыць — і ягоную веру ўжо зламаць немагчыма. Усе ягоныя сябры сёньня зь ім».

**19 студзеня 2005 г. Дзень спатканьня з сынам**

Палітвязьня наведаў ягоны старэйшы сын Павал Марыніч: «Чалавек не зламаны, сканцэнтраваны. Заяўляе, што абсалютна ўсе абвінавачаньні супраць яго прыдуманыя і сьведчаць пра тое, што рэжым яго баіцца. Знаёмых, казаў, — палова турмы. Ён зьбіраецца напісаць асобны артыкул пра тое, што адбываецца ў ізалятары. Бо там некаторых вязьняў месяцамі трымаюць за такія дробныя парушэньні, што жах. Казаў, калі вядуць па калідорах турмы і зь некім ён сустракаецца, усе яго пазнаюць, усе яго ведаюць, кажуць: “Трымайцеся, мы з Вамі”. Казаў пра велізарную падтрымку ўсіх у ізалятары».



**4 кастрычніка 2005 г. Амаль паўтара году за кратамі**

Былы міністар і амбасадар Міхаіл Марыніч, які адбывае пакараньне ў менскай калёніі, зьвярнуўся да адміністрацыі з просьбай аб датэрміновым вызваленьні з прычыны стану здароўя.

Тацяна Марыніч: «На жаль, у яго зноў зьнікла адчувальнасьць левай паловы тулава, узмацніліся болі ў руцэ і назе. Аб гэтым ён паведамляе дактарам, але пакуль ніякага рашэньня аб датэрміновым вызваленьні не прынята».

**16 лістапада 2005 г. Дзень спатканьня з жонкай**

Інвалідам другой групы прызналі Міхаіла Марыніча дактары з мэдычна-рэабілітацыйнай экспэртнай камісіі Міністэрства аховы здароўя, якія агледзелі вязьня 15 лістапада ў рэспубліканскім турэмным шпіталі. Жонка Міхаіла Марыніча Тацяна распавяла пра сваю сустрэчу з мужам: «Мы бачыліся праз шкло, але ўсё роўна — вялікае шчасьце, што мы ўбачыліся. Ён пачуваецца крыху лепей, цяпер ён у шпіталі. Пасьля кропельніцы адчувальнасьць левай паловы тулава падвысілася. Але ўсё роўна здароўе ня лепшае: вільгаць і холад у турме робяць сваю справу. Нармальна лячыцца ў турэмным шпіталі ўсё адно немагчыма, ён марыць пра тое, як будзе лячыцца ў цывільным шпіталі».

## Валеры Леванеўскі.
**Зьняволены 1 траўня 2004 г. —**
**выйшаў на свабоду 15 траўня 2006 г.**



Валеры Леванеўскі нарадзіўся ў Горадні 15 жніўня 1963 г. Скончыў гарадзенскае ПТВ-49 хімікаў, чатыры курсы Беларускага інстытуту народнай гаспадаркі. Працаваў сьлесарам, рэгуліроўшчыкам радыёапаратуры, кіраваў Гарадзенскім абласным аб'яднаньнем у абарону правоў падаткаплатнікаў, Гарадзенскім гарадзкім цэнтрам абароны правоў спажыўцоў. Кандыдат у майстры спорту па боксе. Жанаты, мае чацьвёра дзяцей.

1 траўня 2004 г. Валеры Леванеўскі быў арыштаваны ў Горадні на мітынгу, удзельнікі якога патрабавалі адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі. Асуджаны да двух гадоў зьняволеньня разам з Аляксандрам Васільевым. Яны кіравалі незарэгістраваным агульнанацыянальным страйкамам прадпрымальнікаў краіны. Суд прызнаў іх вінаватымі ў нанясеньні публічнай абразы прэзыдэнту Аляксандру Лукашэнку. Абвінавачаньне выкарыстала тэкст улёткі, якая заклікала гарадзенцаў прыйсьці на першатравеньскі мітынг, тамсама ж быў надрукаваны верш, у якім сьледзтва выявіла нібыта абразу прэзыдэнта. Адбываў пакараньне ў розных турэмных установах: гарадзенскай турме, івацэвіцкай папраўчай калёніі, баранавіцкім сьледчым ізалятары, магілёўскай папраўчай калёніі, у рэспубліканскім турэмным шпіталі.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Валерыя Леванеўскага вязьнем сумленьня.

Адзін дзень, 7 лістапада 2007 г., у сям'і былога палітвязьня Валерыя Леванеўскага правёў Сяргей Астраўцоў.

Пераглядаю здымкі Валерыя Леванеўскага, зробленыя мною ў першыя гадзіны, калі ён апынуўся на свабодзе. Была сонечная раніца сярэдзіны траўня, і здымкі атрымаліся кантраснымі — такімі, якім здаўся яму самому сьвет навокал, бяз кратаў і калючага дроту. Вось здымак: Валеры ў турэмным адзеньні з усьмешкай на твары. Наступны здымак — з Аляксандрам Васільевым, якога засудзілі разам зь Леванеўскім, але выпусьцілі раней. А вось яны абняўшыся. Далей — Леванеўскі з прадпрымальнікамі, якія прыехалі, каб прывітаць яго на свабодзе, у бярозавым гаі, упершыню за доўгі час з мабільным тэлефонам, размаўляць — гэта сапраўднае задавальненьне!

Праз год пасьля вызваленьня Валеры Леванеўскі прызнаецца:

— У мяне кожны дзень зьняволеньня ў памяці. Зразумела, самая яркая падзея — вызваленьне. Я першы раз у жыцьці ашалеў ад свабоды, у мяне

было менавіта такое пачуцьцё. Таму што я яшчэ ня верыў, мне здавалася, што могуць прыехаць і сказаць — мы памыліліся, ці — вы зьдзейснілі яшчэ нейкае парушэньне і мы вас забіраем. Таму што такія выпадкі здараліся.

Спадар Леванеўскі нават гаворыць, што тады вострa адчуў — ён папросту трапіў з аднаго сьвету ў іншы. Свабода спачатку стала моцным узрушэньнем. Яму цяпер нават здаецца, што адаптацыя была лягчэйшай, калі яго засадзілі за краты, бо ён быў гатовы да непрыемнасьцяў, да правакацыяў, быў напружаным фізычна. А тут высадзілі пасярод вуліцы без кайданкоў, без аховы — і рабі што хочаш.

*— Што дапамагло ў турме адаптавацца?*

— Ну, зразумела, кнігі, творчасьць, таксама вера. І пачуцьцё гумару, бадай.

*— Якая творчасьць?*

— Многія не разумелі, чаму я ўпарта складаў скаргі. А я напісаў іх мноства, здаралася, што за дзень — дзьве-тры. А рэч у тым, — раскрывае свой сакрэт спадар Леванеўскі, — што такім чынам я фіксаваў факты, якія былі ў той дзень. Таму што ведаў: дзёньнікі ў любым разе зьнішчаць, — так яно й здарылася. Але зьмест тых дзён, парушэньні, ціск на мяне засталіся на паперы, таму што копіі скаргаў я адпраўляў адвакату, дахаты, і цяпер па іх можна аднавіць падзеі.

*— Добра, а што сёньня з Вашай задумай наконт «Турэмных зацемкаў»?*

— Кніга пішацца, але я мусіў прадаць гатовыя часткі бяз аўтарскага права. Што зробіш, фінансавыя праблемы, — сьцісла патлумачыў былы палітвязень і крыху ўдакладніў: — У некаторых тэкстах, што бачыў апублікаванымі, знаходжу свае эпізоды...



Арышт, суд, зьняволеньне. Цяпер стаўлюся да гэтага па-філязофску. Раней гэта было шокам. Ня думаў, што ўлады здольныя на тое, каб за выказваньне меркаваньняў даць два гады. Усьвядоміў гэта, толькі калі прыйшоў сьледчы і прапанаваў падпісаць паперы, што я адмаўляюся ад палітычнай дзейнасьці і прызнаю, што ня меў рацыі. У супрацьлеглым выпадку Леванеўскі будзе сядзець да званка, сказаў сьледчы. Так і здарылася.

Думалі-думалі, за што канкрэтна пасадзіць, ды ўрэшце прыдумалі, што калі я абвінавачваю Аляксандра Рыгоравіча ў тым, што ён езьдзіць у Аўстрыю катацца на лыжах, дык, значыцца, я зьдзяйсьняю злачынства...

Вялікага мітынгу гарадзенскіх прадпрымальнікаў, якія ўзьнялі партрэты Лукашэнкі і сталі патрабаваць ягонай адстаўкі, сам Леванеўскі ня ўбачыў, яго схапілі перад самым пачаткам.

— Пасьля гэтага страйкавы рух пайшоў на спад, — падсумоўвае сёньня Леванеўскі.

*— Што было самым цяжкім у зьняволеньні?*

— Разлука з блізкімі, — адказвае Валеры не задумваючыся. — Я нават прасіў: не пазбаўляйце спатканьняў, лепей дайце штрафны ізалятар, хаця ўсе яго баяліся.

У сытуацыі Леванеўскага можна было разьлічваць на тры кароткія спатканьні з роднымі і тройчы на год на даўжэйшыя — да трох дзён. Але яму тры разы запар не дазволілі іх, і тады ён абвясьціў галадоўку, каб сустрэцца зь сям'ёю.

— Тыя, хто сябраваў з адміністрацыяй, маглі часта атрымліваць спатканьні або разьлічваць на тэлефонныя званкі, — гаворыць Леванеўскі. — А мне дазволілі патэлефанаваць толькі аднойчы,

калі памёр бацька. Паабяцалі нават адпусьціць на пахаваньне.

Валеры тады аформіў усе дакумэнты, але разьвітацца з бацькам яму ўрэшце не дазволілі. Засталася душэўная траўма.

— У мяне няма крыўды на ўлады, — тым жа часам сьцьвярджае былы палітвязень. Аднак робіць удакладненьне: — Ёсьць пэўныя службовыя асобы, якія, з майго пункту гледжаньня, зьдзейсьнілі адносна мяне правапарушэньні. Існуе закон, і таму я патрабую, каб тыя, хто ўціскаў мае правы, адказалі за гэта. Напрыклад, судзьдзя, які мяне судзіў. Пазьней яго злавілі на хабары.

Валеры Леванеўскі мяркуе, што гэта Божы суд. Судзьдзю схапілі «на гарачым», але ён сам звольніўся з працы і пазьбег пакараньня, таму былы палітвязень напісаў скаргу генэральнаму пракурору. Ён зьвярнуўся таксама ў камісію ААН па правах чалавека.

У Валерыя Леванеўскага чацьвёра дзяцей: дачка і тры сыны. Апроч меншага Антона, усе ўжо дарослыя, вучацца ў вышэйшых навучальных установах. Жонцы Марыне сьледчы гаварыў: «Як гэта Ваш муж гэтак безадказна робіць, маючы такую вялікую сям'ю?»

*— Ці не шкадуеце цяпер?*

— Так, сапраўды пацярпела ўся сям'я, — згаджаецца ён. — Жонка не магла знайсьці годную працу, маючы дзьве вышэйшыя адукацыі, дзецям таксама было складана. Фінансава было цяжка і, каб не знаёмыя і сябры, было б яшчэ цяжэй.

Мы вяртаемся да турэмнага жыцьця: чаго яму хацелася зьесьці, якой стравы не хапала за кратамі? Аказваецца, для спадара Леванеўскага гэта вельмі



простае пытаньне, яго звычайна задавальняе «чыста армейская ежа». Іншая рэч, што ў калёніі на зьняволеных любяць «эканоміць». Куды яны паскардзяцца? А вось Леванеўскі не маўчаў. У выніку яму прыносілі ежу і паведамлялі: сёньня павінна быць семдзесят грамаў тушонкі, бралі з бляшанкі і на вачах клалі ў місу.

— А калі няма мяса — усё, да пабачэньня, есьці ня буду, — успамінае былы палітвязень, — а яны павінны выпадкі адмовы фіксаваць.

Праблемы ўзьнікалі, калі ён за іншых асуджаных заступаўся. Але ня будзь ён Леванеўскім, каб не наладзіў змаганьне вязьняў за свае правы. І яны пачалі масава пісаць: дайце белага хлеба, дайце тое, што належыць паводле нормаў.

*— Два гады зьняволеньня не мінаюць бясьсьледна. Што забрала турма ў былога палітвязьня Леванеўскага?*

— Назаўсёды забрала бацьку. Забрала рэшткі веры ў існаваньне прававой дзяржавы. Таму што раней заставаліся астраўкі надзеі на тое, што ў краіне яшчэ недзе могуць прытрымлівацца закону. Цяпер я проста бачу: гэта машына, якая ламае людзей, што трапілі ў яе. У Беларусі застаюцца палітзьняволеныя, хаця ўлады гэтага не прызнаюць. Я спадзяюся, што мой досьвед адстойваньня сваіх правоў прыдасца тым, хто сядзіць цяпер.

*— Чым Вы сёньня займаецеся?*

— Крыху — прадпрымальніцкай дзейнасьцю, у асноўным распрацоўкай праграмнага забесьпячэньня, цікаўлюся, натуральна, палітыкай. А таксама спрабую гадаваць маладых лідэраў прадпрымальніцкага руху, бо зацікаўлены, каб Беларусь разьвівалася, а бяз граматнай і разумнай апазыцыі разьвіцьця грамадзтва ня будзе.

Вяртаючыся ў памятны для яго дзень вызваленьня, мы ўзгадваем яшчэ аб адным: першы за два гады келіх шампанскага быў, зразумела, за свабоду, другі — за тое, каб за перакананьні не саджалі за краты, але гэта хутчэй — як пажаданьне на будучыню.

Жонка Леванеўскага Марына сказала пра тое, што дапамагло ёй чакаць Валерыя, коратка, але ёміста: «Я яго кахаю!».

## З архіву «Свабоды»

**12 жніўня 2004 г. 104-ты дзень за кратамі**

Валеры Леванеўскі хоча вылучацца ў Палату прадстаўнікоў шляхам збору подпісаў. Кіраўніком яго ініцыятыўнай групы будзе сын Уладзімер. У акруговай выбарчай камісіі Ўладзімеру сказалі, што ягоны бацька вылучацца можа, хаця і знаходзіцца ў сьледчым ізалятары. Праўда, паводле Выбарчага кодэксу кандыдат павінен падаць дакумэнты ў камісію асабіста. Але Ўладзімеру таксама сказалі, што іх можа здаць ён, калі бацька падпіша паперы.

**16 жніўня 2004 г.**

З турэмнага дзёньніка Леванеўскага: «Хтосьці спэцыяльна выключыў у нашай камэры гарачую ваду... Памыўся халоднай вадой. Кеша і Сяргей мыцца пад халоднай вадою адмовіліся. Кеша, сукамэрнік, 49 гадоў. Сядзеў, паводле ягоных словаў, шмат разоў. У камэру прыйшоў два-тры тыдні таму, брудны, безь бялізны, без шкарпэтак, у падраных спартовых портках і зімовых чаравіках... Адмылі мы яго... Любіць лазіць па маіх рэчах, калі я сплю. Перадачаў яму ня носяць. Можа дзень і ноч сам з сабою размаўляць. Пастаянна крыўдзіць Сярожу. Сяргей з Наваградку, 1977 году нараджэньня. Глуханямы. Пасадзілі яго



дзён 10 таму, таксама ўсяго бруднага і абадранага. І дзе яны такіх знаходзяць? Увесь час мыкае нешта. Жыве ў асноўным інстынктамі: пад'есьці, схадзіць у прыбіральню і г. д. Але патроху выхоўваецца. Навучыў я яго мыць рукі пасьля прыбіральні. Стымул — цыгарэта...»

**15 траўня 2006 г. Першы дзень на волі**

З самага ранку спадара Леванеўскага з калёніі «Воўчыя норы», што ў Івацэвіцкім раёне, пакуль ніхто не пасьпеў прыехаць сустрэць, завезьлі ў суседні Слонім. Аднак ён паведаміў пра гэта праз тэлефон, і сустрэча з роднымі, а таксама з актывістамі прадпрымальніцкага руху з розных гарадоў Беларусі адбылася ўжо ў гэтым горадзе.

Даставілі Валерыя ў Слонім на машыне мэдычнай службы й далі на дарогу 25 тысячаў рублёў. Былы вязень прызнаецца, што трымаў у руках грошы аднойчы за два гады.

Спадар Леванеўскі: «Адразу скажу: зьяжджаць нікуды не зьбіраюся, хаця ўсе мне раілі зьехаць адсюль чым хутчэй. Буду я тут: чым змагу, тым радзіме дапамагу. Таму што тут мая зямля, мае карані. Я хацеў бы, каб мае дзеці і ўнукі жылі ў гэтай краіне, у нармальным цывілізаваным грамадзтве».

# Аляксандар Васільеў.

**Зьняволены 7 верасьня 2004 г. — выйшаў на свабоду 7 ліпеня 2005 г.**



Аляксандар Васільеў нарадзіўся 18 сакавіка 1946 г. у сяле Галіцына Пензенскай вобласьці Расеі. Пасьля вайсковай вучэльні скончыў артылерыйскую акадэмію ў Ленінградзе, служыў у ракетных частках сухапутных войскаў. З 1964 па 1991 г. — у Савецкай арміі, скончыў службу ў Асіповічах, падпалкоўнік. Двойчы служыў у ГДР, быў сьведкам разбурэньня Бэрлінскага муру. Жанаты, мае з жонкай Натальляй дачку і сына. Ад дачкі ад першага шлюбу мае дваіх унукаў.

У верасні 2004 г. суд прызнаў Аляксандра Васільева вінаватым у нанясеньні публічнай абразы прэзыдэнту Аляксандру Лукашэнку, злучанай з абвінавачаньнем яго ў цяжкім злачынстве. Адначасова Васільеў быў прызнаны вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу прадпрымальнікаў 1 траўня 2004 г., за што суд прызначыў яму паўтара году зьняволеньня. Але паколькі больш значнае пакараньне паглынае менш значнае, Васільева пасадзілі на два гады. Абвінавачаньне выкарыстала тэкст першатравеньскай улёткі, якую распаўсюдзілі Валеры Леванеўскі з Аляксандрам Васільевым, дзе быў надрукаваны верш, у якім суд убачыў абразу прэзыдэнта. Палітвязень выйшаў на волю паводле амністыі. Апроч гарадзенскай турмы, сядзеў у аршанскай папраўчай калёніі, а пасьля знаходзіўся ў рэспубліканскім турэмным шпіталі.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Аляксандра Васільева вязьнем сумленьня.

Больш чым праз два гады пасьля вызваленьня з-за кратаў адзін дзень, 12 лістапада 2007 г., з былым палітвязьнем Аляксандрам Васільевым правёў Сяргей Астраўцоў.

Мне давялося быць сьведкам таго, як разгортваліся падзеі вакол «справы Леванеўскага — Васільева», кіраўнікоў агульнанацыянальнага страйкаму прадпрымальнікаў, які ня быў зарэгістраваны. Яны здолелі, можа, нават самі таго не чакаўшы, падрыхтаваць масавы мітынг, на якім вылiлiся эмоцыі гарадзенцаў: «Лукашэнку — у адстаўку! Не — трэцяму тэрміну! Свабоды!!!». Валеры Леванеўскі гэтага пачуць ня мог, ён ужо сядзеў у пастарунку. Аляксандар Васільеў, наадварот, знаходзіўся на плошчы Леніна і ўсё чуў і бачыў на ўласныя вочы.

У судовай справе падзеі 1 траўня 2004 году ў Горадні назвалі «масавымі беспарадкамі», а ў канчатковым прысудзе спадары Леванеўскі і Васільеў атрымалі па два гады зьняволеньня «за публічную абразу прэзыдэнта». Перад заканчэньнем працэсу Аляксандар Васільеў сказаў Радыё Свабода, што любы прысуд прыме з годнасьцю і што «лічыць за гонар пацярпець за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі». Калі яго

спыталі: «За што сядзіш?», ён адказаў з гумарам: «За тое, што спрабаваў расхістаць пасад...»

Палітвязень прызнаецца: сам факт, што ён быў асуджаны і трапіў у турму, непрыемны, але не нечаканы для яго, паколькі, калі яны зь Леванеўскім працавалі сярод прадпрымальнікаў і займаліся палітычнай дзейнасьцю, ён даўно адчуваў асаблівую цікавасьць да сябе з боку спэцслужбаў і міліцыі. Калі спадар Васільеў зьбіраўся на апошняе паседжаньне ў суд, ужо разумеў, чым мае закончыцца працэс, таму прыняў душ, пастрыгся, выпіў апошні раз нармальнай кавы, гарбаты, усьведамляючы, што ў турме трэба будзе на гэта забыцца.

Але сёньня ён цьвёрда стаіць на сваім:

— Я ніколі не шкадаваў пра тое, што зьдзейсьніў, я дзейнічаў так, як мне падказвала сумленьне. Каб назад адыграць, я рабіў бы тое самае. Таму, калі ўлады спадзяваліся, што пахіснуць мае перакананьні, гэта дарэмна. Калі б я зрабіў па-іншаму, напэўна, да самога сябе ня меў бы павагі.

*— А якія былі цяжкія моманты?*

— Калі ў кватэры рабілі ператрус, ня ўсе спакойна гэта перанесьлі, у дачкі Яўгеніі быў стрэс і потым пэўныя праблемы. Таму што нечакана ўварваліся чужыя людзі, усё забралі: кампутар яе, запісы, нават чыстую паперу. Яна прывыкла, што дом ёсьць дом. А тут зьнянацку прыходзяць нейкія дзядзькі — восем чалавек, усё перакульваюць, забіраюць. Жэня — ранімы чалавек, — гаворыць былы палітвязень.

Пасьля зьняволеньня Аляксандар Васільеў адчуў праблемы са здароўем. Раней зрок быў амаль «адзінка», а як выйшаў з-за кратаў, дык зь цяжкасьцю прайшоў мэдкамісію для кіроўцаў, таму цяпер ён можа езьдзіць толькі ў акулярах. Чаму так? Былы палітвязень узгадвае 108-ю камэру СІЗА ў гарадзенскай турме. Там адна лямпачка, а памяшканьне — шэсьць на шэсьць мэтраў. Паводле нормаў там належыць утрымліваць ня больш за васемнаццаць чалавек, а было трыццаць пяць і болей. Палітвязень расцэньвае гэта як катаваньне. Таму што ў законе напісана: на кожнага асуджанага павінна быць ня менш за два квадратныя мэтры, а насамрэч — адзін мэтар і нават менш. На лецішчы ён цяпер займаецца гадоўляй трусоў, на аднаго дарослага труса трэба 0,7–0,8 квадратнага мэтра. Выходзіць, у турме ўтрымліваюць людзей як трусоў, робіць выснову палітвязень.



У тых умовах чалавек папросту страчвае здароўе. У цеснаце, антысанітарыі, напрыклад, распаўсюджваюцца сухоты. Прыйшоў здаровы, выйшаў на волю з хваробай. У 108-й камэры якраз быў хворы на сухоты. І да ўсяго не хапала паветра.

— Уяўляеце, — гаворыць спадар Васільеў, — у гэтай клетцы ўсе паляць, я ня мог ім забараніць, я адзін некурэц, у мяне алергія, няма чым дыхаць. Праз створаныя там скоцкія ўмовы я страціў частку свайго здароўя, трапіў пазьней у турэмны шпіталь...

Пасьля вызваленьня польскія калегі запрасілі спадара Васільева ў Беласток, дзе ён наведаў турму і ўбачыў, што там сапраўды Эўропа, цывілізацыя. Умовы ўтрыманьня зусім іншыя. Адзін толькі прыклад: у беластоцкай турме нармальныя вокны, у гарадзенскай — усе вокны закратаваныя і дадаткова зашытыя мэталічнымі плястынамі, сьвятло з вуліцы зусім не трапляе. Палякі кажуць: у іх таксама гэтак было раней, пры камуністах, але ўсё перарабілі. Аляксандар Васільеў разважае:

— У Беларусі ў турмах стараюцца прынізіць, абразіць, растаптаць. А там злачынцу ізалююць, але каб зьдзекавацца зь яго — такога няма.

Людзі, якія ўдзельнічаюць у расправе над іншадумцамі, павінны быць прыцягнутымі да крымінальнай адказнасьці, лічыць палітвязень. Люстрацыя — справядлівая рэч. Немагчыма забыць тых, хто ў турмах «прэсаваў», хто ствараў невыносныя ўмовы. Палітвязень падкрэсьлівае пры гэтым: і ў Воршы, і ў Горадні сустракаліся розныя супрацоўнікі пэнітэнцыярнай сыстэмы: адны прытрымліваліся закону, іншыя — наадварот. Прозьвішчы гэтых людзей зафіксаваныя, іншымі зьняволенымі таксама, тым жа Міхаілам Марынічам, зь якім яны сядзелі разам у Воршы...

Два дні з тых драматычных падзеяў засталіся ў памяці палітвязьня. Першы — калі пасьля суду кінулі ў турму, у гэтак званы каранцін: у куце груд сьмецьця, смурод, ні матрацаў, нічога. Шэсьць чалавек у камэры два на тры мэтры. Гэта быў, зразумела, шок. Потым агледзеўся: на другім ярусе — бялявы хлопец з выгляду гадоў пятнаццаці-шаснаццаці. І Васільеву падумалася: калі трымаецца той бялявы, значыцца, трэба трымацца. Адчуў у турэмным ізалятары, што найлепшая абарона — гэта сьціснуць нэрвы ў кулак, супакоіцца і — што будзе, тое будзе. І другі памятны дзень — гэта дзень вызваленьня, калі нечакана выклікалі, вывелі за КПП і адпусьцілі. Гэта было ў Менску на Кальварыйскай. Паехаў на аўтавакзал, зайшоў у блінную, узяў бліноў, і яны здаліся такімі смачнымі, смачнейшага, здаецца, у жыцьці нічога ня еў.

*— Хоць штосьці карыснае з турэмнага жыцьця можна ўзгадаць?*

— Бадай што, — пагаджаецца Васільеў. — У Воршы зьбіраліся ў бібліятэцы чалавек дзесяць, абмяркоўвалі рознае, стварыўся дыскусійны клюб, і было вельмі цікава. У турме даводзілася размаўляць з многімі людзьмі, працэнтаў дзесяць зь іх — чыноўнікі: адзін трапіў за хабар, другі — за махінацыі нейкія, нехта нешта прапусьціў... Але часта саджаюць за дробязь, за сорак–шэсьцьдзесят даляраў, прычым на вялікія тэрміны. Улада гаворыць аб сваёй бязьмежнай любові да народу, але тым жа часам на тысячу насельнікаў у нас асуджаных у чатыры разы болей, чым у Польшчы, — падсумоўвае Васільеў.

Вытрываць у зьняволеньні дапамагло тое, што Аляксандар Васільеў быў упэўнены ў сваёй рацыі:

— Я ніякага злачынства, з пункту гледжаньня закону, не зьдзяйсьняў. Мяне асудзілі па палітычных матывах. Хаця міністар унутраных справаў сьцьвярджае, што ў нас няма палітзьняволеных, — яны ёсьць. У гутарках з турэмнымі афіцэрамі я заўжды казаў: я маральна не пераможаны, не зламаны, і нават калі мяне паставяць да сьценкі — не адмоўлюся ад свайго. Мне ў турме споўніліся 59 гадоў, свае перакананьні я мяняць не намераны. Мая перакананасьць дапамагала выжыць у нечалавечых, я лічу, умовах.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Былы палітвязень гаворыць, што ўдзячны Радыё Свабода ды іншым журналістам за тое, што нагадваюць пра палітзьняволеных.

— Улады робяць усё, каб схаваць праўду, нідзе ў дзяржаўных мэдыях гэтыя пытаньні не закранаюцца. Атрымліваецца — няма палітзьняволеных, няма й праблемы. Але як толькі грамадзтва забудзе на палітзьняволеных, ва ўладаў разьвяжуцца рукі і яны змогуць зрабіць зь імі што захочуць, — перакананы Аляксандар Васільеў. — І пакуль Казулін, Клімаў, Статкевіч, Дашкевіч ды іншыя сядзяць у турмах за свае палітычныя перакананьні, ім патрэбная падтрымка. Яны даказваюць, што ня ўсе ў Беларусі загнаныя ў кут, што ёсьць людзі, якія не баяцца выказваць сваё меркаваньне.

Спадар Васільеў піша лісты Аляксандру Казуліну. Яму самому дапамагалі лісты ад сяброў, а перад Новым годам ён атрымаў віншаваньне ад амэрыканскага амбасадара.

Цяпер Аляксандар Васільеў больш не прадпрымальнік, ён здаў пасьведчаньне. Яму 62 гады, зь лёгкай усьмешкай ён гаворыць, што займаецца гадоўляй трусоў, улетку вырошчвае грыбы на пнях, вешанкі. Часам бывае на радзіме — у Пензенскай вобласьці Расеі. Яго закранула, што на прэсавай канфэрэнцыі для правінцыйнага расейскага друку, што зьбірае прэзыдэнт Лукашэнка, прысутнічаў журналіст зь «Пензенской правды». Будучы ў Пензе, ён наведаў рэдакцыю, расказаў землякам, за што сядзеў, якая сытуацыя з прадпрымальніцтвам, пра абстаноўку ў краіне. Не без задавальненьня кажа: глядзеў па тэлевізары апошнюю такую прэс-канфэрэнцыю, і прадстаўніка «Пензенской правды», здаецца, не было.

Палітвязень вельмі ўдзячны сваёй жонцы Натальлі. Калі захварэў, яна прыехала ў Воршу, настойліва патрабавала, каб прымалі меры. Яна не баялася размаўляць з турэмшчыкамі: муж ні ў чым не вінаваты, а яго за кратамі пазбаўляюць яшчэ здароўя! У яго абвастрыўся панкрэатыт, пакутаваў на моцны гастрыт, пачаліся праблемы зь ціскам. Менавіта дзякуючы яе настойлівасьці яго адправілі ў турэмны шпіталь у сталіцу, перакананы Аляксандар:

— У гэтых адносінах мая жонка малайчына.

## З архіву «Свабоды»

### 10 верасьня 2004 г. Дзень спатканьня

Першае спатканьне з роднымі мелі асуджаныя да двух гадоў за публічную абразу прэзыдэнта Лукашэнкі Валеры Леванеўскі і Аляксандар Васільеў.



Яны знаходзяцца ў сьледчым ізалятары гарадзенскай турмы. Іх трымаюць у розных камэрах, якія перапоўненыя вязьнямі, таму абодвум няма дзе спаць. Сын Леванеўскага Ўладзімер размаўляў з жонкай Аляксандра Васільева Натальляй. Яна і дзеці, Яўгенія і Зьміцер, спакаліся з мужам і бацькам.

### 15 сакавіка 2005 г. 158-мы дзень зьняволеньня

Жонка палітвязьня Аляксандра Васільева Натальля Васільева накіравала скаргі генэральнаму пракурору, міністру ўнутраных справаў ды ў іншыя ўстановы. Аляксандар Васільеў сядзіць у аршанскай папраўчай калёніі. У яго ёсьць праблемы са здароўем, але яго прымушаюць працаваць там, дзе патрэбны фізычныя намаганьні.

### 5 верасьня 2005 г. Дзень адкрыцьця бібліятэкі ў калёніі

У івацэвіцкай калёніі № 22 адкрылася бібліятэка, створаная якой ініцыяваў вязень калёніі, лідэр гарадзенскіх прадпрымальнікаў Валеры Леванеўскі. Апошні раз сын Леванеўскага Ўладзімер сустракаўся з бацькам у калёніі на мінулым тыдні. Разам зь ім прыяжджаў Аляксандар Васільеў, паплечнік Леванеўскага ў страйкаме прадпрымальнікаў — ён нядаўна вызваліўся з аршанскай калёніі, дзе адбыў год. Я спытаўся ў Аляксандра, якая мастацкая літаратура найбольш папулярная ў вязьняў. Ён згадаў раман Рэмарка «На заходнім фронце бязь зьменаў».

Спадар Васільеў: «Вязьні шмат чыталі менавіта гэтую кнігу, і я таксама яе чытаў. Там апісваюцца франтавыя ўмовы, якія вязьням падаюцца падобнымі да турэмных. Той жа тлум, які спараджае ўнутраныя канфлікты. Турма, як і вайна, для людзей і трагедыя, і вялікае выпрабаваньне».

• Недзяржаўныя газэты пазбаўляюць падпіскі і распаўсюду празь дзяржаўныя структуры
• У Крымінальны кодэкс дадаюць артыкулы «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусі» і «Дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі»
• Аб’яднаная апазыцыя вылучае адзіным кандыдатам на прэзыдэнцкіх выбарах Аляксандра Мілінкевіча
• Сваю кандыдатуру выстаўляе экс-рэктар БДУ Аляксандар Казулін
• Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт рэгіструецца ў Літве



# 2005

Зьняволеныя:
**Сяргей Скрабец** (травень)
**Мікола Статкевіч** (ліпень)
**Павал Севярынец** (жнівень)
**Мікалай Аўтуховіч** (кастрычнік)
**Андрэй Клімаў** (верасень, зьняволены другі раз)
**Артур Фінькевіч** (сьнежань)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Аляксандар Васільеў** (выйшаў на свабоду ў ліпені)
**Юры Бандажэўскі** (выйшаў на свабоду ў жніўні)
**Валеры Леванеўскі**
**Міхаіл Марыніч**

# Сяргей Скрабец.

## Зьняволены 15 траўня 2005 г. — выйшаў на свабоду 15 лістапада 2006 г.



Сяргей Скрабец нарадзіўся 25 кастрычніка 1963 г. у Лідзе на Гарадзеншчыне. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў інжынэрам-тэхнолягам, у 1990-х гг. — у камэрцыйных структурах, ад 1997 да 2001 г. — генэральны дырэктар гандлёвага дому «Бел-Бабаеўскае». Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі 2-га склікання (2000–2004). Некаторы час узначальваў нефармальную дэпутацкую групу «Рэспубліка». Летам 2004 г. разам з дэпутатамі з гэтай групы Ўладзімерам Парфяновічам і Валерыем Фраловым правёў галадоўку пратэсту супраць трэцяга тэрміну Аляксандра Лукашэнкі і супраць унясеньня паправак у выбарчае заканадаўства, а таксама за вызваленьне палітвязьня Міхаіла Марыніча. Пазьней Скрабец актыўна ўдзельнічаў у грамадзкіх акцыях з патрабаваньнем вызваленьня Аляксандра Казуліна і іншых палітвязьняў. Быў адным з арганізатараў акцыі пратэсту, прымеркаванай да 10-годзьдзя прэзыдэнцтва Лукашэнкі. Мае сына і дзьвюх дачок.

У траўні 2005 г. Сяргей Скрабец быў арыштаваны і зьвінавачаны ў выманьваньні крэдытаў. Асуджаны ў лютым 2006 г. да двух з паловай гадоў. Адбываў пакараньне ў Віцебскай калёніі, дзе разам з Аляксандрам Казулінym трымаў галадоўку. Рашэньнем пракуратуры тэрмін зьняволеньня Сяргея Скрабца быў скарочаны на адзін год.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Сяргея Скрабца вязьнем сумленьня.

Ліпень 2006 г. Больш за год жанчыны, жонка і дачка Сяргея Скрабца, чакаюць дома мужа й бацьку. Адзін дзень, 7 ліпеня 2006 г., у сям'і палітвязьня правяла Іна Студзінская.

У Скрабцоў звычайная трохпакаёўка ў панэльным доме ва Ўруччы. Абстаноўка даволі сьціплая, звычайная мэбля 1980-х гадоў. Няма раскошы й багацьця — кватэра зусім не падобная на элітнае жытло сучасных камэрсантаў. Але вельмі чыста і ўтульна, асабліва ў пакойчыку дачкі Наташы. У доме засталіся толькі жанчыны, жонка Аляксандра і 16-гадовая дачка Натальля. Спадарыня Аляксандра лекарка, працуе ў лечкамісіі. Вельмі сучасная, стыльная, абаяльная жанчына, умее ўсё рабіць сама — і цьвік забіць, і машынай кіраваць. Але яна прызнаецца:

— Цяжка жыць бяз нашых любімых мужчынаў. У асноўным мы жывем чаканьнем, што кожны пражыты дзень набліжае нашу сустрэчу. Таму на ўсе жыцьцёвыя цяжкасьці не зьвяртаем увагі. Умею ўсё рабіць сама. Дый жанчынам заўсёды трэба менш.

У нас з дачкой то дыета, то да бабулі паехалі, то да цёткі — усё робім, каб хутчэй час прайшоў...

Скрабцам пашанцавала: маці Сяргея жыве недалёка, амаль праз дарогу. Сям'я Сяргея вельмі сябруе і зь сям'ёй брата Аляксандра. Усе сьвяты заўсёды разам. Цяпер таксама ўсе разам, але кампанейскага Сяргея ўсім вельмі не хапае.

— Было б дзіўна, калі б было інакш, — зазначае спадарыня Аляксандра. — Няма галоўнага чалавека ў сям'і... Дома мы амаль ня робім ніякіх сьвятаў. Нават на дні нараджэньня — і сына, і дачкі, і мой — мы ідзём да бабулі. Мне здаецца, што было б цяжэй, калі б мы былі ў сваёй кватэры, а Сяргея няма. Цяпер сьвяты заканчваюцца са сьлязамі на вачах... Верым, што хутка будзем разам.

Тое, што здарылася зь Сяргеем, паставіла ўсе кропкі над «і» ў дачыненьнях са шматлікімі сябрамі, калегамі былога дэпутата, якіх да арышту было вельмі шмат, кажа спадарыня Аляксандра:

— Тыя, на каго падумаць не маглі, адвярнуліся. І наадварот, на каго таксама падумаць не маглі, сталі тэлефанаваць і падтрымліваць. Я нікога не асуджаю, і нікому не жадаю трапіць у сытуацыю, у якую трапіла я. Адпомсьціць — няма такога жаданьня.

На матэрыяльныя цяжкасьці Аляксандра ня скардзіцца. Яна працуе лекаркай на паўтары стаўкі, яшчэ бярэ начныя дзяжурствы:

— Плакаць ня буду. Нам хапае. Я ўдзячная дачцэ, што яна ня просіць нічога. Раней як лета — абавязкова патрэбныя новыя басаножкі. Цяпер такога няма. І потым, у мяне ж вёска й шасьцёра братоў. Усю зіму яны мне перадаюць мясныя харчы. А з раньняй вясны — гародніну. І бацькі Сяргея таксама падтрымліваюць. Перадачы для Сяргея і для сына, які вучыцца ў Празе, разам рыхтуем — і ў турму, і ў Прагу.



*— Што дапамагае чакаць — праца, клопат пра дзяцей?*

— Мне дапамагае праца. Я ведаю, што там мяне чакаюць. Вось я прыйшла першы дзень пасьля адпачынку... Думала, што буду дванаццаць гадзінаў на прыёме, бо было столькі народу! Да чужога доктара людзі не ішлі. Чакалі мяне. Мне гэта вельмі прыемна. Я жыву працай і дзецьмі. Сын Мікалай вывучае інфарматыку ў Празе, дасканала вывучыў чэскую мову, пасьпяхова здаў сэсію, хутка прыедзе на вакацыі. Дачка Натальля вучыцца ў ліцэі БДУ. Я ёй вельмі ўдзячная, што яна не стварае вялікіх праблемаў. За апошні год яна стала вельмі дарослай. Не па гадах. Менавіта дачка мяне падтрымлівае, як ніхто.

*— Моцнай рукі бацькі дзецям не хапае?*

— У нас часьцей я сварылася на дзяцей, нейк іх карала. А Сяргей наадварот — больш ляяльны. Ён заўсёды казаў: «Дзеці, у нас галоўны чалавек — маці. Не хвалюйце яе». Я думаю, што дзяцей трэба выхоўваюць любоўю... Яны заўжды адчувалі гэта.

Размаўляем са спадарыняй Аляксандрай пра тое, каго бацька больш любіць: сына-першынца ці малодшую дачку. Тут заходзіць 16-гадовая прыгажуня Наташа... Аляксандра працягвае:

— Мне здаецца, мужчыны чакаюць сыноў, а любяць больш дачок. Нават калі б Наташка кватэру спаліла, Сяргей сказаў бы: нічога, дачушка, будзем жыць у шалашы. А сыну за найменшую правіну: ты мужык ці не? Да сына больш строгі, а адносна дачкі... Сын у нас — негадзяйчык, а дачка — курачка.

*— Наташа, а мама хто?*

— Мама — Санька, а тата — татачка. Я заўсёды карысталася тым, што я ў татачкі любімая, татачка даруе. Пакрыўдзіць Коля альбо маці — адразу тату званю: «Мяне тут крыўдзяць». Тата выратуе заўж-

ды. Тата — наш выратавальнік. Зразумела, з татам перапісваемся. Усё яму расказваю пра ўсіх. Я ўвесь час для яго малодшанькая. Цяпер «разьведкай» ён мяне называе. Усё яму пра маму, пра Колю раскажу... Пішу праз дзень.

Тры-чатыры лісты на тыдзень ад Сяргея атрымліваюць асобна Наташа і асобна Аляксандра.

— Ён піша, што сумуе, — кажа Аляксандра, — супакойвае нас, што ўсё будзе добра, што ён хутка вернецца. Каб мы берaглі сваё здароўе. Пра сябе піша, што ў яго ўсё нармалёва. Я толькі здагадваюся праз тое, якія ён просіць лекі, што ў яго падагра ці ныркі баляць.

Падчас арышту, яшчэ да суду, Сяргей чатыры разы трымаў галадоўку. Спадарыня Аляксандра лекарка, і яна добра ведае, якія могуць быць наступствы, ды і ёй гэтыя галадоўкі таксама даліся вельмі цяжка:

— У нас заўсёды зь ім нейкая трывалая сувязь. І калі ён галадаў, мне здавалася, калі я буду моцна спаць, перарвецца гэтая сувязь, і зь ім нешта здарыцца. Таму я прайшла праз усё тое, што і ён. Начамі я ня спала. Мне здавалася, што так я яго падтрымліваю. І ён адчуваў гэта.

*— Спадзяецеся на датэрміновае вызваленьне?*

— Зразумела, спадзяюся, што Сяргей выйдзе раней. А калі не, то мы з дачкой вырашылі, што быццам наш бацька служыць у войску, таму што засталося паўтара году — столькі, колькі ў арміі служаць. Вельмі чакаем, думаем, як сустрэнемся... Мне цяжка гаварыць... (*Плача.*)

Але гэта была хвілінная слабасьць. Спадарыня Аляксандра вельмі хутка сабралася, выцерла сьлёзы: трэба адвезьці сьвякроў на лецішча, памыць машыну, праверыць, ці сабрала Наташка рэчы да бабулі ў вёску. А ўвечары — на начное дзяжурства...





• Лета 2004. Удзельнікі галадоўкі пратэсту

## З архіву «Свабоды»

**15 траўня 2006 г. Год, як арыштавалі**

Роўна год таму ранкам 15 траўня 2005 г. Сяргей Скрабец выйшаў са сваёй кватэры, каб пайсьці ў басэйн. Аляксандра Скрабец узгадвае, што для яе той дзень стаўся суцэльным стрэсам: «Заўжды, калі Сяргей выходзіць з дому, я ў вакно гляджу. А тады якраз нядзеля была. Ён з самай раніцы пабег у басэйн, а я дазволіла сабе ўстаць пазьней. Калі Сяргей мне патэлефанаваў і паведаміў, што яго затрымалі, першае, пра што падумалася, — чаму ж я ня глянула

ў вакно? І толькі пасьля, калі мне дазволілі спатканьне, даведалася, што яго затрымалі каля лесу. Так што я ўсё роўна нічога б не пабачыла. Але ж чамусьці праз гэта вельмі перажывала».

**15 чэрвеня 2006 г. Дзень першага спатканьня з роднымі ў калёніі**

Маці зьняволенага Сяргея Скрабца Ніне Рыгораўне, жонцы Аляксандры і дачцэ Натальлі дазволілі чатыры дні пажыць у інтэрнаце пры калёніі «Віцьба-3».

Ніна Скрабец: «Натуральна, уражаньні цяжкія. Таму што я пабачыла бяспраўнага чалавека ў турэмнай вопратцы. Уяўляеце, як гэта было бачыць маці? Вельмі жахліва. Настрой у яго нядрэнны. Ён ужо не такі худы ды страшны, якім быў падчас суду. Ён цяпер не галадае. Ніколі ня скардзіцца. Гаворыць, што ўсё добра: там і паветра колькі хочаш, і газоны».

**13 верасьня 2006 г. Дзень па спатканьні ў калёніі**

Сын зьняволенага, 19-гадовы Мікалай, ня бачыў бацькі ўжо два гады. Аляксандра Скрабец: «Сын гаворыць: мама, мне так цяжка было бачыць бацьку ў ягонай турэмнай робе. Калі мы зьбіраемся да Сяргея, дык усё адбываецца зь вялікім стрэсам. Мінулы раз мы ўзялі з сабою спартовы касьцюм, пантофлі. Сяргей пераапрануўся і выглядаў па-хатняму. А гэтым разам мы неяк пра гэта забыліся. І Сяргей два дні так і прабыў у казённым адзеньні».

**25 кастрычніка 2006 г. Дзень нараджэньня за кратамі**

Сёньня Сяргею Скрабцу споўнілася 43 гады. 24 кастрычніка быў дзень народзінаў у ягонай жонкі, спадарыні Аляксандры. Раней Аляксандра і Сяргей аб'ядноўвалі свае дні народзінаў.



Аляксандра Скрабец: «Як правіла, мы заўсёды сьвяткавалі менавіта 25 кастрычніка. Бо быццам бы загадзя адзначаць дзень народзінаў нельга. І мы заўсёды сумяшчалі гэтыя сьвяты. І жартавалі, што ў нас дні народзінаў — як вясельле, таму што тосты звычайна ўсе былі за дваіх. Таму мой учарашні дзень народзінаў быў сумны. Сапраўды, атрымалася сумнае сьвята. Гэта быў ужо другі дзень народзінаў безь Сяргея».

**16 лістапада 2006 г. Другі дзень на свабодзе**

Сяргей Скрабец: «Натуральна, вера ў будучыню засталася. На мой пагляд, вера і сэнс жыцьця — гэта адно і тое ж пытаньне, і кожны сам задае яго сабе на працягу ўсяго жыцьця. Я магу сказаць ня толькі за сябе, але і за свайго сябра Аляксандра Казуліна, што мы верым у будучыню нашых дзяцей, у будучыню нашай краіны, у тыя каштоўнасьці, у якія верыць увесь сьвет: у дэмакратыю, свабоду, правы чалавека. Веру ў тое, што чалавек сам мае права выбіраць свой шлях. Ёсьць нешта ў нашым жыцьці, акрамя чаркі і шкваркі, што вельмі важнае для кожнага».

# Мікола Статкевіч.

**Зьняволены 29 ліпеня 2005 г. — выйшаў на свабоду 22 траўня 2007 г.**



Мікола Статкевіч нарадзіўся 12 жніўня 1956 г. у вёсцы Лядно Слуцкага раёну Менскай вобласьці. Скончыў Менскую вышэйшую інжынэрную зэнітна-ракетную вучэльню. Кандыдат тэхнічных навук. Служыў у войску, быў старшым выкладчыкам Менскай вышэйшай інжынэрнай зэнітна-ракетнай вучэльні. Падпалкоўнік запасу. Выйшаў з шэрагаў КПСС у лютым 1991 г. 20 жніўня 1991 г. выступіў па радыё супраць ГКЧП. Стваральнік і кіраўнік Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў (1991–1995). Старшыня аргкамітэту ў стварэньні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі («Народная Грамада»), каардынатар Эўрапейскай кааліцыі «Свабодная Беларусь». Жанаты, мае дзьвюх дачок.

Міколу Статкевіча шмат разоў судзілі, штрафавалі на вялікія сумы грошай, у зьняволеньні ён трымаў галадоўку.

31 траўня 2005 г. Мікола Статкевіч быў асуджаны да трох гадоў абмежаваньня волі за арганізацыю ў лістападзе 2004 г. масавых выступаў супраць фальсыфікацыі вынікаў рэфэрэндуму і парлямэнцкіх выбараў. Год зьнялі па амністыі, а два гады Статкевіч адбываў пакараньне ў Баранавічах і Блоні Пухавіцкага раёну.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Міколу Статкевіча вязьнем сумленьня.

Першы год Мікола Статкевіч адбываў пакараньне на «хіміі» ў Баранавічах, дзе жыве ягоны бацька, але ў верасьні 2006 г. палітыка тэрмінова выслалі з Баранавічаў у Блонь. Зьміцер Бартосік наведаў Баранавічы і правёў адзін дзень, 26 лютага 2007 г., з бацькам палітвязьня Статкевіча Віктарам Паўлавічам.

У Віктара Статкевіча падчас вайны паліцаі забілі бацьку, а сам ён цудам застаўся жывы. Ён ня мог нават уявіць сабе, што на схіле сваіх гадоў у незалежнай Беларусі будзе адчуваць страх — страх за лёс свайго сына, лідэра пазбаўленай рэгістрацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Міколы Статкевіча, якога асудзілі да трох гадоў абмежаваньня волі.

Сумная бэтонная ўскраіна Баранавічаў. Панэльны дзевяціпавярховік. Звычайная трохпакаёвая кватэра. Небагатае жытло здаецца большым, чым яно ёсьць на самай справе. Бо жыхар у гэтых харомах адзін. Яму 82 гады. Адзін ягоны сын жыве ва Ўкраіне, другі сядзіць за палітыку. Віктар Статкевіч, былы настаўнік гісторыі, на сёньняшні дзень больш за ўсё хоча, каб хутчэй скончылася тая сумная гісторыя, што адбылася зь ягоным сынам Міколам.

*— Віктар Паўлавіч, Вы не шкадуеце, што сын пайшоў у палітыку?*

— Шкадую. Коля мой — адораны чалавек. Ягоная маці была кандыдатам навук. Ён у школе быў найлепшым вучнем. Па геамэтрыі ніколі не рабіў тое, што пісалася на дошцы. Ён заўжды сам...

*— А колькі ў Вас дзяцей?*

— Двое. Адзін у Львове, жыве добра, бізнэсам займаецца. Кожную восень еджджу да яго, пуцёўкі бярэ мне ў Трускавец. Падтрымлівае мяне. Саша палітыкай не займаецца.

*— У Вас ніколі не ўзьнікала жаданьня сказаць Колю: «Навошта табе гэта трэба, уся гэтая палітыка?»*

— Дык гэта ж яго выбар! Як я магу такое сказаць? Ён дарослы чалавек. Падабаецца мне ці не падабаецца — гэта яго выбар.

*— Вам не бывае за яго страшна?*

— Заўжды страшна.

Мы размаўляем на кухні. Стары ўпэўнены, што ягоныя пакоі праслухоўваюцца спэцслужбамі. І ў мяне не ўзьнікае ніякага жаданьня пераконваць яго ў адваротным. Бо за вакном у нас 2007 год. І сёньня 1991 год ужо здаецца нерэальнай фантастыкай, калі малады падпалкоўнік Мікалай Статкевіч прыйшоў у палітыку, заснаваўшы з паплечнікамі Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў.

— 20 жніўня 1991 году Мікола агучыў на радыё зварот да народу супраць ГКЧП, — расказвае Віктар Статкевіч. — Тады зьявіліся людзі з КДБ, сказалі: «Па табе плачуць кайданкі». І тут перадаюць: ГКЧП пацярпеў паразу. Тады ўжо: «Віншуем!»

Калі распаўся СССР, Мікола выступіў з прапановай запрасіць афіцэраў Беларусі з усяго былога Саюзу на радзіму. І 8 верасьня 2002 году, у гадавіну Аршанскай бітвы 1514 г., перад Домам ураду вайскоўцы прымалі прысягу на вернасьць Беларусі...



Пра свае жыцьцёвыя шляхі Віктар Паўлавіч сьціпла маўчаў. Пра бацьку мне распавёў Мікола Статкевіч, якому я пазваніў у Блонь: «Ягонага бацьку забілі паліцаі — застрэлілі хворага ў ложку за сувязь з партызанамі, а бацьку маёй маці забілі ў НКВД. Бацьку паліцаі таксама ледзьве не забілі, але ён, падлетак, пасьпеў ускочыць на каня і ўцячы. Калі прыйшла савецкая армія, яму не было і сямнаццаці. Гэта яго і ўратавала, бо не адправілі на фронт. А ўсіх ягоных аднаклясьнікаў, якія былі крыху старэйшыя за яго, забралі, усіх да аднаго паклалі ў Прусіі. Ганялі з адной вінтоўкай на дзесяць чалавек на кулямёты. Пакуль усіх там не пастралялі».

Нягледзячы на свой узрост, Віктар Паўлавіч ніяк ня можа кінуць паліць. Хоць які супакой нэрвам. А нэрвавацца яму даводзілася і, напэўна, давядзецца ня раз.

*— Чым жывяце? Што радуе ў жыцьці?*

— У мае гады — ужо нічога... Вельмі добрыя дзеці, добрыя ўнукі. Гэтым і жыву.

*— Тэлевізар глядзіце?*

— Беларускага тэлебачаньня не гляджу. Там я загадзя ведаю, што будуць гаварыць. Пацёмкінскія вёскі. Нэрваў не хапае. Страшна думаць пра дзяцей. Што іх чакае?..

Нядаўна Віктар Статкевіч напісаў заяву на імя начальніка Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў спадара Коўчура, у якой задаў некалькі канкрэтных пытаньняў і наконт парушэньня заканадаўства, і наконт правакацыяў, і наконт далейшага лёсу сына. І атрымаў, як ён кажа, звычайную бюракратычную адпіску.

*— Якія ў Вас пачуцьці ў сувязі з гэтай адпіскай? Злосьць, крыўда?*

— На каго тут крыўдзіцца? Якія пачуцьці?

Віктар Статкевіч не спадзяецца дажыць да тых часоў, калі ў Беларусі запануе сапраўдны закон. Ён хоча хутчэй пабачыць сына. І з надзеяй чакае вясны.

## З архіву «Свабоды»

**3 жніўня 2005 г. Першы працоўны дзень на «хіміі»**

Мікола Статкевіч: «Мне было дадзена два дні, каб знайсьці працу, мяне кожны дзень выпускалі на пару гадзінаў для гэтых пошукаў. Літаральна ў панядзелак мне прапанавалі месца ледзь не па спэцыяльнасьці. Ужо заключаны кантракт — мяне бяруць радыётэхнікам на дзяржаўнае прадпрыемства “Рэмбыттэхніка”.

Сёньня ў мяне першы працоўны дзень. Праца — гэта ключавы момант ува ўсёй гэтай сытуацыі, бо праца дае свабоду. Калі няма працы, то чалавек увесь час знаходзіцца ў спэцкамэндатуры, фактычна за кратамі, і тады абмежаваньне волі ператвараецца ў зьняволеньне. Я зацікаўлены ў тым, каб мець як мага даўжэйшы працоўны дзень, і буду працаваць, як і гэтая ўстанова “Рэмбыттэхніка” — ад восьмай раніцы да восьмай вечару. Я пастаўлены ў няроўныя ўмовы ў параўнаньні зь іншымі зьняволенымі, але я адчуваю і пэўную перавагу дзякуючы падтрымцы і дапамозе, якія я атрымліваю ад людзей дэмакратычных перакананьняў тут у Баранавічах, і дзякуючы ўвазе да маёй асобы ў Беларусі і за яе межамі. Я вельмі ўдзячны сродкам масавай інфармацыі і ў першую чаргу Радыё Свабода — за інфармацыю пра мяне».



**14 ліпеня 2006 г. Дзень адпачынку падчас «хіміі»**

Палітзьняволены Мікола Статкевіч цяпер знаходзіцца ў адпачынку ў Менску. Разам з жонкай Валянцінай Мікола будзе два тыдні. Палітыку забаранілі перасякаць нават мяжу Першамайскага раёну сталіцы. Ён пашкадаваў, што дома няма дачок. Кацярына й Ганна цяпер у Нямеччыне. Старэйшая вучыцца ў дактарантуры, а малодшая — у магістратуры. Гаспадар кватэры кажа, што ў адпачынку вельмі ўсьцешаны тым, што можна папросту ляжаць на канапе й глядзець тэлевізар, а можна й запрасіць да сябе сяброў.

Мікола Статкевіч: «Абмежаваньне волі — гэта рэзкі пералом у жыцьці чалавека. Спачатку быў кепскі пакой, і суседзі не зусім адэкватныя... Я адаптаваўся дастаткова хутка, тым больш што гэтая спэцкамэндатура шмат у чым нагадвае войска. А я ж усё-ткі гадоў дваццаць у войску праслужыў... Гэты дзень я вырашыў прысьвяціць сваёй жонцы, сям’і. Паедзем на якое-небудзь вадасховішча ў межах Менску й пазагараем, там і пакупаемся».

**23 траўня 2007 г. Другі дзень на свабодзе**

Мікола Статкевіч: «Для мяне перадусім гэта была магчымасьць перадыхнуць, таму што я ў палітыцы вельмі даўно, яшчэ за саветамі я ўзначальваў невялікую арганізацыю афіцэраў савецкай арміі і распрацоўваў канцэпцыю стварэньня незалежнага войска, што здавалася тады неверагодным. Увесь гэты час, 17 гадоў напружаньня, было дастаткова цяжка, а тут выпала ўнікальная магчымасьць адарвацца ад усяго, падумаць над сваім жыцьцём, што рабіць далей, і, акрамя ўсяга іншага, пачытаць.

# Павал Севярынец.

## Зьняволены 15 жніўня 2005 г. — выйшаў на свабоду 22 траўня 2007 г.



Павал Севярынец нарадзіўся 30 сьнежня 1976 г. у Воршы. Скончыў геаграфічны факультэт БДУ. Удзельнік і арганізатар масавых вулічных выступаў моладзі ў 1997–2004 гг. Адзін з арганізатараў I Кангрэсу беларускай моладзі (ліпень 2001 г.), абароны Курапатаў (верасень 2001 — чэрвень 2002 г.), нацыянальнай кампаніі «Беларусь у Эўропу!» (вясна 2002 г.), перадвыбарчага блёку «Маладая Беларусь» (2004). У 1999–2003 гг. — намесьнік старшыні Партыі БНФ. З 1999 да 2004 г. — старшыня «Маладога фронту». Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча, аўтар шэрагу кнігаў. Сустаршыня партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя».

Міліцыя і КДБ затрымлівалі Паўла Севярынца больш за 40 разоў; агулам ён правёў пад арыштам звыш за 7 месяцаў і атрымаў 3,5 тыс. даляраў штрафу. У 1998 г., калі супраць Севярынца распачалі крымінальную справу за арганізацыю вулічных беспарадкаў, правёў два месяцы ў сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. Справу зачынілі «ў зьвязку са зьменай палітычнай абстаноўкі». Нежанаты.

31 траўня 2005 г. Павал Севярынец быў абвінавачаны ў арганізацыі акцыяў пратэсту супраць фальсыфікацыі вынікаў выбараў і рэфэрэндуму 2004 г. Асуджаны да трох гадоў абмежаваньня волі, з улікам амністыі тэрмін скарочаны да двух гадоў. Адбываў пакараньне ў вёсцы Малое Сітна Полацкага раёну Віцебшчыны. 22 траўня 2007 г. суд прыняў рашэньне пра ўмоўна-датэрміновае вызваленьне Паўла Севярынца.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Паўла Севярынца вязьнем сумленьня.

У лютым 2007 г. Паўла Севярынца адпусьцілі з «хіміі» ў трохдзённы адпачынак да бацькоў у Віцебск. Адзін дзень, 12 лютага, з палітвязьнем і ягонай сям’ёй правяла Браніслава Станкевіч.

Лідэр «Маладога фронту» Павал Севярынец, які адбывае пакараньне на «хіміі», цяпер жыве ў спэцыяльным інтэрнаце ў вёсцы Малое Сітна Полацкага раёну й працуе на лесанарыхтоўках стропальшчыкам. Там Павал носіць звычайнае працоўнае адзеньне «хіміка»: боты й цёплую куртку — калі на вуліцы, або швэдэр — у інтэрнаце. Але тут, у вітальні віцебскае кватэры, мяне сустрэў зусім іншы Павал

— фацэтны малады чалавек у чорным гарнітуры ды кашулі-вышыванцы, якую падарылі сябры на ягонае 30-годзьдзе. Праўда, ледзьве мы пасьпелі павітацца, у ягоным пакоі зазваніў тэлефон, і Павал перадаручыў прымаць гасьцей сваім бацькам: «Тата з мамай няхай увіхаюцца, і ўвогуле: партыя бацькоў — самая магутная партыя! Лепшых мэнэджэраў, кажучы тэхнічнай мовай, не знайсьці!»

Маці Паўла спадарыня Тацяна якраз гатуе ўлюбёнае сынава печыва. Бацька Паўла, спадар Кастусь, тым часам таркуе бульбу ды смажыць дранікі.

— Нам з бацькам што трэба? — кажа Тацяна Севярынец. — Суп ёсьць — добра, а няма — дык і няма. А калі Пашачка прыяжджае, то трэба, каб і супчык быў, і другое каб было, вось мы і раімся, што яму прыгатаваць. Таму й бацьку прымусіла дранікі рабіць, а дранікі ў нас другі дзень запар — бо дзе ж ён там іх у сябе прыгатуе! Яму там і няма часу, і няма як. Не, ён усё ўмее! Я яго вучыла, калі ён студэнтам быў, ад'яжджаў на вучобу, і блінцы тонкія пячы, бо ён іх любіць, і іншае ўсё. Ну, вядома, бульбу зварыць і яешню засмажыць.

Паставіўшы на стол дранікі, да абмеркаваньня кулінарных навыкаў Паўла далучыўся бацька:

— Я нават і яешні ня ўмеў рабіць, ня ведаў нават, як малако кіпіць! Гэта мяне жонка прыцягнула да хатніх справаў. А Павал такі чалавек рахманы — калі знойдзецца якая дзяўчына, дык ён таксама дранікі будзе гатаваць! Але я дужа рады, што мой сын лепшы за мяне ва ўсіх адносінах! Асабліва радуюся, што ён лепшы за мяне ў рэчышчы літаратурным. Ён дужа сьціплы ў гэтым сэнсе, а я заўсёды кажу: каб у мяне быў такі талент, як у Паўла!..

Кастусь Севярынец ня любіць хваліцца сваімі посьпехамі ў літаратурнай творчасьці, хаця менавіта яна складае большую частку ягонага штодзённага жыцьця. Бацька палітыка працуе карэспандэнтам «Дэтэктыўнай газэты», рыхтуе да выданьня зборнік вершаў для дзяцей ды перакладае на расейскую мову сынаву кнігу «Нацыянальная ідэя. Фэнамэналёгія Беларусі».

Старэнькаму кампутару ў бацькавым пакоі заўсёды ёсьць праца. А над кампутарам, проста на сьценцы, — цэлая падборка артыкулаў пра Паўла, якія дбайна зьбіраюць бацькі.

Спадарыня Тацяна працуе ў школе настаўніцай расейскай мовы. У мінулым годзе яна спрабавала вылучыцца на ўдзел у мясцовых выбарах, але выбарчая камісія не зарэгістравала маці апазыцыйнага палітыка на кандыдата ў дэпутаты гарсавету. Пакуль Павал працуе ў Малым Сітне, спадарыня Тацяна прымае для яго тэлефанаваньні, перадае навіны. Але падчас адпачынку сына, калі да яго завітваюць сябры ды знаёмыя, нават не наважваецца лішні раз заходзіць у ягоны пакой — каб не замінаць.

— Ён жа ўвесь час, — зазначае Тацяна Севярынец, — не разгінаючыся, сядзіць за сталом! Піша. А я, бывае, хачу зь ім пабачыцца, толькі наважуся ў пакой — зноўку тэлефонны званок! Зноўку адступаю, і ўжо чакаю, сяджу, зьнемагаю...

З нагоды Паўлавага прыезду не прынята ладзіць сямейных сьвятаў, хіба патэлефануе старэйшая сястра Ганна, якая жыве ў Менску, ды забяжыць на колькі хвілінаў малодшая Дар'я. Сваякі ўжо ведаюць: прыяжджаючы дахаты, Павал бывае вельмі заняты.

Павал распавядае:

— Сустракаюся зь мясцовай суполкай Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, з абласнымі кіраўнікамі апазыцыйных партыяў, руху «За свабоду!», з маладафронтаўцамі. Калі падлічыць усе тэлефанаваньні,

то за 3–4 дні пабыўкі дома іх бывае да пары соцень. Безумоўна, гэтая праца й надае сілы! Колькі не размаўляеш з маладафронтаўцамі, якія перацярпелі й стрэс, здаецца, і страх, і ўсё адно яны кажуць: «Гэта канвульсіі рэжыму, моладзь пакажа, дзе ракі зімуюць, гэтаму антынароднаму кіраўніцтву!». І адчуваеш, што пакаленьне, якое падымаецца, мацнейшае за нас!

Што да старэйшага пакаленьня дзеячоў апазыцыі, то праз Радыё Свабода Павал Севярынец вырашыў выказаць тое, што, магчыма, прагучала б у ягоным выступе на Кангрэсе дэмакратычных сілаў — калі б ён мог туды патрапіць з Малога Сітна:

— Патлумачыў бы, што за «пасядзелкамі» апошняга часу страцілі кантакт зь беларускім народам! Беларускія хрысьціяне галадаюць сотнямі, беларускую моладзь грузяць у аўтазакі — значыць, зьяўляюцца новыя палітзьняволеныя, маладыя... Кангрэс у сёньняшніх умовах праводзіць дарэмна! Таму заклікаў бы ўсіх, хто рыхтуе Кангрэс, пераключыцца на падрыхтоўку моцнай акцыі 25 сакавіка. Яднайцеся! І выводзьце на плошчы й вуліцы дзясяткі тысячаў беларусаў, каб патрабаваць свабоды, праўды і справядлівасьці.

Павал Севярынец не спадзяецца, што 25 сакавіка ён зможа выйсьці на плошчу ў Менску, але вярнуцца да таго часу ў Віцебск усё ж пэўная надзея ёсьць: напярэдадні адпачынку кіраўніцтва спэцкамэндатуры паведаміла, што 15 лютага будзе разглядацца пытаньне аб ягоным умоўна-датэрміновым вызваленьні. Паўгоду таму Паўлу ў гэтым адмовілі, бо атэстацыйная камісія пастанавіла, што ён так і «ня стаў на шлях выпраўленьня, пакаяньня й супрацоўніцтва з адміністрацыяй». Павал зазначае, што ніякага «пакаяньня» або «супрацоўніцтва» няма й дагэтуль:





• Разам з Артурам Фінькевічам на адной з акцыяў пратэсту

— Не было й думак нават! Больш за тое, стараўся арганізоўваць нейкія грамадзка-палітычныя мерапрыемствы — удзел у мясцовых выбарах, і тры дэпутаты ад «народнага блёку» ў Малым Сітне ды Алёшчы трапілі ў сельсаветы. Натуральна, што не спынялася гучаньне Радыё Свабода ў будцы вахты тае брыгады, дзе я працую... Ніякае веры няма ў тое, што датэрмінова вызваляць!

## З архіву «Свабоды»

**12 жніўня 2005 г. За тры дні да «хіміі»**

Тацяна Севярынец: «У якасьці выключэньня яму дазволена быць у царкве ў Полацку адзін раз на месяц. Таму што там насамрэч у акрузе 40 кілямэтраў няма ніякіх храмаў».

**15 жніўня 2005 г. Першы дзень зьняволеньня**

Павал Севярынец: «Як напісана ў Эвангельлі, “шчасьлівыя тыя, хто церпіць перасьлед за праўду, бо іхнае ёсьць Царства Нябеснае”. Калі Бог дае такое выпрабаваньне, значыць, гэта нагода для самаўдасканаленьня. І я спадзяюся вярнуцца з “хіміі” лепшым, чымсьці ёсьць цяпер».

**15 траўня 2006 г. Міжнародны дзень сям'і**

З усіх беларускіх палітвязьняў у Міжнародны дзень сям'і пашэнціла быць разам са сваімі роднымі, бадай, толькі моладзеваму лідэру Паўлу Севярынцу, які атрымаў дазвол правесьці некалькі дзён з бацькамі ў Віцебску.

Павал Севярынец: «Асаблівасьць нашай сям'і — калі зьбіраемся разам, падлічваем прыбаўленьне. У маіх дзьвюх сёстраў ужо маленькія дзеці. Пашырэньне сям'і — таксама ж умацаваньне Беларусі. Для мяне, як хрысьціяніна, сям'я — гэта грунт любога грамадзтва. Быць у сям'і — значыць быць у любові, у духоўным і душэўным камфорце».



**12 лютага 2007 г. Дзень уручэньня прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтру ў вёсцы Малое Сітна**

Пісьменьнік Уладзімер Арлоў: «Гэтая прэмія — за тое, што ты тут стварыў і ствараеш. Але яшчэ гэтая прэмія — і за тваю асабістую мужнасьць».

Павал Севярынец: «Вялікі дзякуй, шаноўнае спадарства! Гэта адказнасьць, бо Алесь Адамовіч быў тым чалавекам, які ў страшным для беларусаў XX стагодзьдзі сфармуляваў беларускі адказ на мілітарызм, нацыянальны прыгнёт, на падаўленьне ўсяго беларускага. І атрымаць прэмію, названую ў гонар такога чалавека, безумоўна, вялізная адказнасьць».

**22 траўня 2007 г. Першы дзень на волі**

Павал Севярынец: «За ўвесь час адбыцьця пакараньня я атрымаў звыш за 1480 лістоў, да мяне прыяжджалі больш як пяцьсот чалавек. Хачу выказаць усім агромністую ўдзячнасьць... Безумоўна, хачу падзякаваць і Радыё Свабода, якое слухаў штодня, якое слухаюць сітненцы падчас працоўных перапынкаў».

# Мікалай Аўтуховіч.

## Зьняволены 15 кастрычніка 2005 г. — выйшаў на свабоду 18 студзеня 2008 г.



Мікалай Аўтуховіч нарадзіўся 7 студзеня 1963 г. у Ваўкавыску. Скончыў СПТВ-37 у суседняй Вялікай Бераставіцы, стаў мэханікам па рамонце аўтамабіляў. Служыў кіроўцам у ракетных войсках стратэгічнага прызначэньня ў Саратаўскай вобласьці Расеі. Пазьней скончыў школу прапаршчыкаў, папрасіўся служыць у Аўганістане. За ахову моста пад Кандагарам ды ўдзел у іншых апэрацыях узнагароджаны ордэнам Чырвонай зоркі, двума мэдалямі: «За адвагу» і «За баявыя заслугі». Звольніўся з арміі ў 1991 г. у Ваўкавыску, стаў займацца бізнэсам. У родным



горадзе заснаваў валейбольны турнір з нагоды вываду савецкіх войскаў з Аўганістану. Жанаты, мае дачку.

15 кастрычніка 2005 г. Мікалай Аўтуховіч быў зьняволены за ўхіленьне ад выплаты падаткаў і за ажыцьцяўленьне прадпрымальніцкай дзейнасьці без рэгістрацыі і без атрыманьня ліцэнзіі. Асуджаны 7 ліпеня 2006 г. да трох з паловай гадоў зьняволеньня з канфіскацыяй маёмасьці. У студзені 2008 г. пакараньне зьняволеньнем было заменена на папраўчыя работы па месцы жыхарства. Па вызваленьні працаваў кіроўцам у Ваўкавыску.

8 лютага 2009 г. Мікалай Аўтуховіч зьняволены разам з прадпрымальнікамі Юрыем Лявонавым і Ўладзімерам Асіпенкам. Іх абвінавачваюць у арганізацыі і зьдзяйсьненьні шэрагу цяжкіх злачынстваў.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Мікалая Аўтуховіча вязьнем сумленьня.

Празь дзесяць месяцаў пасьля вызваленьня Мікалая Аўтуховіча, 15 лістапада 2008 г., адзін дзень з былым палітвязьнем правёў Сяргей Астраўцоў.

Мікалай Аўтуховіч стварыў у Ваўкавыску прыватную службу таксі. Усе машыны, а іх было дваццаць шэсьць, належалі асабіста Аўтуховічу. Пасьля прэзыдэнцкага дэкрэту 2003 году ён як прадпрымальнік мог наняць толькі трох кіроўцаў. У сувязі з гэтым іншыя кіроўцы перайшлі працаваць у партнэрскую фірму «Ніка-транс», але працягвалі карыстацца ягонымі машынамі і выручку здавалі Аўтуховічу. Суд палічыў гэта незаконнай схемай працы і пастанавіў арыштаваць таксоўкі.

У кастрычніку 2003 году Аўтуховіч, патрабуючы вярнуць таксоўкі, пачаў галадоўку пратэсту. Да яго далучылася некалькі ягоных працаўнікоў. У выніку таксоўкі вярнулі, але засталіся штрафы, і прадпры-

мальнік пачаў доўгае змаганьне праз Гаспадарчы суд. Гэтае змаганьне было перапыненае арыштам Мікалая Аўтуховіча ў Горадні 15 кастрычніка 2005 году, калі супраць яго распачалі крымінальную справу. Ён адразу заявіў, што будзе галадаць.

Галадоўніка на 63-ці дзень перавезьлі з гарадзенскай камэры ў турэмны шпіталь у сталіцы. Ён адмаўляўся ад мэдычнай дапамогі, і дактары ацэньвалі ягоны стан як цяжкі.

Сваёй галадоўкай прадпрымальнік дамогся амаль немагчымага: яго адправілі ў Ваўкавыск пад хатні арышт.

Падчас суду Аўтуховіч зноўку галадаў, яму ставілі кропельніцу, працэс перапыняўся, затым каля клеткі ў судзе побач зь ім дзяжурыў турэмны фэльчар...

*— Як Вы ўспрымалі зьняволеньне напачатку і як успрымаеце яго цяпер, ці зьмянілася штосьці, ці прытупіліся тыя адмоўныя пачуцьці?*

— Для мяне зьняволеньне стала нечаканым. Калі мне начапілі кайданкі і за паўгадзіны да поўначы прывезьлі не куды-небудзь, а напрасткі ў гарадзенскую турму, мінуючы ізалятар часовага ўтрыманьня, я зразумеў, што пра закон цяпер можна нават ня думаць. А ў турме мяне адмаўляліся прымаць, бо не было каму аформіць неабходныя для гэтай працэдуры паперы. Але нарэшце некалькі тэлефонных званкоў вырашылі гэтую праблему. І вось уначы за мной зачыніліся дзьверы цёмнай і вохкай камэры...

Рашэньне ўладаў ізаляваць мяне сьведчыла аб тым, што іншага выйсьця для сябе яны ўжо ня бачылі. Заключэньне экспэртызы па справе было на нашу карысьць, а Вышэйшы гаспадарчы суд адмяніў усе папярэднія судовыя рашэньні супраць нас. І чыноўнікі напэўна разумелі, што калі не зрабіць нейкіх



захадаў, то хутка ім самім давядзецца апынуцца на лаве падсудных.

Звычайныя людзі ў Ваўкавыску разумелі, што сваім учынкам улада па сутнасьці дае высокую ацэнку нашаму змаганьню за свае канстытуцыйныя правы. Думаю, улада ў гэтым разе пачулася папросту нядужай, ня здолеўшы запалохаць наш калектыў. Кожная новая спроба спыніць нас выклікала яшчэ большае супрацьстаяньне.

І калі тады для мяне зьняволеньне было непрыемнай і жахлівай нечаканасьцю, то цяпер я гляджу на яго як на чарговае выпрабаваньне ў маім змаганьні за справядлівасьць. Думаю, што такіх выпрабаваньняў з рознымі перашкодамі будзе яшчэ нямала, таму трэба назапашваць сілы, каб з гонарам іх вытрымаць. Калі мяне пасадзілі, у душы панавалі адмоўныя пачуцьці: здавалася, зараз кінуся на халуёў... Цяпер усё ацэньваеш больш спакойна, без эмоцыяў. З часам боль у душы прытупляецца, гэта дакладна. Але гэта ня значыць, што такое можна зусім забыць.

*— Што было найбольш складаным у зьняволеньні?*

— Самым складаным было бачыць, што ў турме зьняволеных не лічылі за людзей. Гэта можна было бачыць няўзброеным вокам на кожным кроку. Прыкладаў я маю мноства і вельмі хачу аб усім гэтым напісаць. Думаю, калі даб’юся справядлівасьці, знайду час і пачну пісаць кнігу.

*— Што часьцей за ўсё ўспамінаецца?*

— Пра ўсё патроху, залежна ад сытуацыі. Мне пішуць і тэлефануюць многія людзі, зь якімі я там пазнаёміўся, яны прыяжджаюць да мяне ў госьці. Я тэлефаную сваякам тых, хто яшчэ сядзіць, і мне апавядаюць пра справы зьняволеных за кратамі.

*— Які дзень з таго часу, якая падзея, сустрэча, знаёмства найбольш засталіся ў памяці?*

— У маёй памяці назаўжды застанецца дзень, калі на першае спатканьне прыехалі жонка з дачкой. Я ня бачыў іх адзінаццаць месяцаў. Я вельмі чакаў гэтай сустрэчы і хваляваўся. Я нікому не пажадаў бы апынуцца на маім месцы.

*— Ці былі сьмешныя выпадкі?*

— Сьмешных выпадкаў было мноства. Людзі там пакепліваюць зь іншых, каб хоць нейк пазабавіцца. І гэта дапамагала крыху адхіснуцца ад нэгатыўнага жыцьця навокал сябе.

*— Чаму Вы навучыліся за час, калі знаходзіліся ў турме? У чым расчараваліся?*

— Я думаю, што любы чалавек, які адседзеў тэрмін, скажа вам, што турма вучыць цаніць свабоду. Гэтага ня можа зразумець той, хто не сядзеў за кратамі. Я гэтага таксама не разумеў.

*— Што дапамагло адаптавацца за кратамі: людзі, сяброўства, кнігі, лісты, дапамога з волі з боку калегаў?*

— Праз пару дзён, ацаніўшы сытуацыю, я быў ужо нібы рыба ў вадзе. Я хутка зразумеў, штó там і як. Заставалася толькі нейк бавіць час. Хутка таксама разабраўся, з кім і аб чым можна размаўляць. Навокал мяне былі розныя людзі. Чамусьці шмат хто імкнуўся распавесьці мне пра сваё ліха, таму я ведаю вельмі многа гісторыяў аб нашым беларускім правасудзьдзі. Размовы займалі большую частку майго вольнага часу. Шмат сілаў надавалі лісты з волі. Адказы таксама займалі нямала часу. Лістоў прыходзіла вельмі шмат. Аднойчы перад нейкім сьвятам я атрымаў за дзень адразу сто дзевяць лістоў.

*— Якія веды, вопыт дала калёнія і што назаўжды забрала, перакрэсьліла?*



— Зьняволеньне, як я ўжо казаў, перш за ўсё навучыла мяне цаніць свабоду. Там ты пачынаеш больш узважана мысьліць. А таксама правільна ацэньваць важнасьць тых падзеяў, якія адбываюцца, вызначаць прыярытэты, што датычыць уласных дзеяньняў на шляху да справядлівасьці, якой я працягваў дамагацца. Усё трэба рабіць у парадку сваёй чаргі, не пераскокваць праз некалькі прыступак адразу.

А што забрала калёнія? Забрала ў мяне і маёй сям'і тое, чаго ніколі ня вернеш, — здароўе родных і блізкіх. Бацька вельмі моцна перажываў і хутка пастарэў. Ён ніколі не зьвяртаўся да лекараў, і вось зусім нядаўна яго раптам ня стала. Я страціў веру ў тое, што пры гэтай уладзе я законным шляхам змагу даказаць сваю невінаватасьць, страціў веру ў тое, што пры гэтай уладзе народ стане жыць па-сапраўднаму лепей.

*— Пра якую страву, ежу марылі ў турме?*

— Я ня памятаю, пра якую страву марыў у турме, ды напэўна й ня марыў зусім. Мае думкі былі хутчэй зьвязаныя толькі са свабодай. Мне любая вытанчаная страва не даставіла б у турме столькі задавальненьня, колькі звычайны абед на волі.

*— Што Вы адчувалі падчас сваіх галадовак пратэсту, ці ставілі для сябе жорсткія мэты, ці не адчувалі, што можаце памерці?*

— Падчас галадовак я адчуваў, што адступаць ад замысьленай акцыі пратэсту мне нельга. Мяне папросту «перакляніла», і я ня думаў, што магу памерці. Я ведаў, што ні ў чым не вінаваты, і сьвядома ішоў у лабавую атаку, а яшчэ я знаў, што не магу асабіста адысьці ад гэтага тарану першым і не адыду... Праўда, гэта сапраўды ледзьве ня скончылася трагічна, але ўсё роўна я не адступіў бы.

*— Чым сталася для Вас сустрэча са сьвятаром у турэмным шпіталі, які наведаў Вас, калі*

*галадоўка зайшла вельмі далёка? Ці здолеў ён дапамагчы Вам маральна, падтрымаць?*

— Сустрэча са сьвятаром надала мне трываласьці, я яшчэ раз пераканаўся, што раблю правільна. Калі я паспавядаўся, мне стала спакайней на душы і я засяродзіўся на ашчаджэньні сваіх сілаў.

*— Спачуваньне, падтрымка, зацікаўленасьць у Вашым лёсе з боку «аўганцаў» — ці адчувалася яна, ці была?*

— Што датычыцца «аўганцаў», то скажу, што ня ўсім быў абыякавы мой лёс. На жаль, ня многія зь іх і цяпер ведаюць пра тое, што было насамрэч. Некаторыя былі няправільна паінфармаваныя і паверылі таму, што пісалі дзяржаўныя СМІ. Былі таксама такія, хто папросту здрадзіў у цяжкую хвіліну, калі мясцовая ўлада прымусіла напісаць артыкул у «Народную волю» тых «аўганцаў», якія дакладна ведалі, што я невінаваты. Скажу больш: я гэтым людзям многа разоў аказваў дапамогу — вось чаму я наважыўся назваць гэты ўчынак здрадай.

*— Каб у Вас папрасілі парады будучыя галадоўнікі, што б Вы ім сказалі: сапраўды далі б практычныя зьвесткі, зыходзячы са свайго вопыту, ці параілі б ім адмовіцца ад думкі пра галадоўку?*

— Кожны чалавек, які вырашыць дамагацца справядлівасьці праз галадоўку, павінен добра ўсьведамляць наступнае.

Першае — ці гатовы ён да такога выпрабаваньня?

Другое: патрабаваньні, абвешчаныя галадоўнікам, павінны быць рэальнымі для выкананьня. Тут трэба ўлічваць усе чыньнікі, якія ўплываюць на вашы патрабаваньні. У нашым выпадку справа была гучнай, яна добра асьвятлялася журналістамі і рацыя была на нашым баку. Плюс да гэтага я быў незгаворлівым са сьледзтвам і жадаў даказаць, што ня ўсе баяцца бязьмежнага ўціску ўладаў.



Трэцяе: трэба зважаць на здароўе і зь першых дзён слушна разьмяркоўваць сілы. Нельга проста марнаваць уласную энэргію.

Чацьвертае: вады за дзень трэба выпіваць ня менш за тры літры. Тады цягам трох, а мо нават і чатырох тыдняў, залежна ад тлушчавага запасу, здароўю нічога пагражаць ня будзе. Гэта, аднак, не датычыць тых людзей, хто мае нейкія хранічныя захворваньні. Тут праз галадаваньне можна пазбыцца некаторых хваробаў, але й можна сабе нашкодзіць.

Пятае: ні ў якім разе нельга цішком прымаць ежу пасьля трох тыдняў галадаваньня. Калі вы адчуваеце, што ня здолееце вытрымаць, то выходзьце з галадоўкі афіцыйна. Запомніце, што зь яе трэба выходзіць столькі дзён, колькі яна працягвалася. Гэта, можна сказаць, цэлая навука, таму да справы трэба рыхтавацца сур'ёзна, ведаць, з чаго можна пачынаць. Дзеля прыкладу скажу, што пасьля атрыманьня прысуду я пачаў выходзіць са сваёй чарговай галадоўкі і на сёмы дзень пасьля спажываньня цёртых яблыкаў я вырашыў пацерці сабе таксама банан. У выніку я паўгадзіны качаўся па бэтоннай падлозе камэры. Выявілася, што для падстраўнікавай залозы банан аказаўся вельмі цяжкім прадуктам.

І апошняе. Калі ня ўпэўнены, што гатовы аддаць жыцьцё, калі давядзецца, то ня варта нават пачынаць галадоўку. Паколькі ў арганізьме існуе мяжа, пасьля якой пачынаецца незваротны працэс, спыніць які ня могуць нават мэдыкі. Самае страшнае, што мяжа гэтая нябачная, і калі галадоўка адбываецца не пад наглядам дактароў, то пачатку гэтага незваротнага працэсу ты не адчуеш. Тут альбо пан, альбо прапаў... А ў пужалкі лепей не гуляць, таму што чыноўнікі,

улада гэтага не баяцца. Яны нават за тваю сьмерць ніякага пакараньня не атрымаюць. На гэта проста заплюшчаць вочы.

*— Што такое, на Вашую думку, змаганьне за свае правы, адстойваньне ўласнай годнасьці ў неспрыяльных умовах?*

— Барацьба за свае правы — гэта стратэгія абароны сваіх канстытуцыйных правоў, якую вызначае кожны чалавек у залежнасьці ад сваіх магчымасьцяў. Важна, каб правільная пасьлядоўнасьць вашых захадаў у змаганьні за свае правы рабілі канчатковую мэту рэальна дасягальнай.

*— Што можаце сказаць пра час, калі Вы ўцяклі з-пад хатняга арышту і хаваліся ў Менску? Вам было страшна, самотна, ці адчувалі сябе загнаным у кут, у пастку?*

— Калі я хаваўся, я ня быў самотным. Мяне заўжды акружалі аднадумцы. А баяцца не было чаго, я быў гатовы да ўсяго. У нас увесь народ загнаны ў кут і прызвычаіўся ўжо да такога жыцьця. У той час я адно падпольнымі мэтадамі хацеў здабыць доказы сваёй невінаватасьці. Крыху не пасьпеў. Але жыцьцё на гэтым не спыняецца, і я па-ранейшаму выбудоўваю стратэгію сваіх дзеяньняў у гэтай няроўнай барацьбе за ўласныя правы.

## З архіву «Свабоды»

### 12 сьнежня 2005 г. 60-ты дзень ад абвяшчэньня галадоўкі

60 дзён таму Мікалай Аўтуховіч абвясьціў галадоўку, сёньня яму працягнулі тэрмін утрыманьня пад вартай, які канчаўся 14 сьнежня. Такі працяглы тэрмін галадоўкі міжволі выклікае пытаньне: ці магчыма рэальна столькі часу абыходзіцца бязь ежы?



### 26 траўня 2006 г. 44-ты дзень ад пачатку галадоўкі

Мікалай Аўтуховіч не прымае ежы ў турме сорак чатыры дні, зь іх чатыры апошнія ён ня п’е вады й трымае сухую галадоўку. Сябра прадпрымальніка Ўладзімер Асіпенка, які быў на судзе, гаворыць, што ён разьвітаўся зь імі. Мікалай Аўтуховіч папрасіў свайго калегу Юрыя Лявонава, які праходзіць зь ім па адной крымінальнай справе, паклапаціцца пра ягоную сям’ю.

Мікалай Аўтуховіч падчас працэсу заўсёды меў у клетцы плястыкавую бутэльку з вадой, гэта яму дазволіў судзьдзя. Ад аўторка падсудны больш ня піў вады, і чатыры апошнія дні галадоўка зьяўляецца сухой. Прадпрымальнік заяўляе, што не парушаў законаў і што яго судзяць несправядліва, а таму ў змаганьні за свае правы ён гатовы нават памерці.

### 16 лютага 2008 г. Працоўны дзень

Былы палітвязень Мікалай Аўтуховіч уладкаваўся ў Ваўкавыску кіроўцам у прыватным транспартным прадпрыемстве «Ніка-таксі». Яно працягвае традыцыі ягонай фірмы таксовак, якую ён меў да зьняволеньня. Знайсьці працу ён павінен быў згодна з умовамі зьмякчэньня пакараньня. У Мікалая Аўтуховіча зьмены ў працоўным пакоі: на сьцяне зьявілася мастацкая кампазыцыя зь бел-чырвона-белым сьцягам і гербам «Пагоня». З брэндам «Ніка-таксі» цяпер езьдзіць 31 машына — болей, чым было некалі ў яго самога. На ўсіх машынах ягоны ранейшы тэлефонны нумар — 22222. Калі ў горадзе стала вядома, што спадар Аўтуховіч вызваліўся, людзі сталі болей тэлефанаваць яму.

# Артур Фінькевіч.

**Зьняволены 8 сьнежня 2005 г. — выйшаў на свабоду 5 лютага 2008 г.**



Артур Фінькевіч нарадзіўся ў Менску 8 лютага 1985 г. Скончыў менскую вучэльню № 38, паступіў у Інстытут парлямэнтарызму й прадпрымальніцтва. Але правучыўся толькі два гады, таму што ня здаў своечасова сэсію, паколькі адбываў адміністрацыйнае пакараньне ў турме на Акрэсьціна. Перад арыштам марыў паступіць у Віленскі ўнівэрсытэт на беларускую філялёгію. Ад 2001 г. у «Маладым фронце», у 2002–2004 гг. — кіраўнік рэгіянальнага аддзелу моладзевай арганізацыі. Цяпер працягвае актыўную палітычную дзейнасьць. Лідэр руху «Маладая Беларусь». Нежанаты.



8 сьнежня 2005 г. Артура Фінькевіча арыштавалі за графіці палітычнага зьместу. Да суду яго ўтрымлівалі ў сьледчым ізалятары на Валадарцы. 10 траўня 2006 г. Першамайскі суд Менску прызначыў Артуру Фінькевічу пакараньне — два гады абмежаваньня волі. Адбываў пакараньне ў магілёўскай спэцкамэндатуры № 43. 26 кастрычніка 2007 г. на Артура Фінькевіча завялі крымінальную справу, а яго самога перавялі ў магілёўскую сьледчую турму № 4. 20 сьнежня 2007 г. Кастрычніцкі суд Магілёва асудзіў Артура Фінькевіча да паўтара году зьняволеньня. 5 лютага 2008 г. калегія Магілёўскага абласнога суду пастанавіла яго вызваліць.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Артура Фінькевіча вязьнем сумленьня.

Адзін дзень, 20 сьнежня 2007 г., у судзе, дзе адбываўся працэс над палітвязьнем Артурам Фінькевічам, правёў Алесь Асіпцоў.

Падтрымаць Артура прыйшлі больш за пяцьдзясят чалавек: моладзевыя актывісты, палітыкі і грамадзкія дзеячы — Аляксандар Мілінкевіч, Іна Кулей, Павал Севярынец, Вячаслаў Сіўчык, бацька Зьмітра Дашкевіча Вячаслаў.

«Ганьба! Ганьба! Ганьба!» — гэтак адрэагавалі на вырак паплечнікі Артура Фінькевіча, якія знаходзіліся ў судовай залі.

Дзяржаўная абвінаваўца Цеплакова і судзьдзя Крашкіна ад нечаканасьці больш за хвіліну стаялі ў разгубленасьці, а потым хуценька сышлі з судовай залі.

Магілёўская моладзевая актывістка і Артурава сяброўка Тацяна Буланава кажа:

— Я добра запомніла ўсё: тое, як рэагавала судзьдзя на ўсё, як Артуру кепска было, які ў яго твар

быў чужы і адсутны. Ён, відаць, сам не разумеў, што адбываецца. Я была проста шакаваная, што судзьдзя дазволіла працягнуць працэс... Мне запомніліся Куськоў ды Ламаза. Яны сядзелі і зьдзекліва ўсьміхаліся. І тады я зразумела, як усё дрэнна.

Тое, што Артуру стала кепска, заўважыла судзьдзя Натальля Крашкіна. Яна загадала выклікаць лекараў, а пасьля мэдычнага агляду заявіла, што стан здароўя падсуднага дазваляе працягваць працэс. Начальнік спэцкамэндатуры Аляксандар Ламаза і ягоны намесьнік Сяргей Куськоў былі на працэсе асноўнымі сьведкамі абвінавачаньня. Справу разглядалі на беларускай мове. На патрабаваньне Артура ў суд выклікалі перакладчыка.

У залі суду былі чуваць воклічы з вуліцы: «Свабоду Фінькевічу!», «Жыве Беларусь!». Каля будынку суду стаялі каля трыццаці актывістаў з плякатамі і бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Таццяна Буланава кажа, як на яе паўплывала знаёмства з Артурам:

— У маім жыцьці зьявіўся дужа добры малады чалавек. Ён чульлівы, заўжды дапаможа, заўжды выслухае. Ведаеце, ён такі абаяльны.

Дарэчы, да зьняволеньня Фінькевіч быў заўзятарам менскага футбольнага клюбу «Тарпэда-СКА».

Моладзевая актывістка Маўлюда Атакулава пазнаёмілася з Артурам у траўні 2006 году, акурат перад судом, які адправіў яго на «хімію». Сёньня, 20 сьнежня, Маўлюдзе споўнілася дзевятнаццаць гадоў. Яна была ў судовай залі адзінай, хто ўсьміхаўся:

— Усьміхалася я таму, што да апошняга моманту была ўпэўненая, што з судовай залі мы выйдзем усе разам. Нават уявіць сабе не магла, што вырак будзе такім жорсткім. Мы будзем рабіць усё магчымае, каб наш сябра як мага хутчэй задыхаў вольным паветрам.



Перад самым судом Маўлюда атрымала ліст ад Артура:

— Ён пісаў: «Што ня можа чалавек, тое можа Бог». І гэтая ягоная вера дапамагае і натхняе, калі падаецца, што прасьвету не відаць і нічога зьмяніць немагчыма. Дзіўна, але я ніколі ў ім ня бачыла нянавісьці нават да тых людзей, якія зрабілі ягоныя лепшыя маладыя гады пеклам.

Моладзевая актывістка Наста Палажанка сябруе з Артурам тры гады і гэтым сяброўствам ганарыцца. На судзе Артур уразіў Насту:

— Нягледзячы на кепскі стан здароўя, ён трымаўся надзвычай мужна. Ягоныя вочы былі напоўненыя верай й надзеяй. Хаця ён разумеў, што гэты працэс нельга назваць судом. Хутчэй тэатральным, якім кіруе толькі адзін чалавек.

Наста зазначае, што верай у будучыню прасякнутыя Артуравы лісты:

— Яны добрыя й вясёлыя. Ён у сваіх лістах хутчэй мяне падтрымлівае, чым наракае на свой лёс. Ён піша чыста й шчыра... Немагчыма схаваць усьмешкі.

Наста перакананая, што моладзь даб’ецца найхутчэйшага вызваленьня Артура:

— Ён патрэбны ня толькі сям’і і маладафронтаўцам. Ён патрэбны Беларусі. Гэта вельмі мужны, непахісны хлопец, здольны зьдзяйсьняць перамены.

Маці Артура Марыя Фінькевіч перакананая, што ў яе сына хопіць моцы духу, каб вытрымаць турэмнае зьняволеньне:

— Ён трымаецца ўпэўнена. Не затузаны.

Марыя Фінькевіч згадвае, як пасьля першага суду ў 2006 годзе ў Дэпартамэнце выкананьня пакарань-

няў доўга вырашалі, у якім горадзе маладафронтаўцу адбываць пакараньне. Гэты час Артуру прапаноўвалі скарыстаць, каб зьехаць вучыцца або папросту ўцячы з краіны, але ён адмовіўся:

— Ён тады доўга думаў і сказаў: «Я ўсё абдумаў і не хачу быць адзін. Я не хачу быць на такой свабодзе. Я хачу дзейнічаць, хачу займацца сваёй справай». У гэтым ён бачыць сваё жыцьцё.

## З архіву «Свабоды»

### 1 ліпеня 2006 г. Другі дзень на «хіміі»

Артур Фінькевіч будзе адбываць пакараньне ў спэцкамэндатуры № 43 у Магілёве. Першую ноч ён правёў у пакоі, дзе апроч яго былі яшчэ пяцёра чалавек. Цяпер у 15-мэтровым пакоі ягоныя суседзі — аднагодкі Артура і мужчына гадоў 40. У інтэрнаце знаходзіцца больш за дзьве сотні чалавек. У канцы калідору — прыбіральня з трох кабінак, а на першым паверсе — душ. Спэцкамэндатура ў Магілёве ўзорна-паказальная. Сюды супрацоўнікі Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў возяць на экскурсію сваіх калегаў, а таксама правяральнікаў.

Артур Фінькевіч: «Гэта ўстанова абмежаваньня волі, а не піянэрлягер. Празь месяц мне дазволяць пакідаць у выходныя спэцкамэндатуру на гадзінку ці дзьве».

У інтэрнаце ёсьць актавая заля. Артур распавёў, што раз на тыдзень намесьнік кіраўніка спэцкамэндатуры па ідэалёгіі праводзіць там палітынфармацыю. У Артура Фінькевіча няма ў пакоі тэлевізара і радыёпрыймача.



### 30 чэрвеня 2007 г. Дзень атрыманьня заўвагі

У Магілёўскай спэцкамэндатуры, дзе трымаюць Фінькевіча, яму зрабілі заўвагу за тое, што пасьля адбою выйшаў з пакою. Артур кажа, што мусіў пайсьці да суседзяў, каб папрасіць лекі. Гэта назвалі парушэньнем распарадку дня і папярэдзілі, што надалей нават за дробнае парушэньне накіруюць Фінькевіча ў калёнію. 28 чэрвеня лідэр руху «За Свабоду» Аляксандар Мілінкевіч прыехаў да камэндатуры, дзе трымаюць Фінькевіча, каб пагутарыць з актывістам «Маладога фронту». «Нас падзялялі дзесяць мэтраў», — згадвае Артур. Але сустрэчы перашкодзілі міліцыянты.

Дзе цяпер працуе Фінькевіч? Раней меркавалася, што яго накіруюць на будоўлю Шклоўскага папяровага камбінату, але ўлады перайначылі пляны і адправілі апазыцыянэра ў гаспадарку «Зара» на будоўлю аграгарадку. Што робіць Артур?

— Што кажуць, тое і раблю. Скажуць дошкі цягаць, буду дошкі цягаць. Скажуць крукі навешваць для пад'ёму матэрыялаў, буду навешваць. Скажуць капаць, буду капаць. Скажуць закопваць, буду закопваць. (*Сьмяецца*)

### 5 лютага 2008 г. Дзень вызваленьня

Артур Фінькевіч: «Вельмі ўдзячны тым людзям, якія праводзілі вялізную працу дзеля таго, каб мяне вызвалілі. Маладафронтаўцам, сябрам, блізкім, Камітэту ў абарону палітзьняволеных, асабіста Аляксандру Мілінкевічу. У той жа час я разумею: вызваленьне Зьмітра Дашкевіча, Мікалая Аўтуховіча, мяне — гэта факт таго, што Лукашэнка ідзе папросту на саступкі Захаду. Нас проста разьмянялі».

• Каля 1000 чалавек затрымана і арыштавана ў часе кампаніі прэзыдэнцкіх выбараў
• Паводле афіцыйных зьвестак Аляксандар Лукашэнка набірае на выбарах 83 працэнты галасоў
• Эўразьвяз і ЗША не прызнаюць вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў
• На чатыры дні паўстае намётавы лягер на Кастрычніцкай плошчы ў Менску
• ЗША і Эўразьвяз уводзяць візавыя санкцыі супраць кіраўніцтва Беларусі
• Эўразьвяз прапаноўвае Беларусі эканамічную дапамогу наўзамен на дэмакратызацыю



# 2006

Зьняволеныя:
**Мікола Астрэйка** (люты, выйшаў на свабоду ў лістападзе)
**Эніра Браніцкая** (люты, выйшла на свабоду ў жніўні)
**Цімафей Дранчук** (люты, выйшаў на свабоду ў сьнежні)
**Аляксандар Шалайка** (люты, выйшаў на свабоду ў жніўні)
**Сяргей Ляшкевіч** (сакавік, выйшаў на свабоду ў ліпені)
**Аляксандар Казулін** (сакавік)
**Юры Лявонаў** (ліпень)
**Іван Крук** (ліпень)
**Кацярына Садоўская** (ліпень)
**Зьміцер Дашкевіч** (верасень)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Міхаіл Марыніч** (выйшаў на свабоду ў красавіку)
**Сяргей Скрабец** (выйшаў на свабоду ў лістападзе)
**Андрэй Клімаў** (выйшаў на свабоду ў сьнежні)
**Валеры Леванеўскі** (выйшаў на свабоду ў траўні)
**Мікалай Аўтуховіч**
**Павал Севярынец**
**Мікола Статкевіч**
**Артур Фінькевіч**

# Мікола Астрэйка.

**Зьняволены 21 лютага 2006 г. — выйшаў на свабоду 17 лістапада 2006 г.**



Мікола Астрэйка нарадзіўся 11 лістапада 1980 г. у Менску. Скончыў Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, затым — Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, атрымаў спэцыяльнасьць палітоляг-юрыст. Цяпер займаецца юрыдычнай практыкай. Жанаты, мае дачку.

У кастрычніку 2005 г. Мікола Астрэйка паспрабаваў зарэгістраваць грамадзкую арганізацыю, мэта якой — незалежнае назіраньне за прэзыдэнцкімі выбарамі. Дазвол на гэта ня быў атрыманы, і неўзабаве Астрэйку разам з паплечнікамі асудзілі да 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

21 лютага 2006 г., напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, Мікола Астрэйка быў арыштаваны і зьмешчаны ў сьледчы ізалятар КДБ. Яму разам з Энірай Браніцкай, Аляксандрам Шалайкам і Цімафеем Дранчуком выставілі абвінавачаньне ў незаконнай арганізацыі і дзейнасьці незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня «Партнэрства». 4 жніўня Мікола Астрэйка асуджаны да двух гадоў пазбаўленьня волі. Адбываў пакараньне ў шклоўскай калёніі. 17 лістапада 2006 г. зьняволеньне Астрэйкі было замененае на папраўчыя працы.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Міколу Астрэйку вязьнем сумленьня.

Дома Міколу Астрэйку, арыштаванага на чацьверты дзень пасьля вясельля, чакаюць жонка Паліна й бацькі. У кастрычніку ў Міколы павінна нарадзіцца дачка. Ад 21 лютага 2006 г. ён знаходзіцца за кратамі ў сьледчым ізалятары КДБ. Адзін дзень, 1 ліпеня 2006 г., у сям'і палітвязьня правяла Ганна Соўсь.

Заходзячы ў пад'езд дому, дзе жывуць бацькі й жонка Міколы Астрэйкі, ля паштовай скрыні сустракаю ягоную маці, спадарыню Яўгенію. Яна толькі што атрымала ліст ад Міколы і ўсхваляваная ўскрывае капэрту. Яўгенія Астрэйка кажа:

— Мы яму напісалі пяцьдзясят шэсьць лістоў. А ён нам даслаў пяцьдзясяты. Зь іх мы не атрымалі два: другі й дванаццаты. Ён піша праз дзень, а мы пішам у панядзелак, сераду і пятніцу і адвозім на паштамт, каб лісты хутчэй да яго прыйшлі.

Мікола Астрэйка заўсёды дасылае адразу два лісты: адзін — маці, другі — жонцы Паліне.

«Прывітаньне, сонейка! Зусім я безь цябе расклеіўся. Хачу найхутчэй падзяліцца з табой ідэямі пра імя для нашай дачкі. Мне падаецца, і табе павінна спадабацца тое, што я прыдумаў. Спадзяюся, што хутка ўсё раскажу табе на вушка. Як ты сябе адчуваеш? Як наша дзяўчынка? Заставайся заўсёды такой жа прыгожай, вясёлай і разумнай. Я вельмі цябе люблю і штодня дзякую Богу, што ты ў мяне ёсьць. Заўсёды твой Коля».

Яўгенія і Паліна Астрэйкі частуюць мяне зялёнай гарбатай. На кухонным стале поўна прысмакаў, усе яны з крамы. Спадарыня Яўгенія расказвае, што раней яна вельмі любіла гатаваць печыва, але пасьля арышту сына больш не выпякае:

— Я нічога не хачу гатаваць. Не хачу есьці. Калі б ня Поля з малой, я і ня ела б, і не піла б.

Бяда змусіла спадарыню Яўгенію асвоіць кампутар і інтэрнэт. Штодня разам з Палінай яна праглядае сайты, на якіх пішуць пра затрыманых сяброў «Партнэрства». А вось беларускага тэлебачаньня не глядзяць прынцыпова, кажа Паліна Астрэйка:

— Імкнёмся фільтраваць інфармацыю, таму не глядзім беларускага тэлебачаньня, ня слухаем беларускага радыё. Спрабуем як мага больш адмежавацца ад вонкавага сьвету.

Сям’я Астрэйкаў адчувае моцную падтрымку сяброў і знаёмых. Ім дапамагаюць трымацца выкладчыкі ліцэю, дзе калісьці вучыліся Мікола і Паліна. Дарэчы, ведаюць яны адно аднаго ўжо дзесяць гадоў, а днём знаёмства лічаць 1 верасьня. Паліна згадвае, якія кветкі ёй заўсёды дарыў Мікола:

— Такіх кветак, як дарыў Коля, мне ніколі ніхто не дарыў. Калі мы бралі шлюб 17 лютага, ён падараваў мне сто адну белую ружу. Прыйшлі дадому, я бачу — адзін букет, у другім пакоі — яшчэ. У кожным пакоі былі букеты зь белых ружаў.



Некалькі дзён таму Паліне споўнілася 25 гадоў, і Мікола павіншаваў яе з турмы праз пошту вершам:

Подернутый прозрачной дымкой,
Твой силуэт скользит в окне.
Волшебной феей-невидимкой
Опять приходишь ты ко мне.

Пусть кружат разум сновиденья,
Я имя милое шепчу,
Избавиться от наважденья
Я не хочу.

*Всегда твой Коля*

Пасьля затрыманьня Міколы Паліна пераехала жыць да бацькоў мужа, бо не магла знаходзіцца ў пустой кватэры, асабліва пасьляператрусу. Сьпіць яна цяпер на Міколавым ложку. А ў той кватэры засталася калекцыя сланоў, якую ўжо шмат гадоў зьбірае Мікола.

Спадарыня Яўгенія распавядае, што нядаўна яна перадала сыну за краты кнігу Ўладзімера Арлова «Сланы Ганібала» з подпісам аўтара. А на спатканьні ў ізалятары КДБ Мікола прызнаўся, што кожны дзень піша за кратамі нататкі й спадзяецца, што зможа захаваць і перадаць іх на волю. Яшчэ падчас навучаньня ў ліцэі Мікола пісаў эсэ і фантастычныя апавяданьні. Некаторыя зь іх былі надрукаваныя ў часопісах «Першацвет», «Спадчына» і «Крыніца».

Фантастычнае апавяданьне Міколы Астрэйкі «Сьвінаманія» — пра тое, як чалавека садзяць за краты, таму што ён усьвядоміў, што вакол яго ня

людзі, а апранутыя сьвіньні. Вось урывак з гэтага твору: «Краты на акне зрабілі новыя, мацнейшыя, а само акно забілі дошкамі. Сьвятло цяпер ішло толькі ад слабой электрычнай лямпачкі, што вісела пад стольлю. Побач са мной у белым халаце стаяў сярэдняга ўзросту парсюк з чорнымі вусамі...»

Цяпер сям'я Міколы Астрэйкі чакае суду і пэўнасьці. Нікога не вінавацiць у сваёй бядзе й спадзяецца на справядлівасьць.

Што дапамагае трымацца? Яўгенія Астрэйка адказвае адразу:

— Нас трымае толькі тое, што ў нас будзе дзіцятка. Апошнім часам бачу ў сьне сваю ўнучку. Сёньня я ёй заплятала коскі...

## З архіву «Свабоды»

**21 лютага 2006 г. Дзень затрыманьня**

Паліна Астрэйка: «Мы цяпер ня ведаем, як перадаць яму цёплыя рэчы ды харчаваньне. Я ў шоку. Я бачыла ў вакно, як супрацоўнікі КДБ падбеглі да машыны і прыстаўлялі да яго пісталет. Нейкі сюррэалізм. Зразумела, гэта бачылі ўсе суседзі... Яго цягнулі як нейкага небясьпечнага злачынцу».

**15 траўня 2006 г. Міжнародны дзень сям'і**

Паліна Астрэйка: «У нас маладая сям'я. Мы толькі тры дні пабылі ў шлюбе. Цяпер я чакаю дзіця. Для Міколы гэта вельмі важна, і для мяне таксама, каб мы былі разам у гэты момант. Але якраз усё складваецца, што такое немагчыма. Будзем змагацца й будзем чакаць. Гэта адзінае, што мы можам рабіць зараз».



**4 жніўня 2006 г. Дзень абвяшчэньня прысуду**

Пасьля абвяшчэньня прысуду людзі воплескамі правялі актывістаў «Партнэрства». Яны кідалі белыя й чырвоныя кветкі перад аўтазакам, на якім павезьлі арыштаваных. Маці Міколы Яўгенія Астрэйка не змагла вымавіць ні слова. Яе падтрымліваў, абняўшы за плечы, муж.

**5 кастрычніка 2006 г. На наступны дзень пасьля нараджэньня дачкі**

У палітвязьня Міколы Астрэйкі 4 кастрычніка нарадзілася дачка. Дзяўчынка мае 3280 грамаў вагі. Мікола Астрэйка назваў сваю дачку Лізай у гонар сваёй бабулі. Паліна адчувае сябе добра. Маці Міколы адразу ж накіравала тэлеграму сыну. У дзень нараджэньня дачкі ад Міколы прыйшоў першы ліст са шклоўскай турмы, у якім ён піша, што знаходзіцца ў каранціне.

**20 лістапада 2006 г. Чацьверты дзень па вызваленьні**

Першае інтэрвію на волі: «Я проста шчасьлівы, што цяпер магу размаўляць з вамі, магу ісьці па вуліцы, карыстацца ўсімі выгодамі, якія мае вольны чалавек. Я вельмі ўсьцешаны, што цяпер магу быць разам з маёй сям'ёй».

# Эніра Браніцкая.

**Зьняволеная 21 лютага 2006 г. — выйшла на свабоду 21 жніўня 2006 г.**



Эніра Браніцкая нарадзілася 31 жніўня 1981 г. у Менску. Скончыла з чырвоным дыплёмам юрыдычны факультэт БДУ па спэцыяльнасьці паліталёгія, паступіла ў асьпірантуру. Падчас навучаньня ў БДУ была чэмпіёнкай унівэрсытэту па дзюдо ў сваёй вагавой катэгорыі. У 2004–2005 гг. чытала ў БДУ курс «Ідэалёгія беларускай дзяржавы». Брала ўдзел у працы гуманітарных грамадзкіх арганізацыяў: працавала валантэркай у дзіцячым лягеры ў Ірляндыі (2002), у доме інвалідаў у Францыі (2003), была арганізатаркай праекту аказаньня дапамогі недзяржаўнай дабрачыннай арганізацыі «Беларускі дзіцячы хоспіс» у Менску (2004). Адна са стваральніц грамадзкай арганізацыі дапамогі вязьням «Над бар'ерам».

21 лютага 2006 г. Эніра Браніцкая была арыштаваная. Ёй разам зь Міколам Астрэйкам, Цімафеем Дранчуком і Аляксандрам Шалайкам выставілі абвінавачаньне ў незаконнай арганізацыі і дзейнасьці незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня «Партнэрства». Эніру трымалі спачатку ў сьледчым ізалятары КДБ, потым — у сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. Суд Цэнтральнага раёну Менску асудзіў яе да шасьці месяцаў зьняволеньня.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Эніру Браніцкую вязьнем сумленьня.

24-гадовая Эніра Браніцкая ў першыя хвіліны зьняволеньня 21 лютага 2006 г. была ўпэўненая, што прабудзе за кратамі некалькі дзён. Ніхто — ні яна сама, ні бацькі, ні брат, ні сябры — ня мог падумаць, што некалькі дзён расьцягнуцца на месяцы. 20 ліпеня 2006 г. Эніру ўсё яшчэ трымалі ў сьледчым ізалятары. Гэты дзень у сям'і палітзьняволенай Эніры Браніцкай правёў Зьміцер Бартосік.

За вокнамі — звычайны гарадзкі пэйзаж з шэрым бэтонам. Цячэ звычайнае беларускае жыцьцё пачатку XXI стагодзьдзя. Добрыя аўтамабілі, прыгожа апранутыя дзеці, чысьціня газонаў. Вось толькі ў гэтую ідылічную карцінку ніяк ня ўпісваецца нагода, якая прывяла мяне ў госьці да спадарыні Віялеты. Арышт з палітычных матываў.

З маці Эніры Браніцкай, Віялетай, мы сядзім на бальконе звычайнага менскага шматпавярховіка ў Малінаўцы й курым адну цыгарэту за адной.

Віялета паказвае мне апошні ліст дачкі: «Вакол такія розныя людзі. Іншым часам цікава паназіраць за паводзінамі суседзяў. За іх успрыняцьцем рэчаіснасьці. Некаторых шкада. А яшчэ я ўразілася

аб’ёму непісьменнасьці ў гэтых месцах. А кажуць, у нас добрая базавая адукацыя. Адна фармальнасьць. І гэта XXI стагодзьдзе. А людзі ня ведаюць, як пішуцца элемэнтарныя словы».

*— Эніра — гэта нешта грэцкае?*

— Не. Імя «Эніра» прыдумаў мой дзядуля. Для маёй мамы. Гэта ў рэвалюцыйны час вельмі было папулярна — прыдумляць імёны. І ён прыдумаў. Эніра азначае: электрификация, наука, искусство, революция. Мне маміна імя заўжды вельмі падабалася. Шкада было, што яно прападзе. І я вырашыла, калі ў мяне народзіцца дачка, я яе назаву так, як звалі маму. Так у нас захавалася гэтае імя.

Віялета й Віктар Браніцкія — расейцы, якія ад нараджэньня жывуць у Беларусі. У жылах Эніры цячэ кроў данскіх казакаў.

Віялета працягвае:

— У Эніры заўжды былі вельмі патрыятычныя настроі. Калі ў Францыі ёй прапаноўвалі застацца, яна сказала, што хоча жыць толькі ў сябе дома. Толькі тут. І хоча, каб тут было добра. Усе зьдзіўляліся.

*— Вы падтрымліваеце яе?*

— У гэтым пытаньні — так.

*— А ў якім — не?*

— Я і не задумвалася ніколі, у чым я яе не падтрымліваю. Бо ўсё, што б яна ні рабіла... Я ведаю, што яна вельмі разумны чалавек, вельмі адказны. У мяне не было прычынаў не падтрымліваць яе, асуджаць за штосьці.

Калі прадстаўнікі спэцслужбаў арыштоўвалі Эніру Браніцкую, дык загадзя падаставалі свае пасьведчаньні. Перастрахаваліся чэкісты недарэмна. Эніра ня толькі атрымала дыплём палітоляга ў БДУ, але і заваявала тытул чэмпіёнкі ўнівэрсытэту па дзюдо.



Спадарыня Віялета гаворыць:

— Яна трымаецца вельмі добра. Зразумела, стамілася. Гэта і зь лістоў адчуваецца. Аднак на спатканьні Эніра трымаецца зусім цудоўна. Мы нават жартуем. Яна валявы чалавек. І ў любой сытуацыі ведае, як сябе трымаць. Вельмі ёй дапамагае жыцьцёвы досьвед — валянтэрства, уменьне жыць зь іншымі людзьмі, прывыкаць да таго, што ёсьць, да любых бытавых умоваў. Мы ў паходы зь ёй чатырохгадовай хадзілі. Яна штодня робіць гімнастыку, адціскаецца да тысячы разоў. І многія ў камэры зь ёй гэта робяць. Яна цяпер шмат чытае, малюе. Навучылася гуляць у шахматы, жангляваць. Будучы там, напісала мне: у мяне няма вольнага часу.

Настаўніца музыкі Віялета да нядаўняга часу зусім ня думала пра палітыку. Гэта было нешта далёкае і малазразумелае:

— Калі б гэта мяне цяпер ня тычылася, пра многія пытаньні я нават ня ведала б, што яны існуюць. Я звычайны абывацель, скажам сумленна і наўпрост. Зразумела, газэты я чытала, тэлевізар глядзела, але ўсур’ёз палітыкай ніколі не цікавілася. Паколькі яна мяне асабіста ня тычылася. Цяпер палітыка ўвайшла ў мой дом, хачу я гэтага ці не. Я, безумоўна, засталася наіўным чалавекам у палітыцы. Я шмат чаго не разумею ў гэтай сфэры. Але штосьці адкрылася. Прачыніліся невялікія дзьверы.

З працы прыйшоў бацька Эніры, Віктар, інжынэр аднаго з пасьпяховых заводаў. За што сядзіць ягоная дачка, ён зразумець ня можа:

— Нічога крымінальнага яна не рабіла. Проста хацела падлічыць, хто за каго галасуе.

*— Самы небясьпечны занятак у нашай дзяржаве... А Вы адчуваеце нейкую салідарнасьць з боку бацькоў палітзьняволеных, калегаў?*

— Шчыра кажучы, на працы ў мяне цікавяцца лёсам Эніры. Ёсьць разуменьне. А зь людзьмі, зь якімі яна сядзіць, мы сталі ўжо сваякамі. Зблізіліся. Праз гэта мы даведаліся пра многіх іншых людзей.

Цяпер Віялета і Віктар зусім па-іншаму глядзяць на многія рэчы, якія здаваліся звыклымі:

— Жыцьцё вучыць, — кажа спадар Віктар. — Глядзіш іншымі вачыма на ўсё, што адбываецца. Калі паказвалі іхны арышт, пісталеты, даляры... Быццам яны хацелі скінуць урад... Вы мне прабачце, калі беларускае тэлебачаньне так сябе паводзіць...

У апошнім лісьце Эніра працытавала ўпадабаную фразу зь «Дзёньнікаў генія» Сальвадора Далі: «Для поўнага шчасьця чалавеку патрэбныя дзьве рэчы: першая — як мага раней адседзець у турме, і другая — стаць мульцімільянэрам». Жартуе, што «зь першай, па-мойму, ужо справілася. Застаецца другая».

## З архіву «Свабоды»

### 3 сакавіка 2006 г. 11-ты дзень у турме

Маці Эніры Браніцкай вельмі непакоіцца за сваю дачку, бо Эніра хварэе на язву страўніка: «Здароўе ў яе слабае. Пры любым хваляваньні язва можа абвастрыцца. Мне, зразумела, хочацца, каб дачка была здаровай. А ўтрыманьне ў турме не дадае здароўя».

### 29 чэрвеня 2006 г. Дзень спатканьня

Маці Эніры днямі мела першае цягам чатырох месяцаў спатканьне з дачкой. Нядаўна Эніру перавялі са сьледчага ізалятару КДБ у турму на Валадарскага. Спадарыня Віялета кажа, што вялікім выпрабаваньнем для Эніры зьявілася тое, што яна ня паліць.

Віялета: «Сем чалавек у камеры паляць па пачаку цыгарэт на дзень. Яна выпрасіла ў іх 20 хвілінаў



на дзень, калі яны ня паляць — пакуль яна “качае” прэс. Падчас прагулкі яна робіць зарадку».

Спадарыня Віялета зазначае, што Эніра — моцная асоба і знаходзіць розныя сродкі падтрымліваць моц духу нават у гэткіх умовах.

Віялета: «Яна малюе ўвесь час. Караблікі розных канфігурацыяў... Жывёлінаў малявала... Увесь час шукае матывы для сваіх малюнкаў. Вежу нядаўна даслала — нават у фарбах. Раней, калі яна была ў ізалятары КДБ, то ўсё ў фарбах малявала — у яе суседкі былі фарбы. А цяпер алоўкам малюе».

### 9 жніўня 2006 г. Дзень спатканьня

Віялета Браніцкая расказала, што Эніра выпадкова сустрэлася на Валадарцы з экс-кандыдатам на пасаду прэзыдэнта Аляксандрам Казуліным. Зьняволеных прыводзяць на спатканьне групамі з васьмі чалавек, а потым разьмяркоўваюць у розныя месцы. І сёньня Казулін з Браніцкай патрапілі ў адну «васьмёрку». Казулін і Эніра абмяняліся нейкімі вітальнымі знакамі, знакамі падтрымкі — размаўляць жа нельга...

### 22 жніўня 2006 г. Першы дзень на волі

Эніра не хавала захапленьня першымі гадзінамі свабоды пасьля турэмнай камэры: да вечару яна сустракалася і размаўляла з бацькамі ды сваякамі, а потым са сваім блізкім сябрам Валянцінам.

Эніра Браніцкая: «Я ўжо зрабіла новую прычоску, манікюр, прыводжу сябе ў парадак. Сустрэлася зь сяброўкай, цяпер мы гуляем па горадзе. Да таго ж сёньня дзень нараджэньня майго бацькі. Паеду да бацькоў, павяжу на сябе банцік і буду для іх галоўным падарункам. Што да плянаў на будучыню, то на выходныя я мару паехаць у лес, і я зраблю гэта».

# Цімафей Дранчук.
**Зьняволены 21 лютага 2006 г. — выйшаў на свабоду 26 сьнежня 2006 г.**



Цімафей Дранчук нарадзіўся 5 жніўня 1981 г. у Заслаўі на Меншчыне. Вучыўся ў Нацыянальным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа. У 1999 г. стаў студэнтам факультэту журналістыкі БДУ, адкуль быў выключаны ў 2001 г. за актыўную палітычную дзейнасьць. Працаваў у газэце «Белавежская пушча», прэсавым сакратаром гарадзкога Саюзу прадпрымальнікаў «Садружнасьць». Быў у шэрагах «Маладога фронту». У 1999 г. актыўна ўдзельнічаў у арганізаваных апазыцыяй альтэрнатыўных выбарах прэзыдэнта Беларусі, быў прэсавым сакратаром Міхаіла Чыгіра. У 2000–2001 гг. — старшыня «Маладзёжнай салідарнасьці», з 2001 па 2004 г. каардынаваў дзейнасьць руху «Зубар». Ад 2004 г. актыўны ўдзельнік руху Андрэя Клімава, супрацоўнічаў з грамадзкай ініцыятывай «Партнэрства». Цяпер завочна вывучае журналістыку ў Літве ў Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце. Адзін са стваральнікаў грамадзкай арганізацыі дапамогі вязьням «Над бар'ерам». Жанаты, мае сына.

21 лютага 2006 г. Цімафей Дранчук быў арыштаваны і зьмешчаны ў сьледчы ізалятар КДБ. Яму разам зь Міколам Астрэйкам, Энірай Браніцкай і Аляксандрам Шалайкам выставілі абвінавачаньне ў незаконнай арганізацыі і дзейнасьці незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня «Партнэрства». 4 жніўня 2006 г. суд Цэнтральнага раёну Менску пакараў Цімафея Дранчука пазбаўленьнем волі на год. За кратамі адбыў болей за 10 месяцаў. Цімафея Дранчука вызвалілі ўмоўна-датэрмінова 26 сьнежня 2006 г.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Цімафея Дранчука вязьнем сумленьня.

Ліпень 2006 г. Арыштаваны актывіст «Партнэрства» Цімафей Дранчук яшчэ ня бачыў свайго сына Платона, які нарадзіўся на 44-ты дзень пасьля яго арышту. Напярэдадні суду адзін дзень, 20 ліпеня 2006 г., у сям'і палітвязьня Цімафея Дранчука правяла Іна Студзінская.

Жонка Цімафея Дранчука Вольга Анцыповіч — карэспандэнтка «Комсомольской правды» в Белоруссии» — пазнаёмілася са сваім будучым мужам дзякуючы працы:

— Мы знаёмыя зь Цімафеем з 1997 году (гэта адбылося яшчэ ў «Маладым фронце»). Але за пачатак нашых адносінаў мы лічым 10 сьнежня 2002 году — час акцыі за абарону правоў чалавека. Цімафей удзельнічаў у той акцыі, а я пра яе пісала. І вось як у жыцьці атрымліваецца: цяпер Цімафея судзяць за дачыненьне да незарэгістраванай арганізацыі, якая нібыта рабіла замах на гэтыя самыя правы чалавека...

Цімафея Дранчука арыштавалі, калі ён паехаў купіць кветкі жонцы, у якой быў дзень народзінаў. Да крамы з кветкамі малады муж не даехаў...

*— Ведалі ж Вы, пэўна, з моманту знаёмства, што спакойна зь Цімафеем ня будзе...*

— Так, але калі гэтак у нас усё складалася — значыць, мне й ня трэба, каб спакойна было. Значыць, мне патрэбен такі чалавек. А па-другое, я разумела, чым Цімафей займаецца, чым гэта можа пагражаць у нашай краіне. Але заўсёды здаецца, што такое здарыцца не з табой...

Я ніколі не магла ўявіць, што буду цяжарная, а прыйдуць людзі, забяруць Цімафея, і я ня буду бачыць яго ўжо вось 5 месяцаў... Гэта быў апошні месяц маёй цяжарнасьці, у такім стане жанчына павінна думаць толькі пра будучае дзіця, пра тое, што набыць, дзе што паставіць... Я ж змушаная была думаць, як перадаць перадачу, як пісаць туды лісты, чаму лісты ад Цімафея не даходзяць. І замест таго, каб у інтэрнэце чытаць сайты для маладых бацькоў і замаўляць пампэрсы, я чытала, хто што сказаў пра «Партнэрства», у чым іх чарговым разам абвінавацілі. І было вельмі страшна...



Мы зь Цімафеем вельмі шмат марылі: сын народзіцца, як гэта будзе адбывацца, мы разам будзем дома. А калі яго забралі, я зразумела, што нічога гэтага ня будзе. Толькі на дваццаты дзень пасьля зьяўленьня нашчадка бацька ўбачыў яго на фатаздымках. Зразумела, што стала лягчэй і мне, і Цімафею. Нават у лістах, якія ён пісаў да нараджэньня сына, у кожным радку было шалёнае хваляваньне за тое, як Платон народзіцца. Як я ні старалася трымаць сябе ў руках, стрэс быў папросту жудасны. І Цімафей увесь час спадзяваўся, што яго выпусьцяць да таго, як Платон павінен нарадзіцца, і ён мяне падтрымае.

Пакуль Платон не нарадзіўся, я пісала Цімафею лісты кожны дзень, а то й двойчы на дзень. Зразумела, цяпер такога дазволіць я ўжо не магу. І Ціма нават пажартаваў, што Платон адабраў у мяне ўвесь, належны некалі яму, час.

Пасьля нараджэньня сына Вольга Анцыповіч зь немаўляткам пераехала да сваіх бацькоў, якія, вядома ж, дапамагаюць. Дапамагаюць і сапраўдныя сябры:

— Банальна так казаць, але я насамрэч даведалася, хто ёсьць хто, — кажа Вольга. — Было некалькі людзей, у якіх я была ўпэўненая, што менавіта яны прыйдуць у першы ж дзень. Але іх няма дагэтуль. А так, зразумела, дапамога адчуваецца вельмі вялікая. У першую чаргу, гэта мае бацькі. І сябры Цімафея, якія дапамагаюць ня толькі тэлефанаваньнямі, а і вельмі канкрэтнымі рэчамі, напрыклад падвезьці куды трэба. Дапамагаюць сваякі Цімафея. Ягоны бацька, вядомы эколяг Валер Дранчук, зьвяртаецца ў міжнародныя арганізацыі, апублікаваў у «Народнай волі» лісты Цімафея зь няволі. Сястра Цімафея Юлія ўзяла на сябе кантакты з адвакатамі.

Юлія кажа:

— Спачатку было цяжка. Потым было страшна, прыкра. Пачалася такая стадыя невядомасьці, якая цяжка перажываецца наагул... Натуральна, калі нарадзіўся Платон, бацькам стала і цяжэй, і лягчэй. Бацька проста памаладзеў на 10 гадоў. Мама, калі яна з унукам, значна лягчэй усё пераносіць. Ён сьмяецца, пазнае бабулю, яны там размаўляюць пра сваё. У гэтым пляне ўнук дапамагае бацькам перажываць расстаньне з сынам. Але, зь іншага боку, калі мы ўсе прыяжджалі ў радзільню, было вельмі цяжка. Я ведаю, наколькі гэта важна для Цімафея, каб усё было правільна. Бацька праз адваката пытаўся ў Цімы, якія кветкі менавіта ад яго купіць Вользе, і мы паспрабавалі хоць нейкім чынам ягоную прысутнасьць абазначыць.

— Безумоўна, вельмі крыўдна, што Цімафей ня бачыць, як ягоны першынец пачаў усьміхацца, нешта пачаў вымаўляць, — кажа Вольга Анцыповіч. — Нават калі Цімафей прыйдзе і нашых пачуцьцяў мы дабярэм, але вось гэтых бацькоўскіх пачуцьцяў нам ужо ніхто ня верне, і гэтых эмоцыяў таксама. Таго пазбавілі, што па праве належыць Платону. Ну, а наконт таго, каб адпомсьціць... Помсьціць ня хочацца. Зямля круглая, і ўсё да ўсіх вяртаецца.

Тут ёсьць і нешта невыпадковае: калі затрымалі і Астрэйку, і Шалайку, і Цімафея, у іх ува ўсіх аказаліся цяжарнымі жонкі. Я спадзяюся, што людзям, якія іх затрымлівалі, якія іх будуць судзіць, — ім недзе ў глыбіні душы няёмка за тое, што яны робяць. Бо ў народзе заўжды казалі: цяжарную жанчыну нельга крыўдзіць. Я думаю, нашы дзеці вырастуць вельмі добрымі людзьмі. Наш сын увесь час, колькі ён будзе жыць, будзе ведаць і памятаць: калі ён нарадзіўся, ягоны бацька ня мог падарыць мне кветкі, ён ня мог напісаць мне цыдулку ў радзільны дом. І я думаю, што калі гэты рэжым ня зьменіцца й гэтак будзе працягвацца яшчэ й тады, калі Платон стане дарослым, то ён, гэты рэжым, нажыў сабе стопрацэнтнага апанэнта ад яго нараджэньня.



Некалькі дзён таму Вольга Анцыповіч мела апошняе перад судом спатканьне зь Цімафеем:

— Цімафей вельмі добра выглядае. Гэта мяне нават уразіла. А трымаецца... Ведаеце, казаць, што ў турме чалавек трымаецца добра... Нармальны чалавек ня можа добра сябе адчуваць у такіх умовах. Але ні разу я ад яго ня чула: «Як мне дрэнна!». Ён вельмі аптымістычна на ўсё глядзіць. Адзінае — кажа, што вельмі цяжка чакаць вось гэтыя апошнія дні, якія сталі цягнуцца ўдвая даўжэй.

*— А ці ўяўляецца Вам сам момант сустрэчы?*

— Калі выпусьцяць, то хацелася б пайсьці з Платонам — каб Цімафей адразу ж, у першыя хвіліны, убачыў сына. Я вельмі веру й спадзяюся, што ўсё гэта скончыцца ў судзе і Цімафея выпусьцяць...

## З архіву «Свабоды»

**21 лютага 2006 г. Дзень затрыманьня**

У раёне Акадэміі навук машыну Цімафея Дранчука спынілі апэратыўнікі з КДБ. Цімафея прывезьлі дадому ў кайданках. У кватэру разам зь ім увайшлі людзі ў камуфляжы з маскамі на тварах.

Жонка Вольга Анцыповіч: «Што шукалі, невядома. Час ад часу жартавалі: “Пісталет будзеце здаваць ці не?” Тры гадзіны цягнуўся гэты ператрус. Куды павезьлі Цімафея? Як зь ім зьвязацца? Дзе даведацца пра яго лёс? Мне не патлумачылі».

**17 красавіка 2006 г. Дзень спатканьня**

Вольга Анцыповіч наведала свайго мужа Цімафея Дранчука ў сьледчым ізалятары КДБ. Яна бачыла яго праз шкло крыху больш за дзьве гадзіны. Сьледчы дазволіў спатканьне цягам трох гадзінаў, але Вольга не магла на такі час пакінуць немаўлятка.

Вольга Анцыповіч: «Зразумела, гэтае спатканьне ёсьць выпрабаваньнем. З аднаго боку, добра, што мы ўбачыліся. З другога — вельмі цяжка было размаўляць. Размова была праз шкло. Мы нават не змаглі абняцца, бо, калі яго вялі, то яму не дазволілі прыпыніцца. Мы гаварылі пра сына: як нарадзіўся, як выглядае, на каго падобны».

**10 траўня 2006 г. 80-ты дзень за кратамі**

За гэты час Цімафей Дранчук ня меў магчымасьці ні пабачыць свайго сына-першынца, ні сустрэцца з бацькамі.

Бацька Цімафея Валер Дранчук: «Цімафей пакутуе праз тое, што ён ня бачыць свайго сына. У адносінах да ягонага сына ўсё гэта вельмі не па-людзку. Я маю на ўвазе ягоную поўную ізаляцыю ад сына і сям'і. Ён вельмі перажывае. Ён, можа, ня піша пра гэта "крыкам", але я адчуваю гэта. Я адчуваю, наколькі яму гэта баліць».

**14 чэрвеня 2006 г. Дзень спатканьня**

Сястра Цімафея Юлія Дранчук: «Ён стараецца трымаць сябе ў тонусе — падскоквае штодня 1200 разоў і адціскаецца ад падлогі пад 80 разоў. Гэткім чынам імкнецца дысцыплінаваць сябе. Але, натуральна, пакутуе ад немагчымасьці абняць сына, жонку, бацькоў... Нам на спатканьні таксама не давялося абняцца — нават паціснуць адно аднаму руку пры сустрэчы не далі».



**8 верасьня 2006 г. 200-ты дзень за кратамі**

Сястра Цімафея Юлія Дранчук: «Ня думаю, што Ціма на Валадарцы ўсьведамляе, што сёньня 200 дзён, але пра гэта памятаем мы. Нягледзячы на тое, што гэтыя 200 дзён вельмі складаныя для Міколы Астрэйкі й Цімафея Дранчука, усё ж яны знойдуць у іх карысьць для сваёй будучыні».

Бацька Цімафея Дранчука Валер: «Гэтыя 200 дзён скрадзеныя ў Цімафея. Скрадзеныя ў нашай сям'і, скрадзеныя ў Вольгі — жонкі Цімоха. Больш як 150 з гэтых дзён скрадзеныя ў Платона, якога бацька дагэтуль не трымаў на руках, ня мог прытуліць яго да грудзей».

**26 сьнежня 2006 г. Першы дзень на волі**

*— Цімафей, ці Вы ўжо бачылі свайго сына, які нарадзіўся, калі Вы былі за кратамі?*

— На жаль, не. Цяпер, пасьля сустрэчы з Вамі, якраз еду да яго. Мяне ўсяго напаўняюць эмоцыі.

# Аляксандар Шалайка.

**Зьняволены 21 лютага 2006 г. — выйшаў на свабоду 21 жніўня 2006 г.**





Аляксандар Шалайка нарадзіўся 17 студзеня 1977 г. у Менску. Скончыў з залатым мэдалём сярэднюю школу, затым — з адзнакай факультэт міжнародных адносінаў Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. У 2001 г. скончыў юрыдычны факультэт БДУ па спэцыяльнасьці правазнаўства. Працаваў у Нацыянальнай Акадэміі навук спэцыялістам Каардынацыйнага цэнтру ў справе супрацоўніцтва зь ЮНЭСКА. Жанаты, мае двух сыноў.

21 лютага 2006 г., напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, Аляксандар Шалайка быў арыштаваны. Разам зь Міколам Астрэйкам, Энірай Браніцкай і Цімафеем Дранчуком яму было выстаўленае абвінавачаньне ў незаконнай арганізацыі і дзейнасьці незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня «Партнэрства». 4 жніўня суд пакараў Аляксандра Шалайку пазбаўленьнем волі на шэсьць месяцаў.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Аляксандра Шалайку вязьнем сумленьня.

Адзін дзень, 16 ліпеня 2006 г., у сям'і палітвязьня Аляксандра Шалайкі правяла Іна Студзінская.

Сёньня Вера мела спатканьне з мужам у сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. Раней Аляксандра трымалі ў сьледчым ізалятары КДБ, гэтак званай «амэрыканцы».

— Аляксандар трымаецца нармальна, — распавядае Вера. — І ў лістах адчуваецца добры настрой. Можа, таму што я цяжарная, ён ня хоча нічога дрэннага пісаць. І па-другое, у яго такі характар, што ён ніколі ня будзе скардзіцца.

Вера згадвае, як яны пазнаёміліся. Гэта быў сапраўдны «службовы раман», успамінае яна з усьмешкай. Разам працавалі тры гады, яшчэ два гады сустракаліся, і толькі потым ажаніліся...

*— Нават і несучасна — столькі гадоў сустракацца...*

— Таму, я думаю, што добра яго ведаю. Праўда, мая маці кажа, што мужчыну немагчыма ведаць.

На вясельле бацькі Аляксандра й Веры падарылі маладым ключы ад новай аднапакаёвай кватэры. Неўзабаве нарадзіўся сын Цімафей. Юрыст па адукацыі, Вера Шалайка ў дэкрэтным адпачынку была нядоўга: не хацела пакідаць працу, сваіх студэнтаў — яна выкладае ў недзяржаўнай ВНУ крымінальнае права.

Гадаваць Цімку дапамагалі бацькі. Вера пайшла на курсы кіроўцаў. Здавалася, усё цудоўна... Нечакана Аляксандра арыштавалі. Літаральна праз тыдзень пасьля арышту мужа Вера даведалася, што яна цяжарная. На той момант іх першаму сыну Цімафею яшчэ не было году. Што адбывалася ў душы гэтай мужнай жанчыны, ведае толькі яна. Але Вера атрымала правы, працягвае працаваць.

— Псыхалягічна самае цяжкае — гэта калі невядома, чым усё скончыцца. Пакуль не прызначылі суду, было ўвогуле незразумела, што адбываецца. Мой муж нічога дрэннага не рабіў, а яго ўжо пяты месяц трымаюць за кратамі...

Цяпер Ціма, якому год і тры месяцы, знаходзіцца ў Верыных бацькоў, якія жывуць у прыватным доме ў Лагойску. А ў менскай кватэры энэргічная Вера распачала рамонт. Хоча да вяртаньня мужа і нараджэньня другога сына пакласьці кафлю ў кухні, лазенцы й прыбіральні.

— Мы вельмі актыўныя людзі, таму часта запрашаем да сябе сяброў, і сябры нас запрашаюць. Гэты момант, ясна, страчаны — не да сустрэчаў цяпер. Вельмі цяжка было, калі споўніўся год Цімошу — Аляксандра не было з намі. А ў астатнім... Муж ра-



ней вельмі часта дарыў кветкі, мы кудысьці выяжджалі — цяпер гэтага няма. Былі нейкія пляны на лета — тут таксама ўсё разладзілася. Але, я думаю, усё наладзіцца, усё будзе добра.

*— Што дапамагае пераадольваць цяжкасьці?*

— Праца і час, які праводжу з сынам, — не раздумваючы адказвае Вера. — Зь ім забываюся на ўсе гэтыя праблемы. Вялікі дзякуй бацькам, якія ўвесь час са мною, зь Цімам. Дзякуй сябрам і сяброўкам маім, якія таксама дапамагаюць.

Зьняволеньне Аляксандра стала сапраўдным выпрабаваньнем для многіх яго сяброў. Некаторыя адразу спынілі ўсе кантакты зь сям'ёй палітвязьня, канстатуе Вера:

— Аляксандар, седзячы там, гэтага не заўважае. А мне адразу стала зразумела, хто застаўся сябрам, а хто нават патэлефанаваць баіцца. Можа, некаторыя й спужаліся — у нашай краіне і такое магчыма. Я зрабіла высновы, і Аляксандар, як выйдзе, таксама ўсё зразумее пра некаторых сваіх так званых сяброў.

*— Крыўдна, што Аляксандар пазбаўлены магчымасьці бачыць, як Цімафей пачынае хадзіць, размаўляць... Дый Вам у такім стане падтрымка мужа вельмі патрэбная. Ці ёсьць жаданьне адпомсьціць, пакараць?*

— Ну, пакараць... Я думаю, што цяжарная жанчына ня здолее. І ўвогуле, у маёй сытуацыі патрэбныя станоўчыя эмоцыі. Я думаю, Бог усё бачыць і разумее, і кожны атрымае сваё. А цяжарнасьць... Ведаеце, калі муж побач, хочацца быць слабой, а цяпер, калі яго няма з намі, даводзіцца быць моцнай і ўсё вырашаць самой...

Спатканьні ў сьледчым ізалятары дазваляюць даволі рэдка, і таму Вера і Аляксандар Шалайкі засвоілі раней нязвыклы для іх жанр — ліставаньне:

— Спачатку пісалі кожны дзень. Шчыра кажучы, вучыліся пісаць. Бо сёньня ўва ўсіх кампутары, тэлефоны. А цяпер пішам тры-чатыры лісты на тыдзень. А некаторыя сябры мужа ўвогуле ўпершыню ў жыцьці пісалі лісты — на жаль, за краты... Спачатку Аляксандар падрабязна апісваў свае дні ў турме. Я яму пісала пра Цімошку, як ён пачаў хадзіць, што сказаў...

У кастрычніку ў Веры і Аляксандра Шалайкаў павінен нарадзіцца другі сын. Вера спадзяецца, што да таго часу ўся сям'я зьбярэцца разам у адрамантаванай кватэры. З бацькамі, зь сябрамі...

## З архіву «Свабоды»

**4 ліпеня 2006 г. Дзень спатканьня**

У сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Менску з Аляксандрам Шалайкам сустрэлася ягоная жонка Вера. Яна кажа, што ён жартаваў і прасіў прынесьці кашулю, каб добра выглядаць на судзе.

Вера Шалайка: «Спатканьне павінна было быць гадзіну, але, пакуль іх прывялі, засталася хвілінаў сорак. Настрой добры. Аляксандар трымаецца бадзёра. Упэўнены, што ў справе няма нічога такога, каб можна было зрабіць высновы, што ён учыніў нешта дрэннае. Мы спадзяемся, што яго ў судзе вызваляць з-пад варты».

**4 жніўня 2006 г. Дзень абвяшчэньня прысуду**

Суд Цэнтральнага раёну Менску прысудзіў Аляксандру Шалайку шэсьць месяцаў адміністрацыйнага арышту. Цяжарная Вера Шалайка заплакала пасьля абвяшчэньня прысуду. Яна ня здолела гаварыць...



**21 жніўня 2006 г. Дзень вызваленьня**

Маці Аляксандра Ангеліна Шалайка гатуе сьвяточны абед і распавядае: «Цяжка гаварыць... Я ганаруся сынам — і гэтым усё сказана. Яшчэ я хачу пажадаць, каб ніводнай маці не давялося перажываць таго, што мы перажылі. І яшчэ — каб кожная маці магла ганарыцца сваім сынам, як я ганаруся сваім. Яшчэ шмат што трэба асэнсаваць, у тым ліку і тое, што гэты кашмар скончыўся. Я веру ў гэта. Наш сын самы добры, самы прыстойны, самы-самы...»

**22 жніўня 2006 г. Другі дзень на волі**

Аляксандар Шалайка цяпер у Лагойску, дзе жывуць бацькі ягонай жонкі Веры. Сёньня ён не выпускае з рук свайго гадавалага сына Цімку, які за паўгоду адвык ад таты.

«Спачатку ён мяне нават ня вельмі пазнаваў, крыху баяўся. Цяпер, цягам гэтага дня, стала прасьцей. Ён пачынае ўсьміхацца, абдымаць мяне — і таму, мяркую, хутка ён сапраўды адчуе, што тата вярнуўся», — зазначае Аляксандар.

# Сяргей Ляшкевіч.

**Зьняволены 14 сакавіка 2006 г. — выйшаў на свабоду 27 ліпеня 2006 г.**



Сяргей Ляшкевіч нарадзіўся 13 верасьня 1978 г. у Лідзе. Скончыў Гарадзенскі дзяржаўны аграрны ўнівэрсытэт. З 1997 г. — сябра Беларускага Народнага Фронту. Падчас прэзыдэнцкіх выбараў у 2006 г. узначальваў ініцыятыўную групу Аляксандра Мілінкевіча ў Шчучыне. Цяпер Сяргей Ляшкевіч заканчвае магістратуру ў Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце па спэцыяльнасьці паліталёгія. Надалей застаецца актыўным сябрам Партыі БНФ і руху «За свабоду!». Нежанаты.

14 сакавіка 2006 г. Сяргей Ляшкевіч быў арыштаваны і абвінавачаны ў падрыхтоўцы аднаго са шчучынскіх маладзёнаў да ўдзелу ў масавых беспарадках у Менску. Асуджаны да пяці месяцаў зьняволеньня. Адбываў пакараньне ў Глыбоцкай калёніі. Вызвалены датэрмінова 27 ліпеня 2006 г.

Арыштаванага шчучынскага актывіста Сяргея Ляшкевіча дома чакае матуля Ірына Ляшкевіч, якая выгадавала яго адна. Адзін дзень, 29 чэрвеня 2006 г., у сям'і палітвязьня Сяргея Ляшкевіча ў Шчучыне правёў Міхал Карневіч.

Я не адразу засьпеў спадарыню Ірыну ў хаце: яна была ў касьцёле, бо быў дзень сьвятых Пятра й Паўла.

*— Вы часта наведваеце касьцёл, спадарыня Ірына?*

— Я веруючы чалавек, касьцёл наведваю часта. Адзінае, што служба ў нас вядзецца толькі на польскай мове, а не па-беларуску.

*— А Сяргей таксама вернік?*

— Вернік. Ён зь дзяцінства хадзіў у касьцёл, нават самастойна, прымаў першую камунію. Праўда, апошнім часам сказаў, што касьцёл таксама залежны, дый служба па-беларуску там не вядзецца.

*— А Вы цяпер зусім адна?*

— Цяпер я зусім адна ў двухпакаёвай кватэры. Цяжка быць маці палітвязьня. Асабліва калі застаесься адна, а ў нас такая малая сям'я: мы толькі ўдваіх. Таму часта даводзіцца быць сам-насам са сваімі думкамі.

*— Пра што Вам думаецца цяпер?*

— Думаецца, вядома, пра сына. Уяўляю, як яму там... Цяжка несьці гэты крыж. І сплю я няважна. Сьняцца нейкія калідоры, цёмныя пакоі.

Спадарыня Ірына распавядае, што гадавала сына з двух гадоў адна. Яго бацька быў лётчыкам, але жыцьцё з мужам ня склалася, і ён зьехаў. Сяргей часта хварэў у дзяцінстве на астму, ёй даводзілася пакідаць яго ў хаце аднаго альбо са сваёй роднай сястрой. І толькі аднойчы здарылася атрымаць на працы пуцёўку, каб звазіць хлопца на Чорнае мора й падлячыць.

А вось праблемаў з навучаньнем не было, ён хутка вывучыў літары, пачаў чытаць кніжкі. Рос зусім непатрабавальным.

— Заробак у мэдсястры быў невысокі, але цацкі мы зь ім куплялі. Ён сам нешта нагледзіць і прыходзіць да мяне — мы ішлі й куплялі.

Дый падчас вучобы ў Гарадзенскім аграрным унівэрсытэце зь Сяргеем праблемаў не было. Ніякіх нараканьняў ніколі спадарыня Ірына ня чула. Даводзілася, праўда, працаваць на паўтары стаўкі, каб укласьці хлопцу сумку з харчамі, дапамагчы грашыма. Затое ён заўсёды прыбіраў у хаце, мог вымыць посуд, разам хадзілі па ягады й грыбы.

*— Ці сябраваў ён зь якой дзяўчынай?*

— Ён адказваў мне, што жаніцца пакуль не зьбіраецца. Напэўна, адчуваў, што яго чакаюць выпрабаваньньні ў жыцьці. А наконт дзяўчыны казаў, што яна яго чакаць ня будзе.

Да нашай размовы далучыўся сусед Ляшкевічаў Гэнрых Юрэвіч. Ён чалавек сталага веку й ведае Сяргея даўно:

— Вельмі актыўны хлопец, культурны, ветлівы. Хлопец што трэба — дружбісты, спакойны. Шкада толькі, што прыдумалі такое на яго.

*— Спадарыня Ірына, Вам, вядома, крыўдна за сына, што так здарылася...*



— Самае цяжкае, што чалавек сядзіць у турме ні за што. Каб быў вінаваты, то ведаў бы, што вінаваты, а так... Праўда, ён абраў свой шлях сьвядома.

*— А як Вы ставіцеся да таго, што ён займаўся палітычнай дзейнасьцю, быў у апазыцыі?*

— Да яго выбару я стаўлюся станоўча. Яго праца скіраваная на тое, каб наша краіна зьмянялася, квітнела.

*— Вы ў хаце размаўлялі па-беларуску?*

— Асабліва Сяргей, бо я вельмі часта блытаюся. Давялося амаль усё жыцьцё гаварыць па-расейску.

Ірына Ляшкевіч дастае з шуфлядаў кнігі, якія чытаў Сяргей, кажа, што склала іх пасьляператрусу. Вось што адразу трапляецца на вочы: Караткевіч, «Гісторыя культуры Беларусі» Леаніда Лыча і Ўладзімера Навіцкага, «Памяць пра легенды» Кастуся Тарасава, «Геральдыка беларускіх месцаў» Анатоля Цітова. У асноўным беларускія кніжкі.

— Ён яшчэ вельмі любіў паэзію Купалы і Багдановіча.

*— Спадарыня Ірына, а што значыць — чакаць сына зь вязьніцы?*

— Вы ведаеце, здаецца, што час спыніўся, дні здаюцца месяцамі, а месяцы — гадамі. Гэтыя чатыры месяцы падаліся мне ўжо чатырма гадамі. Асабліва апошнім часам дні цягнуцца вельмі доўга.

*— Але ж чакаць яшчэ трохі больш за месяц...*

— Я ўжо думаю пра гэты дзень даўно-даўно. Гэта будзе самае вялікае сьвята, калі я змагу ўбачыць свайго сына і абняць яго.

Спадарыня Ірына кажа, што найчасьцей згадвае сына, як ён сядзеў у сваім пакоі за кампутарам. Часам гэтак здаралася й начамі — але ён быў побач, у хаце. І ягонага вяртаньня маці вельмі чакае.

## З архіву «Свабоды»

**20 красавіка 2006 г. 38-мы дзень зьняволеньня**

Апазыцыйнага актывіста Сяргея Ляшкевіча з гарадзенскай турмы вярнулі ў шчучынскі сьледчы ізалятар. Яго вінавацяць у падрыхтоўцы тэрактаў. Маці Ляшкевіча вельмі хвалюецца. Яна сказала, што ня верыць нікому і лічыць, што справу супраць сына сфабрыкавалі. Добра ставілася да таго, што Сяргей удзельнічаў у палітычным жыцьці, лічыць гэта сур’ёзным заняткам.

Такой жа думкі пра Сяргея Ляшкевіча і ягоныя сябры, зь якімі ён удзельнічаў у выбарчай кампаніі. Васіль Бязьмен, лекар шчучынскага шпіталю, быў разам зь Ляшкевічам у ініцыятыўнай групе Мілінкевіча: «Я думаю, што справа абсурдная і надуманая, паколькі я ведаю Сяргея Ляшкевіча як спакойнага ўраўнаважанага хлопца, разумнага, талковага. Мне здаецца, што ён чалавек, які не прымае авантураў у палітыцы».

**28 ліпеня 2006 г. Першы дзень на свабодзе**

Сяргей Ляшкевіч пра першыя ўражаньні па дарозе дадому: «Нармалёва, было цікава паглядзець на прыроду, на сонейка. Адвык ад гэтага за чатыры з паловай месяцы». Сына сустракае маці Ірына Ляшкевіч: «Думаю, усё страшнае ўжо ў мінулым. Сустрэла сына, радасьць».

Родныя і сябры зьвяртаюць увагу, што Сяргей схуднеў, твар зусім бледны. Побач — сябра Мікола Хільмановіч: «Заехалі на Нарач, пакупалі Сярожку пасьля гэтай турмы, яму спадабалася».

Сяргей працягвае: «Радасьць ад таго, што бачу зялёныя дрэвы, блакітнае неба. І яшчэ хачу сказаць: калі нехта думае, што з дапамогай турмы нас можна



змусіць адмовіцца жыць у вольнай дэмакратычнай краіне, то памыляецца».

**29 ліпеня 2006 г. Другі дзень на свабодзе**

Больш за чатыры месяцы ў розных турмах Беларусі прабыў апазыцыйны актывіст са Шчучына Сяргей Ляшкевіч, якога суд пакараў за падрыхтоўку да тэрактаў. Сяргей згадаў, як вязьні не хацелі верыць у тое, што ў Беларусі пачалі судзіць за падрыхтоўку да тэрактаў. Што да супрацоўнікаў турмаў, то шмат зь іх яму спачувалі.

Сяргей Ляшкевіч: «Бачна было, што некаторыя ставяцца з сымпатыяй, але, канешне, адкрыта яны гэтага не выказвалі і асабліва не дэманстравалі. Баяліся ўсё ж такі. У такі час жывем».

# Аляксандар Казулін.
## Зьняволены 25 сакавіка 2006 г. — выйшаў на свабоду 16 жніўня 2008 г.




Аляксандар Казулін нарадзіўся 25 лістапада 1955 г. у Менску. Прафэсар, доктар навук. Служыў на Балтыйскім флёце ў марской пяхоце, пасьля дэмабілізацыі працаваў на МТЗ. Скончыў з чырвоным дыплёмам мэханіка-матэматычны факультэт БДУ. Быў сакратаром камітэту камсамолу БДУ. Працаваў у БДУ выкладчыкам, дэканам факультэту, потым — у Міністэрстве адукацыі начальнікам аддзелу, намесьнікам і першым намесьнікам міністра. У 1996–2003 гг. — рэктар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. У красавіку 2005 г. абраны старшынём Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада». У тым жа годзе стаў заснавальнікам і каардынатарам грамадзянскай ініцыятывы «Воля народу». На прэзыдэнцкіх выбарах 2006 г. быў кандыдатам на пасаду прэзыдэнта Беларусі. Удавец, мае дзьвюх дачок і ўнука.

Аляксандра Казуліна затрымалі 25 сакавіка 2006 г. падчас разгону шэсьця на праспэкце Дзяржынскага. 13 ліпеня 2006 г. яго асудзілі да пяці з паловай гадоў паўзбаўленьня волі за хуліганства і арганізацыю вулічных беспарадкаў. Адбываў пакараньне ў калёніі ў Віцебску. Пры канцы 2006 г. 53 дні трымаў палітычную галадоўку — дамагаўся адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі і патрабаваў разгледзець стан з правамі чалавека ў Беларусі на Радзе бясьпекі ААН. У выніку галадоўкі з ініцыятывы ўраду ЗША на паседжаньні Рады бясьпекі ААН было ўзьнятае пытаньне пра Беларусь. Вызвалены згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Аляксандра Казуліна вязьнем сумленьня.

Травень 2008 г. Больш за два гады Аляксандра Казуліна чакае яго сям'я: дочкі, унук, бацькі, брат і сястра. Не дачакалася вызваленьня мужа Ірына Казуліна, якая памерла ад ракавай хваробы 23 лютага 2008 г. Адзін дзень, 9 траўня, у сям'і палітвязьня правяла Ганна Соўсь.

Я ў гасьцях у Казуліных па вяртаньні дачок Вольгі і Юліі і ўнука Ўладзіка з трохдзённага спатканьня з Аляксандрам Казуліным у калёніі «Віцьба-3».

— Тата прыйшоў загарэлы, — кажа Вольга Казуліна. — Ён усьміхаецца, такі супакойны...

Юлія Казуліна дадае:

— Аднак ён сказаў, што гэтыя два месяцы былі самымі цяжкімі за ўвесь час знаходжаньня за кратамі, таму што ён там адзін, ні з кім ня мае магчымасьці падзяліцца сваімі перажываньнямі з прычыны сьмерці нашай маці. Ён сказаў, што гэта было самае цяжкае...

Апошні раз я была ў кватэры Казуліных у лютым 2007 г. — тады са спатканьня з Аляксандрам Казуліным вярнулася Ірына Казуліна разам з дочкамі. Цяпер на сьцяне і на століку — два вялікія фотапартрэты Ірыны. Яна ўсьміхаецца дочкам і ўсім, хто прыходзіць да іх у госьці. Гэтым разам — мне і сябру сям'і Казуліных Сяргею Скрабцу.

Мы слухаем запіс онлайн-канфэрэнцыі Ірыны Казулінай для чытачоў сайту «Свабоды», якая адбылася ўлетку 2006 г., на наступны дзень пасьля таго, як Аляксандра Казуліна асудзілі да пяці з паловай гадоў зьняволеньня. Гэты ды іншыя запісы зрабілі ў рэдакцыі «Свабоды» на просьбу Аляксандра Казуліна. Аднак кіраўніцтва віцебскай калёніі не дазволіла перадаць палітвязьню запісы выступаў ягонай жонкі на Радыё Свабода. І па вяртаньні з турмы дочкі ўключаюць магнітафон...

Пытаньне: *«Пяць з паловай гадоў. Ніхто ня мае права забіраць столькі гадоў жыцьця. Я ў шоку ад гэтага паказальнага працэсу».*

Ірына Казуліна: «Дзякуй, што людзі разумеюць і перажываюць разам са мной, пішуць мне. Я магу толькі перадаць гэтыя словы свайму мужу. Гэта яму таксама вельмі патрэбна».

Пытаньне: *«Ірына, скажыце, ці магчыма для Беларусі стаць свабоднай ад Лукашэнкі дзяржавай бліжэйшым часам?»*

І.К.: «Я ў гэта веру, таксама як і шмат людзей, якія нас падтрымліваюць, бо за апошні час многае зьмянілася ў краіне. Істотныя перамены непазьбежныя ў самы бліжэйшы час».

Пытаньне: *«Ці выставіце Вы сваю кандыдатуру на пасаду прэзыдэнта ў 2011 годзе?»*



І.К.: «Сваю кандыдатуру — не. Але мой муж будзе прэзыдэнтам...»

На 30-ты дзень пасьля сьмерці Ірыны Аляксандар Казулін запаліў сьвечкі ў турэмнай каплічцы і яшчэ раз разьвітаўся са сваёй жонкай. Як расказваюць дочкі, у капцёрцы, дзе працуе бацька, уся сьцяна ў фатаздымках Ірыны і ў выразках газэтных інтэрвію зь ёй. Пасьля спатканьня дочкі адразу паехалі на магілу маці ў Тарасава. Там было шмат сьвежых кветак і сьвечак.

Юлія Казуліна кажа, што, нягледзячы ні на што, у яе застаецца ўнутраная сувязь з маці:

— Вельмі часта бачу яе ў сьне. Часта сны бываюць трывожныя: мы ўцякаем ад кагосьці... А некалькі разоў я бачыла, як яна прыходзіць да мяне вельмі прыгожая. Я запытваюся: «Як ты там, мама?» А яна адказвае, што «ў мяне ўсе добра. Мне вельмі добра дыхаецца...»

Цяпер адпраўныя пункты ў жыцьці Казуліных — гэта спатканьні з Аляксандрам Казуліным. Усяго за два з паловай гады зьняволеньня палітвязьня былі чатыры доўгатэрміновыя спатканьні зь сям'ёй. Наступнае трохдзённае будзе ў верасьні, а кароткатэрміновае мае адбыцца ў ліпені.

— Але мы вельмі спадзяемся на тое, што нам ужо не спатрэбіцца ехаць да яго на доўгатэрміновае спатканьне, — гаворыць Вольга, — таму што ён будзе з намі на свабодзе. У верасьні палова ягонага тэрміну, але я рэальна спадзяюся на тое, што ўсё ж Эўразьвяз і Амэрыка моцна націснуць на Лукашэнку, і той будзе вымушаны яго вызваліць.

Жыцьцё Вольгі і Юліі кардынальна зьмянілася пасьля таго, як іх бацька пайшоў у палітыку і трапіў за краты. Вольгу Казуліну, якая мае дзьве вы-

шэйшыя адукацыі, не бяруць на працу, і цяпер яна цалкам прысьвяціла сябе бацькавым справам: праца з поштай, з сайтам, паездкі, пікеты, заявы — усё дзеля вызваленьня таты:

— Мы так былі выхаваныя... Тата з самага дзяцінства гаварыў, што кожны чалавек павінен расьці ўнутры сябе, і гэты рост можа адбывацца тады, калі чалавек праходзіць праз розныя пакуты. Чалавек павінен разьвівацца ў гэтых пакутах. Я ўпэўненая, што Бог даў нам выпрабаваньні дзеля таго, каб мы рэалізаваліся, каб мы паказалі, што мы ня тыя птушкі, якія сядзелі ў таты пад крылом. Мы моцныя, мы самастойныя. Што ня толькі ён нас можа абараніць, але і мы можам яго абараніць.

Вольга і Юлія частуюць мяне і Сяргея Скрабца гарбатай зь мёдам. Сяргей быў разам з Аляксандрам Казуліным у віцебскай калёніі, і цяпер заўсёды падтрымлівае ягоную сям'ю:

— І дочкі Казуліна, і Ірына, нябожчыца, — гэта вельмі адважныя людзі. Можна толькі зьдзіўляцца той стойкасьці, зь якой яны выносяць гэтыя выпрабаваньні. Вось у турме людзі, якія нас з Казуліным ахоўвалі і ня вельмі добра сябе паводзілі, яны прыкрываліся тым, што ў іх ёсьць сем'і і іх трэба карміць. Нібыта ў нас няма сем'яў. Большасьць беларусаў, якія сядзяць па дамах і маўчаць, лічаць, што ад іх залежаць сем'і, іхны дабрабыт... І ведаеце, на гэтым фоне ёсьць вера ў перамены, таму што ў нас ёсьць такая моладзь, як дочкі Казуліна.

Палітвязьня Аляксандра Казуліна на свабодзе чакае і ўнук Уладзік, які ня хоча болей быць галоўным мужчынам у сям'і, ён хоча вярнуць гэты абавязак дзеду.



Спадарыня Вольга кажа пра Ўладзіка:

— Чакае дзеда. Мы былі ў калёніі тры дні. Яны гулялі там і ў футбол, і ў выбівалу, і ў валейбол. Столькі часу правялі разам. У нас цяпер толькі адзін мужчына на свабодзе...

## З архіву «Свабоды»

**10 ліпеня 2006 г. 105-ты дзень зьняволеньня**

Юлія Казуліна: «Для мяне самае складанае — што майго бацькі няма з намі. Раней, калі мы ўсе вярталіся з працы, з вучобы, мы маглі сабрацца разам, паесьці трускавак, пагаварыць. Бацька нас абдымаў...»

**13 ліпеня 2006 г. Дзень абвяшчэньня прысуду**

Маці Аляксандра Казуліна Яўгенія Дудко: «Я, як маці, выказваю пратэст. Я зьбіраюся наагул не выходзіць з залі суду, пакуль ня вызваляць і не аддадуць мне майго сына. Сын мой ні ў чым не вінаваты... Усё гэта мана, усё гэта няпраўда. Сын мой сумленны, прыстойны, ён любіць свой народ і сваю Радзіму. Свабоду майму сыну! Людзі добрыя! Прашу вас, заступіцеся за майго сына, інакш і ў вас ня будзе сыноў пры гэтым рэжыме, пры гэтай уладзе!»

**8 сьнежня 2006 г.**

Са звароту А. Казуліна да лідэраў дэмакратычных краінаў і кіраўніцтва ААН: «Я пражыў 51 год і ніяк не магу зразумець: якая сапраўдная цана чалавечага жыцьця? Якая цана рэальнай дэмакратыі, свабоды, і ці мае чалавек права на абарону свайго жыцьця? Я прашу, каб хаця б адна з краінаў "вялікай васьмёркі" праявіла цьвёрды намер унесьці на разгляд Рады

бясьпекі ААН пытаньне аб Беларусі, зрабіўшы адпаведную афіцыйную заяву. Магчыма, гэтая драбніца і вызначыць рэальную цану ўсяго аднаго чалавечага жыцьця».

**12 сьнежня 2006 г. Дзень выхаду з галадоўкі**

Ірына Казуліна: «Учора мне тэлефанавала маці Аляксандра, уся ў сьлязах, сказала, што яна дазванілася да дзяжурнага МУС і той сказаў, што ён нічога ня ведае пра выхад з галадоўкі. Я ня ведаю, як яна правяла гэтую ноч, яна ў адчаі. Мы будзем тэлефанаваць ізноў, каб хаця б на хвіліну пачуць ягоны голас. Мне трэба ведаць, што Аляксандар сам выходзіць з галадоўкі, што яго не выводзяць зь яе гвалтоўна і што зь ім усё ў парадку».

**2 лютага 2007 г. Дзень пасьля спатканьня ў калёніі**

Ірына Казуліна: «Адзіны сродак інфармацыі — гэта Радыё Свабода. Аляксандар казаў: “Калі я пачую па радыё галасы сваіх родных, у мяне такое ўражаньне, што мы паразмаўлялі”».

Падчас вячэры дыктафон Радыё Свабода ляжыць на стале і працуе ў рэжыме запісу. Бацька Аляксандра Казуліна Ўладзіслаў Аляксандравіч пэрыядычна бярэ яго і зьвяртаецца да сына: «Сашка! Я ведаю: ты — марскі пяхотнік. Воўка — паветраны дэсантнік. Вы ўсё вытрываеце. Ні на кога не трымай зла. Даруй ім усім. Я ведаю, як табе складана. Павер, нам з маці таксама вельмі цяжка. Але мы чакаем і дачакаемся цябе. Маці вельмі перажывала, мне было цяжка яе супакоіць. Але ў нас вялікая сям’я, і дзеці твае, і ўнукі мае, і праўнук — усе мы думаем пра цябе і дачакаемся твайго вяртаньня зь перамогай».



**27 лютага 2008 г. Дзень пахаваньня жонкі Ірыны**

Пад Менскам у вёсцы Тарасава адбылося пахаваньне Ірыны Казулінай. Пад сьпевы касьцельнага хору труну вынесьлі з катафалку. Пасьля некалькіх малітваў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк прапанаваў сказаць пра Ірыну Казуліну разьвітальнае слова. Гэта зрабіў сам Аляксандар Казулін. Ён казаў пра сваю любоў да жонкі, пра яе самаахвярнасьць і пра тое, што яна сваім прыкладам дапамагала людзям жыць і змагацца за жыцьцё.

Аляксандар Казулін не сказаў ані слова пра палітыку. У некаторыя моманты ён плакаў, а слухаючы яго, плакалі і людзі навокал. Калі выглянула сонейка, Аляксандар Казулін сказаў, што прырода радуецца за Ірыну, якой у нябёсах будзе лепш, чым на зямлі.

**18 жніўня 2008 г. Трэці дзень на свабодзе**

Аляксандар Казулін: «Я прымаю вызваленьне як знак справядлівасьці, але не магу прыняць памілаваньне з маральных меркаваньняў. Я не зьдзяйсьняў дзеяньняў, якія падлягаюць крымінальнаму пакараньню. Мая сям’я і асабіста я трапілі пад жорсткія рэпрэсіі з боку дзяржавы і палітычнага рэжыму... Такая матывацыя вызваленьня прыніжальная ня толькі для мяне. Толькі маё безумоўнае вызваленьне і поўная рэабілітацыя невінаватага, а таксама неадкладнае вызваленьне Андрэя Кіма і Сяргея Парсюкевіча могуць разглядацца як сапраўдны рэальны крок з боку беларускай дзяржавы на шляху да дэмакратызацыі грамадзтва...»

# Юры Лявонаў.

**Зьняволены 7 ліпеня 2006 г. —
выйшаў на сваботу 25 студзеня 2008 г.**



Юры Лявонаў нарадзіўся 23 жніўня 1961 г. у горадзе Калініне Маскоўскай вобласьці. Скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут, два гады адслужыў у войску. Пасьля служыў на аэрадроме ў Росі, у 1991 г. звольніўся, капітан запасу. Быў прадпрымальнікам, стварыў у Ваўкавыску сваю фірму.

У ліпені 2006 г. Юры Лявонаў быў асуджаны да пазбаўленьня волі на тры гады і пяць месяцаў. Адбываў пакараньне ў Бабруйску ў папраўчай калёніі № 2 строгага рэжыму. Прэзыдыюм Гарадзенскага абласнога суду задаволіў пратэст старшыні гэтага суду, які прасіў зьменшыць тэрмін пакараньня Юрыя Лявонава да паўтара году. Выйшаў на свабоду ў студзені 2008 г. Пасьля вызваленьня з калёніі працаваў праграмістам у адной з фірмаў Ваўкавыску. Жанаты, мае дзьвюх дачок і ўнучку.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Юрыя Лявонава вязьнем сумленьня.

8 лютага 2009 г. Юры Лявонаў зьняволены разам з прадпрымальнікамі Мікалаем Аўтуховічам і Ўладзімерам Асіпенкам. Іх абвінавачваюць у арганізацыі і зьдзяйсьненьні шэрагу цяжкіх злачынстваў.

У сьнежні 2008 г. адзін дзень з былым палітвязьнем Юрыем Лявонавым правёў Сяргей Астраўцоў.

*— Як Вы напачатку ўспрымалі зьняволеньне і як успрымаеце цяпер, ці зьмянілася штосьці, ці прытупіліся тыя адмоўныя пачуцьці?*

— Я да апошняга моманту ня верыў у магчымасьць трапіць за краты, таму што не лічыў і не лічу сябе ў чымсьці вінаватым, гэта датычыцца і таго абвінавачаньня, якое выставіў мне ў Горадні ў Ленінскім раённым судзе судзьдзя Рачынскі. Зь іншага боку, знаходзячыся ў момант вынясеньня прысуду ў судовай залі, я быў гатовы да любога павароту падзеяў.

У першыя дні зьняволеньня больш за ўсё мяне турбаваў лёс жонкі і дзяцей: ці не адаб'ецца маё зьняволеньне на іх, як яны змогуць пражыць без асноўнага заробку? І толькі калі, будучы ў гарадзенскай турме, я атрымаў выразныя запэўніваньні маіх сяброў, што матэрыяльна мая сям'я будзе забясьпечаная, мае думкі пераключыліся на іншыя праблемы — працу і грамадзянскую пазыцыю. Яны вымагалі дакладнага асэнсаваньня новых умоў, у якіх я апынуўся. Успрымаю я сваё зьняволеньне як найгрубейшую судовую памылку, прадыктаваную ціскам

улады на судовую сыстэму Беларусі ў цэлым. Гэтае маё ўспрыняцьце з часам не зьмянілася, а ўся хада далейшых падзеяў толькі ўмацавала мяне ў правільнасьці майго меркаваньня на гэты конт.

З часам, зразумела, адмоўныя эмоцыі прытупляюцца, так уладкаваны чалавечы арганізм: станоўчыя эмоцыі назапашваюцца, адмоўныя — фільтруюцца, вера ў лепшую будучыню ёсьць стрыжнем жыцьця ўвогуле. Але, бывае, заплюшчваю вочы, і падзеі таго часу праходзяць перад вачыма: здараецца, што павольна, з усімі падрабязнасьцямі, а іншым разам хутка, як у калейдаскопе, і тады зноўку ў душы ўзьнімаецца пачуцьцё шкадобы да людзей, што маюць уладу, але выкарыстоўваюць яе ў карысных інтарэсах. Ёсьць такое паняцьце — «прадаць душу д’яблу». Дык вось гэтыя людзі прадалі сваю душу і ўсё астатняе жыцьцё будуць адчуваць згрызоты сумленьня, суцяшаючы сябе толькі зрэдку сумнеўнымі дывідэндамі ад гэтай зьдзелкі.

*— Што было найбольш складаным у зьняволеньні? Што часьцей за ўсё ўспамінаецца?*

— Я нават ня здолею сказаць, што было найбольш складаным: складанасьці падпільноўвалі на кожным кроку. Магу сказаць, што зьяўляецца самым галоўным, — ня страціць сябе і не паддавацца маркоце.

Часьцей за ўсё ўспамінаю цяпер заняткі замежнымі мовамі. Адзін з маіх «таварышаў па няшчасьці» практычна ў дасканаласьці валодаў ангельскай мовай, я ж даволі няблага валодаю нямецкай. Мы распрацавалі мэтодыку экспрэс-навучаньня размоўнай мове і практычна кожны дзень цягам паўгоду па тры—чатыры гадзіны паглыбляліся ў розныя віртуальныя тэмы, прычым абмяркоўвалі іх на трох мовах адразу: ангельскай, нямецкай і расейскай.



*— Які дзень з таго часу, якая падзея, сустрэча ці якое знаёмства найбольш захаваліся ў памяці?*

— Цяжка сказаць. Напэўна, гэта апошні дзень на свабодзе, калі я прачнуўся дома, а засынаў ужо ў турэмнай камэры, а таксама дзень вызваленьня: зранку я яшчэ ні аб чым не падазраваў, выйшаў на працу, адпрацаваў зьмену, а потым здарылася якасьці віхура падзеяў, у выніку я раптам апынуўся паза брамай калёніі ў поўнай цемры з квітком дахаты і пяцьцю тысячамі рублёў у кішэні. І тут падыходзіць кантралёр з пакою спатканьняў, той, які выварочваў усё, што прывозіла жонка, і працягвае мне тэлефон: «На, патэлефануй дахаты». ...Яшчэ можна назваць першы дзень у калёніі, калі ўпершыню пасьля трох месяцаў турмы свабодна, безь ніякага канвою, я выйшаў у маленькі дворык і ўбачыў над галавой чыстае неба. А сустрэчаў і знаёмстваў было вельмі шмат, цяжка кагосьці з маіх новых знаёмых вылучыць асобна, кожны па-свойму цікавы, а ўвогуле памятаю ўсіх.

*— Ці былі сьмешныя выпадкі?*

— Пастаянна. Сьмех — гэта галоўная зброя зэка супраць тых умоваў, у якіх ён апынуўся. Гумар, вядома, у зоне крыху своеасаблівы, дый людзі ўсе розныя, але тое, што нас аб’ядноўвала, — гэта бязьмежнае пачуцьцё гумару.

*— Чаму вы навучыліся за гэты час у турме? У чым расчараваліся?*

— Навучыўся па-сапраўднаму чакаць і цярпець. Расчараваньняў не было.

*— Што дапамагло адаптавацца за кратамі — кнігі, лісты, дапамога з волі?*

— Усё разам. І людзі знайшліся, якія падзяляюць мае погляды, і кнігі, якіх я яшчэ не чытаў. У нашым

атрадзе я атрымліваў лістоў больш за ўсіх, практычна на ўсе адказваў. Але самае галоўнае — я адчуваў сталую падтрымку з волі ад сваіх калегаў па працы: і матэрыяльную, і маральную.

*— Чаму навучыла калёнія і што назаўжды забрала, перакрэсьліла?*

— Навучыла мяне ніколі, ні пры якіх абставінах ня траціць пачуцьця ўласнай годнасьці, заўсёды заставацца чалавекам і не даваць волі жывёльным інстынктам. Калёнія зьмяніла стаўленьне да рэлігіі, я так і ня стаў веруючым, але навучыўся разумець розныя веравызнаньні, адчуў мяжу паміж матэрыяльным і нематэрыяльным.

*— Пра якую страву, ежу марылі ў турме?*

— Ды я ўвогуле адносна ежы не патрабавальны. Турэмная пайка мяне цалкам задавальняла, даводзілася дбаць самому толькі пра вітаміны, каб сьвежая гародніна ў пасылцы ці ў перадачы была. А чаго хацелася б? Можа, блінчыкаў зь мясам ды піражкоў дамашніх.

## З архіву Свабоды

**18 красавіка 2005 г. Апошні дзень галадоўкі**

Ваўкавыскія кіроўцы выходзяць з галадоўкі. Акцыя пратэсту працягвалася цэлы месяц, завадатарам галадоўкі быў прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч. Спадары Лявонаў і Аўтуховіч прыехалі ў Горадню, каб залатвіць справы.

Дырэктар «Ніка-трансу» Юры Лявонаў задаволены тым, што нарэшце можна нармальна працаваць: «Людзі працуюць на тэхніцы, рыхтуюць машыны да выезду. Я разьлічваю, што першыя машыны ў сераду ўжо пойдуць на загрузку. Заказы ёсьць, грузы ёсьць».



Цяпер Юры Лявонаў у Горадні займаецца ўрэгуляваньнем справаў у Асацыяцыі міжнародных аўтаперавозак.

**17 лістапада 2005 г. Галадоўка**

35 дзён галадае за кратамі Мікалай Аўтуховіч. Стан Мікалая Аўтуховіча вельмі непакоіць яго ваўкавыскіх калегаў, што галадаюць у ягоную падтрымку. Гаворыць Юры Лявонаў, дырэктар прадпрыемства «Ніка-транс»: «Мая галадоўка выкліканая нялюдзкімі адносінамі да чалавека ў нашай дзяржаве. Павінны быць нейкія разумныя межы аказаньня ціску на грамадзяніна, асобу. Мне незразумелая самая сутнасьць узяцьця пад варту Аўтуховіча».

**25 студзеня 2008 г. Дзень вызваленьня**

Юры Лявонаў стаў трэцім палітвязьнем, вызваленым за апошні тыдзень, зазначае Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасьць». Юры Лявонаў — уладальнік ваўкавыскай фірмы «Ніка-транс» і дзелавы партнэр вызваленага ў мінулую пятніцу Мікалая Аўтуховіча.

# Іван Крук.

**Зьняволены 10 ліпеня 2006 г. —
выйшаў на свабоду 10 студзеня 2007 г.**



Іван Крук нарадзіўся 27 кастрычніка 1944 г. у вёсцы Кажан-Гарадок Берасьцейскай вобласьці. Скончыў менскую школу міліцыі, пазьней — Калінінградзкі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Юрыст. Больш за 30 гадоў адпрацаваў у праваахоўных органах. Сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Падчас выбарчай кампаніі 2006 г. зьбіраў подпісы ў Астравецкім раёне за абодвух дэмакратычных кандыдатаў у прэзыдэнты: Аляксандра Мілінкевіча і Аляксандра Казуліна. Цяпер на пэнсіі, актыўна займаецца грамадзкапалітычнай і праваабарончай дзейнасьцю. Жанаты, мае двух сыноў.



Падчасператрусу ў кватэры Івана Крука міліцыянты спрабавалі канфіскаваць кампутар, тады гаспадар кінуў яго на падлогу й разьбіў. У выніку была заведзеная крымінальная справа за супраціў міліцыі. 15 траўня 2006 г. Івана Крука асудзілі да паўгоду зьняволеньня. Адбываў пакараньне ў глыбоцкай калёніі ўзмоцненага рэжыму.

Адзін дзень, 25 кастрычніка 2007 г., з былым палітвязьнем Іванам Круком правёў у Астраўцы Міхал Карневіч. Мінула больш за дзевяць месяцаў, як грамадзкі актывіст выйшаў з-за кратаў.

Мы гутарым з Іванам Круком у ягоным пакоі, тым самым, дзе летась у траўні міліцыянты рабілі ператрус. Спадар Крук паказвае, як ён кінуў на падлогу кампутар, як схапілі яго за рукі міліцыянты, распавядае, як загаласіла жонка і закрычалі суседзі. Гаворыць пра гэта спакойна, быццам і ня зь ім гэта ўсё адбывалася.

Іван Крук сьцьвярджае, што гэта была расправа за яго палітычную дзейнасьць. Ён лічыць, што мясцовым уладам ужо даўно не падабалася ягоная актыўная жыцьцёвая пазыцыя. Маючы вялікі досьвед працы ў праваахоўных органах, ён браўся за самыя складаныя адміністрацыйныя і крымінальныя справы ў раёне. Пазьней быў грамадзкім абаронцам, выступаў у СМІ з крытыкай раённага начальства.

— Такім чынам, — кажа спадар Крук, — мяне папярэдзілі, маўляў, калі ня хочаш жыць ціха, пасядзі ў турме. Але такія захады мяне толькі загартавалі, я ані на хвілінку не перастану змагацца за справядлівасьць у сваім раёне, як дапамагаў, так і буду дапамагаць людзям, якія маюць патрэбу ў юрыдычнай падтрымцы.

*— Спадар Іван, Вы адпрацавалі ў праваахоўных органах больш за 30 гадоў, а тут раптам ператрус робяць у Вашай хаце. Як Вы гэта ўсё ўспрымалі тады?*

— Сапраўды, так сумна мне ніколі не было. Я ж выдатна разумеў, што яны парушаюць усе магчымыя законы і інструкцыі. Ды і яны аб гэтым ведалі, а рабілі. Я адпрацаваў 30 гадоў у пракуратуры і ніколі не парушаў закону, бо заўсёды выконваў наказ свайго бацькі — быць сапраўдным грамадзянінам. А мой тата быў сьвятаром, гуманістам.

*— Я добра памятаю суд у Лідзе, калі Вам зачытвалі прысуд. Памятаю, як Вы хваляваліся, але імкнуліся не паказваць свайго ўнутранага стану. А як цяпер успрымаеце зьняволеньне?*

— Ведаеце, калі па мяне прыехалі дахаты супрацоўнікі міліцыі, каб этапаваць, я папрасіў іх, каб яны мяне не забіралі. Я даў слова афіцэра, што раніцай роўна а 9-й гадзіне буду ў міліцыі. Яны патэлефанавалі начальству і пакінулі мяне дома. Потым, калі я праходзіў усе турэмныя этапы, то на кожным зь іх сустракаў розных людзей, таксама й добрых. І зразумеў, што чалавекам можна заставацца паўсюль, і дзеля гэтага шмат ня трэба. Дарэчы, я ўвесь час думаў аб гэтым у камэры і імкнуўся ў любых сытуацыях заставацца чалавекам.

*— Спадар Іван, а Вашая сям'я адчула на сабе наступствы гэтай справы?*

— Тойператрус да мяне прыйшлі рабіць, бо завялі крымінальную справу супраць малодшага сына. Зразумела, што гэта была толькі прычына, каб кантраляваць мяне. Магу толькі ўяўляць, колькі нацярпеўся хлопец, калі яго цягалі па судах. Бачу, што за гэты час вельмі моцна здала жонка, аднялі і ў яе здароўе...



*— А цяпер Вы чым займаецеся?*

— Я пэнсіянэр, актыўна займаюся грамадзка-палітычнай і праваабарончай дзейнасьцю. Практычна кожны дзень да мяне зьвяртаюцца людзі, каб дапамог скласьці паперу ў міліцыю альбо пракуратуру. Калі атрымліваю новыя незалежныя выданьні, распаўсюджваю іх сярод людзей. У мяне практычна няма свабодных хвілінаў.

*— Спадар Іван, а Вам ніколі не хацелася адпомсьціць тым, хто пасадзіў Вас за краты?*

— Я чалавек ня помсьлівы. Думаю, што шмат хто зь іх разумее, што падобныя злачынствы ня маюць тэрміну даўніны, і ім усё роўна давядзецца адказваць. Дарэчы, у раёне няма ўжо таго пракурора, які перадаваў маю справу ў суд, і сьледчы зьехаў некуды ў Расею. Часам, калі на вуліцы сустракаю супрацоўнікаў пракуратуры, бачу, як яны апускаюць вочы і баяцца на мяне паглядзець. Некаторым зь іх сорамна.

*— А што было самым цяжкім у вязьніцы і ці ўзгадваеце Вы аб гэтым?*

— Я на свае вочы пабачыў, што многія з асуджаных патрапілі туды, як і я, безь віны. Цяжка было на гэта глядзець... Кожны казаў пра свой боль, а дапамагчы я нічым ня мог.

*— А нейкі адзін дзень...*

— 18 кастрычніка я атрымаў тэлеграму, што памерла мая мама. Яна ня вытрымала таго, што мяне асудзілі. І я ня здолеў правесьці яе ў апошні шлях. Цяжка было перажыць гэта, ды й зараз часта аб гэтым думаю...

*— Чаму навучыла турма?*

— Я яшчэ больш пераканаўся ў тым, што я на правільным шляху. Турма загартавала мяне, мне зараз хочацца болей рабіць дзеля таго, каб перамагчы

рэжым, які існуе ў Беларусі. На свае вочы пабачыў, як выконваюць не законы, а абслугоўваюць інтарэсы асобных людзей. Мяне гэта вельмі пакрыўдзіла. Я зразумеў, што ніякай гуманізацыі ў адносінах да чалавека ў Беларусі не існуе, а ёсьць толькі пакараньне, прыніжэньне й падаўленьне чалавечай асобы.

*— Вы, напэўна, сочыце за тым, як у розных гарадах Беларусі ідуць суды над маладафронтаўцамі ды іншымі апазыцыйна настроенымі да ўлады людзьмі...*

— Я штодня адсочваю інфармацыю пра тое, што адбываецца ў краіне. Часьцей за ўсё скарыстоўваю дзеля гэтага перадачы Радыё Свабода. Рэпрэсіі нарастаюць, улады хочуць зламаць волю маладых, але яны ўжо ня могуць кантраляваць усіх. Рэпрэсіўная сыстэма дае збой. Нам усім трэба аб'ядноўвацца, у нас шмат рэсурсаў, а сілы рэжыму слабеюць. Нам трэба гэта добра разумець.

*— Мы ўвесь час гаворым пра рэпрэсіі, рэжым, парушэньне закону сілавікамі. А як жа Вы прапрацавалі ў органах пракуратуры столькі гадоў?*

— Я павінен Вам сказаць, што я нават на рэспубліканскім узроўні лічыўся сярод найлепшых прафэсіяналаў. І ведаеце, мне і цяпер ня сорамна хадзіць па Астраўцы, паколькі ніводзін чалавек мяне не папракне, што я парушаў у адносінах да яго закон, прыніжаў, фальсыфікаваў, беспадстаўна абвінавачваў... Мне ня скажуць гэтага нават тыя, хто зьдзяйсьняў злачынствы, паколькі я прытрымліваўся закону і ў адносінах зь імі. Я ўжо тады змагаўся з гэтай сыстэмай.

*— А турма моцна адбілася на Вашым здароўі?*

— Раней я ніколі не адчуваў болю ў сэрцы, ніколі так не дакучала сьпіна. Я там зьвяртаўся да турэмных мэдыкаў, а яны мне казалі, што я прыехаў адбываць пакараньне, а не папраўляць здароўе.

*— Якую параду Вы далі б тым людзям, якія змагаюцца ў нашай краіне за дэмакратыю?*

— Асабліва маладым хачу сказаць: ня бойцеся, змагайцеся, будзьце сапраўднымі. І, вядома, жадаю, каб усе яны былі здаровымі.



## З архіву «Свабоды»

**10 ліпеня 2006 г. Першы дзень няволі**

А 9-й гадзіне раніцы Іван Крук зьявіўся ў Астравецкі раённы аддзел міліцыі. Жонка Крука Вольга паведаміла, што ўдзень яе мужа адвезьлі ў Смаргонь. Цяпер ён знаходзіцца там у міліцыі. Праз некалькі дзён будзе вырашана, дзе менавіта Іван Крук будзе адбываць пакараньне. Перад тым, як ісьці ў міліцыю, Іван Крук патэлефанаваў карэспандэнту Радыё Свабода і папрасіў агучыць наступнае: «Я кажу адназначна: мае прынцыпы — заўсёды за свабоду, за дэмакратыю і за тое, каб Канстытуцыя 1994 году выконвалася. Гэтыя прынцыпы я заўсёды буду адстойваць, колькі хопіць сілаў».

**10 студзеня 2007 г. Першы дзень на свабодзе**

Сёньня з глыбоцкай турмы на волю выйшаў астравецкі актывіст Іван Крук. Ён адбыў увесь тэрмін пакараньня, і яго павінны былі адпусьціць а 10-й гадзіне раніцы, але вывезьлі за горад на гадзіну раней.

Спадар Крук: «Я толькі выйшаў на вуліцу, а мяне адразу садзяць у міліцэйскую машыну. Завезьлі аж за 50 кілямэтраў, да пастаўскага перакрыжаваньня, і там пакінулі».

Іван Крук кажа, што за гэтыя 6 месяцаў ён не зьмяніў сваіх палітычных перакананьняў і што менавіта за гэта сукамэрнікі з павагай ставіліся да яго. Асаблівую сілу ў турме надавалі лісты з волі, за што ўдзячны ўсім, хто яго не забываў: «Я атрымаў больш за 90 віншаваньняў з Новым годам — з Прагі, Бэльгіі, Вільні, ад палітычных партыяў і журналістаў, навукоўцаў, ад цэлых сем'яў. Перад усімі нізка схіляю галаву. Часам, калі чытаў лісты, нават сьлёзы пяклі ў вачах».

**25 сакавіка 2008 г. Дзень Волі**

Былы палітвязень Іван Крук сёньня раніцай абзваніў праз тэлефон усё кіраўніцтва Астравецкага райвыканкаму, у тым ліку КДБ і міліцыю, і павіншаваў іх з 90-мі ўгодкамі Беларускай Народнай Рэспублікі. Усе ягоныя адрасаты былі зьдзіўленыя такімі тэлефанаваньнямі, але паставіліся да гэтага з удзячнасьцю. Некаторыя нават самі ў адказ віншавалі яго.

**19 ліпеня 2008 г. Дзень затрыманьня.**

Былы палітвязень Іван Крук быў затрыманы на аўтадарозе ў Ашмяны, яго даставілі ў Ашмянскі РАЎС. Спадар Крук зьбіраецца балятавацца на парлямэнцкіх выбарах па Іўеўскай акрузе № 53, у якую ўваходзяць Ашмяны. Ён меў з сабой улёткі са зваротам Аб'яднаных дэмакратычных сілаў і сваім здымкам на другім баку. Міліцыянты сканфіскавалі ўлёткі. Пазьней былога палітвязьня адпусьцілі.

**7 жніўня 2008 г. Дзень звароту ў суд**

Астравецкае прадпрыемства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі зьвярнулася ў суд з пазовам супраць былога палітвязьня Івана Крука. Камунальнікі патрабуюць прызнаць несапраўднымі яго скаргі ў арганізацыі кантролю.



Іван Крук на просьбу жыхароў Астраўца напісаў некалькі скаргаў на камунальнікаў, што тыя незаконна выкарыстоўваюць сродкі, якія вылічваюць зь людзей на капітальны рамонт дамоў. Скаргі пайшлі ў Савет міністраў, Канстытуцыйны суд і Камітэт дзяржкантролю, а таксама ў Астравецкі райвыканкам. Пад імі падпісаліся 50 чалавек.

Спадар Крук займаецца зборам подпісаў за вылучэньне кандыдатам у дэпутаты. Ён лічыць, што такім чынам улады імкнуцца перашкодзіць яму ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі. Сёньня ён пісьмова зьвярнуўся да судзьдзі Смаргонскага суду з тым, каб паседжаньне перанесьлі й далі яму магчымасьць цалкам азнаёміцца з вынікамі праверкі ЖКГ астравецкай пракуратурай.

# Кацярына Садоўская.

## Зьняволеная 25 ліпеня 2006 г. — выйшла на свабоду 25 траўня 2007 г.




Кацярына Садоўская нарадзілася 28 студзеня 1946 г. у Гомелі. Пасьля заканчэньня школы паехала працаваць у Сьветлагорск на завод штучнага валакна. Праз год пераехала ў Менск. Працавала на радыятарным заводзе, кіроўцам трамвая, у камунальнай гаспадарцы. Ад 1988 г. беспрацоўная. Займаецца праваабарончай дзейнасьцю. Удава, мае дачку і сына.

У чэрвені 2005 г. супраць Кацярыны Садоўскай распачалі крымінальную справу, абвінавачваючы яе ў зьнявазе судзьдзі. З прычыны хваробы падсьледнай справу часова прыпынілі, пасьля апэрацыі сьледчыя КДБ адвезьлі Садоўскую 25 ліпеня 2006 г. у псыхіятрычны шпіталь. Пазьней яе перавялі ў сьледчы ізалятар. 23 кастрычніка Кацярына Садоўская была асуджаная да двух гадоў зьняволеньня за абразу Аляксандра Лукашэнкі і зьнявагу судзьдзі. Выйшла на волю 25 траўня згодна з рашэньнем адміністрацыі жаночай калёніі і пастановай суду.

Сакавік 2007 г. Ужо больш за паўгоду праваабаронца Кацярына Садоўская адбывае пакараньне ў Гомельскай жаночай калёніі. Адзін дзень, 7 сакавіка 2007 г., у сям'і палітзьняволенай правяла Любоў Лунёва.

Кватэра Кацярыны і Віктара Садоўскіх* знаходзіцца на 11-м паверсе 12-павярховага дому ў мікраёне Уручча-6. Раней у кватэры заўсёды было шмат людзей. Праваабаронца альбо дапамагала пісаць скаргі тым, хто страціў усялякую надзею на станоўчае вырашэньне свайго пытаньня ў судовых інстанцыях, альбо давала парады людзям, якія шукалі абароны сваіх інтарэсаў. У кватэры заўсёды нехта жыў, даволі часта заставаліся людзі, якім не было куды ехаць начаваць. Віктар Садоўскі зазначае, што раней яго гэта раздражняла, а цяпер сумуе па тых часах. Ён паказаў фатаграфію сваёй жонкі амаль 40-гадовай даўніны. Брунэтка з валасамі да плячэй, сур'ёзны і крыху насьмешлівы позірк. Віктар усьміхнуўся:

— Вось якая яна ў мяне, — і пачаў распавядаць гісторыю свайго каханьня: — Яна была кіроўцам трамвая. Я ехаў і глядзеў на яе. Так яна мне спадабалася... Запытваюся: «Як на вакзал ехаць?» Насамрэч я ведаў маршрут, проста хацеў пазнаёміцца... Потым пачалі сустракацца. І нарэшце пажаніліся...

У Садоўскіх спачатку нарадзілася дзяўчынка, а потым хлопчык. Дзеці цяпер жывуць асобна. Дачка — майстар коннага спорту міжнароднага кляσу. Дзейнасьць сваёй маці не падтрымлівае. Віктар

* Віктар Садоўскі памёр у студзені 2008 г.

кажа, што ягоная Кацярына ўпарта, дзе б ні працавала, адстойвала праўду. За гэта яе не любіла начальства. Яна часам дабівалася справядлівасьці для сваіх калегаў, але сама не аднойчы праз гэта страчвала працу.

У двухпакаёвую кватэру Кацярына Садоўская чатыры гады таму прывезла зь вёскі з Рэчыцкага раёну сваю старую матулю. Тая прыехала з катом. Казала, што перазімуюць — і паедуць дахаты. Але потым ужо не магла самастойна нават дабрацца да прыбіральні. Віктару даводзілася даглядаць цешчу, калі жонку зьняволілі.

Спадар Садоўскі быў у разгубленым стане, калі гэта здарылася. Кацярыну толькі выпісалі са шпіталю, дзе ёй зрабілі складаную анкалягічную апэрацыю. Сам ён хворы на цукровы дыябэт, мае анкалягічнае захворваньне, і яму цяжка рухацца, бо ў яго ампутаваная нага.

Дома ў Садоўскіх супрацоўнікі КДБ правялі ператрус. На пісьмовым стале знайшлі ліст, які Кацярына не пасьпела адаслаць. Лінгвістычная экспэртыза заключыла, што ў лісьце ўтрымліваюцца абразьлівыя выразы на адрас кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі. Гэта стала падставай для яшчэ аднаго абвінавачаньня ў крымінальным злачынстве.

Паводле прысуду 60-гадовая пэнсіянэрка мусіць заплаціць 4 мільёны рублёў судзьдзі Кіраўскага раённага суду Магілёўскай вобласьці Надзеі Чмары, якая абвінаваціла Кацярыну Садоўскую ў тым, што тая пагражала ёй падчас разгляду справы спадара Смайлава. Кацярына як праваабаронца дапамагала Смайлаву на працэсе. На кватэру Садоўскіх прыходзіў судовы выканаўца. Віктар кажа, што той нават паспачуваў яму, калі ўбачыў умовы, у якіх жывуць пэнсіянэры-інваліды.



У спальні два старэнькія ложкі, над імі абразы, якія Кацярыне падарылі ўдзячныя людзі. Побач на шафе зьмешчана сямейная фатахроніка — старыя фатаздымкі, замацаваныя на дошцы. Іх прывезьлі зь цешчынай хаты. У кватэры даўно не было рамонту. Віктар Садоўскі гаворыць, што Кацярына асабліва й не імкнулася да нейкага камфорту. Была цалкам занятая грамадзкай працай. На кухні — пара каструляў, вельмі простыя кубачкі для гарбаты, два відэльцы і чатыры лыжкі. А яшчэ лядоўня, якой каля двух дзясяткаў гадоў. Віктар папрасіў:

— Вы толькі, можа, не здымайце лядоўню, а то будуць казаць, што мы купаемся ў раскошы.

Ён прыгадаў, што Кацярына не цікавілася модай. Ёй было ўсё роўна, як яна выглядае. У маладосьці любіла вышываць. Захаваліся сурвэткі і навалочкі.

Віктар Садоўскі ў свой час аб'езьдзіў амаль увесь Савецкі Саюз. Нават працаваў на Байкануры. Ён ракетчык.

— Ну, я Вам вайсковы сакрэт выдам! Стол такі — як яго называлі, полымягасіцель. Калі ракету запускаюць, то трэба, каб струмень не ў адну кропку біў. О, там струмень!.. За сэкунду — тона гаручага... Вельмі цяжка было на Байкануры. Усё прывазное. У нашым гарадку нават дрэвы расьлі, але пад кожнае дрэва быў падведзены фантанчык.

У красавіку Віктар Садоўскі паедзе да сваёй жонкі на спатканьне ў калёнію. Яна піша, што адчувае сябе ня вельмі добра. Паколькі яна пэнсіянэрка, то на працу яе ня водзяць. Яна толькі прыбірае вялізны пакой разам зь іншымі асуджанымі жанчынамі, якія дасягнулі пэнсійнага ўзросту.

— Вось форма ў іх, як у войску. Калготкі нельга, і нікому, значыць, не даваць. І штаны забралі... Відаць, іх выдаюць, калі вельмі халоднае надвор'е.

Казала, што пад'ём а 6-й раніцы, адбой а 10-й вечару.

Спадар Садоўскі кажа, што да яго заходзіць сын Канстанцін. Ён правярае, ці ёсьць харчы ў лядоўні, а таксама сочыць за станам здароўя свайго бацькі. Ужо былі выпадкі, калі ён заставаў бацьку ў вельмі цяжкім стане. Віктар кажа, што калі памерла цешча, то дзеці ўвесь клопат узялі на сябе, зрабілі ўсё па-людзку.

Віктар Садоўскі спадзяецца, што Кацярыну альбо адпусьцяць умоўна-датэрмінова, альбо амністуюць. Лічыць, што ўжо летам гаспадыня кватэры будзе дома разам зь ім.

## З архіву «Свабоды»

**23 кастрычніка 2006 г. Дзень прысуду**

Судзьдзя Тацяна Жулкоўская пакарала праваабаронцу пазбаўленьнем волі на два гады. 60-гадовая пэнсіянэрка будзе адбываць пакараньне ў калёніі агульнага рэжыму. У судзе Ленінскага раёну Менску сабралася некалькі дзясяткаў чалавек, якім у свой час дапамагала Кацярына Садоўская. Сваякі Кацярыны Садоўскай, муж-інвалід і дзеці, не чакалі такога жорсткага прысуду.

Віктар Садоўскі: «Нявінны чалавек... Засудзілі! Пастараліся ўжо... Маці ляжачая, ня ходзіць...».

**3 лютага 2007 г. Дзень спатканьня**

Муж і сын Кацярыны Садоўскай сустрэліся зь ёй у Гомельскай жаночай калёніі.

Віктар Садоўскі: «У турэмным пакоі, дзе яна жыве, 54 чалавекі. Распавяла, як дзьве жанчыны ўпалі, страціўшы прытомнасьць, калі даведаліся, што арыштавалі іх сваякоў. На Пятроўну быццам ня ціснуць. Прасіла, каб даслаў ёй газэтаў. Вось купіў і вышлю».

**25 траўня 2007 г. Першы дзень на свабодзе**

Кацярына Садоўская цяпер дома. Яна адна: мужа за некалькі дзён да яе вызваленьня паклалі ў шпіталь. Падчас зьняволеньня 60-гадовай жанчыне зрабілі паўторную апэрацыю — выдалілі ракавую пухліну. Кацярыне Садоўскай давялося атрымаць у турме тэлеграму пра сьмерць маці. Кацярына расказала, што днямі кіраўніца калёніі выклікала яе да сябе і прапанавала напісаць заяву пра тое, што яна шкадуе пра свой учынак, што яна больш ніколі ня будзе абразьліва выказвацца пра кіраўніка дзяржавы і прадстаўнікоў улады. Кацярына зрабіла па-свойму: «А я напісала, што прызнаю сваю віну ў тым, што скарысталася выказваньнямі Лукашэнкі наконт таго, што яму падабаецца палітыка Гітлера... Было відаць, што ўсё рабілася ў сьпешцы, каб хутчэй мяне выкінуць з калёніі. Яны вельмі хутка падрыхтавалі паперы, і праз два дні мяне адпусьцілі».

# Зьміцер Дашкевіч.

**Зьняволены 15 верасьня 2006 г. — выйшаў на свабоду 23 студзеня 2008 г.**



Зьміцер Дашкевіч нарадзіўся 20 ліпеня 1981 г. у вёсцы Кушнеры Івацэвіцкага раёну Берасьцейскай вобласьці. У 2001 г. далучыўся да «Маладога фронту». Увосень 2001 г. браў удзел у вахце памяці ва ўрочышчы Курапаты ў часе будаўніцтва кальцавой дарогі. Скончыў завочнае аддзяленьне факультэту славістыкі Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Актыўны ўдзельнік і арганізатар шматлікіх масавых акцыяў і мерапрыемстваў дэмакратычных сілаў Беларусі. Ад 2004 г. — лідэр «Маладога фронту». У 2005–2006 гг. — удзельнік перадвыбарчай кампаніі Аляксандра Мілінкевіча. У сакавіку 2006 г. — адзін зь лідэраў намётавага мястэчка на Кастрычніцкай плошчы ў Менску. Нежанаты.

Зьміцер Дашкевіч неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці, быў пакараны арыштамі й велізарнымі штрафамі.

15 верасьня 2006 г. Зьміцер Дашкевіч быў арыштаваны і абвінавачаны ў дзейнасьці ад імя незарэгістраванай арганізацыі. 1 лістапада 2006 г. асуджаны да паўтара году зьняволеньня. 22 студзеня 2008 г. Вярхоўны суд перагледзеў справу Дашкевіча і зьмяніў тэрмін яго пакараньня на адзін год зьняволеньня. За кратамі Зьміцер знаходзіўся год і чатыры месяцы.

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала вязьнем сумленьня.

У райцэнтры Старыя Дарогі Менскай вобласьці чакаюць свайго сына — лідэра «Маладога фронту» Зьмітра Дашкевіча, які шосты месяц знаходзіцца за кратамі, Вольга і Вячаслаў Дашкевічы. Адзін дзень, 19 лютага 2007 г., зь сям'ёй палітвязьня Зьмітра Дашкевіча правёў Севярын Квяткоўскі.

Невялікая двухпакаёвая кватэра ў панэльным доме. Па пакоях гойсае руды кот Цімоша, на паліцах шмат кніжак па гісторыі, з кухні ідуць смачныя пахі абедзенных страваў. Вячаслаў Дашкевіч паказвае пакой сына, дзе на сьцяне вісіць вялікі бел-чырвона-белы сьцяг:

— Шчыра кажучы, я не ўхваляў ягонай палітычнай актыўнасьці, бо ведаў, чым гэта скончыцца. Я сустракаўся зь ім перад яго ад'ездам у Амэрыку. Мы ў сквэрыку пасядзелі, я яму нават казаў — ня едзь ты назад, крымінальная справа была заведзеная яшчэ ў сакавіку. А ён адказаў: «Тата, не пярэч. Я абраў свой шлях сьвядома і прайду яго да канца».

Вячаслаў Дашкевіч кажа, што зьмяніў стаўленьне да палітычнай актыўнасьці сына, калі патрапіў на суд над ім:

— Убачыў, колькі людзей яго падтрымліваюць, асабліва ў першы дзень. Усе падыходзілі да мяне, віншавалі. Хоць гэтае слова падаецца не прыдатным у дадзеным выпадку. Але віншавалі з тым, што выхаваў такога сына: сьмелага, справядлівага, які не пабаяўся аніякіх уціскаў.

Маці, спадарыня Вольга, лічыць дні і месяцы, што засталіся сыну да вызваленьня:

— Шосты месяц ён там. Выходзіць, годзік застаўся. На Дзень Перамогі бывае амністыя... Хоць бы на «хімію» адправілі, ужо лепей. Ён тады і сам прыехаць зможа на які дзянёк.

Вольга Дашкевіч прыгадвае сваю сустрэчу са Зьмітром у калёніі:

— Я як убачыла яго ў той чорнай фуфайцы... Гэтага не перадаць. Мяне закалаціла ўсю. Я стала ўся то халодная, то мокрая, раву як бялуга, супакоіцца не магу. Я ж павінна яго супакойваць, маўляў, сынок, не турбуйся, як-небудзь пераглывем гэты час. Дык ён мяне супакойвае.

Спадарыня Вольга распавядае, што да іх дайшоў толькі адзін ліст ад сына. Нават таго, у якім Зьміцер віншаваў маці з днём нараджэньня, не атрымалі. Пры сустрэчы Зьміцер выказаў меркаваньне, што лісты зьнішчаюцца, бо там апісваюцца ўмовы зьняволеньня ў шклоўскай турме. Згадваючы эпізод з забаронай на размову па-беларуску ў часе сустрэчы, бацькі Зьмітра Дашкевіча падкрэсьліваюць, што кожнаму слову іх сына можна верыць, бо ён ніколі ня хлусіць, паколькі трымаецца біблійных запаветаў.

Сядаем за абедзенны стол. Любімая страва Зьмітра Дашкевіча — галубцы. Маці прыгадвае, што



малы Зьміцер яшчэ ў садку вельмі цікавіўся, як гатуюць ежу. Праз пэўны час ён ужо ведаў некаторыя сакрэты кулінарыі.

— Потым і сама казала яму: сынок, ты не рабі, а ўмей. Як бы жыцьцё ня склалася — спатрэбіцца. Адзін будзеш жыць, не адзін... Возьмеш шлюб, калі прыйдзе твой час, — заўсёды зможаш жонцы дапамагчы.

*— Калі гаворка вядзецца пра маладога хлопца, то ўзьнікае пытаньне: можа, нявеста якая ёсьць?*

— Ён ня хоча гаварыць на гэтую тэму...

*— Наколькі можна прадчуваць, вельмі многія дзяўчаты мелі б на яго вока.*

— Пакуль толькі палітыка, яго нічога больш не хвалюе.

Шлях да палітыкі ў Зьмітра быў неардынарны. Вячаслаў Дашкевіч зазначае:

— Спачатку я б не назваў яго прыхільнікам беларускай мовы. Ён яе, можа, нават трохі недалюбліваў, я так мяркую. Але калі быў рэфэрэндум пра двухмоўе ў 1995 годзе, дык Зьміцер рэзка перамяніўся. У мяне быў вялікі расейска-беларускі слоўнік, і сын раптам узяўся вывучаць беларускую мову...

На разьвітаньне спадарыня Вольга прыгадала словы сына ў часе спатканьня ў калёніі: «Мама, яны думаюць, што калі яны мяне пасадзілі, дык на гэтым уся справа скончыцца. Усё разваліцца, ніхто нічога ня будзе рабіць. І ніякіх больш ня будзе ані мітынгаў, ані сустрэчаў, ані маніфэстацыяў... Мама, не хвалюйся! Людзі згуртаваліся яшчэ больш, і яшчэ больш сталася нашых прыхільнікаў і аднадумцаў».

Спадарыня Вольга не працуе паводле стану здароўя, спадар Вячаслаў — пэнсіянэр. У Старых Дарогах ім няма з кім абмеркаваць свае беды і свае спа-

дзяваньні. Штовечар яны слухаюць Радыё Свабода, каб пачуць штосьці новае пра свайго сына Зьмітра Дашкевіча. Бацькі рэпрэсаванага палітыка ўсьцешаныя той колькасьцю тэлефанаваньняў са словамі падтрымкі, што прыходзяць ім з усіх куткоў Беларусі ад незнаёмых людзей. Мае суразмоўцы падкрэсьліваюць, што вераць у сына, бо той верыць у Бога.

## З архіву «Свабоды»

### 9 лістапада 2006 г. Дзень спатканьня

Вячаслаў Дашкевіч сустракаўся са сваім сынам у сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. У камэры, дзе сядзіць Зьміцер, васямнаццаць чалавек. Хлопец крыху прыхварэў, бо ў акне, што насупраць ягоных нараў, не хапае адной шыбы. Зьмітру перадалі лекі ад прастуды, але ён паскардзіўся на боль у сьпіне й папрасіў перадаць яму мазь.

Вячаслаў Дашкевіч: «Мінулы раз я спытаў: “Што перадаць судзьдзі? Я ж пайду па чарговы дазвол”. А ён кажа: “Перадай ёй Боскае дабраслаўленьне”. Сёньня я выканаў просьбу, перадаў судзьдзі ягоныя словы. Яна зьбянтэжылася, здаецца мне, раззлавалася, і прамовіла, што ён ня Бог, каб дабраслаўляць. Але дазвол усё ж дала... Сын адчувае сябе ўпэўнена, бадзёра. Спадзяецца, што хутка ў Беларусі палепшыцца становішча і ён выйдзе на волю. Ня ведаю, на чым грунтуецца яго такая ўпэўненасьць».

### 23 сьнежня 2006 г. Дзень атрыманьня першага ліста зь вязьніцы

З часамі сталінскіх рэпрэсіяў параўнаў лідэр «Маладога фронту» Зьміцер Дашкевіч тое, што адбываецца ў зьняволеньні. Бацькі актывіста атрымалі ад яго першы ліст са шклоўскай калёніі. Вячаслаў Дашкевіч цытуе ліст сына: «Напісаў, што вельмі дрэнна. Яго прывезьлі ў шклоўскую калёнію ў 6 гадзінаў раніцы. Думаў паспаць з дарогі, але не, там усіх падымаюць ужо ў 5 гадзінаў. У тым карантыне вельмі холадна — напярэдадні прачнуўся ў 3 гадзіны ад холаду, хаця спаў цалкам апрануты. Спадзяецца, што калі перавядуць у саму калёнію, будзе лепш, і тады ён напіша нешта больш вясёлае. Яшчэ сын дадаў, што ў турмах беларускіх амаль 37-мы год, толькі што асудзілі яго не на 25 гадоў, а на паўтара».

### 24 студзеня 2008 г. Першы вольны дзень

Аб 11-й гадзіне Зьміцер Дашкевіч зьявіўся ў сядзібе Партыі БНФ, дзе яго з кветкамі сустрэлі сябры. Да гэтага былы палітвязень наведаў Вярхоўны суд, каб высьветліць, як будуць залічвацца чатыры месяцы, якія ён адседзеў звыш тэрміну.

Учора сябры сустрэлі Дашкевіча ў Воршы і прывезьлі яго ў Менск на аўтамабілі. Хлопцы згадваюць, што выглядаў Зьміцер, як клясычны зэк — у ватоўцы з нумарам атраду, у кірзавых ботах, на галаве шапка-вушанка. Цяпер Зьміцер апрануты ўва ўсё цывільнае. У плянах Зьмітра Дашкевіча — новыя сустрэчы зь сябрамі і палітыкамі. Да бацькоў у Старыя Дарогі ён зьбіраецца праз некалькі дзён, калі зробіць усё неадкладнае ў Менску.

• Урад скасоўвае сацыяльныя льготы для вялікай групы насельніцтва
• Расея падвышае болей чым удвая цэны на энэрганосьбіты для Беларусі
• Адбываюцца суды над актывістамі «Маладога фронту»
• ЗША ўводзяць санкцыі супраць «Белфнафтахіму»
• Адбываюцца акцыі пратэсту прадпрымальнікаў
• Пачынае вяшчаньне на Беларусь незалежны тэлеканал «Белсат»



# 2007

Зьняволены:
**Андрэй Клімаў** (красавік, зьняволены трэці раз)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Іван Крук** (выйшаў на свабоду ў студзені)
**Павал Севярынец** (выйшаў на свабоду ў траўні)
**Мікола Статкевіч** (выйшаў на свабоду ў траўні)
**Кацярына Садоўская** (выйшла на свабоду ў траўні)
**Мікалай Аўтуховіч**
**Зьміцер Дашкевіч**
**Юры Лявонаў**
**Аляксандар Казулін**
**Артур Фінькевіч**

• У акцыях пратэсту прадпрымальнікаў бяруць удзел некалькі тысячаў чалавек
• На патрабаваньне беларускіх уладаў ЗША адклікаюць амбасадара зь Менску і скарачаюць штат дыпляматычнай місіі ў Беларусі
• Адбываецца «Працэс 14-ці»: моладзевых актывістаў караюць штрафамі і абмежаваньнем волі без заключэньня пад варту
• Палата прадстаўнікоў прымае новы, больш жорсткі, Закон аб СМІ
• У Менску адбываецца выбух, у выніку — каля 50 параненых, тысячы дапытаных
• У выніку парлямэнцкіх выбараў ніводзін прадстаўнік апазыцыі не трапляе ў Палату прадстаўнікоў
• Некаторыя недзяржаўныя газэты вяртаюць у дзяржаўную сыстэму распаўсюду і падпіскі
• Аляксандар Лукашэнка заяўляе пра лібэралізацыю ва ўмовах эканамічнага крызысу



# 2008

Зьняволены:
**Андрэй Кім** (студзень, выйшаў на свабоду ў жніўні)
**Сяргей Парсюкевіч** (сакавік, выйшаў на свабоду ў жніўні)

Застаюцца ў зьняволеньні:
**Мікалай Аўтуховіч** (выйшаў на свабоду ў студзені)
**Зьміцер Дашкевіч** (выйшаў на свабоду ў студзені)
**Юры Лявонаў** (выйшаў на свабоду ў студзені)
**Андрэй Клімаў** (выйшаў на свабоду ў лютым)
**Артур Фінькевіч** (выйшаў на свабоду ў лютым)
**Аляксандар Казулін** (выйшаў на свабоду ў жніўні)

## Андрэй Кім.

**Зьняволены 21 студзеня 2008 г. — выйшаў на свабоду 20 жніўня 2008 г.**



Андрэй Кім нарадзіўся 26 лютага 1986 г. у Менску. Скончыў Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, пасьля вучыўся на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Актывіст моладзевага і хрысьціянскага руху.

Андрэй Кім тройчы быў асуджаны паводле Адміністрацыйнага кодэксу. Яго абвінавачвалі ў дробным хуліганстве і нецэнзурнай лаянцы. Першы раз — у часе ўдзелу ў выбарчай кампаніі Аляксандра Казуліна ў 2006 г. (атрымаў 12 сутак арышту). Другі раз — у 2007 г. пасьля сьвяткаваньня «Хэлаўіну» (7 сутак арышту). Трэці раз — 21 студзеня 2008 г. пасьля мітынгу прадпрымальнікаў (10 сутак арышту і штраф памерам 1 млн 50 тыс. рублёў). Неўзабаве пасьля гэтага Андрэя Кіма абвінавацілі ў гвалце альбо пагрозе гвалту ў дачыненьні да супрацоўніка міліцыі. 22 красавіка 2008 г. асуджаны да паўтара году калёніі агульнага рэжыму. Адбываў пакараньне ў бабруйскай калёніі. Вызвалены згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі.

Травень 2008 г. Андрэй Кім ужо больш за чатыры месяцы знаходзіцца за кратамі. Адзін дзень, 25 траўня, у сям'і палітвязьня правёў Вячаслаў Ракіцкі.

З Тацянай Кім мы сустрэліся адразу пасьля яе спатканьня з сынам, палітвязьнем Андрэем Кімам, у турме на Валадарцы... Незадоўга да гэтага ён знаходзіўся ў турэмным шпіталі з нагоды абвастрэньня хваробы вачэй. І, натуральна, што размова з маці пачалася з пытаньня пра фізычны і маральны стан Андрэя за кратамі.

— Вочы падлячылі, цяпер, здаецца, усё добра, — адказвае Тацяна. — І ўвогуле, Андрэй ня страціў прысутнасьці духу. Я яму за гэта вельмі ўдзячная. Ён увесь час мяне падтрымлівае. Я спрабую падтрымаць яго, а ён — мяне. І я заўсёды пакідаю яго такой натхнёнай, што ўсё, дзякуй Богу, добра. Але настае вечар, і ўсё пачынаецца зноў... Калі ў многіх жанчынаў жыцьцё вымяраецца да нараджэньня дзіцяці і пасьля, дык у мяне цяпер можна сказаць — да затрыманьня Андрэя было адно жыцьцё, а цяпер іншае...

Калі Андрэй быў на волі, я заўсёды сьпяшалася дадому, каб прыгатаваць яму ежу, навесьці ўтульнасьць у кватэры. Цяпер — наадварот. Як мага раней выпраўляюся з дому, каб занесьці перадачу ў турму, выпрасіць у турэмнага начальства спатканьне з сынам або сустрэцца зь ягонымі паплечнікамі ці іхнымі бацькамі. І кожны раз ля сьценаў Валадаркі

ўспамінаю той шчасьлівы дзень, калі Андрэй зьявіўся на сьвет у радзільным доме насупраць турмы...

*— Ці падтрымлівалі Вы сына ад пачатку ў ягоным выбары актыўнага змаганьня?*

— Цалкам. Вырак сыну — паўтара году турмы за гвалт да работніка міліцыі — стаў для мяне шокам. На самым пачатку я спрабавала зьвярнуцца па дапамогу да нашых уладаў у асобе пракуратуры, але мне ніхто не дапамог. Наадварот, усе казалі, што мой сын злачынца, што ён павінен сядзець у турме. Я была ў такім стане, што мне не хацелася жыць. Былі такія дурацкія думкі — спаліць сябе, каб зьвярнулі ўвагу, што мой сын не злачынца. Я гэта добра ведала.

Першымі мяне выслухалі ў амбасадзе ЗША, дыпляматычных прадстаўніцтвах іншых заходніх краінаў. Я вельмі ўдзячная ім за падтрымку. Не пакінулі адну і сябры Андрэя, бацькі ягоных сяброў. Я была ў стане такой разгубленасьці і жаху, што проста адны малітвы не змаглі б мяне ўратаваць. Але Гасподзь зрабіў так, што побач са мной апынуліся людзі, якія мне дапамаглі. Я ім вельмі ўдзячная. Я ганаруся імі, асабліва моладзьдзю. Памятаеце «Працэс 14-ці»? Я ўбачыла, што ў нас столькі моладзі харошай. Яны сумленныя, яны моцныя і сьмелыя. І заўважце, што ўсе нашы дзеці ў апазыцыі — прыгожыя.

*— Дык чаго так не хапае гэтым маладым людзям, што яны кідаюцца ў змаганьне, сьвядома ідуць у турмы? Як лічыць маці?*

— Напэўна, праўды... Праўды, свабоды. Разумееце, людзі нашага пакаленьня не былі дрэннымі, але мы ў аснове сваёй былі ханжамі. І былі ў ружовых акулярах. Я лічу, што мы былі абыякавымі.

*— У часе нашай размовы Вы ўвесь час падкрэсьліваеце глыбокую веру Андрэя ў Бога. Адкуль такая рэлігійнасьць у сям'і?*



— Я нарадзілася ва Ўзбэкістане ў сям'і карэйца-перасяленца і расейскай жанчыны. Бацькі былі перакананыя атэісты. Да асэнсаванай веры ў Бога прыйшла ў сталым узросьце і разам з сынам, які ў Менску ў музычнай школе № 17 сьпяваў у хоры клясычныя і духоўныя творы. І я, і сын аднолькава добра пачуваем сябе і ў праваслаўных, і ў пратэстанцкіх храмах. Андрэй увесь час мне кажа: мама, у Бібліі вельмі часта ідзе такое дабраславеньне Боскае: ня бойцеся!.. Натуральна, вера ў Бога зрабіла яго такім.

Я сьвядома паслала сына вучыцца ў Менскую нацыянальную беларускую гімназію № 4, затым ужо ён сам паступіў у Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа. Парадокс: яго судзілі ў будынку любімага ліцэю (цяпер там знаходзіцца Цэнтральны раённы суд Менску). На гістарычным факультэце БДУ не давучыўся... Бацька Андрэя — беларус. І ў жылах Андрэя цячэ карэйская, расейская, беларуская кроў. Сябе ён называе беларусам.

*— Тацяна, якое ў Вас адчуваньне — ці не азлобіўся Андрэй у турме?*

— Ні ў якім выпадку. Ён мне казаў: мама, я лічу, што і судзьдзя Алена Ільіна, і пракурор ня вераць у маю віnаватасьць. Ён не апраўдвае іх, але кажа, што трэба кожнаму даць магчымасьць пакаяцца. Ён думаў, што я азлобілася. Не. Але што выробляе наша сыстэма? Нашых дзяцей б'юць, б'юць фізычна, б'юць маральна. Але ў мяне няма злосьці. У мяне толькі боль. Калі я ўбачыла Зьмітра Дашкевіча, як ён выйшаў пасьля пятнаццаці сутак (мы яго сустракалі ля спэцпрыёмніку на Акрэсьціна), мне проста хацелася крычаць і плакаць... Ён выйшаў пасьля 15 сутак яшчэ ўвесь у пабоях. Як можна было так зьбіць дзіцятка? За што?

Пад уплывам сына я таксама многае перагледзела ў сваім разуменьні жыцьця ўвогуле і разуменьні праблемаў сучаснай Беларусі. Але ніяк не магу зьмірыцца з хлусьнёй і цынізмам. Тройчы сына судзілі за брудную лаянку і выкрыкваньне антыдзяржаўных лёзунгаў. Андрэй не ўжывае нецэнзурных словаў. А лёзунг «Жыве Беларусь!» я лічу патрыятычным. Як увогуле словы «Жыве Беларусь!» могуць быць антыдзяржаўным лёзунгам?! Для мяне як карэянкі, калі б крычалі «Жыве Карэя!», я была б шчасьлівай. І ў любой краіне людзі былі б шчасьлівымі. А тут такі лёзунг — антыдзяржаўны... Нейкі нерэальны сьвет. Мне здаецца, што самі судзьдзі гэта разумеюць. Толькі лжэсьведкі нічога не разумеюць.

*— Паслухайце званок адной са слухачак Радыё Свабода: «Праз ваша радыё зьвяртаюся да маці Андрэя Кіма і іншых мацярок палітвязьняў. Ганарыцеся сваімі сынамі. Гэта — сапраўдныя беларусы, моцныя духам, яны ўсё пераадолеюць, што выпала на іхны лёс. Дзякуй вам за такіх сыноў. Гэта — наша будучыня і надзея».*

— Дзякуй вялікі. Я сапраўды ганаруся сынам. Стала ганарыцца сваім дзіцем, што ён менавіта з тымі маладымі людзьмі, якія былі на лаве падсудных, а ня з тымі, каторыя іх саджалі ў турму. Ганаруся і люблю ўсю нашу апазыцыйную моладзь. І свайго сына асабліва.

## З архіву «Свабоды»

**22 сакавіка 2008 г. Дзень перадачы ў турму**

Маці перадае сыну ў турму перадачу, у асноўным харчовую, адмыслова да Вялікдня. «Хутка Пасха, таму ён прасіў перадаць кулічы, сыру, крыху каўбаскі, іншых прысмакаў. Гэтыя дні ў яго пост».



**1 красавіка 2008 г. 72-гі дзень зьняволеньня**

Тацяна Кім: «Я раней жыла абсалютна іншым жыцьцём — толькі дом і праца. Таму я вельмі моцна перажывала за свайго сына. Для мяне вельмі важна, што мой сын — сумленны і прыстойны грамадзянін Беларусі. Я доўга прасіла спатканьня, мне адмаўлялі, а потым перад тым, як перадаць справу ў суд, дазволілі сустрэцца. Гэта было як у сьне. У мяне была адзіная думка — падтрымаць яго і выглядаць так, каб ён не хваляваўся, каб ён бачыў, што са мной усё добра. Сустрэча на такім узроўні і адбылася. Я бачыла, што і ён імкнецца паказаць, што ўсё добра, каб я не хвалявалася.

**5 красавіка 2008 г. Дзень суду**

Тацяна Кім атрымала ад сына ліст, напісаны пасьля таго, як яго прывезьлі з суду ў ізалятар.

«Ён убачыў, што я нэрвуюся, і адразу напісаў, каб мяне супакоіць. Даслаў цытаты зь Бібліі, каб падтрымаць. І напісаў, што мы абавязкова пераможам».

Паводле Тацяны Кім, у судзе яна з сынам нават не перамовілася, бо не дазволілі ахоўнікі.

**20 жніўня 2008 г. Першы дзень на свабодзе**

Андрэй Кім: «Як асудзілі беспадстаўна, гэтак і вызвалілі. Выклікалі раніцай, пасьля начнога дзяжурства, паведамілі пра ўказ аб памілаваньні і выдалі даведку пра вызваленьне. На зборы далі некалькі хвілінаў, і ў выніку ўся працэдура вызваленьня закончылася за сем хвілінаў. Пасьпеў забраць толькі кнігі — важаць 50 кг, таму пакінуў на вакзале. Я пазваніў сваёй нявесьце — яе няма ў Менску. Пазваніў сябру — яго таксама няма ў горадзе. Таму — спаць, спаць і яшчэ раз спаць. Вось сустрэнуся з мамай і адпачну. А потым вярнуся да актыўнага жыцьця».

# Сяргей Парсюкевіч.
## Зьняволены 4 сакавіка 2008 г. — выйшаў на свабоду 20 жніўня 2008 г.



Сяргей Парсюкевіч нарадзіўся 14 траўня 1967 г. у Віцебску. Скончыў факультэт ваенна-касьмічных войскаў Вайсковага інжынэрнага інстытуту імя Мажайскага ў Ленінградзе, адтуль быў разьмеркаваны на касмадром Байканур у Казахстан. У 1995 г. вярнуўся на радзіму. У Віцебску ўладкаваўся працаваць у міліцыю, служыў начальнікам экспэртна-крыміналістычнага аддзелу. У 2003 г. зарэгістраваўся як індывідуальны прадпрымальнік. У 2007 г. пачаў змагацца за правы індывідуальных прадпрымальнікаў на Смаленскім рынку Віцебску. Браў актыўны ўдзел у выступах прадпрымальнікаў у Менску 10 і 21 студзеня 2008 г. Жанаты. Мае сына.

4 сакавіка 2008 г. Сяргей Парсюкевіч быў арыштаваны і абвінавачаны ў гвалце супраць супрацоўніка міліцыі. 23 красавіка суд Маскоўскага раёну Менску асудзіў Парсюкевіча да двух з паловай гадоў зьняволеньня. Пакараньне адбываў спачатку ў шклоўскай, потым у менскай калёніі. Вызвалены згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі.

Больш чым праз тры месяцы па вызваленьні, 3 сьнежня 2008 г., адзін дзень з былым палітвязьнем Сяргеем Парсюкевічам правёў Ігар Карней.

*— Сяргей, Вы на волі больш за тры месяцы. Напэўна, не адзін раз пракручвалі ў галаве пачатак 2008 году. Ці застаяцеся ў перакананьні, што працэс над Вамі — цалкам палітычны?*

— Палітычны, гэта бясспрэчна. Наколькі я разумею, ва ўладаў была падстава нейкім чынам са мной разабрацца. А ўспрыняў я гэтую справу па-філязофску, як «камандзіроўку» з мэтай паднабрацца досьведу. Адзінае, што зараз адчуваньні, скажам так, крыху прытупіліся. Бо насамрэч было непрыхаванае свавольства, калі справа шылася белымі ніткамі. Я ж у прынцыпе дастаткова дасьведчаны ў гэтых справах, як былы супрацоўнік міліцыі адназначна ведаю: ня толькі такую, а нават прыблізна такую справу ніводзін суд ня ўзяў бы. А тут раз — і ўсё нармальна, усё добра, усё фабрыкавалася нават у прысутнасьці сьведкаў. На судзе ж былі людзі, якія ўсё цудоўна бачылі і ўспрымалі. Прынамсі, усім было зразумела, што я не вінаваты, а наадварот, зьяўляюся ахвярай інсьпіраванага «злачынства». Але пры гэтым бац — і рэальны прысуд. Таму ясна, што гэта была замова — любымі спосабамі пазбавіцца, запужаць. І зноў жа, будзе навука астатнім: станеце актыўнасьць выяўляць — вось што і з вамі можа здарыцца. Я лічу, што пужацца гэтага асабліва ня

варта. Усюды людзі жывуць, нічога страшнага там не адбываецца.

*— Вас «памілавалі» значна раней за прысуджаны тэрмін. З улікам гэтага Вы прабачылі сваіх апанэнтаў? Ці была думка адпомсьціць?*

— Такія рэчы не забываюцца. Адпомсьціў бы... Вядома, думкі ўзьнікалі ўсялякія. Ледзьве не такія, што ўзяць майго «пацярпелага» ды ў лес яго вывезьці і там па-мужчынску пагаварыць. Але зразумела, што ўсё гэта глупства, натуральна, што я на гэта не пайду. Дый па вялікім рахунку людзі, якія мне справу шылі, яны ж на самай справе ніхто. Гэта проста пешкі. Перад імі была пастаўленая такая задача, яны яе і выконвалі. У іх, можа, і быў якісьці выбар, а можа, і не было.

Людзі ў пагонах — гэта страшная справа. Я сам быў у той скуры, але, дзякуй Богу, мне не давялося займацца гэтай лухтой. Але тады, можа, яшчэ і паняцьці былі іншыя... Помсьціць я нікому не зьбіраюся. Адзінае, калі да ўлады прыйдзе адэкватны ўрад, то я па сваёй крымінальнай справе бачу як мінімум тры новыя, якія адтуль вынікаюць: за фальсыфікацыю, за дачу хлусьлівых паказаньняў і г. д.

*— Сяргей, якія моманты былі для Вас найбольш цяжкімі, складанымі ў зьняволеньні? Што найчасьцей згадваецца цяпер?*

— Самым складаным было ўсьведамляць, што ўсё робіцца свавольна. Да апошняга моманту, да суду, нават да вынясеньня прысуду я лічыў, што мяне не пасадзяць. Таму што было зразумела, што я ні ў чым не вінаваты. Ну добра, папужалі; можна ўмоўна даць тэрмін, каб напужаць ужо, што называецца, да канца.

Я ўсё ж спадзяваўся хоць на нейкую справядлівасьць і элемэнтарны розум.



Але каб вось так — даць два з паловай гады рэальнага пазбаўленьня волі?! Нават і думкі такой не было! Зноў жа, з гледзішча досьведу, каб нават я і ўчыніў такое злачынства, якое мне інкрымінавалася, то ў гэтай сытуацыі любога іншага чалавека не пасадзілі б. Недастаткова важкі ўчынак, каб за гэта саджаць зь першага разу дагэтуль не судзімага чалавека. Менавіта вось гэтае свавольства складаней за ўсё пераносілася.

*— Вы ў нядаўнім мінулым — афіцэр міліцыі. Ці мелі праблемы са зьняволенымі?*

— Была вельмі цікавая сытуацыя. Калі ўжо прабыў карантын у шклоўскай калёніі (напэўна, тыдні два), людзі, якія там сядзяць, дазналіся, што я прыбыў у калёнію. І калі прыйшоў у атрад, людзі з усёй зоны, чалавек трыццаць, сабраліся мяне сустракаць. Як у нас цяпер кажуць, быў такі «рэальны рэспэкт». Хто чым намагаўся дапамагчы, ажно да таго, што ў мяне было нешта кшталту неафіцыйнай аховы. Менавіта самі зьняволеныя гэта ўсё арганізоўвалі. Справа ў тым, што там людзі вельмі незадаволеныя ўладай і актыўна падтрымліваюць тых, хто змагаецца са свавольствам, якое адбываецца ў краіне. То бок праблемаў са зьняволенымі не было ўвогуле — гэта з улікам таго, што я сапраўды маёр міліцыі.

*— Магчыма, накіроўваючы туды, якраз і разьлічвалі на праблемы?*

— Цалкам магчыма, што было менавіта так. Тэарэтычна, праблемы мусілі быць. Але з улікам таго, што мне нейкім чынам удалося так хутка заваяваць аўтарытэт, усё пайшло не паводле іх сцэнару. Дый аўтарытэт, у прынцыпе, ішоў паперадзе мяне.

*— То бок у калёніі да Вас адназначна ставіліся як да палітычнага?*

— Так, гэта адназначна. Прычым нават на ўзроўні адміністрацыі. Аднойчы праскочыла нават такая думка: а чаго, уласна кажучы, нам старацца? Цяпер ты сюды да нас у якасьці зьняволенага прыехаў, але хто ведае — можа, гады праз тры прыедзеш у якасьці міністра ўнутраных спраў ці яшчэ кагосьці?

*— Чым Вы займаецеся пасьля выхаду на волю? І ці адбілася нейкім чынам Ваша адседка на сям'і: на жонцы Натальлі і сыну Дзянісу?*

— У сям'і, на працы ніякіх асаблівых зьменаў не адбылося: жонка як працавала, так і працуе, сын як вучыўся, так і вучыцца. А ў мяне, зразумела, праблемы. Я цяпер індывідуальны прадпрымальнік толькі тэарэтычна. У мяне няма ліцэнзіі, і працаваць я не магу, і ўжо даўно. Па вялікім рахунку, тут страху асаблівага няма: хутка многія прадпрымальнікі будуць у такім жа стане, як і я. Таму я не замарочваюся, набыў сабе машыну і вось даводжу яе да ладу.

*— Што Вам дапамагала ў турме захаваць маральны дух?*

— Самае галоўнае — гэта, зразумела, лісты. Менавіта лісты людзей, падтрымка. Насамрэч мне пісаў шмат хто: і прадпрымальнікі, і сябры, і людзі, пра якіх я нават ня чуў і ня ведаў. І яны ўсе, як маглі, намагаліся мяне падтрымаць. Зь некаторымі дагэтуль лістуюся, бо ёсьць такія людзі, у якіх папросту няма тэлефона. Гэта бабулі і дзядулі, якія мне вельмі спачувалі і зь якімі я праз пошту перапісваюся. Зь іншымі падтрымліваю кантакты праз тэлефон. Кантактую нават з тымі, хто застаўся ў турме, на зонах. Лістуюся, а часам яны мне нават тэлефануюць, калі ёсьць магчымасьць.

*— Увогуле турма чамусьці навучыла? І што, па-вашаму, за кратамі страчанае?*



— Ну вядома ж, турма вучыць жыцьцю. А забірае здароўе. І, зразумела, страты з эканамічнага гледзішча. Адна рэч — каб я паўгоду працаваў, і зусім іншае — калі я паўгоду ў турме сядзеў і на мяне мая сям'я толькі трацілася.

*— У людзях расчараваліся ці наадварот — зьявіліся новыя аднадумцы?*

— Так, расчараваўся. Не дарэмна ж гавораць, што сябры ў бядзе пазнаюцца. Былі людзі, на якіх я разьлічваў, а атрымалася, што яны папросту пазьбягалі кантактаў і з маёй сям'ёй, і са мной, натуральна, — баючыся неяк непрыгожа засьвяціцца. Відавочна, іх моцна запужалі. Але затое зьявіліся іншыя, якіх я ня ведаў, альбо калі і ведаў, то зусім ня думаў, што яны на такое здольныя. Аказалася, што яны, наадварот, вельмі актыўна стараюцца падтрымаць. Дарэчы, падтрымліваюць да гэтага часу — разумеючы, што ў мяне ёсьць пэўныя праблемы.

*— То бок прынамсі маральная дапамога жонцы і сыну, пакуль Вы былі за кратамі, адчувалася?*

— І маральная, і ня толькі. Справа даходзіла да таго, што, як жонка расказвала, прыйшоў па пошце перавод... на паўмільёна рублёў. Хто даслаў — невядома. Потым ужо высьветлілася, што гэта прадпрымальнік зь Менску: параіўся з жонкай, і вырашылі яны даслаць грошай маёй сям'і. І такое бывала.

*— Сяргей, ці ўдалося ўжо прыйсьці ў норму, адаптавацца?*

— Стала, вядома, лепей, але ў Беларусі мне адчувальна папраўіць здароўе не атрымаецца. У нас тут вельмі ўсё састарэла — і маральна, і фізычна. У 1992 годзе, калі мне першы раз рабілі пэўныя працэдуры ў сувязі з астмай, якія я цяпер кожны год мушу рабіць, у наш віцебскі шпіталь паступіла новае абсталяваньне. Але ўжо гады чатыры, а можа і

больш, як яно перастала працаваць. Ну як тут можна здароўе паправіць? Ня надта атрымліваецца.

Але ж свабода — сам па сабе пэўны тонус. Да таго ж там я рэальна пахудзеў і зараз хоць прыйшоў у сваю, што называецца, форму...

## З архіву «Свабоды»

**23 красавіка 2008 г. Дзень прысуду**

«Гэта палітычная расправа. Не пакідайце без падтрымкі маю сям'ю», — сказаў Сяргей Парсюкевіч, пасьля таго як судзьдзя абвясьціў яму прысуд — два з паловай гады зьняволеньня агульнага рэжыму. Прысуд быў сустрэты крыкамі «Ганьба!».

Сяргей Парсюкевіч таксама абавязаны выплаціць міліцыянту Дулубу 1 мільён 100 тысяч кампэнсацыі маральных пакутаў.

Жонка Парсюкевіча Натальля пасьля абвяшчэньня прысуду пайшла ў кабінэт судзьдзі, каб перадаць хвораму на астму мужу лекі. «Судзьдзя лекаў ня ўзяў, выгнаў мяне з кабінэту». Сын Дзяніс сказаў: «Лукашэнка баіцца майго таты і помсьціць яму за палітычную дзейнасьць».

**18 красавіка 2008 г. 45-ты дзень за кратамі**

Сяргей Парсюкевіч даслаў дадому ліст, у якім паведамляе пра рэзкае пагаршэньне здароўя. Жонка прадпрымальніка Натальля распавядае: «Піша, што адчувае сябе блага, але добрай мэдычнай дапамогі не атрымлівае. Адносіны, ясна, нечалавечыя. Яму ў камэры не хапае паветра. Калі ён пачынае задыхацца — б'е кашаль, ванітуе, дык выклікаюць доктара. Той прыйдзе, паглядзіць яго і сыходзіць, вось і ўся дапамога. Як пра гэта паведаміць? У мяне ўражаньне, што нікога гэта ў турме не цікавіць».



**14 траўня 2008 г. Дзень народзінаў за кратамі**

Упершыню Сяргею даводзіцца сустракаць дзень народзінаў за кратамі. Жонка прадпрымальніка Натальля кажа: «Калі б не арышт і суд, сёньня муж абавязкова быў бы на рынку. Звычайна мы працавалі на ягоны дзень народзінаў. Ён плёнкай для цяпліцаў гандляваў, а цяпер якраз самы сэзон для гэтага бізнэсу. Працавалі б да вечару, а потым дома наладзілі б сьвяточную вячэру. Апошнім часам у гэты дзень вечарам часта езьдзілі на лецішча на шашлыкі.

Маці вязьня Вера Фёдараўна: «Прабачце, я ўся ў сьлязах. Сёньня накіравала сыну тэлеграму: віншую з днём нараджэньня, жадаю здароўя, шчасьця. Я зараз на Смаленскім рынку, дзе ён працаваў. Тут ягоныя сябры перадаюць яму віншаваньні, жадаюць усяго лепшага, і каб хутчэй вызваліўся».

**20 жніўня 2008 г. Першы дзень на свабодзе**

Сяргей Парсюкевіч паведаміў, што вызвалілі яго на падставе ўказу Лукашэнкі, прычым сам указ яму не паказалі. Сяргея выклікалі з працы да начальніка калёніі й пратрымалі некалькі хвілін у калідоры.

«Затым начальнік мне кажа: "Так, ідзіце зьбірайце рэчы. Толькі каб шуму не было, не было забурэньняў у зоне, нікому не кажыце". Мне ніякага ўказу не паказалі, але мяркую, як і з Аляксандрам Казуліным, гаворка ідзе пра памілаваньне. Я не вінаваты і буду дамагацца рэабілітацыі. Таксама буду дамагацца, каб пакаралі тых, праз каго я патрапіў у турму».

# Працяг будзе

Гераіняй кнігі «Адзін дзень палітвязьня» не пасьпела стаць салігорская праваабаронца Яна Палякова. У ноч на 7 сакавіка 2009 году яе знайшлі ў пятлі ў сваім доме пасьля таго, як судзьдзя Аляксандар Бураўцоў прызнаў яе вінаватай у паклёпе на міліцыянта Віктара Пугачова і прысудзіў да двух з паловай гадоў «хіміі». Пасьля суду Яна гаварыла, што ніколі ня стане «зэчкай».

Героі гэтай кнігі — беларускія «зэкі», палітвязьні, якім давялося прайсьці тое, чаго не пагадзілася перанесьці Яна Палякова. Смурод сьледчых ізалятараў, нары Акрэсьціна, шматдзённы этап, адзінота перапоўненай камэры, тупая праца на «хіміі», галадоўкі ў бараках, страчанае здароўе, немагчымасьць прыехаць на пахаваньне бацькоў, туга па сям'і, бессэнсоўныя касацыі і — нарэшце свабода, дзе ўжо ўсё ня так, як было раней, а самае галоўнае — ты сам зьмяніўся...

Сярод герояў кнігі — паэт, мастак, геадэзіст, старшыня калгасу, лекар, прэм'ер-міністар, пасол, палітыкі, грамадзкія актывісты, праваабаронцы, прадпрымальнікі, дэпутаты, журналісты, міністры. Усіх іх аб'ядноўвае зьняволеньне з палітычных матываў у часе кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі.

Гісторыю беларускіх палітвязьняў мы пачалі 1996 і завяршылі 2008 годам. У 2008 годзе памёр Аляксандар Салжаніцын, які пяцьдзясят гадоў таму напісаў свой «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», што ўскалыхнуў і зьмяніў тагачаснае грамадзтва. Карэспандэнты «Свабоды» стварылі «адзін дзень сарака аднаго беларускага палітвязьня». Мы плянавалі даслаць гэтую кнігу Аляксандру Ісаевічу. Не пасьпелі...

Спачатку гэта быў проста цыкль перадачаў Радыё Свабода «Адзін дзень у сям'і палітвязьня».

У 2006 годзе пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі было паўтара дзясятка палітвязьняў. Карэспандэнты «Свабоды» праводзілі адзін дзень у сем'ях палітвязьняў, і праз размовы з жонкамі, мужамі, бацькамі, дзецьмі палітвязьняў, празь лісты вязьняў на волю вымалёўвалася сапраўдная карціна, дзе пацярпелым ад рэпрэсіяў быў ня толькі той, каго кінулі за краты, але і ўсе блізкія яму людзі, нават яшчэ ненароджаныя дзеці.

Адных палітвязьняў вызвалялі, другіх садзілі, карэспандэнты «Свабоды» працягвалі трымаць гэтую тэму. У выніку ўзьнікла ідэя — стварыць кнігу, дзе расказаць калі не пра ўсіх, то прынамсі пра большасьць беларускіх палітвязьняў часоў прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі.

Кніга, натуральна, няпоўная, бо ў яе ня трапілі гісторыі соцень актывістаў, лідэраў апазыцыйных партыяў, праваабаронцаў, прадпрымальнікаў, шараговых грамадзянаў, якіх з палітычных прычынаў кідалі за краты на 10—15 сутак і болей. У штогадовых справаздачах Дзярждэпартамэнту ЗША, у справаздачах цэнтру «Вясна» ды іншых праваабарончых арганізацыяў на дзясятках старонак — толькі пералік імёнаў рэпрэсаваных з палітычных матываў.

Мы ня ставілі сабе задачу расказаць гісторыю кожнага. Мы ўмоўна завяршылі кнігу 2008 годам.

Аднак у 2009 годзе зноў трапілі за краты яе героі — Мікалай Аўтуховіч і Юры Лявонаў, быў зьняволены фігурант «Працэсу 14-ці» Арцём Дубскі. Кніга скончаная. Наша гісторыя — не.

*Ганна Соўсь*
*Радыё Свабода*

# Паказьнік асобаў

# Summary

«One Day in the Life of a Political Prisoner» is a book about the fates of 41 Belarusian political prisoners incarcerated between 1996 and 2008. Together, they spent a combined period of 53 years behind bars.

Among them are a poet, artist, geologist, collective farm leader, physician, cameraman, ambassador, prime-minister, politicians, civic activists, human rights defenders, businessmen, parliamentary deputies, journalists and ministers. The common denominator that unites them all is politically-motivated imprisonment under the Lukashenka government. Their release was demanded by international human rights organizations, presidents, parliaments, and the governments of the US and EU among others.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры
ў этэры Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 520 с.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
2-е выд., папраўленае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 400 с.: іл.



*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2007.



*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы — Капэнгаген — Парыж — Мадрыд — Атава — Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2009.